«СПАДЧЫНА»

# А. Мрый

# ТВОРЫ

РАМАН,
АПАВЯДАННІ,
НАТАТКІ

*Мінск*
*«Мастацкая літаратура»*
*1993*

## ПРАЗОРЛІВАСЦЬ МАСТАКА

А. Мрый. Імя гэтае да нядаўняга часу, бадай, нічога не гаварыла чытачу. Ды што казаць пра чытача звычайнага, калі нават спецыялісты — выпускнікі філфака — настаўнікі, а ў дадатак да іх аспіранты і выкладчыкі літаратуры ў вышэйшых навучальных установах мелі цьмянае ўяўленне пра гэтую бясспрэчна неардынарную творчую постаць, што імкліва набірала вышыню ў спрыяльнае і плённае для развіцця нацыянальнай культуры першае дзесяцігоддзе савецкай улады на Беларусі. А ў пасляваенныя гады пра пісьменніка нават хадзілі некім пушчаныя чуткі, што нібыта ён у вайну супрацоўнічаў з акупантамі, адступіў з імі на Захад і актыўна ўдзельнічае ў ідэалагічнай барацьбе супраць нас. У чым канкрэтна заключалася тое таемнае супрацоўніцтва — даведацца адны не мелі магчымасці, іншыя — не хацелі і не імкнуліся. Даволі было таго, што творы пісьменніка выдаваліся на Захадзе, актыўна прамаўляліся па радыёгаласах. Усяго гэтага хапіла на тое, каб у тую першую, хрушчоўскую, адлігу, калі пачалася рэабілітацыя асуджаных і закатаваных, пра А. Мрыя не знайшлося каму паклапаціцца — блізкія родзічы былі за абсягамі Беларусі.

А. Мрый — гэта псеўданім Андрэя Шашалевіча. Пад такім прозвішчам увайшоў у літаратуру яго брат Васіль — адзін з найбольш прыкметных у 20-я гады беларускіх драматургаў. Лёс братоў склаўся трагічна — іх узялі на пачатку трыццатых па стандартным абвінавачванні ў нацыяналізме, у змове супраць савецкай улады. Пакаранне адбывалі ў сібірскіх лагерах. Усім там было невыносна, але, мабыць, такім, як Шашалевічы (фізічна кволым, душэўна тонкім, ад прыроды надзеленым музычнымі і акцёрскімі здольнасцямі), яшчэ цяжэй. Пакутлівае існаванне закончылася трагедыямі, якія і на фоне ўсенароднай бяды выглядаюць неардынарнымі. Нездарма ж нататкі Сяргея Грахоўскага, які, як вядома, і сам прайшоў праз такія ж выпрабаванні, названы «Два лёсы — дзве трагедыі».

Напачатку лагерная доля Васіля складвалася нібыта і ненайгорш: яму пашанцавала ўладкавацца на працу ў бухгалтэрыю. Паспрыяла, мабыць, тое, што быў драматургам, а ў некаторых лагерах было заведзена ствараць самадзейнасць як сродак палітыка-выхаваўчай працы. Васіль арганізаваў са зняволеных тэатр і паставіў у ім сваёй рукой напісаныя сцэнкі з лагернага жыцця. Але пра тое, чаго гэта яму каштавала, варта паслухаць былога вязня Баляснага, які разам з ім адбываў пакаранне:

«Ноччу аўтара выклікаў упаўнаважаны аператыўна-чэкісцкага аддзела і зрабіў яму разнос, мудрэйшы за самы жорсткі допыт: абвінаваціў у паклёпе на выхаваўчую сістэму ў лагеры, у кампраметацыі кіруючага складу, у працягванні варожай ідэалогіі. У заключэнне сказаў, што новую справу на яго заводзіць не будзе, а з заўтрашняга дня адправіць у лес, а «там ты і сам загнешся».

Але работнік такога здароўя на лесапавале быў нікчэмны — паглядзелі і паставілі весці ўлік гружонага транспарту. Тут яго і

напаткала бяда: уціснуты знарок спушчанай бярозай у агонь, Васіль заходзіўся ў немым крыку. Зняволеныя распілавалі дрэва, выцягнулі скалечанага, завезлі ў зону, але ўратаваць ужо было немагчыма...

Андрэй перажыў брата не намнога, і да апошняга часу было загадкай, як яму ўдалося выбавіцца з лагернага пекла. Перадавалася вусная паказка, што нібыта гэтаму паспрыяў ліст «Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну», які ў застойны перыяд хадзіў па руках. Грунтуючыся на чутках, я зрабіў гэты факт набыткам галоснасці ва ўступным слове да апавяданняў А. Мрыя, надрукаваных у часопісе «Беларусь». Паслаў гэты нумар дачцэ пісьменніка, якая жыве ў Петразаводску. І праз пэўны час атрымліваю ад Аксаны Андрэеўны Рухінай адказ, дзе яна, падзякаваўшы за публікацыю, зрабіла адно істотнае ўдакладненне:

«Только вот в Вашей статье одна вещь немножко удивила. Это о письме отца к Сталину. Ведь, насколько я знаю, оно к «Другу трудящихся» и не писалось (и не попадало). Причины, во-первых, я думаю, прежде всего те, что началась война, и сестра отца К. А. Шашалевич сочла, что Сталину не до писем тысяч таких, как отец.

Во-вторых, насколько я знаю, она не была никогда сталинисткой, т. е. за всю свою жизнь с ней я никогда о Сталине ничего от нее не слышала, кроме разве таких, вырвавшихся однажды с досадой, слов: «Придумал себе звание, семинарист» (это о генералиссимусе). А вот неумеренное восхваление ее явно раздражало (в таких случаях она выключала радио).

Если бы сильно верила мама в Сталина, то она бы отправила это письмо.

А так оно осталось в семье единственной памятью об отце, все для нас объясняющей.

Потом, когда на 20 съезде был развенчан культ Сталина, мама снова перечитывала письмо отца и нашла его даже в чем-то «подхалимским», но она не права была, по-моему. То, что отец писал вождю — это ведь понятно. Больше-то было не к кому. Он и царь, и бог, и все в одном лице. Любой человек, находясь в том тупике, старался бы что-то сделать, найти хоть какой-то выход.

А жаловаться было и некому. По Вашей же статье я поняла, что отца помиловали, благодаря этому письму. Не знаю ничего о помиловании. Он писал, что его обещают выпустить как совершенно безнадежного, больного (доходягу, как теперь у нас говорят).

Если в самом деле было какое-то помилование, то об этом, наверное, есть в его личном деле, которое было прочитано моим двоюродным братом, а его племянником. Борис жил и работал в Москве в НКВД. За несколько лет до смерти он рассказал, что выпущенного из лагеря Андрея убили на одной из станций уголовники, отпущенные Берией...»

Перад намі жывы чалавечы дакумент, цікавы і сам па сабе, і ў кантэксце нашай гаворкі пра лёс А. Мрыя, пра загадку яго вызвалення і заўчаснае смерці.

Тое, што творчасць гэтага пісьменніка і для нашага часу застаецца з'явай жывой і актуальнай, засведчыў факт публікацыі яго твораў па-беларуску ў часопісах «Полымя», «Маладосць» і «Беларусь» і ў перакладзе на рускую мову — у «Нёмане», у выдадзенай у Маскве кнізе. Цяжка згадаць яшчэ адзін такі выпадак, каб нумары беларускіх выданняў здабылі сабе славу бестселераў!

Не магу не згадаць і словы вядомага нямецкага літаратара, пе-

ракладчыка і даследчыка беларускай прозы Норберта Рандаў, які пару гадоў назад пад час знаходжання ў Мінску на семінары перакладчыкаў беларускай літаратуры сказаў, што апавяданні А. Мрыя па сваім мастацкім узроўні і каларыце не ўступаюць навелам І. Бабеля. Творы абодвух пісьменнікаў у ГДР друкаваліся. Што да А. Мрыя, то куды раней, чым у сябе на радзіме. Цікавы факт згадвае ўсё тая ж А. А. Рухіна, але цяпер ужо ў лісце да С. І. Грахоўскага, надрукаваным на старонках «Полымя»: «Дарэчы, недзе ў канцы 60-х гадоў ці, можа, нават у 70-м да С. А. (Соф'і Андрэеўны Зыкавай, маці А. А. Рухінай. — *Я. Л.*) прыходзіў адзін немец (гэта было ў Гомелі) і прасіў дазволу перакласці бацькаў раман на нямецкую мову. Яна адмовіла, сказаўшы, што калі трэба будзе, то і ў нас надрукуюць». Як бачым, чакаць давялося не так і мала...

Андрэй Антонавіч Шашалевіч нарадзіўся ў 1893 годзе ў вёсцы Палуж Краснапольскага раёна ў сям'і валаснога пісара. У 1902 годзе яго бацька памёр, і маці засталася з пяццю дзецьмі (малодшай дачцэ было два гады). Маці, Ефрасіння Фамінічна, рабіла ўсё, каб вывучыць дзяцей. Усе яны, як сведчыць Аксана Андрэеўна, «любілі музыку. Бацька неяк навучыўся іграць на віяланчэлі, а дзядзька Вася — на скрыпцы. На думку мамы, скрыпач ён быў выдатны. Пад вокнамі яго хаткі, калі ён іграў, збіраліся людзі, каб паслухаць. Ну, гэта не дзіва для таго часу, калі не было радыё».

«Хлопчыкаў маці аддала вучыцца спачатку ў духоўнае вучылішча, потым у семінарыю. Кажуць, што бацька нізавошта не хацеў туды ісці, але маці настаяла. Вучыўся ён бліскуча, заўсёды быў першым вучнем. Мама ўспамінала, што ён вылучаўся акуратнасцю».

«Не ведаю, як мой бацька пасля семінарыі стаў прапаршчыкам у першую сусветную вайну. Мама казала нешта пра акадэмію: ці то яго туды рэкамендавалі, ці то ён паступіў і там вучыўся. На здымку 1914 года ён у нейкім мундзірчыку, але што гэта за мундзір, не ведаю. Ва ўсякім выпадку, я добра ведаю, што ў час рэвалюцыі ў яго, відаць, не было праблемы, «куды ісці, у якім змагацца стане». У 1918 годзе ён уступіў у Чырвоную Армію і быў там кулямётчыкам. Вельмі цяжка хварэў на тыф. А потым стаў настаўнікам у Краснаполлі». З 1921 па 1926 год, як сцвярджае сам А. Мрый у лісце да Сталіна.

На яго абуджэнне як асобы, грамадзяніна, патрыёта, а потым і пісьменніка найбольшы ўплыў, бадай, зрабіла ўзбуйненне Беларусі, у выніку чаго рэспубліцы ў 1924 годзе былі вернуты Магілёўская і Віцебская вобласці, а таксама частка паветаў Смаленскай вобласці з беларускім насельніцтвам. Сярод далучаных тэрыторый было і Краснаполле. Гэта дало штуршок творчым сілам, абудзіла ў людзей цягу да роднай мовы, культуры, гісторыі. Вось як апісваў А. Мрый атмасферу, што запанавала ў яго краі, у своеасаблівай сцэнцы «Цар Максіміліян на вёсцы». Жанр гэтага матэрыялу вызначаны: «З натуры», чым аўтар, відавочна, імкнуўся падкрэсліць праўдзівасць, непрыдуманасць апісаных падзей:

«Падумаць толькі: у м. Краснаполлі Калінінскай акругі паставілі ў Нардоме на беларускай мове «Цара Максіміліяна»! Можна смяяцца з гэтага, можна паціскаць плячыма, але гэты вопыт вельмі цікавы, і ў ім, як у люстэрку, адбілася жыццё далучанай часткі Беларусі, у якой яшчэ нядаўна ўсё было мёртва, непарушна!

А цяпер і там пачалася культурная рэвалюцыя, і там выяўляецца творчасць шырокіх масаў, і там можна заўважыць, якія вялі-

кія перспектывы адчыніліся перад геніем народа, якi скінуў кайданы!»

А вось як са слоў маці піша пра той час Аксана Андрэеўна:

«Людзі пацягнуліся да мастацтва, самі пачалі тварыць. Быў створаны народны тэатр. Уся сям'я (амаль усе яны сталі настаўнікамі) прымала ў ім самы актыўны ўдзел».

На гэты час прыпадаюць і першыя выступленні А. Мрыя ў друку. Пачынаў ён як селькор, з газетных нататак, прысвечаных розным падзеям і здарэнням з добра знаёмага яму вясковага жыцця. Найбольш імпанавала пісаць пра ход беларусізацыі ў родных мясцінах, пра тое, як на здабытай Бацькаўшчыне адраджаліся духоўныя вартасці, і найдаражэйшая сярод іх — пагарджаная і занядбаная на працягу стагоддзяў родная мова. «Ён, — сведчыць Аксана Андрэеўна, — захапляўся беларускай мовай, як і яго брат (драматург Васіль Шашалевіч. — *Я. Л.*), хоць добра ведаў рускую і, відаць, мог бы пісаць і на ёй, але пісаў па-беларуску». Пасылаў свае допісы ў газету «Савецкая Беларусь».

Апрача тэатральнай самадзейнасці Андрэй Шашалевіч актыўна ўключаецца ў краязнаўчую працу, якой тады была ахоплена ўся рэспубліка, і пачынае супрацоўнічаць з часопісам «Наш край» — органам Цэнтральнага бюро краязнаўства. Пачынаецца, кажучы ўмоўна, раздваенне абсягу літаратурнай дзейнасці аўтара...

Яго газетныя матэрыялы ўсё больш пазбаўляюцца сухой інфармацыйнасці, канкрэтнай прывязкі да асобных фактаў, у іх назіраецца імкненне да большай абагуленасці і значнасці гаворкі пра жыццё і людзей. Жанравая трансфармацыя матэрыялу адбываецца нібы сама сабой, без свядома пастаўленай аўтарам мэты. І вось перад намі не газетныя нататкі, а досыць разгорнутыя і па-мастацку адметныя нарысы пра нейкія цікавыя падзеі, своеасаблівыя чалавечыя характары.

Трапны выраз, жывое народнае слова, цікавае параўнанне, эпітэт, свежая дэталь, непасрэдна перададзены дыялог — гэтыя і іншыя прыкметы прафесійнай прозы спрыяюць таму, што нарыс паступова перарастае ці, дакладней, дарастае да апавядання.

Крыху інакш адбываецца эвалюцыя матэрыялаў А. Мрыя, змешчаных у часопісе «Наш край». Яны, як і газетныя, пазбаўляюцца аднамернасці, прывязкі да асобнага факта, але эвалюцыяніруюць не толькі ў бок мастацкасці, але і да строгай навуковасці і праблемнасці.

Андрэй Шашалевіч пераязджае ў Мінск і з 1926 па 1930 год працуе інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства. «Потым, — зазначае Аксана Андрэеўна, — пачаў працаваць у газеце «Звязда». Зусім верагодна, што якраз тут узнікла пільная цікавасць да перакладу прац Леніна на беларускую мову, чаму, як адзначыў пісьменнік у лісце да Сталіна, ён прысвяціў асобнае даследаванне.

З канца 20-х гадоў у Беларусі пачынаецца масавая кампанія зацятай барацьбы з так званым нацыянал-дэмакратызмам, ці, інакш кажучы, беларускім нацыяналізмам, пад які падводзілася ўсё, што мела больш-менш нацыянальныя прыкметы, гуманістычную напоўненасць, вернасць дэмакратычным прынцыпам ці хоць бы пэўную прыналежнасць да іх. Ці трэба казаць, што ў такой атмасферы пад асаблівую падазронасць пападалі тыя, у каго было заўважана крытычнае стаўленне да вывіхаў камандна-бюракратычнай сістэмы. Менавіта ў гэты бок і было навострана ўчэпістае, чуйнае на ўсялякія адхіленні вока А. Мрыя, які ў канцы 20-х ужо сфармі-

раваўся як пісьменнік са сваёй арыгінальнай творчай манерай. У часопісе «Узвышша» публікаваліся яго гумарыстычныя апавяданні, а потым і сатырычны раман «Запіскі Самсона Самасуя», дзе, што называецца, празаік браў казла за рогі. І таму было б незразумелым і дзіўным, каб пісьменніка абмінуў агульны для ўсёй нашай сумленнай, патрыятычна настроенай інтэлігенцыі лёс выгнанцаў з роднай зямлі, лагерных пакутнікаў, у пераважнай большасці асуджаных на гвалтоўную смерць. Выключэнне тут складалі адзінкі, у лік якіх удалося трапіць і народным песнярам Коласу і Купалу. Аднак вядома, што і на іх былі павыпісваны ордэры і ўратаваліся «пракокі нацыі» выпадкова, дзякуючы П. К. Панамарэнку, на той час першаму сакратару ЦК КПБ. Ідучы на рызыку, ён пераканаў Сталіна адмяніць рашэнне органаў НКУС і пакінуць на волі апошніх значных прадстаўнікоў беларускай літаратуры.

А. Мрыя ўзялі ў 1934 годзе. Праўда, у палымянскай публікацыі дачкі пісьменніка гэтая дата перанесена на больш позні час, але тут па недаглядзе рэдакцыі выйшла памылка, бо, як удакладніла Аксана Андрэеўна, яна «писала, что в 1937 г. арестовали моего приемного отца — дядю Колю (Николая Васильевича Христофорова), а в журнале получилось, что речь идет о моем отце Андрее».

Пра свае блуканні па пакутах пісьменнік балюча расказаў у лісце да Сталіна — у гэтым крыку зняверанай і знявечанай чалавечай душы, што ў роспачы звяртаецца з просьбай аб паратунку і справядлівасці да галоўнага канструктара жудаснай рэпрэсіўнай машыны, якая пад яго мудрым кіраўніцтвам пайшла напралом на свой народ, трушчачы і крышачы на сваім шляху носьбітаў душэўнай шчырасці і адданасці, таленту і розуму.

Найбольшая заслуга А. Мрыя мо не так перад літаратурай, як перад грамадствам у тым, што ён убачыў набліжэнне страшнай бяды, якая заключалася ў абесчалавечванні чалавека, у пазбаўленні яго такіх спрадвечна ўласцівых яму якасцяў, як дабрыня, шчырасць, спагадлівасць, сумленнасць, сувязь са сваім народам, сваёй культурай, ператварэнні яго ў бязлікую і бяздушную, гатовую да выканання любога загаду, шрубку сістэмы. Найбольш поўна ўвасобіўся гэты «ідэал» у вобразе Самсона Самасуя — гэтым узоры тупога казарменнага паслушэнца. Такія, як Самсон, людзі стануць актыўнымі памагатымі пры сталінскай машыне, заўжды гатовай да дзеяння, хоць і не надта трывалай апорай у наступе «правадыра» на народ, на здаровыя сілы грамадства, на ўсё тое, што было здабыта папярэднікамі ў мінулыя стагоддзі, адваявана рэвалюцыяй. І справа тут, зразумела, не толькі ў рэпрэсіях, фізічным знішчэнні людзей, а ў глабальным распадзе натуральнага ўкладу жыцця, духоўнасці, ператварэнні самога чалавечага існавання з радасці ў ідыятызм, у поўным апашленні і фармалізацыі ўсяго, што дасюль лічылася дарагім і святым, вартым пашаны і гонару. Шапялёўская рэчаіснасць у рамане — сімвал такога грамадства, духоўна пустога і нікчэмнага, пазбаўленага здаровай логікі і сэнсу.

А. Мрый цікавы нам не толькі як суддзя-аналітык грамадства, што выявіў і выкрыў тыя яго «тайныя» спружыны, якія ў далейшым актыўна спрычыніліся да раскручвання магутнага махавіка рэпрэсій, але і як мастак слова, яркага і своеасаблівага. Празаік займае ў беларускай літаратуры сваё адметнае, ні ад кога не залежнае, ні на чыё не падобнае месца. Кажучы так, не хацеў бы, каб у чытача склалася ўражанне, нібыта талент пісьменніка ўзга-

даваўся на пустым месцы, што ў яго не было папярэднікаў і сатырычныя традыцыі не былі ўласцівымі беларускай літаратуры. Былі, і яшчэ якія! Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова пагартаць шматтомны збор беларускага фальклору, адзін з найбагацейшых у свеце. І ўпэўнімся, колькі смеху — ад іскрыста-лёгкага да знішчальна-з'едлівага — увасоблена і пакінута народам, які з пачуццём уласнай годнасці і ўнутранай разняволенасцю смяяўся з тых, хто спрабаваў сцвердзіць сваю вышэйшасць над ім.

Новая беларуская мастацкая літаратура ўвогуле пачыналася з твораў сатырыка-гумарыстычнага напаўнення: з паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Традыцыя гэта працягвалася ў творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Альберта Паўловіча, Ядвігіна Ш., Якуба Коласа...

Сродкі гумару і сатыры актыўна выкарыстоўваліся і маладой беларускай савецкай літаратурай. Аднак пасля рэвалюцыі наша проза і паэзія, у адрозненне, скажам, ад рускай, у сваёй масе не здолелі ўзняцца да значных сацыяльных, адначасова мастацкіх абагульненняў і адкрыццяў. Перашкаджалі драбнатэм'е, рух па наезджанай каляіне. Найбольш, не рызыкуючы і не абцяжарваючы сябе ўласным пошукам, выкрывалі і лупцавалі тое, што крытыкавалася і з савецкіх класаў (як у рэвалюцыю скінутых, экспрапрыіраваных, парассаджваных па лагерах і турмах, так і тых, што чакалі сваёй чаргі: гандляроў, заможных сялян, папоў ды іншых, кажучы словамі той эпохі, п'явак на целе працоўнага народа). Частымі аб'ектамі высмейвання былі таксама п'яніцы, абібокі, неахайныя людзі, што выступалі супраць новага побыту, а з катэгорый, прыналежных да ўлады, бюракраты, прытым больш у побытавых праявах, там, скажам, дзе службовец не дае магчымасці пабудаваць лазню, прывезці чалавеку апалу і г. д.

«Сатыра» такога кірунку і такога напаўнення часта пашырала культ разбурэння (у гэтым плане асаблівую шкоду прынесла так званая антырэлігійная, а яна і была найбольш распаўсюджанай у той час, сатырычная літаратура, якая актыўна спрыяла духоўнаму падзенню грамадства, знішчэнню выдатных, сусветнага значэння. архітэктурных помнікаў культавага прызначэння). Вядома, выйсці з літаратурнай валтузні, падняцца над прыватнымі жыццёвымі праявамі, зазваніць у вялікі грамадскі звон — гэта заўважаецца ў творчасці таленавітага сатырыка Кандрата Крапівы, у гумарыстычных і сатырычных апавяданнях празаіка-псіхолага Кузьмы Чорнага, у паасобных творах некаторых іншых беларускіх пісьменнікаў. Але ўсё ж трэба прызнаць, што творчасць А. Мрыя выразна вылучаецца на фоне створанага нашай літаратурай у гады дваццатыя. Ды ці толькі ў той час?.. Трыццатыя ж увогуле, за вельмі рэдкімі выключэннямі, ці не суцэльнае падзенне, амаль поўны адыход ад класічных традыцый, закліканых у першую чаргу разняволіць і духоўна ўзвялічыць чалавека...

Ужо крыху гаварылася пра тое, як эвалюцыянавала творчасць А. Мрыя ад звычайных газетных допісаў да апавяданняў. Цяпер, мяркуем, варта паглядзець на тое, калі і як прарэзаўся ў празаіка гумарыстычны і сатырычны талент, бо яго пакуль што не было ў тых першых нататках, задача якіх заключалася не ў тым, каб нешта і некага высмеяць, а каб даць праўдзівую, цалкам аб'ектыўную інфармацыю пра падзеі, што адбыліся ў родным краі. Калі гаварыць увогуле, дык нельга сцвярджаць, што ўсё на Краснапольшчыне было тады хораша і бездакорна, а таму і не вымагала крытыч-

нага асэнсавання, тым больш высмейвання. Ды задачы ў селькора былі іншыя: паказаць, і гэтым самым падтрымаць, парасткі новага, блізкага і дарагога яму. Яно найперш звязвалася з палітыкай беларусізацыі, з першымі крокамі новай гарадской культуры на вёсцы. Тэма гэтая з карэспандэнцыі пераходзіць у першыя апавяданні А. Мрыя, напрыклад, у «Цара Максіміліяна на вёсцы». Пераважная большасць з іх друкуецца ў газеце «Савецкая Беларусь».

А. Мрый ішоў тут у агульным для ўсёй і ў першую чаргу для маладой літаратуры рэчышчы, скіраваным на паказ і ўслаўленне новага, змен, што адбыліся ў паслякастрычніцкай рэчаіснасці. Аднак памылкова сцвярджаць, што і А. Мрыю быў уласцівы тыпова маладнякоўскі погляд на жыццё. Паказвалі ў прынцыпе адно і тое ж, ды не аднолькава. Маладнякоўцы былі нібы ахмеленыя прадчуваннем блізкага ўсеагульнага шчасця, веліччу перамен у грамадстве. Адсюль жывілася творчая энергія, чэрпаў натхненне іх рамантычны пафас, нараджалася палкая эмацыянальнасць, што выразна ўплывалі на стыль прозы «Маладняка» — квяціста-аздобленай шматлікімі слоўнымі ўпрыгожваннямі, перасыпанай воклічамі захаплення, рытмізаванай. А цяпер глянем на творчую манеру ранняга А. Мрыя.

Апавяданне «Працоўны дзень савецкага лекара» самой назвай скіравана на адлюстраванне будняў. Рамантызацыяй тут і не пахне: людзі паводзяць сябе спакойна, разважна і заклапочана. Перад намі сама што ні ёсць праўдзівае жыццё з усімі яго рэальнымі канфліктамі, праблемамі, болямі. Так, як тут, маладнякоўцы і блізка не паказвалі новага, бо лякарня і лекары ў іх звычайна асацыіраваліся з рэвалюцыйнымі пераменамі ў жыцці, з уяўленнямі (а яны былі досыць стандартнымі і прыблізнымі) пра новага чалавека.

Яшчэ больш цесна да новага прывязана апавяданне «Тварам да вёскі» (з цыкла «Новыя людзі»), дзе расказваецца пра сустрэчу прапагандыста, пасланца горада, з вяскоўцамі. Во дзе можна было даць волю фантазіі, эмоцыям, паказаць, як шчасліва зажылі людзі пры савецкай уладзе, з якой яны ўдзячнасцю і энтузіязмам успрымаюць палымянае слова прадстаўніка партыі! Але нічога такога ў творы і блізка няма: і тут рэальная праўда жыцця з яго непрыдуманымі праблемамі. І не знешне, не дэкларатыўна, не сілком навязанай успрымаецца думка аб патрэбе тым, хто кіруе і хто прывык гаварыць ад імя народа і ў імя народа, павярнуцца тварам да вёскі, да чалавека, да рэальных праблем жыцця.

Тэматычна найбліжэй да маладнякоўскіх, бадай, стаіць апавяданне «Пятрок». У яго аснове — адзін з самых папулярных у «Маладняку» — канфлікт паміж бацькамі і дзецьмі.

У гэтай сувязі згадаем шумныя кампаніі маладых беларускіх літаратараў супраць старэйшых, што праходзілі пад лозунгамі «З гарматы па вераб'ях», «Абухам па мухах», «У рожкі са старымі» і г. д. Маладнякоўцы на сходах і ў друку імкнуліся давесці састарэласць для новага часу творчасці так званых «нашаніўцаў», сярод якіх, зразумела, былі Колас і Купала. Ім адмаўлялася не толькі ў магчымасці зразумець сутнасць новых змен у грамадстве, але і стварыць значныя мастацкія каштоўнасці. Такі ж прынцып рэзкага падзелу грамадскіх сіл на старых і маладых, мяркуй, рэакцыйных і прагрэсіўных, відочна прасочваецца і ў многіх творах «Маладняка», дзе абмалёўваліся канфлікты паміж бацькамі і дзецьмі. Першыя, як звычай, выступалі носьбітамі аджылага, а то і цемрашаль-

нага, другія — увасабляльнікамі прагрэсіўных змен, перадавой камуністычнай ідэалогіі.

Аповесцю «На прасторах жыцця» Якуб Колас пераканаўча сцвердзіў, што не горш за маладнякоўцаў ведае жыццё моладзі і ўмее па-мастацку яго адлюстраваць. Але найбольш значнае адкрыццё мы звязваем з імем Лукаша Калюгі, на той час васемнаццацігадовага юнака, які ў аповесці «Ні госць, ні гаспадар» не толькі разбіў маладнякоўскі стандарт аб перавазе дзяцей над бацькамі, але і па-мастацку пераканаўча асэнсаваў праблему, актуальную і для нашых дзён, сутнасць якой у духоўным крызісе маладога, выхаванага новай рэчаіснасцю чалавека, які страчвае пачуццё арганічнай еднасці са сваёй зямлёй, сваім народам, яго мовай і культурай, а адначасова і пачуццё адказнасці за ўсё гэта, становіцца, кажучы афарыстычнымі словамі Калюгі, «ні госцем, ні гаспадаром» у сваёй краіне, на сваёй зямлі.

Што да А. Мрыя, то ён як мастак быў яшчэ слабы, каб узняцца да падобных абагульненняў. Яго апавяданне «Пятрок» не прэтэндуе на значныя мастацкія адкрыцці, на свядомую палеміку з маладнякоўскай традыцыяй. Але, ідучы ў яе рэчышчы, ён стварае свой варыянт чалавечых паводзін, досыць праўдзівых і пераканаўчых, бо, нягледзячы на відавочную літаратурную заэксплуатаванасць, канфлікт паміж старэйшым і маладзейшым пакаленнямі сапраўды быў актуальным для пасляваеннай рэчаіснасці. І галоўным было не тое, каб яго абмінаць, а як, з якіх чалавечых пазіцый паказваць...

Аднак час паглядзець, як у ранніх апавяданнях А. Мрыя праяўляўся так арганічна ўласцівы яму пазней талент сатырыка. Ды ці быў у тых першых літаратурных спробах гэты талент, ці праклёўваўся хоць?

Зыходжу з меркавання і пераканання, што здольнасць смяяцца самому і смяшыць іншых, іранізаваць і пацвельвацца — гэта прыроджаныя ўласцівасці характару, а не якасці, якія можна набыць. Сказанае датычыць як асаблівасцей чалавечай натуры, так і мастацкай творчасці, якую ніяк нельга разглядаць у адрыве ад індывіда, усіх яго, у тым ліку фізіялагічных, якасцей. Дачка сведчыць, што Андрэй Антонавіч «умеў добра смяяцца, умеў і жартаваць». Аднак даводзіцца адзначыць, што па першых спробах пяра цяжка дый немагчыма ўгадаць аўтара спелых гумарыстычных апавяданняў і сатырычнага рамана «Запіскі Самсона Самасуя». Дык чаму, калі ранняй свежасцю неспакойна выяўлялі сябе прыродныя сілы, калі Андрэй, мяркуем, молада і іскрыста смяяўся, яго, кажучы высокім стылем, творчая палітра была досыць шэрай і сумнай на фарбы, на пераліўы пачуццяў?! Інакш кажучы, яго допісы па-газетнаму інфармацыйна аднастайныя. Але, думаецца, усё тут не ва ўласцівасцях характару і асаблівасцях почырку, а ў магчымасцях самавыяўлення.

Сатыра і гумар вымагаюць знароклівага камікавання, гэта значыць свядомай дэфармацыі, зрушанасці прапорцый, парадаксальнасці сітуацый і г. д. Празаік жа нават жанрава вызначаў свае апавяданні як «з натуры», «малюнкі» — гэта значыць знарок падкрэсліваў іх натуральнасць і праўдзівасць. Гэта на першым часе было для яго даражэйшым, чым патрэба самавыяўлення сябе як асобы творчай. Бо пісаў пра тое, у што верыў, што хацеў падтрымліваць, а не крытыкаваць і высмейваць. Пра тую ж беларусізацыю, якая толькі разгортвалася, уваходзіла ў штодзённае жыццё. Ня-

лёгка і няпроста ўваходзіла. Перш за ўсё насуперак супраціву чыноўна-бюракратычнага апарату, праз абыякавасць і абачлівасць людзей, якіх стагоддзямі адвучвалі «людзьмі звацца», адлучалі ад роднай культуры. У выніку гэтага ў іх ужо выпрацаваўся імунітэт супраць свайго, беларускага, як нібыта гатункам ніжэйшага за ўсё іншае, а то і страх перад гэтым сваім, боязь мець з-за яго ганенні і здзек. За гэта простага чалавека цяжка было вінаваціць, бо калі не ён сам, дык яго продкі ў мінулым не раз траплялі ў сітуацыю без віны вінаватых. Будучыня ж паказала, што прыналежнасць да беларускасці стала не толькі вялікай бядой, але і ўсенароднай трагедыяй. А пакуль што людзям, нягледзячы на афіцыйныя запэўніванні, цяжка было паверыць, што зганьбаванае і прыніжанае беларускае слова, увогуле нацыянальная культура змогуць заняць годнае месца на роднай зямлі і быць пад дзяржаўнай апекай і аховай.

Карацей кажучы, культурная, грамадская і палітычная сітуацыя на Беларусі была складанай, нараджала безліч канфліктаў і калізій, якія не маглі прайсці міма ўчэпістага вока сатырыка. І вось ён у апавяданні «Абстрыкаўся» абмалёўвае вобраз павятовага начальніка таварыша Шмыціка — да прымітывізму абмежаванага і самаўпэўненага ў гэтай сваёй абмежаванасці халуя на дзяржаўнай пасадзе. Пагарда да свайго, беларускага, якога ён ужо цалкам выракся, не ведае і ведаць не хоча, а таму, каб апраўдаць ці, дакладней, схаваць ад людзей сваю нікчэмнасць, нахабна прапагандуе думку аб прымітывізме і нікчэмнасці беларускай культуры.

Такі персанаж быў крайне антыпатычны празаіку, але ён не спакусіўся яго лабавым выкрыццём, чым, заўважым, маладая літаратура ў той час досыць часта грашыла. А. Мрый, не шукаючы асаблівых мастацкіх сродкаў, проста даў магчымасць герою самараскрыцца — якраз гэты прыём, гэтая асаблівасць стануць універсальнымі і вызначальнымі ў пазнейшых творах. Дзякуючы самараспранiнню тав. Шмыцік паўстае ў сваю натуральную велічыню, робіцца смешным, у нечым падобным да вобраза славутага пана Быкоўскага з камедыі Янкі Купалы «Паўлінка», якую, дарэчы, гэты начальнік імкнецца забараніць для пастаноўкі ў «сваіх» уладаннях. Але раптоўна прыходзіць вестка, што «яго» павет далучаецца да Беларусі, і... наступае развязка. Гэта значыла, што ўжо мінулася Шмыціку бэсціць на людзях беларускую мову, а трэба было брацца яе вывучаць, бо інакш можна было страціць наседжанае месца.

Няма сумнення, што таварыш Шмыцік і падобныя да яго прыстасуюцца і падладзяцца пад новую сітуацыю, але ж гэтае «ўсюдысуйнае» падладжванне і будзе даваць нашаму сатырыку надзвычай каштоўны матэрыял для творчасці. З найбольшым бляскам і мастацкай віртуознасцю ён яго ўвасобіць у апавяданнях і рамане «Запіскі Самсона Самасуя» — творах узвышэнскага перыяду.

Канчаўся перыяд пошуку, пачыналася пара сталай літаратурнай творчасці.

Пераважная большасць маладых пісьменнікаў, што ўваходзілі ў беларускую літаратуру ў першае паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе, гуртавалася ў «Маладняку», які ў першыя гады сваёй дзейнасці шмат рабіў для іх арганізацыйнага афармлення і творчага самавыяўлення.

Не трэба забывацца, што гэта былі дзеці народа, які некалькі стагоддзяў назад страціў сваю дзяржаўнасць, а потым і веру ў сваю будучыню, мова якога, а заадно і літаратура былі пад забаронай. Цяпер, калі зноў з'явілася надзея і вера, важна было адчу-

ваць пачуццё локця, нацыянальнай лучнасці, ведаць, што кожны пісьменнік жыве і творыць не асобна, а разам з іншымі, у гурце, які з'яўляецца рэальнай сілай. Гэта натхняла, абуджала, далучала і неўзабаве дало вынікі, на якія наўрад ці хто напачатку спадзяваўся: праз два гады існавання, у 1926 годзе, «Маладняк» налічваў у сваіх шэрагах звыш пяцісот сяброў, тады як у перадрэвалюцыйны час беларускіх пісьменнікаў можна было пералічыць на пальцах...

Аднак «Маладняк» усё больш перажываў цяжкасці станаўлення, унутраныя супярэчнасці, найбольш істотнай з якіх была неадпаведнасць масавай, падпарадкаванай камсамолу арганізацыі творчым патрэбам індывідуальнага самасцвярджэння і выяўлення найбольш здольных літаратараў. Актыўна загаварылі пра культуру творчасці, мовы ў прыватнасці, чаго вельмі не ставала многім маладнякоўцам. Шмат часу ў іх забірала грамадская дзейнасць, звязаная з прапагандай і агітацыяй па лініі ЦК камсамола. Да многіх прыходзіць усведамленне, што не ў гэтым прызначэнне літаратуры, а ў нечым больш важным, істотным: у служэнні свайму народу, у яго духоўным разняволенні і самаўдасканальванні. Адчуваецца патрэба якаснага абнаўлення, таго, што на дадзеным этапе развіцця народа патрэбна не проста нацыянальная літаратура, а добрая нацыянальная літаратура, здольная вытрымліваць канкурэнцыю з самымі высокаразвітымі.

З-за такіх супярэчнасцяў, праблем і пытанняў адбываецца раскол суполкі, у выніку чаго невялікая, але творча выразная і актыўная частка, асяродак якой складалі пісьменнікі, што былі душою «Маладняка» (Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка, Адам Бабарэка, Язэп Пушча), 26 мая 1926 года аб'яўляе пра стварэнне літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша».

А. Мрый да «Маладняка» не належаў. Мо таму, што крыху запазніўся ўвайсці ў літаратуру і на агульным юнацкім фоне выглядаў стараватым. Праўда, сярод сяброў суполкі здараліся і больш уражлівыя выключэнні: Змітрок Бядуля, напрыклад. Больш істотным было, мабыць, непралетарскае паходжанне і духоўная асвета, да чаго ў «Маладняку», які з'яўляўся атожылкам камсамола, ставіліся не вельмі прыхільна, хоць, зноў жа, у праваслаўных семінарыях вучыліся лідэры суполкі — Міхась Зарэцкі і Адам Бабарэка. Але яны самі былі ля вытокаў «Маладняка» і, зразумела, тады самі вызначалі, каму ў ім быць, а каму не.

Як бы ні было, але фактаў не выяўлена, каб і сам А. Мрый імкнуўся далучыцца да маладнякоўскіх шэрагаў. Разам з тым ён быў у ліку нямногіх, хто ў першае папаўненне стаў сябрам «Узвышша», хоць, як вядома, доступ туды быў строга абмежаваны — яно лічылася не масавай, як «Маладняк», а элітарнай арганізацыяй.

Дык што ж прывяло нашага сатырыка туды? Перш за ўсё, мяркую, свабода творчасці, якую ўзвышэнцы паслядоўна дэкларавалі і на якую настройвалі сваіх сяброў. Ды свабода творчасці немагчымая без свабоды самавыяўлення. Гэта якраз і падкрэслівалі ўзвышэнцы, супрацьстаўляючы светапоглядна-індывідуальную і мастацкую своеасаблівасць кожнага ўзвышэнца масавай, калектыўнай свядомасці «Маладняка». «Узвышша» давала прастор для пошукаў, а гэта не магло не імпанаваць такому не падобнаму да іншых мастакоў, як А. Мрый. Узвышэнцы арыентаваліся на нацыянальную глебу, на багатую вусную народную творчасць беларусаў, на ўласныя пісьмовыя традыцыі, але, разам з гэтым, не процістаўлялі «сваё» «чужому»; пунктам тэзісу падкрэслівалася неабходнасць

«апанавання» скарбаў сусветнага мастацтва. І не толькі на ўласныя патрэбы, на ўласны духоўны спажытак арыентавала «Узвышша» сваіх сяброў, а на стварэнне літаратуры, «якую ўбачаць вякі і народы». А. Мрыю, шчыраму патрыёту роднага краю, выхаванаму на здабытках сусветнай культуры чалавеку, усё гэта, напэўна, было зразумелым і блізкім, такім, што пабуджала і натхняла на стварэнне ўласных мастацкіх здабыткаў.

Узвышэнцы пачалі выдаваць аднайменны з назвай згуртавання часопіс і неўзабаве здолелі даказаць, што іх словы, выказаныя ў дэкларацыі да ўтварэння «Узвышша», не разыходзяцца са справамі.

Узвышэнцаў было няшмат, усяго з дзесятак чалавек, і лёс адвёў ім мала часу, усяго тры гады (1927—1929), калі яны мелі магчымасць больш-менш свабодна сцвярджаць і рэалізоўваць у мастацкім слове тое, што хацелі, што лічылі патрэбным і карысным для свайго народа. Яны былі групай аднадумцаў, з'яднаных высакароднай ідэяй служэння Беларусі, яе духоўнаму разняволенню. Рэалізаваць свае мэты было няпроста і нялёгка: «Узвышша» адразу ж, як толькі выйшла з «Маладняка» і пакуль што не мела ні грахоў, ні здабыткаў, трапіла пад агонь афіцыйнай, а потым і выразна аглаблёвай, разноснай і палітычна даноснай крытыкі, ад якой яно вымушана было адбівацца, растрачваючы сілы на пустое, дробнае, часовае.

І ўсё ж, «нягледзячы, — кажучы словамі У. Дубоўкі, — на хібы і перашкоды», узвышэнцы здолелі пакінуць значны след у роднай культуры, стварыць такія творы, што назаўжды застануцца ў набытку беларускай культуры. Сярод іх «Сястра», «Зямля», «Вераснёвыя ночы» Кузьмы Чорнага, «Салавей» і першая кніга «Язэп Крушынскі» Змітрака Бядулі, паэмы і лірыка Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Язэпа Пушчы, пакуль што ў многіх сваіх праявах невядомыя сучаснаму чытачу, тым больш па-належнаму не прачытаныя крытыкай і не замацаваныя ў гісторыі літаратуры. Яшчэ ў большай меры датычыць сказанае ацэнкі творчасці аднаго самага патэнцыяльна моцнага на той час празаіка Лукаша Калюгі, як і ўзвышэнскіх крытыкаў — Адама Бабарэкі, Антона Адамовіча — аўтара першай манаграфічнай працы пра Максіма Гарэцкага, многіх артыкулаў і рэцэнзій, а таксама Фелікса Купцэвіча. Але галоўнае не тое, што мы не бачылі ці свядома замоўчвалі створанае гэтымі людзьмі, — асноўнае ў значнасці напісанага імі, якое раней ці пазней, а будзе як след ацэнена і асэнсавана...

Гэта ж можна сказаць і пра творчасць А. Мрыя. Ва «Узвышшы» надрукавана не так і шмат ягоных твораў: пяць апавяданняў і два першыя скруткі рамана «Запіскі Самсона Самасуя».

Калі мы раней казалі, што ў яго закончыўся перыяд пошукаў і пачалася сталая праца празаіка з адметнай манерай пісьма, дык мелі на ўвазе асноўны кірунак самавыяўлення творчай індывідуальнасці, бо дасюль ён прасочваўся досыць невыразна, асабліва з улікам пазнейшых дасягненняў, гэта значыць лепшых твораў, надрукаваных у часопісе «Узвышша».

Тыя пяць апавяданняў яшчэ не цэласныя па стылі, па мастацкай манеры і аўтарскай пазіцыі. У нас, на жаль, няма звестак, у якой паслядоўнасці пісаліся гэтыя творы, хоць «Калектыў Яўмена» па сваёй сутнасці куды бліжэй да апавяданняў, што друкаваліся ў «Савецкай Беларусі», чым да іншых узвышэнскіх твораў. Да твораў гумарыстычных, а тым больш сатырычных «Калектыў Яўме-

на» можна аднесці з вялікай нацяжкай. Хіба толькі на падставе таго, што тут крытыкуюцца адмоўныя, паводле аўтарскага стаўлення, з'явы тагачаснага жыцця. Апавяданне напісана па распаўсюджаным тады (прыкладам таму многія маладнякоўскія творы) трафарэце, згодна з якім станоўчы персанаж, гарачы прыхільнік усяго новага, рэвалюцыйнага, імкнецца далучыць да яго іншых людзей, ды тыя, назло яму, учэпіста трымаюцца за стары быт, старыя звычкі.

Канфлікт гэты не быў надуманы, а народжаны жыццём. Кепска, што ў многіх творах пераважала зададзенасць: узвышэнне, як правіла, маладога героя і адначасовае камікаванне з прадстаўнікоў старэйшага пакалення. Пра гэта, памятаеце, у нас ужо гаворка была ў сувязі з платформай і творчай практыкай «Маладняка». У выніку замест вечна складанага, шматмернага і да канца не пазнанага жыцця выходзілі чорна-белыя кантрасты, замест роздуму, разумення чалавечай душы — ілюстрацыя.

А. Мрый пазбягае крайнасцяў «маладнякізму», у ягоным творы дзейнічаюць жывыя людзі. І ўсё ж вырашэнне ўзнятай тэмы не вызначаецца навізной і вынаходлівасцю; думка сцвярджаецца праз знарок падабраныя дэталі, а палітра твора не зіхаціць багаццем фарбаў, мае досыць просты сюжэт. Апавяданне канчаецца радаснай весткай, якую прыносіць Яўмен: іхні пасёлак выйграў 5000 рублёў, а значыць, Яўменавы ідэі і словы становяцца рэальнасцю.

Гэтае апавяданне, як і тыя, што друкаваліся на газетных старонках, вядзецца ў аб'ектывізаванай манеры, аднак і гэта засведчаць лепшыя творы, найбольш арганічнай для празаіка была «я»-форма.

Другое ўзвышэнскае апавяданне «Гармонія ў ружовым», напісанае ў аб'ектывізаванай манеры, таксама цяжка аднесці да лепшых. А мо віною гэтаму не форма, а аб'ект гумару ды недастатковая вышыня пазіцыі аўтара, які ўзяўся пісаць на папулярную для 20-х гадоў праблему еўгенікі, гэта значыць свядомага паляпшэння чалавечай пароды. Што ж, праблема ёсць праблема, і ад празаіка залежала, у які бок яе павярнуць, які сэнс з яе здабыць. Пра тое, як герой, спекулюючы на модзе, з карыслівых мэт мяняе некалькі жонак, чытаеш не без цікавасці. Але ўзнікае пытанне: няўжо гэтым павінна займацца сатыра? Чую пярэчанне: гэта ж не сатыра, а гумар. Дык хіба ж людзі не маюць права лёгка, ад душы пасмяяцца? Яно так, хоць смяшыць людзей — не ў гэтым было прызванне пісьменніка А. Мрыя. Спекуляцыя ж на драбнатэм'і прывяла да таго, што зачахла не толькі сатыра, але і гумар. Маю на ўвазе ўсю нашу літаратуру, яе нялёгкі і няпросты ўвогуле, а ў адносінах да сатыры асабліва, шлях праз дзесяцігоддзі...

А. Мрый, мяркуем, бачыў небяспеку, якая яго падсцерагала знутры, імкнуўся пераадолець стэрэатыпы, што заўсёды прыносяць смерць літаратуры,ператвараюць пісьменніка, калі ён ім быў, у імітатара. Адной з такіх «небяспечных» тэм была антырэлігійная, дзе пераважаў суцэльны стандарт і псеўдакрытыканства служак культу. У апавяданні «Рабін» ёсць выразны адыход ад знешняга камікавання і набліжэнне да праўды чалавечага характару, імкненне бачыць сувязь высокага з зямным, разумець філасофію, жыццёвую пазіцыю рабіна. Структура апавядання досыць ёмістая, пружыністая, па-мастацку шматмерная.

Апавядальнік тут збоку назірае за галоўным героем, тады як у двух другіх творах — «Няпростым чалавеку» і «Камандзіру» —

галоўныя персанажы самі расказваюць пра сябе, ды так захоплена, з імпэтам, з усведамленнем уласнай значнасці. І вазак, што падвозіць Цяліцу, аж млее ад зайздрасці гэтаму пошламу і амаральнаму, але сытаму, багатаму на жывёльныя радасці жыццю.

Да Цяліцы блізкі галоўны герой апавядання «Камандзір», хоць ён і дзейнічае ў іншых абставінах: воляю лёсу становіцца камандзірам Чырвонай Арміі. Ці не абапіраючыся на гэты твор, гаварыў Норберт Рандаў пра блізкасць А. Мрыя да І. Бабеля — і там, і тут паказана стыхія грамадзянскай вайны, неадназначнасці чалавечых паводзін і характараў.

Героі апавяданняў «Няпросты чалавек» і «Камандзір» блізкія да Самсона Самасуя, які таксама досыць імкліва ўзносіцца да вяршыняў сваёй славы, больш дакладна — няславы. Усе тры персанажы не маюць за душой і карэлага граша ад высокіх маральных прынцыпаў. Што ў іх ёсць станоўчага, калі гэта толькі не характарызаваць як маральную якасць, дык гэта здольнасць непасрэдна, жыва і цікава апавядаць пра сябе, пра тыя часам неверагодныя выпадкі, якія здараюцца ў іхнім жыцці.

На фоне напісанага раней раман «Запіскі Самсона Самасуя» з'ява вяршынная. Значэнне гэтага твора далёка перасягае значэнне творчасці аднаго пісьменніка. Так сталася, што традыцыі сатырычнай прозы не набылі належнага развіцця ў беларускай літаратуры, а таму названы раман і па сёння яе найвышэйшае дасягненне.

Твор гэты пра тое, як пастулова пошасць, прыстасавальніцтва, хлусня, фальш, пустазвонства аблытваюць жыццё, як істотным становіцца не сутнасць, а форма, не клопат пра чалавека і грамадства, а птушка, якой пазначаецца, з шумам і помпай праводзіцца тое ці іншае, у сваёй аснове пустое, нікому не патрэбнае мерапрыемства.

Асноўным носьбітам ідэі, рухавіком сюжэта, яго найчасцей абсурдных сітуацый з'яўляецца Самсон Самасуй, які ў імя кар'еры і славы назаўжды пакідае родную хату, забываецца на бацькоў і пачынае займацца тым, да чаго не меў ні прызвання, ні схільнасцяў, ні падрыхтоўкі, ні вопыту — культурай і адукацыяй. Узнікае пытанне: чаму, за якія заслугі яго сюды прыставілі? Пытанне набывае асаблівую вастрыню ў наш час, калі ўсе ўсвядомілі, у якім стане апынулася нацыянальная культура і адукацыя ў Беларусі! Самсон і сам напачатку ўсведамляе абсурднасць свайго становішча, нібы пацяшаецца, пацвельваецца з сябе самога, але пастулова правілы гульні яго захопліваюць, імкненне да кар'еры падпарадкоўвае ўсе іншыя пачуцці, і ён становіцца аднамерна агрэсіўным, такім, што можа перагрызці горла ўсякаму, хто стане ў яго папярок дарогі. Пра маральныя і этычныя нормы гаварыць не даводзіцца.

Па сваіх прыродных задатках Самсон Самасуй асоба даволі прымітыўная, аднак чаго не адбярэш у яго, дык гэта ўменне трымаць нос па ветры і адчуваць палітычную сітуацыю. Не так розумам, як нутром. Дзейнічае ён страшэнна сумбурна, людзям на смех, дыскрэдытуе сваімі ўчынкамі савецкую ўладу так, як бы наўрад ці здолеў зрабіць яе найбольшы вораг. І даводзіць справу да таго, што яго звальняюць з пасады. Звальняюць і... перамяшчаюць у валасць на больш высокае месца. Потым, як зазначыў у лісце да Сталіна сам пісьменнік, у другой кнізе рамана яго герой ужо дзейнічае ў рэспубліканскіх маштабах.

Спадзяюся, што самі чытачы адзначаць тыя мясціны рамана, якія сведчаць аб прадбачанні пісьменнікам масавых рэпрэсій, а значыць, і сваёй долі. Там, дзе пачынаўся вялікі кашмар, такім, як

Самсон, адкрывалася шырокае поле дзейнасці, ім наканавана было сыграць сваю злавесную ролю. Унутрана Самасуй гатовы для гэтага: маральна апустошаны, без усякай у душы веры, згодны без разваг і сумнення выканаць любы загад, што спусціць зверху начальства.

Ідэя рамана не дэкляруецца, а арганічна вынікае з яго мастацкай сутнасці. Нягледзячы на пэўныя прабуксоўкі ў асобных месцах, дзе пісьменнік не развівае мастацкі характар, не вядзе свайго героя наперад, выпрабоўваючы яго ў новых, сацыяльна значных сітуацыях, а толькі запаўняе прастору твора апісаннем досыць аднатыпных, хоць і цікавых саміх па сабе, сітуацый, у сваёй аснове «Запіскі» — твор іскрысты, парадаксальна-нечаканы, да авантурнасці займальны, насычаны нястрымнай фантазіяй пісьменніка, які ўмеў глядзець на жыццё весела, задзірыста, заўважаючы ў людзях малыя і вялікія скрыўленні і хібы.

І хто ведае, як праявіў сябе А. Мрый у той другой кнізе «Запісак Самсона Самасуя», у рамане «Жывы дом», іншых творах, напісаных ва ўмовах сталінскай лагернай рэчаіснасці...

Так, ён бачыў людзей, бачыў грамадства, паказаў пачатак той страшнай трагедыі, якую перажыў наш народ у трыццатыя гады. Яе маральную аснову паказаў. І творы яго, асабліва пазнейшага часу, — пісаліся не дзеля смеху, а дзеля той жорсткай праўды, без якой мы не можам жыць, якой бы яна ні здавалася нам прыкрай і непрыемнай...

*Яўген Лецка*

*Ліст*

# Другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну

Цвёрда памятаючы Вашы словы аб чулым, уважлівым стаўленні да жывога чалавека, я пішу Вам пра свае няшчасці, спадзеючыся знайсці ў Вас найвышэйшую праўду і справядлівае да мяне стаўленне.

Я — былы беларускі пісьменнік-гумарыст Шашалевіч Андрэй Антонавіч (псеўданім Мрый), які напісаў у 1929 г. раман «Запіскі Самсона Самасуя». З'яўленне ў друку першых частак гэтага рамана было пачаткам маіх нягод. Спачатку раман хвалілі і тэрмінова, без усялякай ініцыятывы з майго боку, пусцілі ў набор для масавага выдання. І калі гэта мелася ажыццявіцца, тады няшмат якія людзі, у далейшым абвінавачаныя ў контррэвалюцыі, раптам выявілі, што раман — зласлівая насмешка з савецкай культурнай рэвалюцыі, пасквіль на савецкае жыццё.

Гэтыя няшмат якія людзі, галоўным чынам члены літаратурнага аб'яднання «Маладняк» — Вольны, Дудар, Гародня і інш., аплявалі раман агульнымі фразамі і амаль вулічнаю лаянкай, нават не спрабуючы даць сур'ёзны крытычны аналіз зместу і формы рамана.

Раман спынілі друкаваць.

Між тым у сваім рамане я зусім не хацеў агітаваць супроць новага жыцця, супроць прынцыпаў Савецкай улады. Я хацеў паказаць тыповага выскачку Самасуя, што прабіраецца з мяшчанскіх нізоў да вяршынь Савецкай улады.

Я быў ашаломлены агульным ахайваннем майго рамана і не стаў змагацца за яго працяг у друку. Я спадзяваўся, што больш спакойныя людзі аб'ектыўна, справядліва ацэняць раман. Мне было вядома, што масавы чытач у галоўным герою рамана цудоўна разабраўся і бачыў у ім прайдзісвета, што сваімі адміністрацыйнымі дзеяннямі дыскрэдытуе Савецкую ўладу і дэмаралізуе новае жыццё. У рэдакцыю часопіса, у якім друкаваўся раман, ішлі пісьмы з патрабаваннямі «выключыць з партыі і выгнаць з апарату Самасуя, як прымазанніка Савецкай улады». Героя прымалі за сапраўдную асобу, а яго «Запіскі» за праўдзівыя дакументы жыцця. Якраз таму здзіўляліся яго беспакаранасці.

Гэтыя наіўныя лісты падбадзёрвалі мяне. Мяне натхняла думка, што кніга пра Самасуя будзе адною з вясёлых, жыццярадасных кніг, што выкрываюць прайдзісветаў, жулікаў, дармаедаў і паскуднікаў.

На жаль, раман астаўся невядомы рускаму чытачу. Часам мне здаецца, што калі б ён зрабіўся вядомым тады рускаму чытачу, — мне дапамаглі б пераадолець памылкі. Нават цяпер, праз 10 гадоў, у мяне мільгае ерэтычная думка, што калі б выпадкова гэтая кніжка была прагледжана Вамі, яна выклікала б у Вас вясёлы смех і ніякага непрыязнага пачуцця да «рэакцыйнага пісакі, што руйнуе асновы новага жыцця». Былі выпадкі, што чытанне ўрыўкаў рамана ў публіцы выклікала аднадушны смех. Гэты смех, на маю думку, сведчыць пра бясшкоднасць рамана, калі нават адмаўляць, што ён проста трапляе ў цэль, высмейваючы паганых людзей.

Аднак з 1930 да 1934 года ў друку працягвалася беспадстаўнае ганьбаванне рамана. Зноў-такі ніякай крытыкі, адна лаянка ў 2-х радках.

Я прызадумаўся. Няўжо сапраўды высмейванне адміністратараў, падобных Самасую, дасягае адваротных вынікаў і зусім не трэба савецкаму чытачу?

Я губляю арыентацыю ў сваёй працы. Раман здаецца мне непатрэбным крокам у жыцці, цяжкаю памылкаю. Я перастаў працаваць над ім.

І калі мяне арыштавалі ў 1934 г. у Мінску, я спачатку думаў, што прычына арышту — гэты злашчасны раман. Аднак у часе следства мне ні слова не сказалі пра раман, пра маю літаратурную працу, хоць пры вобыску была ўзята ўся мая літаратурная прадукцыя. Следства запатрабавала, каб я прызнаўся ў прыналежнасці да нацыянал-фашысцкай арганізацыі. Неабходна адкрыта сказаць, што я ганебна вёў сябе на следстве. Спачатку мяне папярэдне належна апрацавалі ў камеры «раззброеных», пасля адкрыта сказалі, што «ўсё маё кодла контррэвалюцыйнае», што паводле сваёй адукацыі і выхавання (я з семінарыстаў) я не магу не быць контррэвалюцыянерам, што ў выпадку непрызнання маю сям'ю чакае самая сумная доля...

Я зусім разгубіўся. Як мне выявіць сваё савецкае аблічча? Што я магу сказаць у сваё апраўданне? У мяне за плячыма два мінусы — семінарская адукацыя і гэты аплёваны крытыкамі раман «Самсон Самасуй». І брат мой — драматург Шашалевіч В. А. — таксама з семі-

нарыстаў, хоць мы дзеці дробнага службоўца. Бацька быў з мяшчан, памёр у 1902 г. Я вучыўся на стыпендыі для лепшых вучняў са «свецкіх». Другі мінус: я — былы прапаршчык, у 1918 г. добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, у якой прабыў да 1921 года з перапынкамі (хварэў на тыф і рэўматызм). У мяне няма заслуг.

Я перажываю глыбокі маральны крах. Хочучы ўратаваць сям'ю, я выказаў гатоўнасць прызнаць усё, што мне інкрымінавалі, хацеў поўнасцю раззброіцца.

Але следства чакала чагосьці незвычайнага. Следчы хацеў і сапраўды і нявіннасць захаваць. Ён вымагаў, каб я «пісаў, пісаў і пісаў». Але пра што пісаць, як пісаць? З дапамогаю натхняльнікаў з камеры я пісаў, мая бязглуздзіца паставіла следства ў тупік. Тым не менш праз месяц мая справа была тэрмінова аформлена, і я Тройкаю АДПУ быў асуджаны на 5 гадоў і накіраваны ў... ППЛ.

Толькі ў лагеры я высветліў сутнасць свае справы. Я быў прыцягнуты па справе настаўнікаў Краснапольскага раёна БССР (дзе я з 1921—1926 г. быў настаўнікам у школе II ст.) згодна з паказаннем настаўніка Сакалова.

У лагеры да мяне вярнулася развага, пачуццё жыцця і праўды. Я напісаў заяву ў Пракуратуру СССР і шчыра выклаў усю праўду свайго жыцця.

Я не прасіў апраўдання, я прызнаваў сябе вінаватым у маладушнасці, баязлівасці, у тым, што я напісаў шкодны раман. Я прасіў даць мне мажлівасць жыць з сям'ёй і падтрымліваць яе, бо жонка мая пасля арышту асталася з 3-ма малымі дзецьмі і не магла мець самастойнага заробку.

Мая справа была перагледжана. Мяне з лагера вызвалілі, і 2 гады я пражыў у адміністрацыйнай высылцы ў Валагодскай вобласці. Там я працаваў бухгалтарам леспрамгаса Масгарпаліва. Мяне лічылі добрым, акуратным працаўніком. Пасля тэрміну пакарання ў пачатку 1937 года мне выдалі савецкі пашпарт.

Але нават атрымаўшы савецкі пашпарт, я лічыў сябе непаўнацэнным чалавекам. Я не спакусіўся перспектываю «ехаць куды хочаш» і астаўся працаваць у леспрамгасе. Я быў надзвычайна ўсцешаны, што мне далі права жыць і працаваць. Цэлы год пасля высылкі я прарабіў у леспрамгасе, меў самыя добрыя водгукі аб сваёй працы ад партыйных і прафсаюзных органаў.

Вайсковы Камісарыят прапанаваў мне падаць заяву аб аднаўленні ў правах камандзіра запасу.

Але ў канцы 1937 г. мяне без усялякай матывіроўкі знялі з работы. Я не пратэставаў. Я бачыў, што груз мінулага перацягнуў і мяне зноў выкідваюць з жыцця.

Я пайшоў у НКУС і, паведаміўшы, што мяне знялі з работы, спытаўся, ці ёсць у НКУС перашкоды для майго выезду, бо я павінен шукаць працу.

Мне далі адказ, што я магу ехаць куды хачу.

І вось пачаліся мае нягоды. Я нідзе нічога не ўтойваў, і ўсюды, як толькі даведваліся пра маю высылку, мне адмаўлялі ў працы. Я гатовы быў ехаць абы-куды, у самыя непрыступныя, неабжытыя месцы, каб толькі працаваць і жыць.

І толькі на прыбярэжжы ў Мурманскай вобласці мне далі працу бухгалтара-работніка вытворчасці ў Тэрыберскім рыбкаапе. Праца была карпатлівая і адказная. Дні і ночы праседжваў я, вывяраючы дакументы растрат і крадзяжу, складаючы акты на раскрадальнікаў дзяржаўнай маёмасці і афармляючы перадачу дакументаў у суд. У гэтай працы я кіраваўся ўказаннямі мясцовага НКУС.

Але каюся, мяне ніколі не пакідала думка пра літаратуру. Увесь час працягваўся літаратурны сверб. За час з 1934 года я напісаў шмат навел, аповесцяў і раман з лагернага жыцця «Жывы дом». Мяне цікавіла таксама пытанне рэвалюцыйнай савецкай мовы. Я вывучаў мову Леніна. Яшчэ да арышту нават напісаў працу пра мову Леніна. Яна была ўхвалена да друку.

У канцы 1938 года мая сям'я пераехала ў Колу Мурм. вобл., дзе жонка атрымала працу настаўніцы. Калі я прыехаў да сям'і, мне прапанавалі працу бухгалтара ў Кольскай сярэдняй школе, а ў 1939 г. з-за вострай нястачы настаўнікаў для сярэдніх школ Мурманскай вобласці мне прапанавалі працу выкладчыка літаратуры ў Кольскай сярэдняй школе.

Я адмовіўся, бо яшчэ ў час высылкі НКУС папярэдзіў мяне, што мне лепей не шукаць працы па культасветнай лініі. Гэтым я і матываваў сваё адмаўленне на такую спакуслівую прапанову. Аднак пытанне было ўзгоднена з адпаведнымі органамі, і мяне прызначылі выкладчыкам літаратуры ў гэтую школу.

Мае ўрокі часта наведвала інспектура, на іспытах па літаратуры ў старэйшых класах прысутнічалі прад-

стаўнікі райкома, выканкома і камсамола. Вынікі працы былі прызнаны добрымі.

У мяне было пачуццё, што Савецкая ўлада ўсё мне даравала і аднавіла мяне ў правах чалавека і грамадзяніна.

Толькі адно цяжкае перажыванне асталося ў жыцці. Гэта — доля майго брата — беларускага драматурга Шашалевіча В. А. Ён у канцы 1936 г. быў арыштаваны па справе зусім незнаёмых яму журналістаў і абвінавачаны ў антысавецкай агітацыі. На судзе ўсе, што абвінавачвалі яго, адмовіліся ад сваіх паказанняў і проста прызналіся ў паклёпе. Нягледзячы на гэта, старшыня суда, які пазней аказаўся значным трацкістам (прозвішча не помню), прыгаварыў брата да 10 гадоў лагераў.

Цяпер гэты прыгавор адменены (яшчэ ў 1940 г.).

Іншага выніку я і не чакаў. Я заўсёды верыў, што Савецкае правасуддзе высветліць праўду. Таму, хоць нашу сям'ю гнялі нягоды, я бадзёра глядзеў на жыццё і будучыню свае сям'і.

Аднак няшчасці зноў наведалі мой дом. У пачатку чэрвеня 1940 г. я быў арыштаваны Мурманскім Абл. Аддз. НКУС.

Два месяцы цягнулася следства, 3 разы выклікалі мяне на допыт і аформілі справу. Маскоўская Спецыяльная Нарада 13/VIII-40 прыгаварыла мяне да 5 гадоў лагераў «за ўдзел у антысавецкай арганізацыі».

У канцы следства мне паказалі 4 дакументы, што абвінавачвалі мяне. Выяўляецца, калі я адбываў яшчэ высылку — у канцы 1936 г. з'явіўся адзін дакумент, у канцы 1937 — другі дакумент і ў пачатку 1938 г. яшчэ два дакументы супроць мяне. Аднак ні ў 1936 г., ні пасля мяне не арыштавалі, не прыцягвалі да следства, хоць, калі верыць «пастанове аб мерах стрымання», асобы, якія далі на мяне абвінаваўчы матэрыял, прынамсі, некаторыя з іх былі прыгавораны да найвышэйшай меры пакарання. Мяне не арыштоўвалі, хоць маё месцазнаходжанне органам НКУС вядома і я ніколі не спрабаваў замаскіравацца.

Такім чынам, 4 гады Органы дзяржаўнай бяспекі не прад'яўлялі мне новых абвінавачванняў, нават выдалі мне савецкі пашпарт, нягледзячы на тое, што абвінаваўчы матэрыял, на першы погляд жахлівы матэрыял, існаваў. Нягледзячы на гэты матэрыял, мне далі дазвол на вольны выезд з месца высылкі.

Сапраўды, гэты жахлівы матэрыял існаваў, але не меў, па сутнасці, ніякай каштоўнасці, ніякай юрыдычнай моцы.

Матэрыял вельмі лаканічны. Ад яго не вее духам жыцця, ён кажа пра мае абстрактныя злачынствы.

Вось сутнасць новых абвінавачванняў супроць мяне, што выкладзены ў 1—2 радках кожнага з 4-х дакументаў. У кастрычніку 1936 года б. беларускі фельетаніст Анатоль Вольны, які некалі не даваў мне спакою за Самсона Самасуя, але зусім незнаёмы са мною ў бытавым і грамадскім жыцці, быў арыштаваны і прызнаўся, што ён узначальваў контррэвалюцыйную арганізацыю. Вольны пералічыў членаў гэтай арганізацыі і ў самым хвасце яе прышпіліў прозвішча Шашалевіча.

Зразумела, што падобнае галаслоўнае сцвярджэнне таксама цяжка абвергнуць, як і даказаць, тым больш што ні імя, ні імя па бацьку члена злачыннай арганізацыі Шашалевіча не адзначана. Няўжо гэтым рэестрам членаў хеўры Вольнага мая прыналежнасць да контррэвалюцыйнай арганізацыі даказана? Ніхто ж з членаў арганізацыі, арыштаваных разам з Вольным, не пацвердзіў майго ўдзелу ў арганізацыі. Людзям, якія добра ведаюць літаратурнае жыццё БССР таго часу, павінна быць відочнай недарэчнасць уключэння мяне ў контррэвалюцыйную арганізацыю на чале з Вольным. З «маладнякоўцамі» ў мяне ніколі не было нічога агульнага. Я трымаўся ў баку ад іх, яны не давалі мне спакою, інтрыгамі Вольнага і Дудара я выкраслены быў са спісу грамадска карысных пісьменнікаў. Яны публічна здзекаваліся з рамана. І раптам я апынуўся членам іх хеўры?! Магу спаслацца на цяперашніх пісьменнікаў-ардэнаносцаў у Беларусі — Коласа, Бядулю, Крапіву. Яны цудоўна ведаюць пісьменнікаў БССР і іх узаемаадносіны, трохі ведаюць і мяне. Думаю — яны кампетэнтныя ў гэтым пытанні — наколькі верагодная сувязь між мною і хеўрай Вольнага.

Другое паказанне супроць мяне належыць Казаку, былому старшыні Цэнтр. Бюро Краязнаўства БССР. Я працаваў інструктарам ЦБ Краязнаўства з 1926—1930 г. і, вядома, знаў Казака. Гэта былы сельскі настаўнік, камуніст з 1917 г., вельмі абмежаваны, бяздарны і самазадаволены чалавек. Тыповыя рысы Самасуя (кампфанабэрыя, зазнайства, безапеляцыйнасць, самалюбства) спісаны з Казака. У Самасую ўсе пазнавалі Казака

і часта смяяліся з яго партрэта. Нават называлі Самасуем, бо роля Старшыні ЦБ Краязнаўства да Казака стасавалася як анекдот.

Гэты Казак у пачатку 1938 г. даў такое паказанне супроць мяне: ён, Казак, уваходзіў у кіраўніцтва Падпольнага Цэнтра, а два інструктары ЦБ Краязнаўства Шашалевіч і Жураўскі даводзілі рашэнні Падпольнага Цэнтра да нізоў. Следства і Маскоўская Спец. нарада не звярнулі ўвагі на мае пярэчанні па сутнасці гэтага паказання, а іменна, што нават па форме гэтае паказанне — не што іншае, як паклёпніцкі штамп, бюракратычная фраза без канкрэтнага зместу, падобная да тых фраз, якія былі высмеяны Вамі ў справаздачных паведамленнях работнікаў з месцаў. Ні слова няма ў паказанні, якія якраз рашэнні Падпольнага Цэнтра даводзіў я да нізоў. Да якіх нізоў? Краязнаўчых жа арганізацый было шмат, чаму ж не адзначана ні адна арганізацыя, якой было даведзена хоць бы адно рашэнне Падпольнага Цэнтра? Сказана чорным па белым, што я даводзіў да нізоў рашэнні Падпольнага Цэнтра — значыць, кончана. Такім жа простым спосабам можна прыпісаць мне любую сатанінскую, пачварную і чалавеканенавісніцкую арганізацыю. І я нічым не магу выкрыць Казака. «Пастанова аб мерах стрымання» адзначае, што ён быў прыгавораны да найвышэйшай меры пакарання. Мёртвыя сораму не маюць, а калі ён быў жывы і даваў гэтае паказанне, мяне не прыцягнулі да адказнасці — я ж не быў на ўцёках, мяне тэрмінова можна было прыцягнуць. І я лічу, што не прыцягвалі мяне да следства па гэтым паказанні таму, што паказанне ўяўлялася недарэчным, заснаваным на жаданні як мага больш людзей заблытаць у брудную справу.

Калі б следства ў той момант прыдавала якое-небудзь значэнне паказанню Казака супроць мяне, то як усякае следства, пабудаванае на навуковых асновах, яно патрабавала б ад Казака вычарпальнага ілюстрацыйнага матэрыялу, які пацвердзіў бы маю прыналежнасць да злачыннай арганізацыі.

Другі інструктар ЦБ Краязнаўства Жураўскі, на якога Казак таксама паказаў як на праваднік рашэнняў Падпольнага Цэнтра, быў арыштаваны ў пачатку 1938 г. і даў зусім невыразнае паказанне. Ні слова не кажучы пра мой удзел у працы Падпольнага Цэнтра, Жураўскі пацвердзіў сваю прысутнасць на нейкім «збо-

рышчы» ў 1928 г. у сакратара ЦБК. У ліку прысутных на «зборышчы» ён адзначыў і мяне.

Я следству пярэчыў, што паказанне Жураўскага не мае крымінальнай каштоўнасці, што ў ім нічога не сказана пра характар гэтага «зборышча», нічога не адзначана, што рабілася ці казалася на «зборышчы» і якую ролю ва ўсім гэтым ён адводзіць мне. Я падцвердзіў, што ў 1928 г. я сапраўды адзін раз быў на імянінах у сакратара ЦБК. Гэта быў звычайны сямейны вечар, які нічога не меў супольнага з антыдзяржаўным зборышчам. На вечары прысутнічалі Янка Купала, Бядуля, Крапіва, здаецца, Колас і многія іншыя пісьменнікі, якія нічым сябе не заплямілі. Былі нават тосты за ўмацаванне Савецкай улады. Гэта я добра памятаю і ані не магу назваць гэты вечар «зборышчам».

Нарэшце, апошняе паказанне супроць мяне належыць нейкаму Пузянкову, які працаваў у кааператыўнай арганізацыі Краснапольскага раёна БССР, дзе я з 1921 г. па 1926 г. быў настаўнікам у школе II ступені.

Пузянкоў паведаміў, што хоць мала ведаў мяне і «не сутыкаўся» са мною, тым не менш я ў 1923 г. сам прыйшоў да яго і завербаваў яго для шпіёнскай працы на карысць польскай дэфензівы. Я нібыта даручыў яму збіраць звесткі пра колькасць савецкіх устаноў і прадпрыемстваў раёна (тады 2 млыны), пра колькасць школ, настаўнікаў, пра якасць школьнай работы. Пузянкоў адзін раз нібыта нават уручыў мне такія звесткі. У 1924 годзе сувязь між ім і мною парвалася, бо, паводле яго слоў, я невядома куды знік. А ў 1930 г. да яго з'явіўся невядомы суб'ект і прапанаваў зноў збіраць звесткі (ад майго імя), што Пузянкоў і рабіў да 1934 г.

У канцы следства я выказаў абурэнне гэтым вульгарным абвінавачаннем у шпіянажы. Я адзначыў, што Пузянкоў зусім не знае мяне як канкрэтнага чалавека. Паводле яго слоў, я знік з Краснаполля ў 1924 г., а між тым усе старажылы Краснаполля пацвердзяць, што я, вярнуўшыся з Арміі Чырвонай у 1921 годзе, з 1921 па 1926 г. жыў бязвыездна ў Краснаполлі і нікуды не адлучаўся нават у канікулярны час. У 1926 г. я разам з сям'ёй выехаў з Краснаполля. Я адзначаў следству ўсю недарэчнасць зместу шпіёнскай працы, якую навязваў мне Пузянкоў, хадульнасць гісторыі пра з'яўленне таямнічага суб'екта, але мяне выслухалі, і толькі.

Такім чынам, у выніку гэтых паказанняў я асуджаны

на 5 гадоў лагераў «за ўдзел у антысавецкай арганізацыі»! За ўдзел у якой іменна антысавецкай арганізацыі? Згодна з паказаннем Вольнага, я належаў да пісьменніцкай контррэвалюцыйнай арганізацыі, згодна з бюракратычнай рэзалюцыяй Казака — я ўдзельнічаў у працы Падпольнага Цэнтра, згодна са словамі Пузянкова — кіраваў шпіёнскаю арганізацыяй, а паводле слоў Жураўскага — прысутнічаў на нейкім «зборышчы», значыць, належаў яшчэ да новай, мала высветленай контррэвалюцыйнай фармацыі!

Выходзіць як у байцы: наш пострел всюду поспел! А дакладней: совсем без драки попал в большие забияки! І я, заўсёды сціплы, забіты, прыціснуты жыццём і хваробамі чалавек, раптам аказаўся такім буйным звярам! Дзе ж чулае, уважлівае стаўленне да чалавека?

У маім жыцці і працы былі блытаніна і памылкі. Я не лічыў сябе бязгрэшным. Я любіў літаратурную працу, але ж гэтая праца — справа вельмі тонкая, якая вымагае да сябе асцярожнага, уважлівага стаўлення. У гэтым кірунку шмат было зроблена памылак. У час арышту ў Мурманску была затрымана вялікая колькасць маіх літаратурных прац. Іх можна было б дасканала, па костачках, разабраць, каб высветліць маё сапраўднае аблічча. Следства і не заікнулася аб гэтым. Яно абыякава навязвала мне адзначаныя ўяўныя злачынствы і патрабавала аднаго адказу: так ці не, усё іншае лічылася ад нячысціка. Я ў час апошняга следства нават хацеў, каб да мяне былі ўжыты самыя рэпрэсіўныя меры ўздзеяння. Я думаў, што мне ўдалося б пераканаць і даказаць сваю непрыналежнасць да контррэвалюцыйных арганізацый. Я гатовы быў праз слёзы крычаць аб сваёй невінаватасці, клясціся вялікім ценем Леніна і Вашым вялікім імем тым, што, можа, у маіх роспачных словах адчуюць праўду.

Здарылася інакш. Такая жахлівая справа, як удзел у некалькіх контррэвалюцыйных арганізацыях, была вырашана за тры прыёмы, усяго каля 7—8 гадзін.

Прашу Вас звярнуць увагу на маю справу. Для мяне прыгавор гэты цяжкае пакутлівае гора. Я ж ніколі не быў членам якой-небудзь контррэвалюцыйнай арганізацыі ці групоўкі!

*А. Шашалевіч*

Я скажу ўсім, хто гэтага пачаў бы дамагацца, што я — сучасны чалавек. Маё імя Самсон Самасуй.

Я з мужыкоў.

Мой бацька, дзед, прадзед, прапрадзед, прапрапра... і г. д. усе былі мужыкамі. Я надзвычайна горды тым, што маю мужыцкі твар і асабліва нос у форме бульбы. У залежнасці ад гэтага і розум мой ёсць розум выразна мужыцкі. Мне могуць сказаць, што няма такой катэгорыі, як мужыцкі розум, а я скажу, што ў мяне толькі такі і ёсць.

Далей смела ўсім заяўляю, што бацька мой не кулак. Даю фактычную даведку.

Дзве каровы, конь, жаробка, свіння, здаецца, 4 ці 7 прадстаўніц курынага роду, хата з трыма вакешкамі ды яшчэ рознае не стандартызаванае хаўбосце. Такім чынам, па эканамічнай адзнацы майго бацьку ніяк нельга залічыць да ганебнага стану кулакоў. А з пункту гледжання ідэалогіі, дык не ведаю, як зарэгістраваць яго. Хто можа аб гэтым упэўнена сказаць, калі, як кажа мой прыяцель, філосаф Торба, заблытана чалавечае жыццё і няма ў ім строга акрэсленай наменклатуры.

Другі мой прыяцель, настаўнік Цыба, сказаў мне, што мой бацька, магчыма, і ёсць кулак, бо пытанне аб прыналежнасці да гэтага заалагічнага тыпу вырашаецца часта не лікам кароў ці коней, а настроем і эксплуататарскай чыннасцю.

Вось гэта як у сук улеплена.

Пра сябе скажу, што іншы раз я вельмі абураны ангельскімі імперыялістымі, здаецца, горла ім перарэзаў бы, а ў другі раз салодка мару аб прынадах буржуазнага жыцця. Так салодка мару, што пасля і самому сорамна робіцца. Нават чырванею.

Мой лепшы сябра, настаўнік Мамон, жартуючы кажа:

— У цябе ўсё мужыцкае, а пуза панскае!

«І праўда!» — думаю я і хачу высветліць прычыны гэтага. Знаходжу толькі адно тлумачэнне для гэтай дыспрапорцыі: прырода вядзе гандаль з маім целам — яна дае мне сыр, масла, хлеб, розныя іншыя карысныя

і некарысныя ферменты (не ведаю, ці можна так гаварыць: у мяне нейкі пал да чужаземшчыны). У замену за гэта прырода адбірае ад мяне зусім не вартыя для мяне рэчы, за якія ніхто і шэлега гарэлага не дасць. І вось гэты гандаль з прыродай выклікае ў мяне такую пярэстую разнастайнасць маіх настрояў, эмоцыяў, хаценняў, жаданняў, перажыванняў.

Адна не вельмі разумная жанчына, якую я аднойчы ў вочы назваў індыйскім просам дурро, атэставала мяне як дэкласаванага мешчаніна. Зразумела, гэта зусім не так. Гэта назва выклікана помстай за маю досыць удалую атэстацыю. Праўда, памянёны філосаф Торба адзначыў мяне як класава нявытрыманага байца, сказаў мне, што я неўраўнаважаны (а ён ураўнаважаны?!) чалавек. Няхай сабе так. Скажу толькі, што я сам лічу сябе сучасным і здавальняюча разумным чалавекам, хоць павінен з вялікай неахвотай памянуць пра шапялёўскіх яўрэяў, якія пад нос завуць мяне «мішугэнэ». І гэта нягледзячы на тое, што я ў райвыканкоме ў сваіх руках трымаю важныя спрунжыны культуры і ведаю, што раблю!

Пра мінулае маўчу.

Скажу толькі: я бывалы чалавек.

Мяне матка часта ўпікае:

— Трынку, валынку, свету палавінку аб'ездзіў, свет абкалаціў, ды сюды вараціў!

Некалькі разоў сядзеў я пад арыштам і карміў сваёй чырвонай кроўю блох ды іншых шасцікрылых і шасціногіх херувімаў і сарахвімаў. Ды і не магло быць інакш з маім тэмпераментам.

Спамяну пра адзін выпадак.

У 20 годзе я быў прадагентам. Прыязджаю ў Гомель, і на кожным кроку мне анкеты запаўняць даюць. Хто мой бацька, хто мая матка, што яны рабілі да рэвалюцыі і пасля яе, ці была ў мяне маёмасць, і калі была, дык куды яна дзелася? Да 300 запытанняў было ў той анкеце, якую падсунулі мне ў заезджым доме № 3. На мяне ўссеў д'ябал нейкі. Думаю: дай жа я пажартую з імі, пагляджу, што з іх будзе.

Пішу: да рэвалюцыі быў буйным землеўласнікам, меў 300 000 акраў чарназёму, быў сакратаром пасольства ў Лондане. І шмат яшчэ чаго нахлусіў.

Яны, галубчыкі, і сцапалі мяне. Пасадзілі ў блыхар-

ню і трымалі там, пакуль добра высветлілі, што я ніякім буйным землеўласнікам не быў.

Выпусцілі мяне, але кар'ера мая была сапсавана, і я доўга не мог знайсці сабе месца, якое адпавядала б маім здольнасцям. Праз год я знайшоў сабе пасаду, і пра гэта будуць гаварыць мае запіскі.

Цяпер жа скажу, чаму я сеў за стол і пачаў пісаць.

Яшчэ тры гады назад я неяк напісаў у газету карэспандэнцыю аб выбрыках старшыні кааператыву і прачытаў яе асобе, якая для мяне даражэй за ўсё на свеце. І яна сказала мне:

— Пішы, пішы! З цябе, можа, і выпішацца што!

Гэтыя словы, як маланкай, спалілі мяне. Як вар'ят, хадзіў я па пакоі і мармытаў сабе гэтыя словы:

— Пішы, пішы! Можа, што і выпішацца!

Цяпер я і пішу.

Але я не паперапсуй, пішу зусім не для таго, каб бачылі ўсе напісанае мною. Розум мой даўно прайшоў эмбрыянальную стадыю ў жыцці. У маім цяперашнім пакоі я павесіў на сцяне плакат са словамі аднаго вучонага, які сказаў:

— Каб мы ведалі ўсе дробязі жыцця якой-небудзь казюлькі, мы шмат якіх памылак маглі б не зрабіць!

Вось я і пішу свае запіскі. У іх буду гаварыць аб дробязях свайго жыцця: як я з бацькам пасварыўся, як паехаў я шукаць свайго шчасця, як хацеў там пашыраць сваё фізічнае я і як з гэтага нічога не выйшла.

Сам я не надаю ўсяму гэтаму вялікага значэння. У сусветныя маштабы не веру.

Але мой сябра, настаўнік Мамон, каторы ўвесь час штурхае мяне на шлях славы, кажа мне, як Мефістофель:

— Твае мемуары будуць перакладзены на нямецкую, ангельскую, французскую і нават готэнтоцкую мову! Каб я меў час і здольнасць, я зараз пачаў бы перакладаць на гэтыя 4 мовы.

Заўважце, што ў настаўніка Мамона ёсць вельмі складаныя абавязкі мужа, бацькі, сына, загадчыка, рэвізора 7 устаноў і прамоўцы на ўсіх пасяджэннях і нарадах. Калі ён гаворыць так, значыцца мае запіскі маюць значэнне, якое выходзіць за межы маёй асобы.

Гэта мне паддае жару, і ў поўнай свядомасці і цвёрдай памяці я пачынаю свае запіскі.

## І. АД РОДНАЙ ХАТЫ

— Ты ж глядзі, глядзі, мой сынок! — гаварыла мне маці, калі я пасля доўгага беспрацоўя атрымаў пасаду ў Шапялёўскім выканкоме.

— Ты ўжо не хлапчук. Час падумаць на сябе ды аб нас старых... Жаніцца б табе ды супакойна гадаваць дзетак. І я з радасцю пачукала б тваіх дзетак! Глядзі ж, сынок, хоць цяперака трымайся, каб зноў не ўкарацілі!

На гэтае матчына выступленне я самаўпэўнена адказаў:

— Я ведаю, маці, як сябе трымаць! Ці я людзей не бачыў? Ці мне гэта ў першы раз?

Маці сумна памахала галавою:

— Заўсёды, сынок, так кажаш, а як дадуць справу, дык фартэль і выкінеш. Ой, баюся я за цябе! Па бацькавай вудылі пайшоў.

Мой бацька, раўнадушна зірнуўшы на матку, пыхкаючы люлькай, у нос прамармытаў:

— Па маёй вудылі? Каб па маёй, дык сядзеў бы на зямлі. А то свет аб'ездзіў, усе гарады абнюхаў, ды нідзе прыстану не знайшоў. Казаў і кажу: лепш кінуў бы вандраваць ды ўзяўся б за зямлю.

Я выйшаў на сярэдзіну хаты, растапырыў ногі, як крынджалы, задраў нос уверх і, прыплюснуўшы правае вока, тэатральна запытаў у бацькі:

— Як жа? Буду калупацца ў пясочку вашым? Няхай троху пачакае! Якое тут жыццё? Бачыўшы цывілізацыю, які разумны чалавек пачне рабіць гэта калупайства ваша? Краты вы, а не людзі! Які сэнс у вашай кратінай працы?

Не адзін раз бацька слухаў мае разважанні аб адсутнасці матэр'яльнай базы ў яго вытворчасці і, трэба сказаць, слухаў іх з вужацкім спакоем, а цяпер раптам закрычаў на мяне высокім голасам:

— Ах каб ты выпруціўся, чортаў сын, вучоная раскірэка! Дык я крот? І матка краціха? Рыемся ў зямлі і свету не бачым?

— Ты — не крот, а праца твая кратіная!

— Калі так, чаго ж ты, Хадора святая, як дадуць табе перцу, зноў хвост падтуліўшы сюды ляціш ды на бацькавай шыі сядзіш? І працаваць не хочаш, хочаш дурыкам жыць! Над бацькавымі мазалямі смяешся...

Вучыў цябе, ночай недасыпаў, хацеў, каб сын вучоным быў, а ты цяпер і смяешся з бацькі, з маткі...

Бацька не на жарты ўсхадзіўся. Гэта параўнанне з кратом фарсіравала яго кроў.

— Калі ж так, — кінуў ён ужо нізкім тонам, — не дам табе кабылы! Едзь на сваіх, на двух! Цягні, як хочаш, свае прычындалы! Досыць з мяне! Наслухаўся твайго мудрагельства!

Бацька грукнуў дзвярыма і выйшаў на двор. Там ужо стаяла ў поўнай баявой гатоўнасці запрэжаная кабыла.

Бацька пачаў нервова распростваць яе, нешта злосна бубніў сабе пад нос, некалькі разоў абазваў ні ў чым нявіннае стварэнне «шэльмай гарбаносай». Кабыла зусім не хацела разумець бацькавай крыўды і здзіўлена пазірала на слаба каардынаваныя рухі свайго гаспадара і яго палітычна нявытрыманую тактыку.

Распрогшы кабылу, бацька ў пуню яе не загнаў. Адышоў ад кабылы і сеў на калоду. Кабыла пастаяла хвіліну і падышла да бацькі, нюхаючы паветра.

Бацька даў ёй шэраг запытанняў:

— Чаго прыйшла? Чаго стала тут? Ідзі ў пуню! Не паедзем мы з табой, кабылка!

Зірнула на яго здзіўлена сваімі добрымі вачмі і ціха пасунулася ў адчыненую пуню.

Я злосна пазіраў у вакно на бацьку, кабылу і каламашку, у якой мусіў быў ехаць, каб не гэты нікчэмны крот. З практыкі ведаў, што цяпер не хутка наладзіш дыпламатычныя зносіны з бацькам.

Матцы я сказаў, вачмі паказваючы на бацьку:

— Вунь сядзіць, надзьмуўся, як сава! Здаецца, каб быў бацька маладзей, пайшоў бы я туды ды адкалатушыў бацьку!

Матка ласкава сказала мне:

— Кінь злавацца! Бацька адходлівы! Пасля абеду паедзеш, а нанач там будзеш. А цяпер лепш сабраў бы ўсё сваё да кучы. Я табе памагу.

Я паслухаў маткі і пачаў упакоўваць свой гардэроб. За 15 гадоў бадзяння па свеце шмат чаго сабралася ў мяне.

Дзве хутры, адна лісіная, другая ваўчыная, дзве бекешы, шынелька вельмі пралетарскага крою, прастрэленая ў некалькіх мясцох; пахаджэнне гэтых дзірак я добра ведаў і ўсім гаварыў, што кулі белагвардзейскай

сволачы прастрэлілі яе на дзянікінскім фронце. Было яшчэ паліто даімперыялістычнай эпохі, куртатае і цеснае для маёй асобы. Іншы раз я апранаўся ў яго, і, як заўважыла мне тэлефаністка адна, паліто смешна выпучвала мае заднія формы. Шмат было ў мяне і нагавіц: галіфэ розных колераў і фасонаў, райтузы, клёшы, спрынджыкі (апошні крык амерыканскай моды), шаравары і нават беларускія споднікі з «сеслам» для эфектных выступленняў у спектаклях.

Увесь мой гардэроб і апісаць нельга. Бацька называў усе мае рэчы «прычындаламі» і часта гаварыў маёй матцы:

— Тысячы паўтары можна было б скалаціць за гэта прычындалле! Але што ты зробіш сыну, калі ён носіцца з цацкамі ды хварэе на пана? А можна было б паправіць гаспадарку!

Уся вопратка ляжала ў кучы і была перасыпана нафталінам. Матка, парадкуючы яе, увесь час чмыхала, круціла носам і бубніла:

— Каб табе правaліцца, нячыстая сіла! Не звыкнуся з гэтым смуродам! І выдумаюць жа людзі!

Я сачыў за кожным рухам маткі і даваў інструкцыі.

Матка адгаварвала:

— Нашто ты забіраеш усе рэчы?

— Я там асяду. Апошні раз цягнуся з дому. Можа, ажанюся там, маці!

— Няхай жа бог пасылае, сынок!

Матка зірнула на мяне, статнага, бялявага з вельмі пухнатымі вусамі і дужа кірпатым тварам мужчыну, і мімаволі з вачэй яе сыпнулі слёзы.

«Прычындалы» былі ўпакаваны. Я зірнуў у вакно. Бацька ўсё сядзеў на калодзе.

— Пакладу яшчэ кніжкі і розную дробязь, тады ўсё будзе ў парадку! — сказаў я сам сабе і пачаў даставаць з паліцы кніжкі.

Чатыры кніжкі я лічыў настольнымі і ніколі з імі не разлучаўся:

1) падручнік, як гаварыць мала і важка,
2) культура трох камераў цела,
3) як размяркоўваць свае функцыі і
4) падручнік па агульнаму кіраванню.

Апрача гэтых кніжак я ўзяў яшчэ іншыя падручнікі ў розных галінах нашага жыцця і «Палітэканомію ў пытаннях і адказах». Узяўшы апошнюю ў рукі, я задаў

сабе некалькі пытанняў і, зачыніўшы вочы, адказаў на іх.

Паверх кніжак я паклаў яшчэ складаны зэдлік і столік і ўсё гэта ўціснуў вяроўкамі. Ад натугі засопся і сеў на лаву.

— Сапрон, ідзі палуднаваць! — клікнула маці бацьку.

Елі моўчкі. Мне хацелася распачаць спрэчкі, але матка, як відаць, своечасова мірганула бацьку і дала яму дырэктывы маўчаць.

Як падмацаваліся, матка, прыбіраючы стол, запыталася ў бацькі:

— Паедзеш ты ці не? Калі думаеш, дык трэба думаць. Каб не было позна? Усё роўна трэба ж ехаць!

— Каму трэба, няхай едзе! Няхай ідзе ды сам запрагае.

— І пайду! Запрэгчы нядоўга, — сказаў я і выйшаў на двор.

Але я не ведаў усіх тонкасцяў бацькавага рамяства і развучыўся вазёкацца. На вучоныя лез! Доўга я марудзіў, шукаючы даўно знойдзеныя амэрыкі. То гужы кароткія, то кляшчы не сходзяцца, то яшчэ якая хвароба. Нават не з таго боку пачаў дугу ўстаўляць.

Выйшаў з хаты бацька і з пагардай глядзеў на мае аперацыі.

— Куды ты сунеш? Не гэтак! У другую дзірку! Мацней нацягвай! Нагою ўпірайся.

Бацька злосна плюнуў, падышоў да кабылы і перарабіў усё па-свойму.

— Гэта табе не рэзалюцыі выносіць! — закончыў ён і пайшоў у хату.

На развітанне са мною прыйшлі з поля мае сёстры. Яны мяне вельмі паважалі, глядзелі на мяне, як на вялікую шышку. Цалуючы старэйшую сястру Ганульку, я сказаў:

— Замуж не спяшайся, асабліва за Яўмена. Я табе знайду добрую пару!

Гануля троху адукаваная, тры зімы хадзіла ў школу. Як прыбярэцца калі, дык вельмі падобна да інтэлігенткі, хоць бацька і дражніць яе ў гэты час «чыпірадлай». Я не разумею, які сэнс бацька ўкладае ў гэта слова, але Ганулька вельмі не любіць гэтага слова.

Матка троху слёзак скінула і зноў наказала мне, каб быў асцярожным і трымаўся за пасаду.

Пад акампанемент матчыных знаёмых мне спеваў узлез я на воз. З правага боку да мяне падсеў бацька, і нашы калёсы выкаціліся з двара.

Праз хвіліну мы ўжо трухам ехалі па шляху на Шапялёўку.

## II. НА НОВЫМ МЕСЦЫ

Кабылка наша хоць і была задаволена на ўсе 100 проц., але вельмі слаба пасоўвалася ўперад. І маці мая, такім чынам, памылілася. Мы нанач не прыехалі ў Шапялёўку. Мала гэтага. Усю ноч ішоў моцны дождж. Мы ехалі вярстоў з 20 лесам, і некуды было схавацца ад залевы. Ніякае дрэва не магло быць хаўруснікам у нашым змаганні з нябесным самагонным апаратам, бо ўвесь лес яшчэ толькі пачынаў абрастаць лісцем, і яно не ратавала нас.

Прыехалі мы на месца, як пачало развідняць. Былі мы мокрыя. Ранне выдалася прыгожае, светлае, бліскучае. Усе мае рэчы прамоклі дашчэнту, і ад гэтай незадачы настрой мой і тэмпература цела значна знізіліся.

Усё ранне сушыўся я, скінуўшы з сябе вопратку і застаўшыся ў чым маці нарадзіла. Я зрабіў прапанову, каб і бацька на гэткі манер прасушыўся, але ён зарагатаў.

— Не хочу сядзець голым апосталам, як ты! І так падсохне, ды яшчэ хутчэй, як у цябе!

Сон не ішоў да мяне, і я голы шпацыраваў па пакоі. Бацька глядзеў на мяне ды ўсміхаўся ў сваю сівую бараду. Што да маіх рэчаў, ці «прычындалаў», як кажа бацька, дык аб іх я падумаў у першую чаргу і зрабіў такія практычныя мерапрыемствы. Я вынес іх на заезджы двор і пачаў развешваць на частаклеце, досыць новым і яшчэ не запэцканым.

А бацька ў гэтым кірунку прытрымліваўся напляві́зму і нават угаварваў мяне:

— Не сором сябе прад людзьмі, цэлы гамазын паразвешваў тут!

— У цябе, бацька, кунктатарская тактыка! Прапусціш час — і рэчы папсаваны.

Зразумела, што мае рэчы прыцягнулі ўвагу самых шырокіх мас. З самага рання народ кучкамі праходзіў каля заезджага дома і ва ўсе вочы глядзеў на «прычын-

далы». Мне гэта троху псавала кроў, асабліва калі я на свае вушы чуў мяшчанскія пракламацыі, што «прыехаў альбо пан, альбо а грэйсэ шышкэ». О, чэрці перапялёсыя, гнойнікі мяшчанскія! Каб у вас на носе села а грэйсэ шышкэ!

У выканкоме праца ўжо ішла, калі я прыйшоў туды. Я лічыў пытаннем выключнай важнасці разведаць пра сваё начальства ўсё, што можна, і яшчэ ў заезджым доме мяне інфармавалі, што старшыня РВК цяпер у раз'ездах па раёне, што ён з сялян, зусім просты чалавек, жанаты, здаецца, і прыплод ёсць, здаравяк — махіна і ўпарты, як вол. Яго нядаўна сюды прыслалі, бо ведалі, што толькі ён можа знішчыць галавацяпства шапялёўскіх устаноў. «Як бачу, маналітны чалавек!» — падумаў я.

Некаторыя дадатковыя неабходныя весткі атрымаў я ад кур'ера РВК, якога я сустрэў, ідучы ў РВК, і якому сказаў, што я прыехаў на пасаду загадчыка культаддзела.

Першае, што я ўзяў на ўвагу, калі ўвайшоў у агульную канцылярыю выканкома, была машыністка. Яна сядзела каля вакна і задумёна татахала на машынцы.

Каля дзяўчыны мітусіліся дзелаводы, перапісчыкі, падсоўвалі ёй свае паперы і спрачаліся між сабою за чаргу. Кожны з іх пахмыляўся, нахабна глядзеў ёй у вочы, блізка дыхаў на яе, часам мармытаў ёй два-тры словы. Яна давала гэтаму мінімум увагі і, мусіць, канкрэтна разумела сваю задачу.

Яе аблічча адразу ўціснулася ў маю памяць. Троху ўдоўжаны твар, з шырока адчыненымі, чорнымі і троху гуллівымі вачамі, кучаравыя, чарнявыя, абчыкрыжаныя на гарадскі манер валасы, нос з невялікім горбікам і зграбная постаць з прыгожымі курганчыкамі грудзей — усё гэта адразу асвяжыла маю кроў, надало мне бадзёрасці, якую я страціў быў у мінулую мокрую ноч.

А вакол гудзеў народ, шчырчэлі пёркі скрыбаў, з шолахам пераварачваліся аркушы паперы, рыпалі дзверы шафаў, са стогнам перакладваліся з месца на месца вялізныя, тоўстыя кнігі з лічбамі сялянскага жыцця.

Я спыніўся на хвіліну і моўчкі завастрыў сваю ўвагу на дзяўчыне. Яна павярнула сваю галаву ў мой бок і зірнула на мяне. Хацела зноў узяцца за справу, але я ўпарта глядзеў на яе і хацеў накіраваць яе думку на сябе. Я выцягнуўся і стаяў перад дзяўчынай высокі,

уважысты, з свежым мужным (праўда, карпаносым) тварам чалавек. Я наўмысне разглядаў яе як цікавую, але непатрэбную ў нашым будаўніцтве рэч.

У першы момант дзяўчына нібы засаромелася, лёгкі налёт чырвані прабег па яе абліччы, але потым яна, відаць, урэгулявала сваю кроў. Дзяўчына смела і нават з пагардай глядзела на мяне.

Некалькі хвілін цягнулася наша вочнае спаборніцтва. І, вядома, перамога была на маім баку. Дзяўчына адвяла ўбок свае прыгожыя вочы, і яе пальчыкі няўпэўнена пачалі скакаць па машынцы, а грудзі парыўна заварушыліся пад тонкай кофтай.

Мне хацелася пагаварыць з ёю.

Я пайшоў да яе.

— Пакажэце мне сакратара РВК!

— Ён у габінеце старшыні.

— Старшыні яшчэ няма? Не ведаеце?

— Не бачыла. Здаецца, яшчэ не прыехаў!

Я прайшоў у габінет, адчуваючы, што ў спіну мне глядзелі яе вочы. Адзначыўшы гэтыя станоўчыя вынікі маёй кароткай размовы з дзяўчынай, я ішоў у габінет шырокімі, упэўненымі крокамі і нават сімуляваў некаторую распусную развальцу ў хадзе, чаго звычайна ў мяне не прыкмячалася.

Дзяўчына памылілася. Старшыня тав. Сом ужо вярнуўся з раёна і сядзеў у габінеце. Я назваў сябе. Старшыня сустрэў мяне досыць раўнадушна.

У яго нізкі груслы голас, самы звычайны, з усімі адценнямі, сялянскі голас. Ні кроплі адукацыі не бачна. Калі ён гаворыць, ад яго слоў у агульным і цэлым пахне жытам, полем, непарушнай моц'ю лясоў і сенажацяў. І я канкрэтна разумею прычыну ўплыву яго на людзей.

Тав. Сом нядоўга гаварыў са мною. Я пайшоў у агульную канцылярыю прыняць справы. У маім веданні два сталы, дзве шафы і тры зэдлі.

Тут адразу вызначыўся шлях маіх дачыненняў з машыністкай. Мае сталы стаялі побач з яе столікам. Дзякуючы гэтаму, можна было без перашкод наглядаць за ёю.

Я на сябе зазлаваў не на жарты. Як жа? Прыйшоў у савецкую ўстанову, атрымаў важную пасаду і з першага моманту больш цікаўлюся спадніцай, чымся дзяржаўнымі справамі. Мне трэба адразу размежаваць свае функцыі ад функцый дзяржаўных.

Хачу зрабіць гэта, але ў першы дзень мне не хочацца займацца справамі, і ўсю ўвагу прыцягвае яна.

Даведваюся, што завуць дзяўчыну Крэйна Шуфер.

«Надзвычайна прыгожая яўрэйка!» — падумаў я і пасля шалёнага змагання з сваім тэмпераментам вынес рэзалюцыю: зрабіць крокі да ажыццяўлення самай шчыльнай сувязі з ёю. Я нават пачаў у галаве намячаць трохгадовы перспектыўны план майго закахання ёю і не заўважыў, як да яе століка падышоў малады белагаловы з блакітнымі вачыма чалавек.

Крэйна яму прыхільна ўсміхнулася, неяк дзіцяча расчыніла рот і кіўнула галавой, а ён меланхольна працягнуў ёй у рукі паперу.

Я запытаў у дзелавода, што гэта за Джэк — вантробшчык дзявочага сэрца. Дзелавод сказаў:

— Гэта аграном Агнісцік.

Аграном прысеў на рог стала і неяк сумна пазіраў на Крэйну.

Прыйшоў яшчэ настаўнік Юрлік, які, сказаўшы мне пяць слоў у галіне культпрацы, падсеў потым таксама каля Крэйны і пачаў чытаць інструкцыю аб карыстанні жыццём. Ён павольна скруціў вялікую таўшчэзную цыгарку, прыляпіў яе да ніжняе губы, запаліў і, не вымаючы яе з рота, гаварыў, гаварыў і гаварыў, апраўдваючы сябе ў нейкім злачынстве.

— Я быў п'яны тады, Крэйна! — паўголасам гаварыў ён. — У нелегальнай форме. А ты дурненькая... У цябе палітычная верлавокасць, калі ты прыймаеш гэта ўсур'ёз.

— У цябе грубы падыход да жанчыны, — сказала Крэйна ціха. — Думаеш, што яна жывёла... Вось і наляцеў, цяпер самому сорамна ў вочы глядзець...

— Крэйна, пагодзь мяне з ёю! Я не буду больш так рабіць! Ведаеш, я не вінен у гэтым... У школе 3 настаўніцы, а я адзін хлопец, ну і шчыплю іх. А яны склоку між сабой завялі.

Пасля я даведаўся пра гэту гісторыю. Юрлік незадоўга перад гэтым на нейкай вечарыне наладзіў сістэматычнае паляванне на жанчын. Першай ахвярай была настаўніца Зязюлька, якая публічна, у прысутнасці шырокіх савецкіх мас, абразіла яго, па-першае, абазваўшы яго высокакваліфікаваным хамам, па-другое, змазаўшы яго па твары нечаканай і выразнай па гуку поўхай; па-трэцяе, не паспеў Юрлік ачухацца і нейкую абарону ці

рэабілітацыю прыдумаць, як Зязюлька новую поўху прыляпіла ўжо левай рукой і хутка знікла з вачэй усіх прысутных. Гэты інцыдэнт меў дзіўныя вынікі: настаўнік Юрлік загарэўся нястрыманым імкненнем да Зязюлькі і шукаў выпадку зноў па-сяброўску гаварыць з ёю.

З габінета выйшаў старшыня тав. Сом, прайшоў каля нашых сталоў, спыніў свае вочы на аграноме і настаўніку і роўным голасам заўважыў:

— Сталы ў канцылярыі зроблены не для сядзення. Таксама і курыць нельга: калі кожны будзе курыць, тут немагчыма будзе працаваць. Мне прыйдзецца штрафаваць за парушэнне правілаў.

Сказаўшы гэта, старшыня пайшоў далей.

Аграном замітусіўся і адразу страціў усю сваю меланхолію.

— Калі ў вас і зэдляў няма, — апраўдваўся ён перад Крэйнай і пачырванеў.

— Чаму ўсе дзелаводы кураць, ім дык можна! — сказаў і Юрлік.

— Ім можна, яны ўвесь час працуюць тут, а вы... — заўважыла Крэйна.

— А я набрыдзь? — усміхаючыся, запытаў настаўнік і пакінуў канцылярыю.

А мне дык вельмі спадабаўся гэты інцыдэнт. Я падумаў: правільна, трэба з дробязяў пачынаць, трэба ўсё браць на ўвагу. Па-мойму, у гэтым і ёсць агульнае кіраванне, неабходнае ў нашым некультурным жыцці.

Прыйшоў яшчэ начміл Какоцька і, пабыўшы хвіліну каля Крэйны, прайшоў у кабінет старшыні.

Я таксама пайшоў туды. У мяне з'явілася шмат запытанняў, якія трэба было зараз жа вырашыць.

Тав. Сом слухаў справаздачу начміла.

— Мною праводзіцца ў жыццё такая пастанова, — пачаў гаварыць начміл, — каб да 1 траўня ўсе грамадзяне нашага мястэчка паставілі перад дамамі ліхтары, каб на вуліцах праклалі тратуары. На камунальныя сродкі і часткова за прыватніцкія думаем вясною забрукаваць вуліцу да РВК. Па-другое, неабходна забараніць каровам хадзіць па тратуарах. У мястэчку каля 30 штук такіх інтэлігентных кароў, якія лічуць ніжэй свайго гонару ісці па вуліцы. Мы думаем аслухных штрафаваць і першы раз браць у каровы 1 р., другі раз 2 р. і трэці раз 3 р.

Т. Сом ледзьве ўсміхнуўся і звярнуўся да мяне:

— Якога вы погляду адносна гэтага?

— У мяне будуць такія дадаткі і змены да сказанага т. Какоцькам, — сказаў я. — Неабходна яшчэ зусім пазбавіць свінняў права паказвацца на вуліцы. Беспрытульных валачобнікаў заганяць на выканкомаўскі двор і браць па 1 р. за экземпляр, калі знойдзецца ўласнік жывёлы. Апрача гэтага, неабходна зарэгістраваць у 3-дзённы тэрмін усіх сабак і кошак і гэтым даць магчымасць статорганам весці лік сабачага і кацінага насялення рэспублікі ў мэтах экспартных магчымасцяў.

Старшыня зірнуў на мяне і забарабаніў пальцамі.

— Урэшце, — сказаў я, — міліцыі неабходна звярнуць увагу і на такім факце: на вёсцы з'явіліся хлапцы, нават камсамольцы, якія таўкуцца ў народзе ды запісваюць стары быт. У гэтым няма выстарчаючай пленавасці. Запісваюць усё, што пад руку пападзе, — песні, прыказкі, забабоны і ўсякае непатрэбнае глупства. Неабходна, каб міліцыя мела за гэтым нагляд і дазваляла рабіць толькі тым, у каго будзе ад культаддзела паперка.

Т. Сом засмяяўся і сказаў:

— Вашы дадаткі і змены яшчэ рана ўносіць. А наконт вашых, — сказаў ён, звярнуўшыся да начміла, — пакуль што патурбуйцеся аб тратуарах, ліхтарах ды забрукаванні вуліцы. Усё іншае кінце.

Мяне гэта задзівіла.

— А каровы, а свінні, сабакі? — падумаў я. — Ніякай культуры. Нават дарогі не ўступаюць. Поўнае раўнапраўе з людзьмі!

### III. СУВЯЗЬ МАЦНЕЕ

Як скончылася праца ў выканкоме, я самую пільную ўвагу звярнуў на тое, каб ісці дадому разам з Крэйнай. У дачыненнях да яе я меў пэўную мэтавую ўстаноўку. Я трымаў курс бліжэй пазнаёміцца з ёю.

Ідучы па вуліцы, я загаварыў з ёю ў самых вытрыманых тонах. Я жаліўся ёй, што новаму чалавеку вельмі цяжка наладзіць жыццё ў мястэчку, і прасіў яе параіць мне што-небудзь добрае ў гэтым кірунку.

Яна ўважліва слухала мяне, а я ў свой голас уліў усю пяшчотнасць і мужчынскае зладзейства, наколькі

мог. Яна спачувальна паставілася да мяне: пачала апавядаць пра мястэчка, пра тутэйшых людзей, іх звычаі, думкі, плёткі, забавы. Мы не прыкмецілі, як падышлі да яе кватэры.

Я ўжо хацеў развітацца з ёю, але яна параіла мне кватэру тут жа, у доме, дзе жыла яна.

Даю фактычную даведку, што такі зварот справы вельмі ўзвесяліў мяне, бо відавочным зрабілася, што я пачаў весці на яе правільную атаку і адразу для мяне вызначыўся шэраг дасягненняў. Вызначыліся і шляхі далейшага развіцця нашых узаемаадносін: кожны дзень, жывучы побач з ёю, я павінен паступова апрацоўваць яе думку наконт правільнасці і натуральнасці маёй асноўнай вытворчай лініі.

Ідучы ад Крэйны ў заезджы дом, я быў у такім узнятым настроі, што адным махам пераскочыў на рынку шырокую яміну з гразнай вадой. Гэта выклікала незвычайнае задзіўленне хлапчукоў, якія бегалі тут. Некаторыя з іх паспрабавалі быць маімі паслядоўцамі, але, нягледзячы на свой юнацкі запал і спрытнасць, свістарэзнуліся ў самае балота пад смех сваіх таварышаў. Я пайшоў далей, а ўслед мне глядзелі з захапленнем вочы хлапчукоў.

Праз два дні я перавёз на новую кватэру свае «прычындалы».

Мне вельмі добра спалася ў тую першую ноч, і сніў я Крэйну.

Быццам сядзеў я з Крэйнай у садзіку, і яна зрабіла мне прапанову пайсці з ёю на Лютнянскі шлях. Зразумела, я прызнаў гэту прапанову адпавядаючай сучаснаму моманту і прыняў удзел у прыродна-геаграфічнай экскурсіі.

Па дарозе, калі з нашага вока схаваліся местачковыя будынкі, я мякка ўзяў яе пад пашкі, і мы пайшлі, прыціснуўшыся адзін да другога.

Потым быў пералесак і на лагчынках шмат кветак, блакітных, белых, ружовых, і мы зрывалі іх. А потым... Ах, які жаль, якая згуба, што гэта было толькі ў сне!..

Калі я абудзіўся, была ўжо 9-я гадзіна раніцы. Я салодка пацягнуўся, перажываючы прыемны сон.

У суседнім пакоі чутны былі лёгкія крокі Крэйны. Я падумаў: напэўна, яна стаіць перад люстэркам і глядзіць не наглядзіцца на сябе. Магчыма, думае, што ў

гэтым глухім мястэчку яна, канешне, самая прыгожая, маладая і прывабная дзяўчына.

Не! Яна, мабыць, ніколі і не думае пра гэта, затое я добра ведаю, што ніводная дзяўчына не мае такога свежага, бела-ружовага твару, як у Крэйны, такіх глыбокіх, не стандартызаваных, таемных вачэй, такога спружыністага, як у п'яўкі, рота. Уся яе постаць, зграбная, умеркавана мясёная, запальвае мяне, напаўняе кроў ліхаманачным агнём, абяцае вар'ятна-гарачыя пяшчоты, саракаградуснае шалёнства.

Што мне рабіць? Уся мая фізічная структура адчувае, што першачарговым заданнем будзе заваяваць яе сімпатыі і спагаднасць і потым ужо дабівацца практычных вынікаў у гэтым кірунку.

Я ляжу на ложку, не хочацца паварушыцца. Прыслухоўваюся да сваіх палкіх мараў, якія сваім зместам маюць выключна яе, непараўнальную Крэйну. О, што б сказала мая маці, каб даведалася, як Крэйначка закруціла галаву яе сыну? Што скажа маці, калі сын ажэніцца з Крэйнай? А бацька?..

Думаючы над гэтым, чую, што ў суседні пакой увайшла перапісчыца выканкома Зоя Люсарэнка. Я пазнаю яе па голасе, меладычным, як у жалейкі. Яна таварышка з Крэйнай.

Зоя квола, паветрана, як птушачка, лётае і пяе. Здаецца, падзьме вецярок — і дзяўчыны няма.

Учора я гаварыў з суддзёю пра мясцовых дзяўчат. Суддзя — той самы філосаф Торба, аб якім я пісаў раней. Дык ён сказаў мне наконт Зоі:

— Аднаднёўка, міраж. Няма мяса, няма фізіялагічнай базы. Дакранешся, сарвеш кветку, і нічога больш няма!

Смешны суддзя чалавек!

Зоя гаворыць, а мне чутна кожнае яе слова:

— Я за табою. Ужо 9-я гадзіна, а ты і не думаеш.

— Пачакай! Куды ляціш, як на пажар?.. Лепш скажы, дзе ты ўчора была, чаму на сход не з'явілася? — пытаецца Крэйна.

— Шкулік прычапіўся, і мы разам пайшлі ў рабочы клуб на лекцыю.

— Лекцыю? Якую?

— Ат! Нічога цікавага! Збілі лектара з панталыку... Я добра і не чула, што гаварылі... Падсеў да мяне гэты чорт тэлефаністы Свердзялюк ды глупства рабіў... Ой,

Крэйначка, чаго толькі не вёрз ён! Вось яшчэ чапяла чортава! Да душы кажу, у другі раз не сцярплю!.. А ўчора неяк нялоўка было цыкнуць на яго ды вархал узняць... У другі раз пры людзях абсаромлю. Знайшоў цацку, дурыла!

— Але ж скажы, пра што гаварылі хоць?

— А добра і не ведаю. Нешта гаварыў пра наша мястэчка, як жылося тут даўно, тады, калі людзі рыбінымі іголкамі шылі ды ў шкурах звярыных хадзілі... Пасля быў тут нейкі князь Баболя, які катаваў людзей за бульбу, бо не хацелі сеяць яе... Дык ведаеш: Шкулік узяў блакнот ды пачаў даваць пытанні лектару: якая цана была тады на бульбу, які быў працэнт непісьменных, колькі было беспрацоўных. А лектар ні бэ ні мэ на гэта. А мы...

Апошнія словы я ледзьве пачуў. Крэйна, мабыць, міргaнула, што я тут і з'яўляюся перашкодай для вядзення інтымных размоў.

— Добра! — падумаў я. — Цяпер я троху ведаю, што вы за птушачкі. У справу ўнесена грунтоўная яснасць. Ці не распачаць мне змаганне на два фронты?

Ад гэтай думкі ў мяне зрабіўся вельмі вясёлы настрой і адпаведная тэмпература ва ўсім целе. О! Як добра жыць, быць здаровым, поўным энергіі і мужнай сілы!

У гэты момант я нават і не ведаў добра, што я буду рабіць, але для мяне адно было вельмі зразумелым: неабходна ўзмацніць агонь па гэтым сектары, неабходна зрабіць вылазку ў гэтым кірунку...

Я хутчэй пачаў апранацца, пырснуў вадой на свой твар і шпаркімі крокамі выйшаў на двор.

Двор быў чысценькі, абгароджаны частаклетам. Быў добры садзік, і з яго плыў лёгкі пах чарэмхі. Прыемнае хваляванне ў крыві выклікаў гэты пах.

Я сеў на лавачцы каля саду і зрабіў належны выраз на маім абліччы.

Супроць лавачкі было вакно Крэйны, і мне хацелася, каб яна зірнула на мяне. Я галаву накіраваў троху ўбок, сціснуў губы, прымружыў вочы, надаўшы ім выраз нейкага лёгкага суму. Аднэй рукой я абапёрся на калена, а другую, як быццам знясілены, апусціў дадолу.

Праз хвіліну мая тактыка мела бліскучыя вынікі. Вакенца Крэйны ціха, без шолаху, адчынілася, і з боку яго высунуліся дзве дзявочыя постаці, якія разглядвалі мяне моўчкі.

«Няхай жыве мая асоба! — радасна думаў я. — Першы крок зроблены. Цяпер толькі трэба дэталізаваць праграму чыннасці і вызначыць, так сказаць, арганізацыйныя формы немінучага працэсу. Сягонні ж трэба падумаць аб гэтым, як прыйду з канцылярыі».

Я ўстаў з месца, цяжка ўздыхнуў, нібы ў мяне вялікае, глыбокае і шырокае гора. На хвіліну нібы аслупянеў. Я глядзеў у далечыню, дзе за садам сінела неба і зелянелі лугі, а за імі зялёнаю, нібы пуховаю, мумкаю прыгажэў вясновы лес.

Прызнаюся, я троху захапіўся малюнкам вясны і на хвіліну забыўся аб Крэйне.

З дрымотна-салодкага анямення мяне вывеў ціхі, меладычны дзявочы смех.

Я зірнуў на вакно і прывітаў:

— Добры дзень, Крэйна! Гэта вы смяецеся так рана?

— А можа, нельга так рана смяяцца? — высунулася яна з вакна, за ёю і Зоя. Абедзве прыветна кіўнулі мне.

Крэйна запытала:

— Ну, як падабаецца вам кватэра, сад?

Я адказаў:

— Ах, мілыя чалавечыцы, мне нечувана добра ў гэтым глухім і прыгожым куточку Беларусі, і я ўжыву ўсе захады, каб затрымацца тут на доўгі час, калі не навек!

## IV. ЖАЎТАРОТЫ ПТУШАНОК

Пасля гарбаты я з Крэйнай і Зояй накіраваліся ў выканком.

Было напярэдадні 1 траўня. Вуліцы падмяталі, вокны мылі, ганкі шаравалі. Міліцыя наглядала, каб мястэчка выглядала светлым і прыбраным. Была развешана аб'ява, каб перад святам тры разы ў дзень падмялі вуліцы: а 9-й гадзіне, а 15-й і 21-й. Усе грамадзяне шчыра выконвалі гэты зусім своечасовы загад.

Мы асцярожна праходзілі паміж узброеных доўгімі мятламі падлёткаў і дарослых. Прыходзілася пільна сачыць, каб не папасці ў самы пыл. А пыл быў узняты такі моцны, што нельга было нічога разгледзець.

Каля ветэрынарнай амбулаторыі мы спаткалі нейкага жвавага піпканосага маладога чалавека ў вышыва-

най сарочцы. Правільней кажучы, ён наляцеў на нас і ледзьве не збіў нас з ног. Ён некуды спяшаўся.

Крэйна схапіла хлапца за рукаў:

— Ці не на дождж ты разбегаўся?

Малады чалавек радасна ўсміхнуўся дзяўчатам і, схапіўшы лоўкім манерам пад пашкі абедзвюх дзяўчын, адразу змяніў кірунак свае хадзьбы разам з намі.

Крэйна пазнаёміла:

— Гэта т. Шкулік Зізь, касір рабкопа і кіраўнік драмгуртка.

Я зірнуў на Зізя. Хударлявы, чарнамазы хлапец, з вельмі кучаравымі згуртаванымі валасамі, але такімі вялікімі, што на галаве нібы сядзела сарочае гняздо. У яго былі бегаючыя бліскучыя вочы, чырвоныя беконныя губы і крыклівы, тлумна-вясёлы голас.

Шкулік засыпаў:

— У мяне да вас прапанова і нават загад. Вы ведаеце, што заўтра будзе?

— Што будзе? Свята будзе.

— Гэта ўсе ведаюць, нават эмбрыёны. А ці ведаеце, мы заўтра наладжваем грандыёзную маёўку ў лесе...

— Аб гэтым мы не чулі! — зацікаўлена ў адзін голас прызналіся дзяўчаты.

— Дык вось, я прапаную вам запісацца ў мяне. Ганеце адзін рубель з вашага чароўнага рыла.

Мяне гэта як сярпом разанула. Паколькі ў маіх руках цяпер асноўныя спружыны культуры ў раёне, дык павінен жа я наглядаць, каб людзі былі ветлівы, абыходлівы і не выходзілі з межаў прыстойнасці.

Я зрабіў нездаволены выгляд і знішчаюча зірнуў на Зізя.

Крэйна зразумела:

— Яго сумазброддзе даўно з глуздоў з'ехала! Усё Шкуліку дазволена, усё з рук сходзіць.

Як здалося мне, Крэйна нават мяккімі вачыма, як маці, зірнула на Шкуліка, і мне было зайздросна.

— Не, мае глузды ўсе дома! — агрызнуўся Шкулік і, нядоўга думаючы, ушчыкнуў Крэйну. Гэты выбрык ён правёў пад акампанемент уласнага голасу:

> Як мой мілы ушчыкнуў,
> Маё сэрца здрыгануў.

Крэйна мякка шлепанула яго па патыліцы. На дапамогу з'явілася і Зоя, якая, відаць, яшчэ раней атрымала

ад Крэйны адпаведныя дырэктывы і працавала па метаду індывідуальных заданняў. Не саромячыся мяне, дзяўчаты ўзялі Шкуліка на рэмус, ірвалі яго за вушы, з небывалай актыўнасцю чапляліся ў яго валоссе, з нечуваным здзекам адносіліся да яго ружовага твару. У гэтую юнацкую булку яны ўпіваліся, як у памідор.

Але і Шкулік лоўка калатушыў супрацоўніц, хапаючы іх за рукі, бязлітасна шчыплючы, дзе прыйдзецца.

Такім чынам, штурхаючыся, рагочучы, ойкаючы і вясёла стогнучы, дайшлі мы да выканкома.

Мая пазіцыя была досыць нявытрыманая. Мне хацелася схапіць гэтага кудлатага хлапчука і расцягнуць як мыш якую, але прысутнасць Крэйны стрымлівала мяне. Яна мне была міла, нягледзячы на тое, што прымала ўдзел у бясчынствах на вуліцы і дыскрэдытавала савецкага працаўніка.

Добра яшчэ, што на вуліцах пыл вялікі быў і ніхто не бачыў нашых учынкаў.

На ганку РВК Шкулік спыніўся. Крэйна запытала:

— А хто яшчэ запісаўся?

— Будзе невялікая кампанія, але цёплая. Самыя цікавыя для цябе, Крэйна, людзі...

— Хто ж гэта?

— У першую чаргу я.

— Ты? Ты заўсёды прылепішся. Без цябе ніяк нельга.

Шкулік прычыніў адно вока, другім зірнуў на Крэйну, потым на Зою і, як чалавек барахольнага маштабу, шальмоўна падміргнуў. Яны абедзве засмяяліся.

Я хацеў пайсці ў канцылярыю — гэты шылахвост Шкулік выклікаў у мяне паступова ўзрастаючае абурэнне.

Крэйна спыніла мяне:

— А вы будзеце на маёўцы?

— Калі вы будзеце, дык і я.

— Мы з Зояй будзем.

— Добра! Можаце і мяне кааптаваць у склад цёплай кампаніі! — сказаў я Шкуліку. Ён запісаў мяне, узяў грошы і потым пералічыў удзельнікаў:

— Будуць: Торба, Мамон, Гарачы, Юзька Гыля, Смятана-Бурчайла з жонкай, Свердзялюк, Хвэя без жонкі, Самчык, настаўніца Крутарожкава, настаўніца Зязюлька, тэлефаністка Горбік...

— Жанчын можна не пералічаць. Нас гэта зусім не цікавіць! — заўважыла Крэйна.

— Зразумела, будуць яшчэ Зычок, Дулянок, Кудлянок і ўся сям'я Галавасцікаў.

— А багародзіца з сынамі будзе? — запыталася Зоя. Усе пераглянуліся і аж сагнуліся ад смеху. Я нічога не разумеў. Крэйна дала тлумачэнне:

— У нас ёсць такая гранддама, якую нехта назваў яшчэ грандатэльдама, а мы завем багародзіцай. У яе тры надта вучоныя сыны: адзін спецыяліст па сельскай гаспадарцы, другі юрыст, трэці нейкі дыпламат быў, адным словам, не людзі, а багі. Яны, сыны, у Маскве і прыехалі сюды, каб усё сваё кодла забраць туды. Нават бабу стагоднюю забіраюць. Досыць жыць тут.

— А як прозвішча іх? — запытаўся я.

— Багародзіца была два разы замужам. Першы раз была замужам за Курыцай, а другі раз за Курапатай. І сыны яе два ад Курыцы, а адзін ад Курапаты. Як Курыца, так і Курапата былі арандатарамі ў пані Більдзюкевічыхі і толькі за арэнду ў год плацілі 15 000 руб.

— Ого-го!

## V. ВУЖ ЗАКАХАНЫ

Вечарам у той дзень быў урачысты сход усіх прафсаюзаў. Я няўхільна працягваў палітыку заваёвы сэрца Крэйны.

Сход быў у клубе пры нардоме. Клуб быў цесны, на другім паверсе, і ад залі нардома быў аддзелены тонкімі шалёвамі, праз якія добра было чуваць усё, што рабілася ў нардоме. А там у гэты час адбывалася рэпетыцыя да першамайскага спектакля, і людзі, якія прымалі ўдзел, вывaрачвалі ўсе свае вантробы ад наплыву трагічных пачуццёў.

— Я заб'ю вас, як сабаку, генерал! — крычаў нехта на сцэне.

— А-а-а! — задыхаўся другі ад злабы. — Гэта вы той самы анёл смерці, што здзекаваўся над людзьмі!

На ўзвышшы ў клубе стаяў засланы чырванню стол і вакол яго вельмі нізкія лавы.

У прэзідыум вызначылі 7 асоб. Крэйна высунула і маю кандыдатуру. Я зрабіў ёй пагрозу пальцам, але з прыемнасцю пайшоў і сеў.

У прэзідыум абралі яшчэ жанчыну-доктара, але яна адгаварвалася.

— У мяне на мястэчку цяжкія нарадзіны, і кожную хвіліну мяне могуць паклікаць.

— Тады і пойдзеце! — не згаджаўся сакратар райкома.

— Не, не і не! — змагалася доктарша. — Я лепш тут каля дзвярэй сяду!

А сама акушэрцы ціха гаварыла, і я чуў гэта:

— Нялоўка мне, немаладой ужо, ісці туды ды сядзець куклай, глядзець на ўсіх.

«Якая несвядомасць!» — падумаў я.

Калі мы ўсе селі за стол, дык не адразу змаглі вызначыць сакратара. Пры гэтым лавы не адпавядалі сваёй мэце: над сталом было добра відаць толькі нашы ілбы, а рот, нос і ўсё іншае было схавана ад вока прысутных.

Хацелі мяне вызначыць за сакратара, але я прасіў устрымацца.

Калі ўсё больш-менш супакоілася і слова далі дакладчыку, я сеў з боку стала і пачаў асцярожна глядзець на Крэйну. Побач з ёю сядзеў бухгалтар РВК т. Лін. Яго я прыкмеціў у райвыканкоме. У гэты дзень ён вельмі часта прыбягаў да Крэйны, нешта ціха гаварыў ёй, паказваў нейкія паперы, чытаў нейкія рэзалюцыі, тэзісы, мітусіўся, як уліцкаваны растратчык.

Лін быў досыць уважысты чалавек, у маіх гадох, бялявы, з доўгімі, пухнатымі, як вафлі, вусамі, блакітнашэрымі мяккімі, з маслянай вільгаццю вачыма і ружовым, як у свінёнка, тварам. Зірнуўшы на яго, адразу можна было канстатаваць, што гэты індывід мае значныя дасягненні ў галіне сістэматычнага палявання за ідэйна трухлявымі, але чароўнымі мяшчаначкамі.

Мяне моцна разанула па сэрцы, калі я пераканаўся, што Лін (і прозвішча як у сук улеплена!) зусім не слухае даклада, а шчыльна, як вуж, абкруціўся каля Крэйны і мілосна нешта напявае ёй. О! кваліфікаваная падла! Як я хацеў бы ў той час ціхенька падабрацца да яго шапкай-нявідкай і вострай іголкай калянуць яму язык ці стабілізаваны зад.

Пасля даклада былі запытанні. У прэзідыум было пададзена 7 пісулек, у якіх прасілі растлумачыць, што азначаюць словы: перыферыя, квінтэсенцыя, прызма, рацыяналізацыя, стабілізацыя, утылізацыя і г. д.

Пасля афіцыйнай часткі абвесцілі перапынак. Чакалі канцэрту.

Крэйна выйшла з нардома. Я паспяшыў за ёю, бо хацелася хутчэй намацаць глебу для больш інтымных спраў. Але дзяўчына, выйшаўшы з нардома, як вадою разлілася.

Сумны, з пачуццём нейкай смолі на сэрцы, я накіраваўся за глухую сцяну нардома. Тамака было цямрава, і толькі троху далей высоўваўся змрочны сілуэт сінагогі, за ёю сілуэт другой сінагогі і трэцяй. Будынак нардома да рэвалюцыі таксама быў сінагогай і самай пекнай з усіх 5 местачковых сінагог. Але ў 19 годзе, дзякуючы няўтомнай энергіі і маньяцтву двох людзей — настаўніка Калабухі і старшыні рэўкома Беларыбкі, — сінагога перавярнулася ў добра абсталяваны з дэкарацыямі і мэбляй нардом. Мне гаварылі яшчэ, як будавалі гэты нардом. Калі выканком зачыніў сінагогу і пачаў шукаць людзей, каб пераробіць яе на нардом, дык ніхто з цесляроў не пайшоў на працу, ні яўрэі, ні хрысцьяне. І будавалі ўсё настаўнік Калабуха і старшыня Беларыбка. З імі яшчэ працаваў адзін чалавек, ды ён быў зусім глухі. І вось адзін раз настаўнік Калабуха ўбіваў цвік у самы кумпал сінагогі. Прыладзіў драбіны і пачаў моцна бахаць па цвіку, але... драбіны пахіснуліся... Настаўнік затрымаўся на ўбітым цвіку і павіснуў на сцяне, а драбіны ўніз паляцелі. Ён закрычаў, але ніхто не чуў... З ім працаваў і той глухі дзед, якому ўсё роўна было, ёсць бог ці няма. І ён не чуў крыку: «Ратуйце!» А з вуліцы ніхто не прыйшоў, хоць, кажуць, і чулі ўсё гэта. Толькі выпадкова дзед узняў вочы ўверх і ўбачыў, што трэба ратаваць. Цяпер часта апавядаюць гэту гісторыю.

Я стаяў у змроку каля сцяны нардома і разбіраўся ў сваіх думках. Было ціха. Ніхто сюды не заглядаў. Там, з другога боку нардома, чуўся тупат бязлікай колькасці ног.

Раптам мае вушы схапілі стрыманы дзявочы смех і нізкі гудлівы працяжны голас мужчыны. О, як затахала маё сэрца, як заварушыўся мой мазгавы апарат!

Яна! Яна! А з ёю Лін!

Яшчэ больш прыціснуўся я да сцяны, урос у яе. Два чорных цені прайшлі за нардом і спыніліся.

Лін, як жаба пяшчотная, вёў сваю лінію:

— Крэйна, каб ты ведала маю горкую долю, ты ніколі не смяялася б з мяне... Як убачыў я цябе, на ўсё забыўся! Ты прыгажэй за сонца («Сабачае мяса!» — сказаў я сам сабе), мацней за магнэс! Калі гляджу я ў

твае вочы, я забываюся на прафсаюз (Свінячае вуха! Сёння ж гаварыў: мы, шапялёўскі пралетарыят, павінны паказаць прафдысцыпліну!), на абавязкі і бачу толькі цябе, Крэйна. Ты стаіш днём і ноччу перад вачыма...

Крэйна яшчэ раз дзынкнула смехам.

— Глупства! — сказала яна яму, а ў мяне на сэрцы лёгка-лёгка зрабілася. — Гэта вар'яцтва! Ці не сорамна табе дзяўчыну спакушаць? У цябе ж, паважаны таварыш, жонка, трое з паловай дзяцей!

— Ты смяешся, а я не магу жыць без цябе!.. Хочаш, Крэйна, кіну жонку, буду жыць з табой!

— Я зусім не думаю аб гэтым. Ніколі гэтага не будзе! — ціха сказала яна.

— А памятаеш Лютнянскае поле? Памятаеш, сосны ў лесе шумелі, і мы з табой... Няўжо не звернецца той час, скажы, Крэйна?

— Мала што было! — са смехам адказала яна і зрабіла некалькі крокаў да нардома.

Лін схапіў яе за рукі, прыціснуў да грудзей і з запалам, якога не чакаў я, узмацніў сваё наступленне:

— Крэйна, пашкадуй мяне! Ты мне патрэбна, як паветра, як жыццё. Я звар'яцею, калі ты не будзеш кахаць мяне... Слухай! Не хочаш запісацца, будзем жыць так...

— О! гэта вельмі проста... Ты думаеш, я гэтага баюся?

— Слухай, Крэйна! Цяпер маёй жонкі няма. Паехала да маткі. Кінем усё тут, пойдзем да мяне — пагаворым. Ніхто не ўбача... Я адзін на ўвесь дом...

Лін задыхаўся.

— Дзе ты цяпер жывеш? — запыталася раўнадушна Крэйна, а ў мяне, як полымем, грудзі абсмаліла. Гэта было нечаканае гора, ад якога павáліцца трэба было. Але я стаяў на месцы, як прыкалочаны да сцяны.

— Жыву я цяпер у 5-м мундоме, ведаеш, там, каля барака! — сказаў Лін, і ў яго голасе мне пачулася перамога.

— Што ж, пойдам! Пагляджу, дзе ты жывеш! — проста сказала яна. Лін радасна і ціха засмяяўся, і смех яго быў, як у акулы імперыялізму.

У мяне як абарвалася што ўсяродку. «Дзяўчына вулічнага маштабу! — падумаў я, каб суцешыць троху сябе. — Што ж? Другім можна — даб'юся і я гэтае асалоды!»

Я бачыў, як Лін крывацмокам прыліп да Крэйны, і

яны ціха прайшлі каля мяне, не заўважыўшы маёй прысутнасці. На самым рагу нардома Крэйна раптам вырвалася з цапаў Ліна і сур'ёзным голасам змяніла сітуацыю.

— Тут ёсць невялікая перашкода! Не быць таму, аб чым просіш ты! Хоць і не праціўны ты, хоць і прыгожы і прыйшоўся даспадобы іншым дзяўчатам, але я пашукаю лепшага!

І шпаркімі крокамі, дзынкаючы сваім голасам, як балабончыкам, Крэйна пайшла ў дзверы нардома і кінула застыглага, як слуп, Ліна ў поўнай расхлябанасці.

— Ляцеў, як анёл, а ўдарыўся, як чорт! — ледзьве не ўголас сказаў я, пераканаўшыся, што лінаўскія прапановы не знайшлі практычнай рэалізацыі.

## VI. У ШЭРАГАХ МЯШЧАН

Яшчэ з раніцы, як толькі сонца выступіла на арэну дзейнасці, Крэйна і Зоя пачалі рыхтавацца да гэтай маёўкі. Яны не пайшлі на маніфестацыю, бо ад Шкуліка атрымалі дырэктывы пячы ўсялякія неадпавядаючыя сур'ёзнаму моманту канфітуры, смажыць цялячыя зады і набываць для такой плоймы неабходныя прылады для знішчэння ежы і пітва.

А я ў прафсаюзных шэрагах пайшоў на Пляц Волі. Па загаду начміла ўсе прафсаюзы, арганізаваныя грамадзяне і школы выраўніліся ў карэ.

Парад прымаў старшыня выканкому т. Сом. У яго было радаснае аблічча, ён гогалем абыходзіў нашы шэрагі, якія перад гэтым доўга выроўніваў у нітачку начміл. Я прыйшоў яму на дапамогу ў гэтым кірунку, і справа ў нас вельмі хутка пасунулася наперад. Тав. Сом кожны калектыў вітаў з пралетарскім святам.

Потым адбыўся мітынг. Я выступіў з прывітальнай прамовай. Для свайго першага дэбюту ў Шапялёўцы я апрануў белую шаўковую з шырокімі адваротамі кашулю і замест гальштуху завязаў шырокім бантам чырвоную шаўковую істужку. Я ўпэўнены, што ўсе заглядаліся на гэты нечувана-вялізны, крывава-прыгожы, бліскучы бант! Мяне гэта ўзнасіла на невядомую вышыню, і я з захапленнем вітаў усіх. Грудзі шырока ўздымаліся, думкі шпарка варушыліся ў галаве, цэлы вадаспад слоў моцных, запальных ліўся сам сабою. На вялікі жаль,

мне далі толькі 5 хвілін! Ці ж можна было ўкласца ў гэты нікчэмны тэрмін? І я, забыўшыся на ўсё, разышоўся ва ўсю моц! Я страціў успрыманне часу, і мяне прымушаны былі спыніць, паслаўшы піянера з папярэджаннем...

Дзень на 100 проц. адпавядаў нашым жаданням, быў надзіва цёплы, сонечны, па-вясноваму пахучы.

Удзельнікі маёўкі сабраліся а 3-й гадзіне ў мясцовай школе. Згодна раней намечанаму плану прыйшлі з рознымі клункамі, пакункамі, кайстрачкамі, бавульчыкамі. Жанчыны прымусілі мужчын выконваць ролю двохгорбых вярблюдаў, іх бязлітасна нагрузілі і спераду і ззаду. Толькі мне неяк пашанціла. Крэйна ўсунула ў мае рукі нейкую мяшчанскую торбачку з пяском, вагою не больш 2 кілё. Я баўтаў ёю направа і налева.

Сабраліся ўсе, апрача т. Сома, які прыслаў пісульку, што выязджае на вёску.

Нашым правадыром з'явіўся начміл, які пад'ехаў на добрым вараным коніку. Да яго на каня па ўласнай ініцыятыве падсела жонка віннага кантралёра Смятаны-Бурчайлы, і наша прафсаюзнае войска пад камандаю гэтых верхавых сугуба дысцыплінавана рушылася ў дарогу.

За верхавымі ішла пара: сам Смятана-Бурчайла і жонка начміла Анэля з сынком-піянерам Тэрорчыкам.

Бурчайла злосна паглядаў на жонку. Я разумею чалавека! На яго месцы я не дараваў бы жонцы такога стопроцантнага глупства: сесці вярхом на каня ды яшчэ шчыльна прыхіліцца да статнай фігуры начміла! А муж няхай нясе球 рознае барахло, прымус, імбрычак і нават завівальную машыну! За гэта па галоўцы не пагладзіш!

Анэля ж таксама была нездаволена, крытыкавала кожны крок верхавых, перакідвалася з мужам вострымі словамі.

Яе сынок Тэрорчык, відаць, хацеў праехацца з бацькам і пытаў у маткі:

— Чаго гэта халер'я прычапілася?

Пабачыўшы, што «халер'я» з канём не разлучыцца, хлопчык у канцы мястэчка пакідае нашу кампанію.

Уперадзе мяне ідуць настаўнікі Гыля і Юрлік і ўсю дарогу спрачаюцца аб шахматах. У Гылі невялікая лысіна, чорныя кучаравыя валасы на віскох, шальмаватыя і ў той жа час сумныя вочы, пузаценькая фігура і ўпэўненая хада. У Юрліка жывыя, шэрыя, з нейкім вясёл-

кавым бляскам вочы, карпаты, у форме піпачкі, нос, цапкія, нібы што ўсё мацаюць, рукі і лёгкая, як у танцы, што падгопвае, хада. Ён да кожнага сказа і нават слова дадае нейкі своеасаблівы атрыбут:

— Гэта тое як яго!

Я ніяк не разумею Юрліка. Для яго толькі два замілаванні ў жыцці: прыгожыя дзяўчыны і шахматы. У першым кірунку я зусім разумею яго і ўхваляю яго чыннасць, затое адносна другога нават не разумею, як можа чалавек хваляваюца гэтай мёртвай хадульнай справай?.. Услед за намі ідзе настаўніца Зязюлька з камсамольцам Дусікам, а Юрлік і вокам не зірне — так завёўся з Гыляй у спрэчках.

— Як ты, разява, хадзіў?! — крычыць на Юрліка Гыля. — Не ўмееш ты хадзіць! Я табе адразу мат прыляпіў бы, каб ты, шэльма, не скруціў!

— Калі я, гэта тое як яго, скруціў? Нечым ваўку, гэта тое як яго, дык лыкамі! — смяецца Юрлік, і яго смех выводзіць Гылю з раўнавагі.

— Ну, пабачым, пабачым! Вось прыйдзем у лес, раскладземся там, халера ты будзеш, калі не возьмеш ад мяне мату.

Я запытаў:

— Няўжо вы захапілі?

Жанчыны з жахам паўторваюць маё запытанне.

— А як жа? Што ж мы, гэта тое як яго, будзем рабіць у лесе? — пытае Юрлік.

О, няшчасны сляпец! Не ведае, што рабіць у лесе вясною!

Я не адступаўся ад Крэйны і з неаслабнай энергіяй вёў сваю амурную лінію. Як прайшлі мы мястэчка, перашкодай на маім шляху з'явіўся Ягор Гарачы, загадчык нардома. Яго лічылі мясцовым паэтам і часта называлі Пушкінзонам. Ён меў калматую, альховага колеру, галаву, падслёпватыя мышыныя вочы, жарабячы голас і нізкі, ліліпуцкі крываногі рост. Ён дагнаў нас і пачаў вінталём круціцца каля Крэйны. Ён хацеў усю ўвагу Крэйны ад мяне перацягнуць на сваю кургузую асобу. Доўга дэкламаваў верш, які пачынаўся словамі:

Сэрца ня хоча стрымаць<br>
Радасці кіслай і сіняй!

За намі ішоў яшчэ тэлефаністы Свердзялюк з тэлефаністкай Горбік. У яе я заўважыў выдатныя грудзі,

павеўны стан, гітарны голас, у яго — доўгі і тоўсты нос, моцныя лыткі, нізкі, троху хрыпаты, бас. Маёвачнікаў было шмат, усіх не пералічыш. Мяне вельмі задзівіла тая акалічнасць, што суддзя Торба ўсю сваю ўвагу накіраваў на Зою, тую самую, якую ён абазваў аднаднёўкай. Цяпер жа ён добрымі вачмі аглядаў яе і ціха ўсміхаўся.

Т. Торба мае два аблічча. На судзе перад усімі выступае яго арганізацыйна добра аформленая фігура: высокі рост, непамерна вялікія рукі, шырокія, магутныя грудзі, роўныя белыя, як часнок, зубы, зусім голенае дабрадушна сур'ёзнае аблічча. Гэта выклікае нейкую апрыёрную спагаднасць да яго. Калі я першы раз пабачыў яго ў судзе, я ў думках падкрэсліў тэзіс: чалавек з такімі прыроднымі перавагамі не можа быць несправядлівым.

У той жа час, як бліжэй пазнаёміўся я з ім, суддзя — вясёлы чалавек, пракуда, філосаф, які заўсёды здольны выкінуць фартэль, зрабіць дзівацтва, кінуць на агульнае карыстанне моцнае слова, зачапіць за жывое, дацца ў знакі жанчынам, якіх ён заве «баядэркамі», закруціць якой-небудзь з іх галаву і потым «накрыцца хвастом». Адным словам, нявытрыманы індывід.

Адзіноцтва ён не пераносіць, як хваробы якой, і свой вольны час, якога вельмі мала, праводзіць сярод двохногіх стварэнняў, галоўным чынам «баядэрак». Ні сям'і, ні маёмасці ён нікалі не меў.

Ідучы на маёўку, я пазнаёміўся таксама з маскоўцамі — Курыцай і Курапатай. Яны вельмі ганарова ішлі ў ар'ергардзе і вялі гучную, незразумела навуковую размову. Багародзіцы з імі не было. У Курыцы было ўмеркавана выдатнае пуза, пульхныя зашчочыны, што наступалі на вочы, чорныя, як змейкі, бровы і вялікія рагавыя акуляры. Курапата быў высокі, шкілетны чалавек, з безнадзейна выцягнутым механізаваным абліччам. Калі нас знаёмілі, першы назваў сябе Курыца, з націскам на ы.

Месца маёўкі — глухі, прыгожы лес каля рэчкі. Там шмат курганаў, на якіх растуць магутныя дубы, бярозы і дрыготныя асіны. Лес на ўзвышшы, а ў даліне рэчка. Над рэчкай хмызняк, у ім у пераважнай большасці расце калакалуша-чарэмха.

У гэты час чарэмха ў поўным росквіце, і пах яе, калі

прыйшлі мы, вельмі прыемна казытаў перыферычныя нервы насавога апарата.

Бясспрэчна, шпацыроўка выклікала ў нашым арганізме бурнае развіццё апетыту. Вочы ўсіх аўтаматычна накіраваліся на клункі з ежай. Агульнае жаданне напоўніць сябе матэрыяй выказаў страхагент.

— Што ж? — сказаў ён, вызваляючыся ад прыгнечання вялікіх пакункаў. — Мне здаецца, самае лепшае, што можам мы зрабіць — гэта прыступіць да знішчэння прынесенай матэрыі і пітва!

— І прыступіць зараз жа! — адклікнууся я. — Без валакіты і бюракратычных скрыўленняў.

— Матэрыю нельга знішчыць! — паправіў Торба.

— Давай цябе знішчу, і слядоў не будзе!

— Сляды, браце, будуць! 8 год атрымаеш!

Жанчыны разаслалі вялікія белыя посцілкі і ў адно імгненне вока маляўніча экспанавалі ўсю матэрыю. Толькі хлеб і булкі не былі нарэзаны. Гэту працу даручылі Смятане і Торбе. Рэжучы здобныя, запаленыя булкі, Торба невядома з якой прычыны сказаў:

— Жыта ўсіх корміць, а пшаніца па выбару!

— Што з гэтага? — запытаўся страхагент.

— Нічога! Маўчы ды слухай, што людзі гавораць!..

Нават не чакаючы, калі ўсё будзе падрыхтавана, мы з імпэтам навaліліся на прадукцыю. Торба даў неабходныя каментарыі да гэтай нястрыманасці:

— Такія галадамірныя ўсе, што сабаку шалёнага і таго, здаецца, з'елі б!

— Пытанне счэрпана, дэбаты павінны быць скончаны, не дуры мае галавы! — працуючы зубамі, нібы жорнамі, прагудзеў страхагент.

— Маўчы і еж, пакуль не запяеш! — адказаў яму Торба, скрылькам вянгліны ляпнуўшы агента па твары.

Мужчыны шмат пілі гарэлкі і моцнай густой, як сурап, цягучай настойкі, замацаванай гарэлкай. Дзве-тры шклянкі апошняй дзіўны настрой выклікалі ў мяне. У сваіх мускулах я заўважыў нейкую тэхнічную адсталасць: з'явілася нястрыманае жаданне прыхіліцца да пляча Крэйны, захацелася, як жывёліна, глядзець у яе бяздонныя вочы, узяць яе мікраскопныя рукі ў свае і гладзіць дзяўчыну, як курачку-натапурачку; хацелася спяваць ёй гімны, упрыгожыць яе чало ружамі, ускінуць ёй на плечы шаўковыя тканіны і замацаваць уладу над ёю моцнымі пякучымі пацалункамі. Бачачы мае элек-

трыфікаваныя вочы, Крэйна адхілялася ўбок і частавала мяне:

— Ежце, ежце, а то нічога не будзе!

А Торба адразу звярнуў увагу на маё захапленне Крэйнай. Між намі ён прасунуў нечакана сваю кентаўраву руку і напалохаў нас.

— Не, не! — сказаў ён, — усё роўна нічога з гэтага не будзе! Дабіцца, брат, ад яе чаго-небудзь — справа доўгая, як макарон!

Крэйна хацела відэльцамі калянуць яго пад бок, але Торба своечасова ўхіліўся ад гэтай кары. Ён падсеў да Зоі і пачаў частаваць яе, трымаючы за стан. Дзяўчына перапалохалася праяў гігантызму і пераскочыла на другі фронт. Торба сказаў:

— Казінае племя — дзеўкі! Нуль увагі і тры кілё пагарды!

Да мяне, як да начальства, з другога боку прысела настаўніца Крутарожка і пачала захапляцца сённяшнім сонечным днём, лесам, пахам чарэмхі, курганамі, блакітнымі кветкамі, мятлушкамі і іншымі сараканожкамі.

Праўда, вельмі добра было ў гэтым лесе. Цвіў сон, яго сінія балабоны калыхаліся ад лёгкага ветрыку на вялікай прасторы. Крутарожка нарвала пук кветак і дала іх мне.

Торба сказаў:

— Кіньце гаварыць аб мятлушках ды кветках! Вам гэта не да твару. У вас гэта штучна, суха! Прыгожа могуць гаварыць толькі непрыгожыя жанчыны...

— Усімі задрыпаныя ідэі! — сказаў я. А страхагент дадаў:

— Яго іншы раз мутарна слухаць. Трэпле, як лапатай пустой!

— Правільна! Правільна! — засмяяўся Торба, і смех яго быў як выбухі перуна. — Рэж праўду-матку, покуль не зарэжаш, халеру! Але ж усё-такі ты сурагат, не чалавек!

Людзі ўсе ўжо троху падмацаваліся і пачалі парамі ці групамі знікаць у гушчарах лесу. На месцы засталіся тыя, якім ляна была скрануцца з месца ад пералітага ў сябе пітва. Гыля і Юрлік расклалі шахматы: надзвычайна заўзята вялі змаганне. Жанчыны доўга з агідай глядзелі на іх спаборніцтва, потым нечакана, моўчкі прыйшоўшы да згоды, раптам наваліліся на «шахі» і перамяшалі ўсё. Ваякі, як азвярэлыя, кінуліся на жан-

чын. Узняўся такі вархал, што ніякіх каштоўных прапаноў ужо ніхто не слухаў. Віно бушавала.

Крэйна супакоіла ўсіх. Яна ўнесла прапанову рыхтаваць гарбату.

— Добра! Добра! — суцішаючы ўсіх, гаварыў Торба. — Гарбата — добрае зелле: і вантроба поўна і розум цэлы!

А я запрасіў Крэйну праветрыцца па лесе. Яна, троху падумаўшы, дала мне руку, і мы адышлі. Торба крыкнуў:

— Трымай, брат, калі спаймаў!

Мы селі на курган недалёка ад усіх. Я моўчкі любаваўся Крэйнай. Ёсць аблічча прыгожыя, як гэтыя сінія кветкі — сон. На іх хочацца несупынна глядзець і пакутаваць неперамажнымі жаданнямі.

Гледзячы на Крэйну, я смяяўся шчаслівым жарабячым смехам. Яна здзіўлена пашырыла свае вочы і чакала, што з гэтага далей будзе. Тады я набраўся моцы і сказаў:

— Крэйна, Крэйначка! Будзем з табой на ты? Добра?.. Далей слухай, што я скажу. Закахаўся ў цябе я — праўду кажу. Ты павінна звярнуць на маё захапленне максімум увагі. У маім каляндарным плане на сённяшні дзень вызначана два бязвінных пацалункі ад цябе. Гэтага я павінен дамагацца ад цябе, чаго б мне гэта ні каштавала!

І, сказаўшы гэта, нядоўга думаючы, я прыцмактаўся да чырвоных Крэйніных губ і запальна піў агністую кроў дзявоцтва!

Прыйшоўшы ў сябе ад неспадзяванасці, Крэйна адштурхнула мяне і так моцна, што ледзьве не загурчэў далоў з кургана. Тон у тон мне Крэйна сказала:

— Не цалуй мяне, ты прыцягваеш увагу шырокіх мас!

Я зноў шчыльна прыхіліўся да яе, абхапіў яе калены рукамі і, гледзячы ў вочы ёй, задаў пытанне:

— У які тэрмін ты, Крэйна, выканаеш маю запальную просьбу аб адзнаках тваёй прыхільнасці і захаплення?

Крэйна страціла прытомнасць ад смеху, потым схапіла мяне за рукаў і штурхнула далоў. Я ляцеў з гары, як бульба, і спелесаваў сабе нос. Калі я ўзняўся ад зямлі, Крэйны каля мяне не было.

Я зноў пайшоў да купы. Там разгарэліся спрэчкі

між настаўнікам Мамонам і маскоўцамі. Спрачаліся аб нейкім мандызме. Ніхто нічога не разумеў, але з уздымам спрачаліся. Я таксама выказаўся супроць Курыцы і Курапаты. Мая лінія была вельмі выразная. Я заўсёды спрачаюся толькі тады, калі чаго-небудзь не разумею. А таму я сказаў:

— Усе гэтыя ідэі нам непатрэбны. Усё гэта — атрута капіталістычнай прадажніцкай прэсы!

Мяне падтрымаў Бурчайла:

— Я чытаю толькі кніжкі, на якіх ёсць лозунг «Пралетарыі, злучайцеся!». А старыя кнігі нават брыдка чытаць!

Торба, памахаўшы галавой, сказаў яму:

— Гора ты чубатае!

Мяне гвалтоўна цягнула да Крэйны. Дзе мне адшукаць яе, каб разам не спяшаючы брысці дадому, мякка прытуліўшыся да яе пяшчотна-цёплага пляча?

Ужо цямнела. Зоркі ціхія, няясныя саромліва запальваліся ў небе. Засынаючы, зязюля нейдзе блізка пракукавала 5 разоў, салавей зацвірчэў у чарэмхавых хмызняках.

«Я плюс яна!!! Вось формула маёй далейшай чыннасці», — дынамічна мысліў я.

Неабходна хутчэй дайсці да фініша, неабходна мець адпэўныя, канкрэтныя вынікі. Сёння мая атака дала адмоўныя вынікі, у далейшым неабходна выраўняць лінію. Неабходна падысці да дзяўчыны ціха, мякка, як звер, як тая перапялёсая тыгра, што неспадзявана ловіць сваю ахвяру і накіроўвае яе ў сваю зяпу! У гэты вечар ці ноч, як будзем мы ісці дадому, я зраблю ёй даклад аб сваім гарэсным адзіноцтве. У думках я вызначыў асноўныя тэзісы даклада і намеціў рэзалюцыю, прыняцця якой я буду дамагацца ад Крэйны.

Думаючы пра гэта, я нейкім нюхам ішоў па яе слядох. Я прайшоў лесам над рэчкай і выйшаў на старое гарадзішча. Тут я ледзьве не страціў прытомнасці. Крэйна стаяла каля старой сасны, а з ёю быў Лін, Лін! Якім чынам ён прыплыў сюды, калі яго з намі не было?

Гэта адыёзная рыба ўзбунтавала ўсю кроў маю, сарвала мой план. Я пакляўся ўжыць усе метады, каб Лін сышоў з майго шляху. Я падышоў да пары і штучна супакойна запытаў:

— А! і таварыш Вокунь тут? Здаецца, Вас не было

з намі? Але лепш позна, чымся ніколі! Праўда, т. Вокунь?

Нельга апісаць тое абурэнне, якое абхапіла Ліна, калі я наўмысна перахрысціў яго. Ён, крыху адышоўшы ад Крэйны, шчыльна прыступіў да мяне і, гледзячы чырвонымі ад злабы вачмі, зашыпеў на мяне, як вуж:

— Што Вам патрэбна ад мяне? Я Вас не ведаю і ведаць не хачу.

Плюнуўшы, ён адвярнуўся, схапіў Крэйну за рукі і шпаркімі крокамі пайшоў з ёю ў другі бок.

Я застаўся без «лініі». Я доўга сядзеў на гэтым заклятым гарадзішчы, доўга да крыві кусаў свае пазногці і невясёла думаў, што я папаўся ў кіпцюры красуні-авантурніцы.

## VII. УВЯЗАЦЬ, УЗГАДНІЦЬ ТРЭБА...

Праз два дні пасля гэтых падзей я, каб забыцца на тую маральную поўху, якую нанеслі мне на грунце кахання, і знішчыць агульную апатыю майго арганізму, пачаў пільна займацца сваімі справамі.

Я — асноўны рычаг культуры ў раёне, мае абавязкі вельмі складаныя. Апрача непасрэдных функцый загадвання культаддзелам і кіравання дзейнасцю 80 настаўнікаў, у мяне ёсць шэраг іншых, часам вельмі турботных, канфідэнцыйных і неакрэсленых дырэктывамі, статутамі і дэкрэтамі абавязкаў.

Вось яны, мае абавязкі і функцыі:

Я — сябра РВК, старшыня дзіцячай камісіі, старшыня т-ва «Прэч несвядомасць», т-ва «Няхай гадуюцца дзеткі». Я — сябра праўлення т-ва прыхільнікаў «здахаты на буржуазею». Я — раённы інспектар працы і павінен бараніць служачых ад эксплуататарскіх замахаў загадчыкаў устаноў.

Я — сябра жаночай камісіі РВК і ў гэты дзень па каляндарнаму плану павінен быў абмеркаваць некаторыя пытанні з старшынёй жанаддзела т. Домнай. Я — райліт і райахова здароўя, райМОПР, райхім. А самае дзіўнае для мяне гэта тое, што я сябра раённай абортнай камісіі.

Гэтыя абавязкі і функцыі я атрымаў у спадчыну ад папярэднікаў сваіх. А цяпер мяне запісалі яшчэ ў саюз паляўнічых і прапанавалі заўтра раніцою, як толькі вы-

лезе сонца, прыняць удзел у аблаве на беспрытульных сабак мястэчка. Таксама не забыліся запісаць мяне ганаровым пажарнікам і прасілі прыняць удзел у пробнай пажарнай дэманстрацыі, якая адбудзецца праз тыдзень, ноччу ў нядзелю.

Адным словам, чалавек, у якога ёсць вочы, вушы і мазгавы апарат, не можа не прызнаць, што міжгулындзіцца мне некалі, ёсць над чым працаваць.

А тут прыйшоў яшчэ Шкулік Зізь і настойна прасіў мяне ўзяць самую галоўную ролю ў п'есе «Мараль т. Закандырына», якую яны пакажуць праз 3 тыдні публіцы. П'еса ў 7 дзеях і 48 малюнках і збор на карысць т-ва «Прэч несвядомасць».

Мне даюць ролю нейкага Вірлы, які павінен не толькі гаварыць і бліщчэць вачыма, але яшчэ добра спяваць, скакаць, займацца стралянінай і фізкультурай.

— Для гэтага героя неабходна буйнае аблічча, паважная фігура, гучны, як ерыхонская труба, голас і пластыка ў рухах! — сказаў Зізь.

Ну што ты скажаш? Прыйшлося мне згадзіцца: дзе ж яны знойдуць героя? Я ва ўсякім выпадку на 100 проц. задавальняю гэтым патрабаванням.

У гэты дзень я вельмі ўпарта і самааддана працаваў, парадкуючы ўсе паперы паводле маіх разнастайных функцый, пішучы на кожнай паперы рэзалюцыю для майго дзелавода, заносячы ў блакнот ударныя заданні.

Побач са мной была Крэйна, і думка мая міжволі накіроўвалася на яе. Я, шчыра кажучы, сачыў за кожным яе крокам, за кожным рухам. Яна абмежавала дзейнасць свайго арганізма і сядзела нібы застыглая. Ні разу не зірнула ў мой бок. Толькі пальцы, як малалетнія вар'яты, скакалі па машынцы.

Лін некалькі разоў падплываў да яе, але я, даўшы кляцьбу ўсімі сродкамі перашкаджаць яму, вёў сваю лінію. Як толькі ў дзвярах нашага пакоя з'яўляўся яго глінабітны твар, я зараз жа, ні хвіліны не марудзячы, перастаўляў свой зэдаль такім чынам, што мая асоба займала ўвесь праход да Крэйны.

Лін падходзіў, тыц-мыц, а няма чаго рабіць. Гэтая геніяльная палітыка размычкі між імі рабіла Ліна, як звера, раз'юшаным. Нібы галодны таракан, ён злосна рухаў вусамі і кідаў на мяне агнямётна-злыя погляды. Па-свойму ён быў у гэты момант нават прыгожым, і мне

прыйшла ў галаву думка, што каб я быў мастаком, дык замацаваў бы гэты інцыдэнт на малюнку «Галава мужчыны, разбэшчанага ад кахання».

На вялікі жаль, нядоўга я здзекаваўся над ім. Мяне выклікалі на мястэчка для ўвязкі, узгаднення і ўрэгулявання некаторых пытанняў з рознымі ўстановамі.

Першая ўстанова, што наведаў я, было прафбюро. Я пазнаёміўся з старшынёй бюро т. Міленкам і яго тэхнічнай сакратаркай т. Беленькай. У яго ружовае аблічча, зграбна пашыты пiджак, чырвоная шаўковая хустачка ў грудным кішэні, перапялёсы гальштучак, усе зубы ў роце і ціхая ласкавая, журчлівая гаворка. У яе здобная, батонная фігурка, заплыўшыя ружовым тлушчам вочкі, пульхлыя крухмальна-белыя ручкі і моцныя, крутыя ногі.

«Малачко з кроўю!» — падумаў я, і на хвіліну маё фізічнае ўспрыманне гэтай дзяўчыны выціснула з мае галавы чароўны вобраз Крэйны.

Сваёй гутаркай з прафбюро я быў вельмі здаволены.

— У нашых савецкіх працаўнікоў, — сказаў я, — няма грамадскай рошчыны! З гэтае прычыны наша культпраца кульгае на ўсе чатыры нагі! Нічым нельга зацікавіць, і нават мікробы рэлігіі пралезлі ў наш грамадскі арганізм.

— Але! — сказаў т. Мілёнак. — Я далучаюся да вашай думкі, што неабходна ўнесці новы змест у працу, надаць ёй і другія формы.

Мы ўмовіліся ў бліжэйшы час склікаць нараду па пытаннях культпрацы.

Я накіраваўся ў больніцу, але па дарозе зайшоў на тэлефонную станцыю. Яна змяшчалася ў папоўскім доме, на 2-м паверсе, у невялікім пакойчыку, дзе супроць вакна стаяў столік з апаратурай і каля дзвярэй шафа.

Дзверы былі зачынены знутры. Я пастукаў, нейкі шолах там і ні слова. Тады я павялічыў інтэнсіўнасць грукату, пасля чаго пачуўся голас Свердзелюка:

— Зараз! Хвіліначку.

— Чаму вы зачыняецеся? — запытаў я, увайшоўшы ў каморку.

— А, ведаеце, заходзіць хто папала сюды дыварлыжуць рознае глупства, перашкаджаюць працаваць! — сказаў тэлефаністы.

Я пазваніў у РВК і запрасіў да тэлефона Крэйну.

— Т. Шуфер! Гэта я — Самасуй — гавару з вамі. Да мяне ніхто не прыходзіў?.. Калі хто прыйдзе, няхай пачакае, я зараз прыйду.

— Добра! — адказала яна адрыўным голасам.

Мне хацелася яшчэ аб чым-небудзь пагутарыць з ёю, але ў гэты час дзверы шафы нечакана расчыніліся, адтуль зірнула перапалоханая дзяўчына і, закрыўшы твар рукамі, як птушка начная, маланкаю паляцела за дзверы. Усё гэта такім хуткім тэмпам здзеілася, што я і не разгледзеў, хто гэта быў.

Я моўчкі глядзеў на злачынцу. У глыбіні свайго арганізма я ўсімі фібрамі спачуваў яму, але, паколькі ў маіх руках спружыны новага быту, павінен жа я з карэннем знішчаць гангрэны!

Свердзялюк зацяжна курыў, потым засмяяўся.

— Бывае, усё бывае! — сказаў ён.

— І даўно ў вас гэта распуста? — тонам суддзі запытаўся я.

— А вы спавядаць мяне хочаце?

— Брыдка гэта! Установу перавярнуць у нешта непатрэбнае... Я гэтага так не кіну...

— Што вы мне маралы чытаеце? Я і сам хацеў бы адкасацца, але яны насядаюць на мяне. Зараз адразу з 5 кручуся! Хочаце — калі-небудзь магу паказаць некаторыя фокусы?

— Я аб гэтых фокусах буду мець гутарку з т. Сомам! — з гонарам адказаў я.

— Калі ласка! — насмешліва сказаў ён. — Тав. Сом трохі ведае аб гэтым. Ён і сам мастак! Аднае жонкі яму мала!

— Як вы смееце? — крыкнуў я і не ведаў, што яшчэ сказаць гэтаму франту з яўнымі адзнакамі полавага дымарфізму.

У дзвярах я стыкнуўся з настаўніцай Крутарожкай. Яна засаромелася і адвяла вочы ўбок.

Я мыгыкнуў сабе нешта пад нос і прапусціў яе ў тэлефонку, падумаўшы злосна:

— Градзі, градзі, галубіца.

Я зайшоў яшчэ на аграпункт, які быў побач з больніцай. Там я вельмі добрую прапанову даў аграномам: вялікімі чырвонымі літарамі ў канцылярыі вывесіць лозунг:

«Праз карняплоды да сацыялізму».

Побач з больніцай была яшчэ адна ўстанова, куды я

павінен быў зайсціся. Гэта жанаддзел. Я правёў доўгую цікавую гутарку аб культпрацы сярод жанчын. Загадчыца жанаддзела т. Домна Лузбан вельмі мужная асоба, гаворыць ультранізкім басам («як вецер гудзе патроху!» — падумаў я) і смела магла б прымаць удзел не толькі ў жаночым, але і ў мужчынскім чэмпіянаце. Яе смела можна назваць мядзвігай. Калі яна па-сяброўску цісканула маю руку, я аж падскочыў да столі і заойкаў, як малое дзіцянё. Рост яе быў, фігуральна кажучы, такі махінозны, што боязна было за чалавека. Кожны яе крок гулка аддаваўся, як рух самакату. Мяшчанкі шапялёўскія, якія мелі сваю ўласную арганізацыю «бабком», не вельмі паважалі т. Домну за яе адчынены характар і рашучае, бязлітаснае змаганне з мяшчанскім укладам жыцця і празвалі яе «танабілем». У Домны ёсць муж — мініяцюра, якую яна можа аднэю рукою падняць у паветра і махаць гэтым, як поп кадзілам. На іншых мужчын яна не звяртае ўвагі і робіць выключэнне толькі для т. Сома. Кажуць, аднойчы на нейкай вечарыне (з досыць абмежаваным лікам прысутных) яна нават выступіла ў фізкультурным спаборніцтве з т. Сомам і перамагла яго ў мядзведжай барацьбе. Перадаюць — пасля гэтага старшыня, як кнот, запылаў фізкультурным каханнем да Домны і, як сустрэнецца з ёю, усё мацае яе мускулы. А яна хоць бы што! Што ж, думаю я аб т. Соме, жывы чалавек аб жывым і думае.

Т. Домна ў кароткіх рысах пазнаёміла мяне з прадпасылкамі працы сярод жанчын і далучылася да думкі аб неабходнасці склікаць культнараду.

Потым разам з Домнай мы завярнулі ў больніцу. Там доктар запрасіў нас у свой габінет, і мы вырашылі 5 абортных спраў.

Першая справа батрачкі ў братоў Галавасцікаў. Домна звярнулася да мяне з інфармацыяй:

— Галавасцікі — тры браты, жывуць у бацькі.

Адзін у сельскагаспадарчай кааперацыі, другі каморнік, трэці загадвае паравым млыном. Кожнаму з іх гадоў пад 30, а ўсе разам ад сыці шалеюць! І вось цяпер чалядка цяжарна ад іх. Гэта ўжо 8-ы аборт яна робіць. Яны і грошы даюць!

Я выступіў за тое, каб батрачку адгаварыць ад гэтага гвалту над прыродай!

— Няхай яны і плацяць! А то паном толькі й гора, што жывот баліць!

Мая прапанова была прынята, як разумная і своечасовая. Т. Домна шчыра пагаворыць з батрачкай, накіруе яе на правільны шлях!

Другая кандыдатура — 16-гадовай інтэлігентачкі, дачушкі адной настаўніцы. Дзяўчынка нядаўна скончыла 7-годку, шчыра закахалася ў камсамольца Дусіка — і цяпер няшчасная сцэніроўка!

— Яе ратаваць трэба! — сказала Домна. — У гэткія гады мець дзіцё? Гэта загубіць яе і дзіцё!

Я спрачаўся, але доктар і Домна перамаглі. Была ўжо 4-я гадзіна, калі я ішоў дадому. Каля самай кватэры я заўважыў Ліна, які ажыўлёна гаварыў з Крэйнай.

Зноў ён! Зноў на маім шляху!

## VIII. ГРАМАДСКАЯ РОШЧЫНА

Цэлых тры тыдні я быў заняты пякельнай працай і не мог пільна сачыць за злачыннай дзейнасцю майго канкурэнта Ліна. Некалькі разоў я выязджаў на раён для правядзення калёквіумаў. Да гэтай справы я падышоў вельмі ўважліва і сумленна. Толькі дзве школы я прызнаў здавальняючымі з боку вучобы. Вучні не навучыліся грызці навуковае каменне сваімі маладымі зубамі. Яны не ведаюць, хто кіруе markroзнымі галінамі гаспадаркі і культуры ў Саюзе, на Беларусі, не ведаюць, што такое фашызм, імперыялізм, нават не ведаюць, хто кіруе асветай у раёне! На гэтыя недахопы нельга глядзець праз памяншальнае шкло (я ўсім так і гаварыў!), нельга адгаварвацца, што яны малеча і шмат чаго не разумеюць. Хто ў гэтым вінен? Зразумела — настаўнікі, гэтыя ліхтары ў раёне! За гэта ўпушчэнства я добра прашмараваў іх.

Толькі ў дзвюх школах на маё запытанне, хто кіруе асветай у раёне, вучні, як свядомыя байцы, адказалі:

— Асветай у нашым раёне кіруе т. Самасуй!

Шмат прыйшлося паклапаціцца мне і аб рамантаванні школ. Я наведаў усе школы і хаты-чатальні. Дзе толькі магчыма было, я склікаў сходы сялян і праводзіў ударную кампанію за новы быт.

На сходах я гаварыў сялянам агульнымі фразамі, так, як і трэба было. Я канкрэтна даводзіў, што ў сялян няма грамадскай рошчыны, свядомасці, дзякуючы чаму і бываюць перманентныя супярэчнасці і паганы капіта-

лізм яшчэ часткова мае стабілізацыю. Каб знішчыць гэтыя недарэчнасці, я заклікаў сходы выказаць сваё канкрэтнае я і ўзняць гармідар за новы быт!

Мяне ўсюды ўважліва слухалі і прымалі маю рэзалюцыю, якую я напісаў яшчэ ў Шапялёўцы, узяўшы пад увагу ўсе дэталі пытання.

Толькі ў в. Брылёўцы знайшліся суб'екты, якія аб'ектыўна з'явіліся рупарамі дробнабуржуйскай стыхіі.

Яны арганізавана выступілі супроць мяне. Адзін з іх, па прозвішчу Хвёдар Трайка, чалавечак вельмі невялікага росту, увесь зарошшы валасамі, як шчацінай, з лупатымі вочкамі і ў зрэб'і, нахабна гледзячы ў вочы мне, закончыў сваю прамову:

— Таварыш гаварыў, гаварыў нам, а мы сядзелі, як мамоны глухія! Нічога не зразумелі! Нейкая птушыная мова! Як грамахвон гаварыў!

За Трайкай яшчэ іншыя хвасцісты пасыпалі на маю галаву розныя ганебныя інсінуацыі і запытанні. Я паабяцаў арыштаваць Трайку, як склочніка, і тады раптам усе супакоіліся. Я з гонарам гаварыў сваю заключную прамову, і рэзалюцыя была ўхвалена пераважнай большасцю.

У другой вёсцы Забягаеўцы нейкі несвядомы гарлапан замест мае рэзалюцыі сказаў:

— А я даю рэзалюцыю: не таўчы ў ступе вады, а ўзяцца за масты, за школы, за шляхі, за іншыя дзіркі ў нашай гарманізме! А то ў нас, у Забягаеўцы, школа ў зямлю ўрасла і на прызбе нават вырасла некалькі падасінавікаў!

Гэта выступленне я кваліфікаваў як правакацыю, дэмагогію, разлічаную на танны эфект.

У трэцяй вёсцы, Радулі, вылезла адна манада, чырвона-рудая, як агонь, і, хітра ўсміхаючыся, прыплюшчыўшы свае бегаючыя вочы, сказала:

— Мне ўжо больш за 50 год. І я доўга ўсё думаў і не надумаў, што ёсць самая дрэнная рэч! А цяпер ведаю, як паслухаў таварыша. Самая дрэнная рэч, калі розуму мала ды калі жыта засееш, а яно не зародзіць! Маё ўсё!

А наогул, мяне вельмі добра прымалі і слухалі, што б я ні сказаў. Часта віталі мой прыезд, як своечасовы. Тыя хворыя з'явы, аб якіх гаварыў я, безумоўна, ёсць хваробы росту і ў агульны малюнак не павінны ўваходзіць.

Для ажыўлення культпрацы на вёсцы са мной вы- язджаў загадчык нардома пясняр Гарачы. Сялянам на сходах ён чытаў сваю паэму «За тваім гарбатым носам нічога не бачу». Ён сапраўды стаўся тварам да вёскі. Вечарамі кандыбоберам хадзіў з дзяўчатамі па вуліцы, на ўсе грудзі цягнуў вясковыя прыпеўкі і, каб высока ўзняць сцяг паэзіі, сам новыя прыпеўкі прыдумаў. Яны вельмі спадабаліся на вёсцы. Некаторыя і мне ўлезлі ў галаву:

Галіфэ маё худое
Разарваў я да кален.
Думаў з восені жаніцца —
Маўчыць дзевачка, як пень.

Каля нашага ваконца
Пракандыбала цяля,
Я за хвосцік ухапіла —
Думала, маё міля!

Гарачы дзяўчат навучыў співаць рамансы, чаго яны раней не ўмелі. Асабліва спадабаўся раманс:

Труну зялезную пастаўлю,
«Абалью яе слязамі,
Абсажу яе квятамі.

О! дзяўчаты на вёсцы добрыя, крамяныя! У аднэй вёсцы нават я захапіўся складаннем прыпевак. Я пазна- ёміўся з дзяўчынай Хадоркай Белабокай і на ўспамін аб дзвёх ночках, якія прагуляў з ёю, склаў прыпевачку:

Баліць сэрца і пячонка —
Мэтазгодная дзяўчонка,
Баліць тулава, нага —
Не забуду цябе я!

А калі звярнуліся мы з Гарачым у Шапялёўку, мне сказалі, што за гэты час Лін некалькі разоў прыходзіў да Крэйны і наладжваў пасяджэнні з ёю, зрабіў з ёю 5 экскурсій на Лютнянскае поле і лес, з невядомымі мэта- мі (нібы на кірмаш?) правёў экспедыцыю на канёк у в. Пільну. Мала гэтага, вечарам у сваім пакоі ў РВК зачыніўся з ёю і правёў вечар самадзейнасці, прычым на брудэршафцік была высмактана адна бутэлька чырво- нага і з'едзена два кілё лахардзікаў.

Гэтыя сумныя весткі як варам абварылі мяне. Веча- рам маё пякельнае пачуццё зайздрасці павялічылася ў пяць разоў, бо ў пакоі Крэйны пачуўся непераносны для

мяне голас Ліна, самаўпэўнены, здаволены. Адчуваў сябе гегемонам.

Мне цяжка было стрымаць свой шалёны тэмперамент! Хацелася ўварвацца ў іх мяшчанскае адзіноцтва агнёвым клубком і ўсё перавярнуць дагары нагамі. Я нагою моцна пагрукаў у іх сцену і даў сігнал маўчаць і не перашкаджаць мне займацца дзяржаўнымі справамі.

Лін на гэту прапанову справіў іго-го, а Крэйна пырснула. Праз хвіліну яны выйшлі на вуліцу, а я, каб пазбыць дрэнны настрой, пачаў галіць вусы, бараду і нават усю галаву. Гэтая працэдура з прычыны майго тэмпераменту не прайшла бязбольна: я параніў сябе і вельмі моцна за вухамі, на самай макушцы і, як касой, зрэзаў барадаўку, якая мела рэзідэнцыю на патыліцы.

Шмат крыві страціў і на хвіліну выгнаў з галавы Крэйну, сцішаючы кроў, што цурком бегла з мае паўнакроўнай асобы.

Працы і ў мястэчку шмат было. За тыдзень я пабываў на пасяджэнні крамнай камісіі, метадычнай камісіі, склікаў сход інтэлігенцыі мястэчка і местачковага актыву, схадзіў на гурток па вывучэнні пастаноў XV з'езда, зрабіў пасяджэнне ў лесе па агляду нявывезеных дроў, схадзіў і ажывіў працу сельскагаспадарчага гуртка, правёў урачысты сход ячэйкі Мопра і наладзіў вечар спайкі з вайскоўцамі ў фізкультуры. Гэта праца трохі затрымлівала бунт у крыві.

Прыехаўшы, мне прыйшлося вельмі няпэўную справу весці і нават выклікаць абурэнне цёмных сялянскіх мас.

Прыходзіць да мяне настаўнік Мамон і, як старшыня нейкага т-ва, просіць даць загад аб канфіскацыі наступных рэчаў: у гр. Сандрыгайліхі старасвецкага пісталета вагою да 3 пудоў, у гр. Андрэя Выбейдуха старалатынскай кнігі, па якой ён займаецца чорнай магіяй і наводзіць цень на ўсіх добрых людзей, у гр. Багдана Злыбядухі рукапіснай кнігі, па якой ён лечыць жывёлу і людзей ад механічнай хваробы трасцы...

Мамон з сабою прывёў яшчэ нейкага маскоўскага мастака, які дамагаўся, каб я даў загад аб нацыяналізацыі некаторых абразоў у мясцовай царкве, бо яны павінны быць вывезены ў Маскву як маючыя ўсесаюзнае значэнне.

Гэта: абраз Хрыста з трыма насамі, абраз святога Лынды, вельмі падобнага на зялёную рапуху, абраз

«Вочы мае выну-ка Госпаду», на якім нейкі хударлявы, хворы, відаць на лейкамію, святоша трымае на руках вочы свае і кажа прывітальную прамову богу, урэшце, вельмі каштоўны абраз «Узыграйся, малойчык, у чэраве маім», на якім анатамічна разрэзана чэрава цяжарнай жанчыны, і ў гэтым арыёле сядзіць эмбрыён і на скрыпачцы рэжа!

Ой, колькі непрыемнасцяў прынеслі мне ўсе гэтыя вымудры Мамона! Праўду кажучы, я і здружыўся з ім на гэты час і знайшоў свой двойнік, але колькі перашкод! У далейшым мяне чакае яшчэ больш перашкод, але я смела пазіраю ўперад. «Пералез пярэднімі нагамі, пералезу і заднімі!» — як кажа Торба.

Шмат энергіі і дыпламатычнай лоўкасці прыйшлося мне ўжыць, каб пераканаць т. Сома ў неабходнасці даць загад аб канфіскацыі ўсіх гэтых рэчаў. Я паказваў дэкрэты, статуты, абежнікі. Урэшце даручылі міліцыі зрабіць канфіскацыю.

У гр. Сандрыгайліхі ніякага старасвецкага пісталета не знайшлі, затое адшукалі каля гумна нейкую дзіўную прыладу, прызначэння якой ніхто не ведае. Не то бамбамёт, не то агнямёт, не то мінамёт. А нейкі ветэран імперыялістычнай бойкі сказаў нават, што гэта свечка генерала Махныткі, ракета такая. Сама Сандрыгайліха гаварыла:

— Няхай мае і ногі адсохнуць, і рукі адломяцца, і валоссе павылезе, калі я ведаю што-небудзь!

Андрэй Выбейдух у платаколе падпісаў:

«Апрача саманавейшых кніг, ніякіх старалатынскіх не маю і, як радзіўся, не меў.»

А Злыбядуха Багдан даў паказанне:

— Я загаварваю людзей і жывёлу без ніякіх кніг, і за ўсё сваё жыццё ў мяне не знойдзена ніякіх кніг. Я і не ведаю, што яны такое.

Мамон упарта даводзіў, што грамадзяне хаваюць гэтыя каштоўныя рэчы ў суседзяў.

Прыйшлося павальнаператрусіць усіх грамадзян. Гэта выклікала небывалае і нечуванае ажыўленне ва ўсім грамадскім жыцці вёскі. А калі да гэтага далучылі яшчэ канфіскацыю славутых абразоў, дык грамадзяне зусім ашалелі. Фанатычна настроеныя жанчыны ледзьве не пабілі мяне, калі я ішоў па вуліцы.

Т. Сом, як толькі дайшлі да яго чуткі аб гэтым, паклікаў мяне ў габінет і насеў.

— Што ты робіш? На якога д'ябла патрэбна табе барахло гэта?

— Гэта пытанне вельмі важнае! — з гонарам адказаў я. — Гэтыя рэчы маюць усесаюзнае значэнне!

— Дурыла ты ва ўсесаюзным маштабе! Паглядзіш на цябе, здаецца, нічым прырода не пакрыўдзіла. А толькі розум нейкі дзівацкі!

І загадаў зараз жа спыніць кампанію.

## IX. ТОНКАЯ МЕХАНІКА

А далей падзеі разгарнуліся шалёным тэмпам. Мы склікалі нараду па культпрацы ў раёне. Былі прадстаўнікі ад мясцкомаў, школ, жанаддзела, райкома, камсамола. На тэму аб спосабах ажыўлення культпрацы даклад зрабіў я. Удзельнікам нарады я прапанаваў:

— Неабходна ў нардоме правесці шэраг лекцый на жыватрапетныя тэмы!

— Заснаваць гурткі пры клубах, асабліва рэкамендаваць два гурткі: упартай самаадукацыі і гурток па вывучэнні перспектыў!

— Увесці ў практыку культпрацы індывідуальныя даклады паасобных сяброў прафаб'яднанняў. Сутнасць іх: таму ці іншаму сябру ў абавязковым парадку прапануецца зрабіць даклад агульнаму сходу аб сваёй грамадскай, савецкай і сямейнай чыннасці за вядомы перыяд!

— У планавым парадку правесці па вёсках абгаварэнне двох дакладаў: аб Сун Ят-сене і аб юрыдычным ці фактычным шлюбе.

Прапановы былі прыняты. Спрачаліся толькі аб індывідуальных дакладах і даручылі, як першую спробу, на бліжэйшым агульным сходзе заслухаць такі індывідуальны даклад. Нарада вызначыла тэмы папулярных лекцый і вылучыла лектароў. Мамону даручылі лекцыю «Аб стварэнні свету», мне — «Аб гангрэнах нашага часу», т. Домне — «Аб ролі жанчыны наогул і ў прыватнасці», настаўніку Гылі — «Аб рэлігіі, як стадыі масавага шалёнства».

Калі абмяркоўвалі пытанне, каму ж даручыць гэты індывідуальны даклад, я высунуў кандыдатуру Ліна і Крэйны. Гэтыя кандыдатуры выклікалі агульнае здзіўленне, хацелі адхіліць іх, але я лоўкім чынам замацаваў

за імі. У мяне ў галаве ў гэту хвіліну варушыўся цікавы план помсты і Ліну і ёй, Крэйне.

Не магу я забыцца на яе. Гэта вышэй мае прыроды. Як Гарачы спявае ў сваім рамансе:

Лягу спаць я на белай ложы,
Каханне спаць мне не дае!

У апошні момант дзяўчына вельмі наруглівай зрабілася. Робіць усё насупор мне. У сваім пакоі вельмі гучна, выклікаюча смяецца. Літаральна кажучы — іграе на струнах мае душы! Калі я загавару з ёю, чым-небудзь зачэпіць за жывое мяне, у вочы рагоча, як трохгадовая жаробка.

— Калі ж ты такую лінію вядзеш, смазлівая кан'юнктура розных частак цела, дык і я ж давяду табе цверж свае натуры! — зларадна думаю я, ідучы з нарады.

Праз тыдзень прызначылі агульны сход. На абвестку яго занеслі лекцыю Мамона і індывідуальны даклад Ліна. Сабралася шмат народу, што і клуб не змясціў усіх. Прыйшлося адчыніць дзверы і з вуліцы слухаць.

Мамон прыйшоў і нават не ведаў, што яму далі даклад — лекцыю. Т. Мілёнак сказаў:

— Праз 10 хвілін твая лекцыя, т. Мамон!

— Мая лекцыя! Аб чым?

— Аб стварэнні свету.

— Дзіўна!.. Нічога не зробіш! Добра! Што-небудзь скажу!

І знайшоў што сказаць. Нават развесяліў.

А вось калі чарод дайшоў гаварыць Ліну, той быў вельмі збянтэжаны. З пуду пачаў гаварыць у нос, часта ваду піў і нёс нейкую лухту, нявытрыманую на ўсе 100 проц.

К канцу свайго даклада, Лін увесь пад пенаю стаў. Я ўзброіўся блакнотам і даў яму запытанні: як ён праводзіць свой вольны час, дзе бывае, куды ў госці ходзіць, у каго ён быў 15, 18, 23 і 25 чэрвеня, якія яго адносіны да жанчын наогул і да супрацоўніцы РВК т. Шуфер Крэйны ў прыватнасці, што адчувае ён, калі сядзіць побач з Крэйнай Шуфер, і, урэшце, як выконвае т. Лін свае абавязкі перад сям'ёй.

Другі, больш устойлівы індывід, магчыма, і даў бы мне належны і рашучы адбой, але Ліна я захапіў неўспадзеўкі, і ён яшчэ больш замітусіўся. Толькі цяпер ён зразумеў, што гэта я навапіў на чалавека гэты неда-

рэчны для Ліна даклад. Лін глядзеў на мяне, як выспа, як звярына затуканая.

Крэйна сядзела чырвоная, як каліна ўвосень, не падымаючы вачэй угору.

Я востра перажываў перамогу. У спрэчках сказаў:

— Наш абавязак звярнуць увагу на жыццё і паводзіны сваіх таварышаў. У іх жыцці ёсць гангрэны, якія трэба выразаць, знішчыць, не даваць развівацца. Мы павінны сістэматычна правяраць становішча працы на нашых вузлавых вучастках працы. Трэба ў кожнага праверыць якасць працы, яе змест. Праца павінна быць творчая, свядомая, не такая, як у т. Ліна. Ён нават не ведае, дзе быў, што рабіў, жыве без тэорыі, без перспектыў. А мы павінны памятаць, што без тэорыі чалавек лезе ў балота. Т. Лін не толькі сам гэта робіць, але цягне ў балота і другіх. Мы павінны дзерГануць яго і сказаць: «Т. Лін, прыйдзі ў сябе, ты паўзеш па гніламу шляху распусты!»

Лін не дачакаўся заключнага слова:

— Здахата на ўсіх на вас! Чаго ад мяне хочуць. Яшчэ ж нічога не было! Свішчу я на ўсе гэтыя самасуеўскія запытанні, прапановы, парады. Якая яму справа, дзе я быў? Дзе быў, там няма; куды прыйшоў — там ёсць! Усюды нос свой утачыць хоча! Якая яму справа? Кожны чалавек сваім стылем жыве! Тут, таварышы, асабістая глеба, што ён прычапіўся да мяне! Ён закахаўшыся ў Крэйну Шуфер, дык з хворай галавы валіць на здаровую.

— Гэта не факт! — пачырванеўшы, закрычаў я.

— Гэта не факт, а фактар! — сказаў Лін.

Надзіва знайшліся людзі, якія пачалі абараняць пазіцыю Ліна. Супроць мае лініі выступілі тэлефаністы Свердзялюк, тэлефаністка Горбік, Зоя Люсарэнка. А самае непрыемнае на гэтым сходзе было тое, што адзін таварыш з Менску, які рэвізаваў РВК, выслухаўшы нашы спрэчкі і даклады, заявіў:

— Толькі злачынная фантазія можа прыдумаць такую нуду, глупства і дзікунства. Я прапаную кароткую рэзалюцыю — аддаць т. Самасуя таварыскаму суду за такія даклады, за такую культпрацу!

Я не пабаяўся, што ён з Менску, і супакойна сказаў:

— Гэта — ініцыятыва прафбюро, я толькі выконваю яго даручэнні!

Менскі таварыш абстрыкаўся. Але страшэнны тлум

узняўся на сходзе. Замужнія сямейныя жанчыны прынялі мой бок і з пагардай глядзелі на Крэйну, якая разбівае сям'ю Ліна, а ўся моладзь рашуча выступіла за Крэйну і не саромячыся ў вочы гаварыла мне, нібы я сваімі ганебнымі ўчынкамі і прыдзірствам узмацняю шэрагі мяшчан. Нехта нават прыкруціў электрычнасць, і тады другі правакатар пусціў у мяне скруткам паперы. Гэтыя жарты мне не спадабаліся. Я плюнуў і хутчэй выйшаў з клуба і паляцеў дамоў.

На плошчы мяне дагнаў Лін, ішоўшы падпашку з Крэйнай. Нахабна загаварыў штучна-добрым голасам:

— Я раю вам, т. Самасуй, жаніцца! Гэта для вашай асобы неабходна, вы сталі б больш супакойнымі, не рабілі б такіх дураскокаў, як сёння, а галоўнае — дурні не звяліся б на свеце!

Я фурыёзна падскочыў да Ліна, схапіў яго за грудзі і нічога лепшага не прыдумаў:

— Ты паскуднік, цэнтральны гад!

Лін моўчкі схапіў мяне за рукі, крыжом перакруціў іх і пры ліхтарным свеце насмешліва глядзеў у мае вочы.

— Я запішу табе гэта крывавымі літарамі! — вырываючыся з яго рук, сказаў я, адчуваючы, што ён мацней за мяне і ўжыць цяпер вулічную фізкультуру будзе для мяне небяспечна.

## X. СМЕРЦЬ МІЛЭДЗІ

Незадача не прыходзіць адна, а заўсёды цягне за сабою шэраг іншых. Цяпер я хацеў бы, каб усяго гэтага не было: супакойна жылося б, і жывот лепш варыў бы! Цяпер жа літаральна паносная гісторыя! Усе глядзяць на мяне, як на пошасць якую, ледзьве пальцамі не тыкаюць.

Я і сам не ведаю, які чорт лысы падштурхнуў мяне прыняць удзел у гэтай шалёнай аблаве на беспрытульных сабак!

Праз два ці тры дні пасля апісаных вышэй падзей прыходзіць да мяне ў РВК старшыня саюза паляўнічых т. Дулянок і кажа:

— Трэба як мага хутчэй зрабіць аблаву на сабак, аб якой, памятаеце, мы з вамі гаварылі. Тады прыйшлося адкласці. А цяпер іх столькі набегла, што жудасць бярэ.

Тэрарызуюць насяленне. Есць выпадкі шалёных. Далей марудзіць нельга.

— Рабеце, — кажу я. — Нічога не маю супроць, нават вітаю. Толькі гэта не з мае кампетэнцыі. У мяне культпраца.

— Добра вам гаварыць: рабеце! У нас няма кіраўніка, каб правесці гэту складаную аперацыю.

— А вы? Старшыня павінен ведаць, як арганізацыйна аформіць аблаву!

— Я нават і страляць не ўмею, — прызнаўся ён. — Мяне высунулі, каб я праводзіў пэўную лінію. А вось вы, як усе кажуць, можаце зварганіць усё гэта ў 5 хвілін.

— Не ў пяць. Але мне няма часу.

— Дык гэта ж не ўдзень будзе, а на золачку, як толькі развіднее, калі сабакі...

— На зарэ ты яе не будзі, — сказаў я меланхольна, успомніўшы чорныя вочы Крэйны. Не, не і не! Не хачу я гэтай сабачай какафоніі! У мяне вушы будуць балець.

— Т. Самасуй! У нас няма іншага выхаду, толькі прасіць вас! Вы і страляеце добра і найлепшы арганізатар.

Так падмаўлялі яны мяне. Прызнаючы мяне найлепшым арганізатарам, яны лілі ваду на млын майго гонару і ўжывалі лоўкі падхалімаўскі метад. Я толькі цяпер пачынаю бачыць усе гэтыя спрынжыны. Магчыма, Дулянка падгаварыў Лін, каб чым-небудзь дыскрэдытаваць мяне альбо замарыць грамадскай чыннасцю.

Пасля доўгіх размоў я даў згоду. Я накідаў план атакі на сабак, вызначыў на плане мястэчка пункт для кожнага застрэльшчыка, вылучыў ударныя адзінкі, запрапанаваў мець двох санітараў на выпадак ранення і г. д. Я прадбачыў усё.

Па дадзеных мясцовай статыстыкі, такіх сабак было не менш 73 асоб — лічба ў нашых умовах жудасная.

У склад нашай застрэльнай дружыны ўваходзілі, апрача Дулянка і мяне, які атрымаў вярхоўную ўладу, яшчэ 7 міліцыянераў, на чале з начмілам Какоцькам, начпошты Белабрыська, настаўнік Ігнат Міхайловіч, камсамолец Дусік, настаўнік Сашок і іншыя сябры саюза паляўнічых, усяго лікам да 30 асоб.

Перад аблавай была нарада, на якой падрабязна разглядалася баявая задача і кожнаму было дадзена пэўнае заданне.

Аперацыя праходзіла бліскуча, як па нотах усё ігралася. Галоўны ўдар мы нанеслі каля местачковай бойні, дзе звычайна ў гэты час бадзяюцца, задраўшы хвасты, сабакі.

Палажыўшы там каля дзесятка забітымі, мы галоўную сабачую масу пагналі па вуліцы мястэчка, дзе іх чакалі застрэльшчыкі. І вось узнялася такая страшэнная страляніна, што абудзіліся грамадзяне. Іх спалоханыя твары высунуліся ў вокны і крычалі: «Ай, ратуйце! Рэжуць!»

Мы супакойвалі народ як умелі, і некаторыя санітары нават давалі валяр'янавыя кроплі — так добра ўсё было прадбачана.

Толькі аднаго я не прадбачыў. Калі ў стратэгічным захапленні я бег па Бальнічнай вуліцы, дык каля мундома № 5 на мяне накінулася нейкая жоўтая сучэнцыя і, ні слова не кажучы, пачала шкумардзіць мае зусім яшчэ новыя штаны. Яна такія вострыя зубы мела, што праз мінімальна кароткі момант адной штаніны як не было. Я трэснуў яе па сабачай мордзе. Тады яна з нечуваным гавам укусіла мяне за абедзве лыткі і нават адарвала ладны шматок мяса.

Я ледзьве не страціў прытомнасць і нечалавечым голасам зароў:

— Ратуйце! Паміраю! Шалёны сабака!

Я галасаваў што быяо моцы, а яна яшчэ з большым імпэтам ірвала мяне.

Тады, кіруючыся нейкім інстынктам самазахавання, я бахнуў у галаву ёй. Сучэнцыя цяўкнула і скончыла жыццё.

Я перавёў дух, прысеў на лавачцы і хацеў клікнуць санітара, каб ён ёдам мяне памазаў, ці што. Сабака яўна быў шалёны.

Раптам дзверы адчыніліся, выскачыў ускалмачаны Лін і, пабачыўшы здарэнне, не сваім голасам закрычаў:

— Што ты зрабіў, гад? Нашто ты забіў яе? Я ж цябе самога прыкончу!

Лін кінуўся да сабакі і, падымаючы яго нежывое цела, сумна гаварыў:

— Мілэдзі, Мілэдзечка! За што ён цябе! Што ты яму, няшчасная, зрабіла? Кроў гаду на вочы наступіла! Вось яны, крывавыя літары!

Лін схапіў нейкую даўбешку і кінуўся да мяне. А я накіраваў стрэльбу прама ў яго галаву. Гэта мела эфект.

Лін перапалохаўся і, як агонь, пыхнуў праз прасла.Ералязаючы, зачапіўся за цвік, штурмануўся аб зямлю і разарваў штаны.

Кроў цурком лілася з мае нагі, і трэба было ратавацца. Хоць сабака і дабраякасны быў, але ўсё бывае. Можа, ён толькі-толькі ашалеў!

Я выбыў з шэрагаў застрэльшчыкаў. Дружына засталася без кіраўніка. Праўда, аперацыя не спынілася і мела здавальняючыя вынікі (было забіта 20 экземпляраў — працант значны), але развіталіся з жыццём некаторыя сабакі, якія нічога агульнага не мелі з беспрытульнасцю і загінулі за сваю салідарнасць.

На мяне некаторымі грамадзянамі была пададзена скарга т. Сому і ў нарсуд. Такім чынам, мяне ў два забоі пачалі біць. Бясспрэчна, усё гэта падвухрыў Лін. Сом паклікаў мяне і зноў наваліўся:

— Які ты вапрук! Дзе ні павернешся і — шкоды наробіш. Зноў на цябе нездаволены. І адкуль у цябе юр гэты? Жаніўся б ты, Самасуй, можа, тады было б куды энергію пхаць!

— Я, т. Сом, не хацеў у гэту гісторыю ўлязаць. Мяне гвалтам уцягнулі. Апрача таго, я шмат пацярпеў! Вось бачыце!..

— Ведаю, ведаю. Трэба было б цябе не так яшчэ! Трэба было б табе...

Я выйшаў з габінета і, нягледзячы на боль, які адчуваўся ў назе, упарта працаваў увесь дзень. Думкі самыя невясёлыя раіліся ў маёй галаве. Я праклінаў сябе, што «чырвонымі літарамі» адпомсціў Ліну, забіўшы яго сабаку.

— Прарок! Скула мне ў бок! — касціў я сам сябе.

## XI. ДУШ!

За смерць сваёй Мілэдзі Лін распачаў планавую помсту. Кожны дзень у РВК ён соты раз апавядаў пра трагічнае забойства сваёй сучкі.

— Якая разумная была мая Мілэдзі! Разумней за некаторых людзей. Як добра яна бараніла сваё жыццё! Усе штаны яму ў мэтлахі разнясла, за нос, за вуха, за ногі ўкусіла. Няшчасная! Што ты зробіш! Гэта ж не чалавек са стрэльбай! Чым яна сябе абароніць! І такога ні ў чым не павіннага сабаку забіць!

Так гаварыў за сценкай Лін.

А пасля абеду ён прыходзіў да Крэйны. Прыходзілі і другія галдадрымы, мае ворагі. Усе яны садзіліся на лавачцы каля саду, супроць майго вакна, і Лін зноў пачынаў апавядаць пра геройскую смерць сваёй сучкі. Тут ён яшчэ больш дадаваў: нібы яна мяне скусала ўсяго і спераду і ззаду, нібы я тры разы страляў і ўсё не пападаў. Лін так рассусоліваў гэту гісторыю, што немагчыма было ўтрываць. Адзін раз я высунуўся ў вакно і закрычаў:

— Брэшаш ты, паганая рыба, не так усё было.

Усе нахабна засмяяліся. Гэта вывела мяне з раўнавагі. Я зноў пачаў шукаць моманту, каб адчапіцца ад Ліна.

Крэйна канчаткова адмежавалася ад мяне. Не хацела і слова сказаць мне, хоць я асабіста ні словам, ні пальцам ніколі не пакрыўдзіў дзяўчыну. Яе раўнадушша распаляла мяне. Яе вобраз сніў я кожную ноч, хоць, па праўдзе сказаўшы, сон не браў мяне. Перад самым светам з пагулянкі прыходзіла Крэйна, яе праводзіў Лін. Яго крокі чуліся пад вакном, і мяне ахапляла звярыная лютасць.

«Чаму я прычапіўся да Крэйны? Няўжо без яе мне свет зачыніўся?» — часта думаў я і, каб забыцца на Крэйну, маляваў яе ў сваёй думцы ў самым агідным стане, у самым неэстэтычным фізіялагічным працэсе.

Нічога не дапамагала. Я і кахаў яе і люта ненавідзеў.

У гэты час пажарнікі наладзілі начныя манеўры. Мне хацелася рассеяць свае думкі і паглядзець на гэта збоку. І вось ноччу, калі людзі паўспаліся, пажарнікі забілі сігнал. Як маланка, усе яны падняліся на ногі. Адным махам запрэглі коней у таратайкі, напоўнілі бочкі вадою, прыладзілі куды трэба драбіны, забралі кішкі, насосы і з грукатам накіраваліся па вуліцах. Але куды ехаць і што рабіць? На гэтае пытанне не было адказу ў плане.

І вось тут мяне нейкая шалёная муха ўкусіла. Я прапанаваў паказальнае тушэнне пажару правесці на мундоме № 5.

— А там ніхто не жыве? — запыталі.

— Здаецца, адзін чалавек жыве, але ў самым заднім кутку, дык ён і не пачуе нічога. Ды і дах там зялезны якраз.

Такім чынам уся кавалькада з форсам пад'ехала да гэтага дома. Праз хвіліну залезны дах мундома abліваўся вадою, прыладжваліся драбіны, і па іх, як чэрці, лезлі пажарнікі. Тлум быў грандыёзны. Я стаяў, заклаўшы рукі, і з маральнай уцехай глядзеў на гэта пекнае з'явішча.

Раптам вакошка ў доме адчынілася, на хвіліну высунулася галава Ліна, зноў схавалася, а ў пакоі пачуўся жаночы голас, і як здалося мне, голас Крэйны. Як забілася сэрца маё! Я не мог супакойна развважаць, схапіў кішку і пачаў абліваць не толькі дах, але і вокны, і сцены. Я нічога не чуў, нічога не бачыў.

Я прыйшоў у сябе толькі тады, калі ўбачыў у начной сарочцы азвярэлы твар Ліна. Ён з кулакамі накіраваўся ў мой бок. Тады я, нядоўга думаючы, з галавы да ног абдаў яго вадою і гэту аперацыю спыніў толькі тады, калі Лін рэтыраваўся. На змену яму з чапялой у руцэ вылецела нейкая мясёная жанчына і прымусіла ўсіх нас у баявым парадку пакінуць пазіцыі. Як пасля даведаўся, гэта была жонка Ліна, якая перад гэтым нечакана прыехала дамоў і спыніла такім чынам залёты свайго бугайчыка.

Цяпер супроць мяне кампанія ўзнялася. Кажуць — я падарваў свой аўтарытэт. Т. Сом шукае прычыны, каб мяне прыстойна спіхнуць. Лін напісаў (думаю, што ён) карэспандэнцыю ў газету, дзе падрабязна змясціў маю біяграфію і маю чыннасць за апошнія 3 месяцы. Факты ўсе ўзяты з жыцця, але як яны пададзены, як асветлены, як ілюстраваны і каментараваны? Усё пададзена пад злачынным сосам, каб знішчыць мяне. Я таксама не маўчу. Таксама пішу ва ўсе газеты і даводжу: Лін ёсць растратчык, распуснік і белагвардзеец, а Крэйна ёсць Афелія, якую трэба накіраваць у Салавецкі манастыр.

Але ад усяе гэтай калатні ў мяне лядашна на сэрцы. Думаю спыніць сваю культпрацу і ўзяцца на зямлю. Гэта мяне супакойвае, і я не вельмі турбуюся:

— Ат! пройдзе ўсё, а я застануся.

*Скрутак другі*

## I. ЖЫЎ ЧАЛАВЕК, ЖЫВЕ ЯГО ВАНТРОБА!

Папярэдняя інтрыганцкая фаза развіцця, у якую ўступіў я, дзякуючы напружанай барацьбе з бузацёрам і свістулянтам Лінам, вельмі моцна грукнула мне ў галаву і наскрозь пракалола ўсю маю істоту. Тая склочная культура, якую развёў вакол мяне Лін, вельмі знясіліла мяне. Я хацеў ужо адбой біць. Хацеў кінуць-рынуць усё ды асесці на бацькавай гаспадарцы.

Але раптам, нечакана для мяне, тэмп шалёнай барацьбы з Лінам значна знізіўся, і падзеі наяўна пайшлі ў мой бок.

Цяпер, калі я пішу гэты другі скрутак сваіх запісак, мая пазіцыя больш-менш умацавалася. Зразумела, і цяпер небасхіл майго грамадска-вытворчага жыцця яшчэ не зусім без хмарак. Небяспека яшчэ засталася. Той антысамасуйны блок, які стварыў Лін, час ад часу дае сябе адчуваць. Гэта прымушае мяне рабіць неверагодна ўдалыя манеўры і своечасова разрываць павуцінне варожых мне персанажаў і арганізацый.

За мінулы перыяд свае дзейнасці я дабіўся значных дасягненняў. Цяпер я досыць прыкметны працаўнік акруговага маштабу. Я ўжо не жыву пад знакам вадалея. Жыццё маё цяпер арганізацыйна афармавалася. У мяне добрая кватэра з цэнтральным ацяпленнем, электрычнасць, мармуровая купель з дожджыкам, добры сад, а ў ім пышныя кветкі, якія разносяць духотны пах і напаўняюць увесь арганізм салодкімі, бязмежнымі марамі. Я вельмі ўпадабаў сваё цяперашняе жыццё і гляджу на яго з «псіхалюбаваннем». Праўда, нялёгка далося гэта!

Я праявіў максімальнае напружанне сіл і шмат творчай энергіі сканцэнтраваў, каб узняцца на гэту вышэйшую стадыю ў развіцці грамадскага жыцця. У далейшым мне трэба будзе адпаведным чынам зафіксаваць гэты свой сацыяльны і матэр'яльны стан і дабіцца далейшых поспехаў.

Пэўная доза асцярогі, якую набыў я за пройдзены адрэзак часу, ёсць парукай, што тыя цяжкасці, якія сустрэнуцца на маім шляху, будуць мною пераможаны. Яны не ліквідуюць майго грамадскага «я».

Часта прыходзіць мне ў галаву прыказка Торбы:

— Жыў чалавек, жыве яго вантроба!

Цалкам далучаючыся да гэтых слоў, я досыць аптымістычна гляджу на далейшае развіццё падзей.

Я добра ведаю, што кашаль без колік нікуды не варты (Торба) і што трэба выпіць да самага донняк келіх гарчышнага жыцця, толькі пры гэтай умове зразумееш і адчуеш слодыч існавання наогул.

Вось прадпасылкі майго аптымізму. Нядаўна мяне канфідэнцыйна інфармавалі ў цэнтры:

— З восені мы маем намер перакінуць цябе сюды на вельмі адказную працу. Згодзен?

Мяне гэта вельмі ўсхвалявала і выклікала нястрыманае маральнае здавальненне. Гэта прапанова найлепшы сведка маіх шматлікіх дасягненняў. І я даў генеральную згоду на перакідку.

Спяшу падкрэсліць: у нашым жыцці няма яшчэ выстарчаючай планавасці. І мне немэтазгодна браць прыклад з таго цыгана, які круціў сонцам, альбо праяўляць нездаровае імкненне скусці цецерука, калі яшчэ не злавіў яго. А таму я да часу маўчу і не праяўляю публічна свае здаровае ў прынцыпе экспансіі.

Замест разважанняў аб далейшых хвалюючых перспектывах я лепш занатую падзеі, якія адбыліся ў Шапялёўцы пасля той ганебнай баталіі з Лінам, што ацвярэзіла мяне і пераканала ў неабходнасці мэтавай цвёрдай устаноўкі і планавага прынцыпу ў маёй далейшай чыннасці. Занатаваць падзеі наспела неабходнасць. Бо калі іх разглядаць у цэнтральным аспекце, дык, магчыма, яны і не маюць першараднага значэння, але для мястэчка Шапялёўкі і раёна іх значэнне можна параўнаць з геалагічным пераваротам.

А для мяне пройдзены этап мае выключную гістарычную цікавасць. Разгортваючы ў сваёй галаве ход мінулага жыцця ва ўсіх дробязях фактычных абставін, я бачу:

— Не малую ролю ў культурнай рэвалюцыі, што адбывалася ў Шапялёўцы і мела ўдарна-кампанейскі характар, адыграла і мая персона. Справу, якую гістарычны лёс усклаў на мае плечы, я выконваў так добра, як п'яўка кроў ссе!

(З развітальнай прамовы, словы Мамона.)

Кароткая заўвага. Тры чалавекі ў Шапялёўцы зрабілі ўплыў на маю фразеалогію і дапамаглі фармаванню маіх мастацкіх пачуццяў.

Гэта трыяда: суддзя Торба, загадчык нардома пясняр Гарачы (Пушкінзон) і настаўнік Мамон.

Што датычыцца першага, дык у самым пачатку мінулага лета я ў садзіку каля сваёй кватэры (дзе і Крэйна жыла!) знайшоў няхоццю кінуты блакнот Торбы. Там былі запісаны яго штодзённыя прыказкі з прычыны розных актуальных здарэнняў. Гэта быў скарб для мяне. Я тады некалькі разоў перачытваў гэты помнік эпохі. Пасля з-за гэтага блакнота, дзякуючы маёй нявытрыманасці (язык — мой вораг!), увосень была праведзена ўдарная кампанія. Быў наладжан паказальны грамадска-таварыскі суд над Торбай. Аб гэтым у запісках я мімаходам скажу. Цяпер хачу падкрэсліць адно:

— Нягледзячы на тое, што на судзе я фігураваў у якасці пракурора і паводле дадзеных мне вышэйстаячай арганізацыяй дырэктыў сурова выкрываў антыграмадскія погляды і думкі Торбы («Як сабака віляў у чаўне!» — гаварыў мне пасля Торба, які не вельмі злаваўся на мяне) і разышоўся з былым прыяцелем ва ўсіх напрамках, але Торбаў блакнот я ціхаматна перапісаў сабе на ўспамін і часта пад нос мармычу сабе неўміручыя прыказкі Торбы. Часта-густа яны для мяне, як рэлігійны опіум для народа, як валяр'янавыя кроплі для нервова-стомленых, замардаваных людзей. Магутная моц слова!

Пра песняра Гарачага скажу: яго шалёная фантазія, прызнаюся, троху скіўнула і мяне з розуму. Яго паэмы, вытрыманыя ў стылі рэвалюцыйнага трубадурства, з'яўляюцца яскравым доказам, як вырасла за гэты час наша паэзія, як выраслі масы, якія культурныя турботы апаланілі іх думкі ў наш час. Я паддаўся ўплыву яго паэзіі, як чулы барометр.

Пра Мамона будзе ў далейшым сказана.

А цяпер, пасля пададзеных заўваг, я пераходжу да справы.

Шпарчэй скачы, маё пяро, і, нічога не хаваючы, чорным насеннем зафіксуй мінулае!

## II. ВЫРАЎНАЦЬ ЛІНІЮ!

Аднойчы, калі цвілі ліпы і ў паветры духотна п'яным і гарачым плылі струмені ліпнёвага паху і квітнеючых сенажацяў, я стаяў на мосце і глядзеў, як паціху бегла

вада невялічкай рачулкі. Мост быў пад горкаю, каля могілак за мястэчкам. Лог ля рэчкі бялеў увесь рамонамі.

Цяжка было на сэрцы. Газетная кампанія, узнятая супраць мяне Лінам, выклікала ультрафіялетавы настрой. Я глядзеў на белыя, бязвінныя рамоны і думаў:

> Ой, рамон-зелле, рамон-зелле кудравае!
> Скажы мне, рамон-зелле,
> Айдзе мая доля ліхая
> Бітым шляхам валачэцца?

Ніякага выразнага адказу ад расліны я не атрымаў. Дый што мне параіла б няшчасная кветка, якая сама, мусіць, думала, як праз 2 ці 3 дні гострае джгала касы дзікунскі насмяецца з прыгажосці прыроды ў імя харчова-утылітарных запатрабаванняў?

Доўга думаў я над рэчкаю (да рэвалюцыі яе звалі Сіняй рэчкай), а калі дамоў ішоў, у галаве маёй быў цвёрда здуманы і добра сканструяваны план. Як відаць, мяне не так лёгка зламаць. Жыццё ў мяне пырскае з усіх каморак арганізму. Як відаць, бліскучае, гарачае сонца, сіняе, бясхмарнае неба і лёгкі, лагодны ветрык супольна апрацавалі маю думку ў пажаданым напрамку і стварылі мой план. Ад песімізму не было і следу.

Змест плана: праз 3 ці 5 дзён я афіцыйна падаю заяву аб вызначэнні мне месячнага тэрміну для адпачынку. Дамоў да бацькі не паеду. Адпачынак правяду тут, у Шапялёўцы!

Кожны мае рацыю прызнаць гэты план дзівацкім. Але калі лагічна да канца прадумаць усю мясцовую сітуацыю і разгледзець яе пад кутом барацьбы за вытрыманую лінію, дык больш разумнай пастановы нельга вынесці.

Я прызнаю, што ў першы перыяд свае шапялёўскае чыннасці з майго боку шмат было зроблена палітычна няверных крокаў. Неабходна хутчэй выраўнаць лінію і зноў заваяваць страчаны аўтарытэт. Вось асноўны стымул, які рухаў мною, каб застацца ў Шапялёўцы! З другога боку, усе зробленыя раней памылкі выплывалі з таго, што я не ведаў усіх умоў працы і на новай пасадзе з'явіўся, як Піліп з канапель. Праўда. Торба раіць:

— Трэба ўсюды торкацца, як Піліп з канапель! У гэтым сакрэт перамогі ў жыцці!

Але, на мой погляд, жыццё поўнасцю яшчэ не пад-

крэсліла правільнасць прыведзенай думкі. Мамон цалкам падтрымаў мяне:

— Табе, Самсон, патрэбна дэтальна пазнаёміцца з чатырма формамі савецкай працы наогул: з арганізацыйнай працай, вытворчай працай, тарыфна-эканамічнай і культпрацай. У працэсе штодзённай працы не лёгка гэтага дасягнуць. Заўсёды ў цябе ёсць бягучая праца, якую нельга ні прадбачыць, ні акрэсліць, ні падлічыць!

Я сказаў:

— Мне трэба, дружа Мамоша, супакойна праверыць і тэарэтычна ўдасканаліць асноўныя ўстаноўкі працы...

— А для гэтага трэба, як ты сказаў раней, тэрмінова ўзяцца за індывідуальнае вывучэнне кожнага шапялёўскага працаўніка ў мэтах належнай арганізацыі раённай культпрацы і планавага ахопу ёю розных пластоў насялення! — паспяшыў сказаць Мамон.

— Так, так! Толькі тут, наглядаючы як трэці элемент жыццё розных савецкіх устаноў, я адшукаю цэлы шэраг новых форм, рычагоў і метадаў карыснай і грамадскай працы наогул. Цяпер я добра бачу, што мы ў сваёй культпрацы часта ўжывалі несучасныя метады, і гэта выклікала такое непажаданае абвастрэнне суадносін!..

Праз 5 дзён я свой план поўнасцю правёў у жыццё. Мне далі месячны адпачынак. Адначасна з гэтым навальнічнае паветра, якое згусцілася над маёю галавою, нібы само сабой разрэдзілася. Неяк раптам усё ўлагодзілася.

Я зрабіў яшчэ адзін крок, які з'явіўся пераломным момантам. Я падаў заяву ў райком аб сваім шчырым жаданні працаваць у шэрагах партыі. Сакратар райкома т. Андросаў здзіўлена зірнуў на мяне:

— Гэта справа добрая, і, праўду кажучы, загадчык культаддзела павінен быць партыйным. Толькі не чакаў я... Нявытрыманы ты працаўнік. Часам такой лухты наробіш, што партыйцу ніякім чынам нельга даравадь...

— Я выраўнаю сваю лінію... Я хачу быць задаволеным вашым кіраўніцтвам на ўсе 100 проц.! — сказаў я.

— Добра, добра! Пабачым. Трэба, каб два камуністыя са стажам далі заручку...

Сакратар правёў са мною доўгую гутарку, падрабязна дапытваючы маё крэда і маю куррыкулю віту. На ўсе пытанні я даў падрыхтаваныя адказы. Пытанне ўскладнялася толькі тым, дзе я знайду вытрыманых даўгалет-

ніх камуністых, якія ведалі б мяне з добрага боку. Усе ж думаюць: я — паветраны чалавек, за мяне цяжка ручаць. Пасля доўгіх шуканняў у памяці я напісаў ліст камбату т. Арахвейчыку, з якім мы калісьці здалі белым 4 кулямёты, а самі ледзь-ледзь улалэхалі. У той час як я, так і ён з вялікай асцярогай ваявалі за сацыялістычную бацькаўшчыну і з нakіву разумелі адзін аднаго!

А цяпер як?.. Кажуць — Арахвейчык зусім змяніўся.

Так яно і ёсць! Праз тры дні прыйшоў ад яго ліст, які для мяне быў уважыстай маральнай даўбнёй...

«Тое, што ты надумаў, лічу найвялікшым сусветным глупствам. Партыя — не дзеўка, якую можна спакушаць бяскарна. Зарубі сабе гэта на тваім кірпатым носе!.. Які ты будзеш камуністы? Толькі смяшыць людзей будзеш! Кажучы фігуральна, цябе трэба каленам пад мяккія часткі штурхаць да сацыялізму!.. Ты, бачу, зусім не змяніўся і добраму не навучыўся. А трэба, трэба! Бо ў людзей дурні здыхаюць, а ў нас як з вады вылязаюць!..»

Гэты абразлівы ліст на 100 проц. атруціў мне два дні. Зноў у галаве заварушыліся здрадныя думкі. Зноў паўстала перспектыва завярнуць аглоблі фартуны на бацькавы гоні!

Два дні поўнай дэмаралізацыі! Трэба было на штонебудзь адважыцца!

На трэці дзень я схапіў ліст здрадніка Арахвейчыка, перачытаў $3^1/_2$ разы і ў мэтласі разнёс яго! Тады адразу лягчэй зрабілася ўнутры, быццам ліманаду выпіў. Нават засмяяўся і выйшаў на вуліцу. Я накіраваўся ў райком, каб узяць назад сваю заяву і сказаць:

— Т. Андросаў, я лічу сябе малакаштоўным элементам у шэрагах партыі і не стаю на вышыні камуністычнай свядомасці!

На вуліцы я пачуў вельмі цікавую размову дзвюх дзяўчынак, ішоўшых спераду за мяне. Адна з іх была з чырвоным гальштукам, чысценька апранута і гаварыла другой, у старэнькай, заношанай вопратцы:

— Ведаеш, Гэнька, я з табой больш дружыць не буду! Ты беспартыйная, а я партыйная...

— Ай, Ліда, не кажы так, а то я заплачу...

— Цяпер мне можна толькі з партыйнымі гуляць, а калі буду з табой, дык магу залезці ў балота і абрасці мяшчанствам!..

Другая дзяўчынка сумна павесіла галоўку...

Размова дзяўчынак падкрэсліла маю думку:

— Займаючы такую адказную пасаду, як мая, трэба быць партыйным. Няёмка быць беспартыйным!

І я прыняў цвёрдую пастанову:

— Няхай Лін укусіць сябе за вуха, а я буду ў партыі. Тады ён загаварыць са мною іншым тонам, будзе поўзаць, лісліва глядзець у мае суворыя вочы, будзе лавіць на ляту кожнае маё слова! Тады і рыбачка Крэйна зменіць свае халодныя адносіны да мяне. Я буду ў яе вачох разумным, прыгожым і цікавым! Лін не будзе больш пагражаць мне: я цябе ў таганрог скручу за смерць сваёй Мілэдзькі. Не ён мяне, я скручу яго! Тады рафінадная пыса не будзе ўжо ўсім і кожнаму даводзіць, што я бытавая з'ява, што ў кожным раёне БССР ёсць свой Самасуй.

З таго дню я цвёрда пачаў дамагацца партыйнай кандыдатуры, акуратна хадзіў на партыйныя сходы і праявіў вялікую актыўнасць. На сходах я заўсёды трымаў блакнот у руках і пасля кожнага даклада вусна задаваў вялікую колькасць пытанняў. Хутка я пачаў адчуваць, што мая вага расце, і трэба толькі замацаваць спрыяючы стан рэчаў.

У гэты час т. Сом паехаў на курорт, на Каўказ. Я блізка пазнаёміўся з Соміхай. Кожны дзень я знаходзіў прычэпку, каб зайсці да яе і пасядзець вечарам на ганку пад цянёвымі ліпамі.

Добрая яна жанчына, сакаўная! Гладка разабраныя на два фронты чарнявыя валасы, заўсёды чырвоная хустачка на галаве, як масліны, вочы, доўгія павекі, падатны на грубыя ласкі мясёны рот і ўся ў гарачых м'язах постаць здаровай вясковай жанчыны пад 30 год! Э-хохо! — як кажа Торба. Уся кроў мая хадуном хадзіла кожны раз, калі яна ціснула маю руку і ўсміхаючыся расчыняла поўны рот белых перламутраў.

Мяне цягнула да яе дзікае мужчынскае пачуццё, спрадвечны стымул працягу племя людскога. Зусім не тое з Крэйнай. Не толькі звярыны інстынкт быў падставай майго закахання ў дзяўчыну, але і нейкі зусім ценкі матэр'яльна магнэз. Хацелася схапіць яе, як пісклёнка, абшчапіць яе галаву і гладзіць, гладзіць, надрыўна стогнучы ад ласкі. Але аб гэтым я ўжо пісаў...

У Соміхі я сустрэўся з жонкай Ліна. Яна ў маёй асобе знайшла хаўрусніка супроць лінаўскага здрадніцтва.

Лініха часта гаварыла (як мы былі адны) пра свайго распуснага мужыка, пра Крэйну, якую клялася

зжыць са свету. Я ва ўсіх галінах інфармацыі спачуваў ёй.

Паводле слоў Надзеі, жонкі Ліна, апошні зусім выскрабся з сямейнага кола, пасля заняткаў некуды знікаў і варочаўся толькі тады дамоў, як развідняла. Адзін раз Надзея, усхваляваная, паведаміла мне:

— Гэта праклятая Крэйна галаву яму скруціла. Але і я пастаяла за сябе, за дзяцей! Як сустрэла іх разам на вуліцы (падсцерагла-такі), адразу трах яму поўху з аднаго боку, з другога, а яе за косы, за косы, ды аб зямлю! Шкада толькі, што не ўдзень было...

Гэты інцыдэнт лёг непраходнаю сцяною між рыбай і яго жонкай. Лін узяў 2-тыднёвы адпачынак і паехаў быццам на сваю бацькаўшчыну.

Толькі ўсе ўпарта гаварылі:

— Кінуў Лін і жонку, і Шапялёўку!

Хутка гэта спраўдзілася. Адзін раз сядзелі мы на ганку ў Соміхі. На імя Надзеі прыйшла тэлеграма. Бедная жанчына ўзняла ўгару рукі і застагнала, прадчуваючы гора. Лін тэлеграфаваў у мэтах згусціць фарбы:

«Супольнае жыццё немагчыма. Страшэнны галаўны боль валіць мяне з ног. Дахтары кажуць: яшчэ тыдзень сямейнага жыцця — і я скончу ўсе разлікі агрэсіўным паралюшам. Не шукай мяне, дай супакой».

Надзея страціла прытомнасць, дачытаўшы да канца гэтыя глыбока здрадніцкія словы, а я, як толькі жанчына зноў атрымала здольнасць хоць на 20 проц. чуць і разважаць, пачаў суцяшаць:

— Дарагая! Менш слёз і стогнаў сэрца! Не вы адна! Цяпер мужчынскае зладзейства бязмежна, і адзіны сродак ёсць для абясшкоджвання распуснікаў — гэта суд. Скарыстайце яго на ўсе 100 проц.! Цяпер, т. Надзея, не верце мужчыну, калі ён клянецца, хоць ком зямлі глынець з яйцо, як перасцерагае ўсіх жанчын пясняр Гарачы ў сваёй паэме «Кроў і зялеза». Праўда, скажу вам, т. Надзея, што паэма гэта цяпер ужо не актуальна. Яна напісана з эпохі, калі, як вам добра вядома, за фунт шчавелю плацілі мільён. Цяпер для нас гэта — ужо пройдзены шлях!..

Так супакойваў я разбураныя сістэматычнай здрадай Ліна нервы няшчаснай жанчыны, ахвяры мужчынскага звераломства!

На мястэчку толькі Торба паспрабаваў «зразумець» Ліна і абараніць прынцыпы вольнага кахання:

— Лін? Кожны з нас — лін. Кожнаму з нас перажванае нясмашна!

А ў мяне лядашна было на сэрцы. Крэйна не пакідала мае галавы і моцна там засела. Часта я думаў:

«Якая мне справа да таго, што Крэйну празмусціў Лін і выпіў да дна келіх дзявоцтва? Няўжо свет клінам сышоўся на Крэйне? Што яна мне? Яна сваю полавую волю аддала Ліну, гэтай адыёзнай рыбе? Што тут дзіўнага? Адзін любіў, другі кахаў, а трэці ўзяў! — так кажа Торба і мае рацыю. Каб Лін не закахаўся ў дзяўчыну, магчыма, ніхто і не прыкмеціў бы, што Крэйна — краля, якіх няма ў адміністрацыйных і этнаграфічных межах БССР».

Торба фармуляваў маё захапленне Крэйнай:

— Таму яна табе да ўпадобы, што Лін увіхаецца за ёю. У людзей так і бывае: тая карова малошна, якую воўк з'есць!

Такімі доўгімі разважаннямі спрабаваў я сябе, спрабавалі і людзі мяне адцягнуць ад Крэйны. Але гэта спроба не дала каштоўных вынікаў. Сэрца, як і раней, моцна грукацела пры думцы аб Крэйне.

Крэйна цяпер сумавала і, як знік Лін, нібы маскавалася ў пацыфізм. Нават са мною гаварыла некалькі дзесяткаў слоў у дзень і нічога не варушыла з мінулага. У працы яе сэрца падышоў нейкі пераломны момант. Міжвольны адыход Ліна (і магчымыя новыя зладзейскія залёты на новым месцы!) зрабіў на яе моцны ўплыў. Яна ні на кога не звяртала ўвагі і, прыйшоўшы пасля заняткаў, ухапіўшы якой-небудзь ежы, альбо адна, альбо з Зізем ішла на Лютнянскі шлях. А я з узрушаным механізмам сэрца, троху счакаўшы, услед за ёю ішоў за мястэчка, там каля могілак садзіўся над ровам, як анёл смерці, і пільна сачыў за хадой Крэйны. Я глядзеў у чыстае, дагараючае фарбамі поле, хацеў бачыць, ці шуміць дуброва зялёная лютнянская, ці зырчэіць дарога шырокая шапялёўская, ці ідзе, дробна ступае Крэйна, радасць мая недасяжная.

Позна вяртаўся я дамоў. У цемені вечара ўжо цяжка было распазнаць прадметы, асабліва кіруючыся маім дрэнным зрокам. І я часта гакаўся ілбом аб бярозы, асіны і дубы на могілках. Я наляпляў сабе значных памераў гузы, суцяшаючы сябе толькі адным:

— Не радзімае — сойдзе!

Часта боль ад гэтых прыгод быў непераносным, і

слёзы мае былі, як боб неўмалотны. Так пакутаваў я за Крэйну.

А тым часам жыццё ішло сваёю ступою. У гэты перыяд я яшчэ больш сышоўся з Мамонам, і нам абодвум канчаткова абрысаваліся асноўныя прынцыпы культурнай рэвалюцыі ў раёне. Гэта праблема запаланіла нас. І мы падрабязна абмеркавалі спосабы выканання трох лозунгаў нашага часу:

— Навуку ў масы! Мастацтва ў масы! Харазство ў масы!

## III. СОНЕЧНАЯ КАМПАНІЯ

Цяпер, халодным розумам аналізуючы мінулае, я канкрэтна бачу, што я з Мамонам шмат памылак рабілі, і часам зрывалі правільную ўстаноўку на заваёву шырокіх мас. Але ў той час Мамон так красамоўна, пераконваючы гаварыў, такія рэзоны за няўхільнае пашырэнне нашых ідэй прыводзіў, што толькі чалавек, пазбаўлены мінімальнай порцыі развагі і кансалідацыі крытычнай думкі, не прызнаў бы ідэі і метады іх афармлення адпавядаючымі моманту.

Перспектыўны малюнак нашай далейшай культпрацы быў такім захапляючым, што я хутчэй хацеў праявіць гераізм і звярнуць на гэта ўвагу Крэйны.

Пасля доўгага начнога абгаварэння з Мамонам усіх дэталяў культпаходу ў Шапялёўцы і ўзгаднення асноўных прынцыпаў кампаніі ў адпаведных органах (прафбюро, райком, інш.) мы канчаткова вызначылі сабе праграму чыннасці. Канечная мэта — прасунуць культуру ў масы. Для паспяховага правядзення гэтага лозунга ў жыццё Мамон лічыў неабходным спачатку даць фізкультуру масам. Яго фармулёўка:

— Мы павінны спачатку быць здаровымі, а пасля будзем мець права быць разумнымі.

Я спрачаўся з ім:

— Спачатку трэба кінуць навуку ў масы, бо народ пакутуе ад слабага развіцця мазгавых паўкуляў!

Мамон пераканаў мяне ў правільнасці свайго погляду, і мы першым этапам фізкультурнага выхавання мас намецілі арганізацыю салярыя каля Сіняй рэчкі.

На другі дзень мы правялі мабілізацыю грамадскай думкі наконт неабходнасці правесці гэта культурнае

мерапрыемства ў парадку ўдарнасці. Камсамольцу Дусіку, як самаму актыўнаму элементу ва ўсіх галінах працы моладзі, мы сказалі:

— Наш заклік да сонца, вады і паветра павінен быць здабыткам усяе камсамольскае і беспартыйнае моладзі, усіх працоўных індывідаў!

Дусік праявіў ініцыятыву і з быстрынёй маланкі склікаў сход камсамольцаў і пераросткаў-піянераў. На сходзе ён інфармаваў:

— Мы доўга шукалі такой формы масавай грамадскай працы, якая давала б карысць, здароўе і была для нас цікавай. Цяпер гэта форма знойдзена. Перад намі сонца, паветра, вада, а мы не ўзялі іх на рэмус, не прыцягнулі да адказнасці. Няхай яны працуюць нам, як мы працавалі панам!

Мамон у сваім слове намаляваў бязмежна шырокую перспектыву аздараўлення шапялёўскіх мас.

Крэйна таксама была на сходзе і ў піку мне крытыкавала наш план.

Моладзь аднадушна ўхваліла нашы тэзісы і пасля сходу вечарам правяла пампезную факельную праходку з лозунгамі за сонечную кампанію.

Такім чынам, мы ў парадку дэманстрацыі пачалі ўцягваць у кампанію насяленне. Кампанія ў самым пачатку дала ўжо добрыя вынікі. Мамон радасна гаварыў мне:

— Бачыш, нам толькі адзін дзень прыйшлося ўжываць кампанейскія метады вярбоўкі прыхільнікаў сонца, паветра і вады! Далей усё як па маслу пойдзе!

На другі дзень, як толькі мы з Мамонам а 9 гадзіне прыйшлі да рэчкі і абралі мясціну, каб распрануцца (цяпер гэта месца зрабілася ўрочышчам, усе яго завуць пожняй Самасуя), мы ўбачылі, што з усіх бакоў мястэчка з песнямі і без іх да рэчкі накіроўваецца моладзь. Праз мінімальна кароткі тэрмін усе пожні каля рэчкі былі як макам засеяны стракатымі групамі моладзі, а паветра густа напоўнілася іх тлумлівымі галасамі.

Надвор'е цэлы тыдзень было сонечнае, на небе ні хмаркі, і моладзь цэлыя дні ў трусох і без іх праводзіла ля рэчкі.

Канкрэтна выявіліся неабмежаваныя магчымасці ў развіцці гэтай культпрацы, і я прапанаваў Мамону і Дусіку, як арганізатарам сонечнай кампаніі:

— Нам не трэба звязваць формамі гэты грамадска

карысны рух, але неабходна ўсё-такі небывалы культурны ўздым мас уціснуць у межы закона.

— Як гэта зрабіць? — запытаўся Дусік.

— Трэба напісаць у Спортінтэрн, каб ён прыняў нашу арганізацыю! — адказаў Мамон.

— Арганізацыі яшчэ няма... — заўважыў я.

Мамон і тут знайшоўся. Схапіў шматок паперы і буйнымі літарамі вывеў:

— ШАЧ. Статут.

Мы нічога не разумелі. Які ШАЧ, нашто ШАЧ? Чорт ведае што!

Мамон растлумачыў:

— Наша арганізацыя будзе звацца ШАЧ. Поўны тытул: Шапялёўская асацыяцыя чырванаскурых.

— Добра! — сказалі мы з Дусікам у адзін голас. — Заўтра мы напішам у Спортінтэрн. Нам нельга марудзіць ні хвіліны! Нам жа трэба адшукаць матэр'яльную базу, бо выявіўся вялікі рост актыўнасці, і перад намі стаіць рэальная небяспека стыхійнага росту...

— Але! — сказаў Мамон. — Трэба будзе спыніць гэты стыхійны рост, ад стыхійнага росту нам трэба перайсці да якаснага, каб праца пайшла ўглыбкі.

Нам прыйшлося грунтоўна падумаць аб далейшых перспектывах гэтай формы культпрацы. Перад намі была пагроза вульгарызацыі нашай ідэі. Моладзь цэлы дзень праводзіла на сонцы каля рэчкі. Усе сенажаці і некаторыя засевы там былі бязлітасна стаптаны. Аднойчы ўранні прыйшоў я да рэчкі, зірнуў на сенажаці, на жыта, на грэчку — і жах ахапіў мяне. Маё былое сялянскае нутро запратэставала, але, раздумаўшы хвіліну, я махнуў рукой:

— Рэвалюцыя не бывае без ахвяраў!

У моладзі я заваяваў аўтарытэт. Над рэчкаю цэлы дзень вісеў галас, найвялікшы гармідар у свеце. Дзеці адарваліся ад бацькоў, ад хаты, ад гаспадаркі. Часта бацькі з дзягамі фурыёзна з'яўляліся на салярый і праганялі дзяцей дамоў, і па майму адрасу дазвалялі сабе надзвычайна абразлівыя словы.

Была для нас і досыць вялікая непрыемнасць. Сяляне арганізавалі мітынг пратэсту каля рэчкі. Старшынёй мітынгу быў Ахрэм Руды, які ўвесь цяжар пратэсту ўзваліў на мяне. Ад імя сялян ён патрабаваў, каб я, з'яўляючыся ініцыятарам гэтага сусветнага глупства,

сплаціў ім за збітыя сенажаці, склычанае жыта і зафэканую бульбу!

Быў самы разгар сонечных ваннаў, і я голы прымушан быў супакойваць несвядомыя масы. Не страціўшы раўнавагі, я ўзяўся ў бокі і, высунуўшы ўперад грудзі, упэўненым голасам пачаў разбіваць довады Ахрэма Рудага. Вось стэнаграма маіх слоў:

— Тав. Руды! Ты жорстка, фатальна памыляешся! Ты павінен грунтоўна ўлічваць агульнапалітычнае значэнне кампаніі за новы быт, якую праводзіць наша моладзь! Культурная рэвалюцыя, якая з'яўляецца ўдарным лозунгам нашага часу, патрабуе карэннай перабудовы нашага быту, аздараўлення ўсяго цела, прыгнечанага буржуазіяй і фашызмам... Без пралетарскай культуры цела не можа быць сацыялізму...

— Які гэта сацыялізм! — закрычалі сяляне і пальцамі тыцнулі ў мяне. — Вось які трахтар ты разгадаваў! Як бізун на сонцы ляжыш ды яшчэ смяешся з нас.

Я абразіўся і сказаў:

— Нашы сялянскія масы несвядомыя... Яны глядзяць на фізкультуру як на метад выламвання чалавека, як на фізвывіх, але той (тут голас я моцна ўзняў), хто выварыўся ў пралетарскім катле і закапціўся дымам фабрык і заводаў, той не будзе так несвядома, абстрактна гаварыць!

Я шырокім жэстам паказаў на сенажаці і сказаў абурана:

— Вам на тры рублі прынеслі шкоду, і вы такі галас узнімаеце? Сорам!

Ахрэм нахабна зірнуў мне ў вочы:

— Ты сядзіш у канцылярыі ды пяром скрыгаеш. Што ты ведаеш аб нашым гарапашным жыцці?

— Я сам селянін! —з гонарам заявіў я.

— Ты селянін? — пачулася некалькі галасоў, і пракаціўся аглушны рогат разбэшчанай масы.

— Ах вы, чортавы дзеці! — залямантаваў я, падбег да першага, якога ўбачыў, селяніна з касой, выхапіў з яго рук касу і ў адну хвіліну плаўна замахаў касой. Па-мойму, уся сялянская праца не мае сэнсу, і толькі касьба мне падабаецца — фізкультурная праца.

Я вярнуўся да групы пратэстантаў і пераможна пазіраў на іх. У вачох маіх грала актыўнасць і гераізм. Я нават не запыхаўся, хоць і быў вельмі злосным ад праяў некультурнасці і цемры. Я сказаў яшчэ раз:

— Нам трэба весці прапаганду агульнай культуры! Нам трэба праводзіць урбанізацыю вёскі! А вы з прычыны свае несвядомасці і замкнёнасці цэхавых інтарэсаў не ідзяце нам на сустрэчу. Вы маглі б для нашай культпрацы ўнесці шэраг каштоўных прапаноў. Дык жа не! Вы хочаце забіць ініцыятыву!

— Каго мы хочам забіць? Мы нікога не хочам забіць. А цябе дык пацягнем у суд.

— Я не баюся. Справа ў верных і цвёрдых руках. Мы вывучаем формы і метады, мы актывізуем насяленне. Вы знаходзіце структуру нездавальняючай? Калі ласка — у суд падавайце.

— Не спусцім, ведай гэта! Глупства нейкае гародзіць, ды яшчэ кланяйся яму.

Мне нечага было сказаць, і я кінуў словы Мамона:

— Нам спачатку трэба быць здаровымі, пасля — разумнымі.

Ахрэм азірнуўся на мяне і сказаў замест адвітання:

— Трасца ўсім вам, трасца нашым ворагам.

Усе пайшлі ўслед за Ахрэмам, бубнячы пад нос.

Відавочна, што мы ніякім чынам не маглі спыніць сонечнай кампаніі. У яе ўцягваліся ўсё новыя кантынгенты. Сяляне скасілі свае пожні, і мы далей бесперашкодна вялі сваю працу. Мы наладзілі першую раённую шапялёўскую алімпіяду, прычым ва ўсіх галінах алімпійскіх гульняў першынство атрымаў я, і мая вага сярод моладзі вырасла да казачных памераў. Цяпер я ўжо не баяўся за свой лёс.

Сяляне падалі на ШАЧ у суд, і Торба сказаў, што прысудзяць здорава:

— На два месяцы тваёй самасуеўскай пенсіі. Не судзіся з бедным.

— Дудкі я ім заплачу! — супакойна адказваў я, ведаючы, што за маёю спіною моладзь.

На рэчку пачалі прыходзіць і настаўнікі. Сонца і беспрацоўе вельмі прыцягальны. Гыля і Юрлік прыносілі з сабой шахматы і газардавалі да вышэйшай меры. Гэта з'явілася найлепшай агітацыяй за культурнае часаправаджэнне.

Увесь час ля рэчкі ляжаў і дэкламаваў пясняр Гарачы, які наглядаў быт моладзі ў мэтах ідэалізаваць яе ў сваіх паэмах. Ля рэчкі ім напісана славутая паэма «Дні мае крутыя». Шкода толькі, што ў мяне цяжкая памяць на вершы, а між тым у паэме ёсць месцы, хвалюючыя

да стогнаў фізіялагічных. Там былі радкі, якія да вар'яцтва падабаліся ўсім. Нешта:

> Ў 17 годзе парвалі мне радасці цуглі.
> Дротам калючым пралезлі ў грудзі.
> Сціснулі торбу сардэчную
> Вяроўкаю помсты.

За гэты час я на сонцы вельмі папрыгажэў. З люстэрка на мяне глядзеў зусім іншы чалавек: супакойна-моцныя вочы, уладна-сціснуты рот, упэўненыя рухі. Але сонца не выгнала з мае галавы Крэйны. Яно распаліла цела нястрыманай пякотай кахання, напоўніла кроў ліхаманачным пульсам, у кожную каморачку ў арганізме стрыжнем паставіла паланеючы агнём матэр'яльна спакусны абраз Крэйны. Да вар'яцтва даходзіла жаданне напіцца крывавага піва кахання!

## IV. ГОСТРЫ ГАСТРЫТ

Два тыдні майго адпачынку пранесліся досыць ціха. У пачатку жніўня мой бестурботны небасхіл ахмарыўся. Шэраг дажджовых дзён — і я міжвольна зрабіўся ахвярай свайго сладастрашша (Гарачы). Аднойчы, калі ўся прырода жалосліва скуголіла і прасіла сонца, пайшоў я на тэлефонку, пагутарыў з Свердзелюком і хутка вельмі блізка сышоўся з ім.

У яго нязмерна больш тонкія пачуцці, чым я раней думаў. Мяне ў гэты час цягнула да прымітыўных форм кахання, і ў пошуках ціхай, на ўсё згоднай, фізічна не брыдкай жанчыны я сустрэўся з Свердзелюком, як надзвычайным махінатарам у справах натуральнага кахання.

Складаная натура — Свердзялюк, і часта, як жывы, стаіць ён у маіх вачох. Дзе ты цяпер, Свердзялюша? Па якой зямлі сягаюць твае борздыя ногі? Каму ўсміхаюцца твае містычна-звярыныя, часоў неаліту ці бронзы вочы, такія непераможныя для жанчын? Вочы, вочы! Колер іх як у мутна-вадзянога зялёнага шкла ці, яшчэ лепш, як у вады з віру глыбокага!

Не ведаю, дзе ён цяпер і каго ў сучасны момант абымаюць яго доўгія, цапкія рукі. З'ехаў ён, кінуў Шапялёўку, замардаваны адначасным каханнем пяці дзяўчын. Ёсць інфармацыя, што Свердзялюк пražыў гэту

стадыю шалёнства і ад палігаміі пасля пакутнай барацьбы з сабою перайшоў да манагаміі. Ужо і адростак ёсць у яго. Што ж? Усё цячэ, усё старэе, усё разумнее.

А тады Свердзялюк жывы быў, як уюн. У два махі пазнаёміў мяне з дзяўчатамі, якія марылі аб моцным, на ўсё жыццё расцягненым каханні.

Аднаго вечара, калі дождж бубнеў у акно тэлефонкі, сядзеў я там з дзвюма дзяўчынамі, замяняючы Свердзелюка, якога некуды панесла вятровае ліха. Адна з дзяўчын — настаўніца Цыцоха, кабетка так сабе, смазлівая божая цёлачка. Другая — новая тэлефаністка Мычка, якая знаёмілася з працай, дзяўчына беленькая, уся ў кужалёвых кудзёрках, з легкадумным бляскам у вачох. На яе ўскладаў я вялікія надзеі.

Я завёў вучоную гутарку на вольныя тэмы.

— Біялагічна завяршона толькі тая жанчына, якая прымала ўдзел у нараджэнні новага чалавека. Кожная жанчына павінна імкнуцца да гэтага.

Настаўніца Цыцоха Анэля сказала:

— Не ведаю, што будзе далей, а цяпер у мяне да дзяцей непераносная агіда. Сам сабе такую дурату чалавек напусціць. Народзіць дзяцей, а пасля ўсё жыццё пакутуе, вазёкаецца з імі, аддыхі не ведае!

— А я інакш думаю! — сказала тэлефаністка Мычка. — Я — вольная жанчына і ніколі не буду залежаць ад мужчыны. І замуж у прынятым сэнсе слова не пайду. Нашто мне гэтыя кайданы? А дзіцёнка буду мець. Без гэтага нейкая пустэльня ў жыцці!

Мяне гэта моцна трусанула. Гэткі жаночы гераізм і аўтаномія! І як нагадвае адну прыродную з'яву, аб якой паведаў мне настаўнік-прыродавед:

— Некаторыя павучыхі-саміцы жываглотам з'ядаюць самцоў пасля таго, як апошнія добра выканалі заданне.

Я сказаў тэлефаністцы:

— Хоць замуж не пайду — дзіцёнка буду мець! Дык што ж? У чым перашкода? Калі ласка, Параска!

І я досыць нявытрымана зарагатаў.

Дзяўчына нечакана абразілася, уся заружавела і, як ластаўка перад дажджом, замітусілася па пакоі, потым збегла.

На другі дзень яна падала заяву ў мясцком сувязі і ў прафбюро тав. Мілёнку. Скардзілася, што я зняважыў

яе ў афіцыйнай установе ў прысутнасці настаўніцы Цыцохі.

Мясцком сувязі ўнёс прапазіцыю ў прафбюро аб выключэнні мяне з шэрагаў прафсаюза за абразу савецкай перадавой жанчыны, але т. Мілёнак сказаў мне:

— У парадку ўдарнасці працы ўрачыстага прабачэння ў тэлефаністкі.

Каб вынікнуць гострых непаразуменняў, я зламаў сваю ўпартасць. Прасіў выбачэння.

Пасрэднікам у гэтай справе быў камсамолец Дусік, які прыдумаў лоўкую камбінацыю. Сабраў некалькі дзяўчат і хлапцоў і арганізаваў начную экскурсію ў саўгасны дзіўны парк. Там і адбылося маё прымірэнцтва з тав. Мычкай.

Дасягнуўшы згоды, я ўжо не адходзіў ад яе ні на крок. Мы адлучыліся ад кампаніі і ноч скончылі на самым краі парку, там, дзе ўначы бялела бязмежнае мора грэчкі і яе мёдны пах круціў галаву, напаўняў істоту выразнымі імкненнямі.

Мы сядзелі пад белай бярозай. Белая бяроза без ветру шумела, калі я, прытуліўшыся да пляча дзяўчыны, акторскі выконваў ролю спакусніка. Мы вярталіся дамоў, калі апошняя зорка патухала ў небе.

Я дзівіўся: як непаслядоўны жанчыны!

Дзяўчыну звалі Люля. Люля, сустрэнемся яшчэ раз?

Свердзялюк пазнаёміў мяне з другой цікавай дзяўчынай — Сошай-Дошай. У яе блакітныя вочы, выпуклёныя, як бурбалкі вадзяныя, тонкі нос Клеапатры, лебядзіная шыйка, стрыжаная галава і добра абсталяваны грудны сектар. Знаёмячы нас, Свердзялюк шапарнуў мне на вуха:

— Беражыся з ёю! Справа тут тонкая! Чырканеш няўдала сярнічку — шмат будзе турбот!

— Не разумею тваё алегорыі!

— На яе мае планы райком! Ці не жэніцца ён...

— Разумею цяпер! Няўхільна абвастрэнне адносін з сакратаром на грунце кахання!

У галаве маёй адлюстравалася фігура сакратара з насупленымі вачыма, нервовымі ўздрыгамі губ і нагамі з доўгай трансляцыяй. Параўнаў з ім Сошу-Дошу і падумаў:

— Прыгожая будзе яму бабулька! Не кіне!

У той жа дзень вечарам мы сабраліся ў нардоме на рэпетыцыю. Я падхалімнічаў з Сошай-Дошай, перакон-

ваў яе, што нікому так не падыходзіць роля Люркі, як ёй. Угаварылі.

На другі дзень мяне выклікалі ў райкем, была заслухана мая справаздача аб культпаходзе і плане далейшай працы. Мімаходам сакратар параіў мне не ставіць п'есу, якую ўчора рэпеціравалі, бо яна ідэалагічна нявытрыманая. Дзіўна толькі, скуль ведае гэта сакратар, калі самой п'есы не чытаў і ў вочы не бачыў. Я згадзіўся з ім.

Але тым жа вечарам Соша-Доша сказала:

— Тав. Самасуй — палахлівы заяц! П'есу трэба абавязкова падрыхтаваць і паказаць публіцы!

Відаць, роля местачковай прымадонны вельмі да густу прыйшлася дзяўчыне, а магчыма, былі яшчэ якія меркаванні. Відавочна толькі адно: дзяўчына выразна ішла насупор свайму жаніху. А я стаўся між двох агнёў. Яна камандавала мной, як чорт піпкай. У перспектыве — зноў калізіі, зноў пачаў закручвацца вузел драмы.

Не паспеў я ўсё гэта абдумаць, як новая хмярэча да мяне прычапілася, ды такая хмярэча, што высунула мяне на мяжу між жыццём і смерцю.

Гаспадыня мая (Хайка Каплун), каб яе пярун па галаве троху смалянуў, на сняданне засмажыла мне рыбу, ды нейкую дзіўную, з доўгім хвастом і вялізнай галавой (ні хваста, ні галавы я не бачыў!) і накарміла мяне. Мала гэтага, калі я, знішчыўшы ладны кавал гэтай ядзі, падзякаваў гаспадыню, дык яна, як авантурніца чыстай вады (у гэты час мой язык аблізваў мае губы), сказала:

— На здароўе! Будзьце тоўсты! Ежце са смакам яшчэ!

І, нібы заклапочаная маім здароўем маці, наваліла мне яшчэ парцыён. Я ўмахаў яго. Паклала яшчэ. І той апынуўся ў тым жа месцы.

Праз гадзіну як схапіла мяне за жывот, дык тату-маму крычаў, забыўся, як мяне завуць.

Пасля па мястэчку дзейкалі, што мая гаспадыня замест рыбы засмажыла змяю. Гэта зусім магчымы варыянт, бо, па-першае, без Ліна гэта агідная гісторыя не абышлася, па-другое — усё цела маё пакрылася нейкімі цёмнымі плямкамі — наяўны сімптом змяёвай атруты. Я і сам не ведаю, якім цудам у жывых застаўся. У першую чаргу я ўскінуўся на гаспадыню:

— Вы мяне атруцілі. Каб рыбу есці — на гэта ў мяне курсу не было! У турму пасаджу, хоць памру!

Гаспадыня ламала рукі і божкалася, што яна ні ў чым не вінна. А мяне такі невыносны боль заламаў, што я, не помнячы нікога, застагнаў, як недарэзаны вяпрук, і стралой паляцеў у больніцу.

Як на бяду мне, дохтарша, якую ўсё мястэчка за матку прызнавала, паехала ў адпачынак, а доктар Кругагалоў (каб яму галаву адкруціла) паехаў на эпідэмію трасцы. Ніякай эпідэміі не было, як пасля высветлілася. Ды ён і не доктар быў, а захапляўся жаночай фігуральнай структурай. Як прыйдзе ў больніцу прыгожая дзяўчына, дык ён загадае ёй распранушча ды $3^1/_2$ гадзіны выстуквае, вымацвае яе.

На мястэчку ёсць яшчэ прыватнік-доктар Зэлік. Дык добрыя людзі рагочуць, заходзяцца ад смеху. Падумайце: не мог пазнаць, што яго жонка цяжарна, і на працягу 9 месяцаў усім дурыў галаву:

— Маю жонку трэба везці ў Маскву пад аперацыю. У Беларусі няма такіх вучоных.

У жываце, бачыце, нейкі вопух, паводле яго слоў, арганізаваўся і расце, расце. А як прыйшоў фінал ды жонка застагнала і хутка дзяўчынку прывяла ў жыццё, дык ён вочы свае выпукліў.

Дык гэты доктар мог мяне на той свет накіраваць і дапамогу даў бы ў адмоўным сэнсе слова.

У больніцы засталася толькі акушэрка. Нават фельчароў як вадою змыла. Жанчына памацала мой напукленый жывот, пацiснула ў розных мясцох. Пры кожнай маніпуляцыі я галасіў:

— Ой, здыхаю! Ратуйце! Не дайце разлучыцца з жыццём.

Супакойна сказала:

— Гостры гастрыт!

Дала нейкіх парахоляў. Тут нейкая баба прычапілася да акушэркі:

— У мяне жывот баліць, як цяжкое падыму. Дык і ў мяне гайстрыт? Што ж ён такое? Гліст такі, ай што?

— Гліст, гліст! — замахала на яе акушэрка.

Баба высунулася ў пярэдні пакой і сваім суседкам:

— У мяне гліст, такі гостры, як іголка. Гостры гайстрыт. Ён з мяне ўсё шлунне выцягвае!

Мне не да смеху было. Прыняў зелле, ледзьве давалокся дамоў, а там яшчэ горш падкаціла.

Саромна мне было стагнаць на сваёй кватэры — не хацелася, каб мае енкі чула Крэйна. Узаўрэў я, але сцягнуўся з ложка і паплёўся ў сасоннік каля вёскі Вялікія Насы. Там на ўзлонні прыроды сярод спеючых аўсоў і грэчкі я «охкаў, ёхкаў і стагнаў», як апяяў у вершах маю цяжкую хваробу Гарачы.

Птушкі спявалі, свяціла гарачае сонца па дубох зялёных, па соснах стромкіх, а я з болю грыз зямлю і кулдыкаўся, як уюн атручаны.

Урэшце не хапіла ўсцерпу. Бачу, смерць немінуча — не закрыешся анучай. Пабачыў на дарозе падводу, з ёю ледзьве жывы даехаў дамоў.

Там мяне чакалі двое людзей: селянін Мікіта Корда, які разы два вазіў мяне па раёне, і выкладчык прыродазнаўства ў сямігодцы настаўнік Яжджыль.

Мікіта, пабачыўшы мой зялёны твар, замітусіўся і выбег з пакоя. Праз пяць хвілін вярнуўся:

— Во баба мая вам раду прыслала! Праглынеце гэта — усё як рукой зніме. Калі не адно, дык другое!

Я зірнуў на Мікіту. У адной руцэ ў яго былі нейкія сушаныя грыбы, а ў другой карэц з вадой. Мікіта тлумачыў:

— Тут два грыбы. Адзін, во гэты — завецца чортава яйцо, дужа палзіцельны грыб ад рэзі ў пузе, трэба яго праглынуць ды запіць во гэтай сцаленнай вадой з крынічкі. А калі не пасобіць, дык тады праглынуць другі грыб. Ён завецца пірдзіна, дужа смярдзючы грыб, але ўсё як рукой зніме.

Прыродавед схапіў грыб у рукі:

— Дзіўна! Як народ кавярае навуковыя назвы. Гэты грыб па латыні завецца лікапэрдум. Відаць, што тут была калісьці досыць высокая культура, калі ў народзе была пашырана латынская тэрміналогія.

А мне зусім не было справы да лікапэрдума.

— Мне нічога не дапаможа! — крычаў я, калі Мікіта пхаў мне ў рот другі грыб і даваў запіваць вадою. — Нічога! Смерць мая прыйшла. Мяне атруцілі. Змяю засмажылі замест рыбы.

Мікіта прасвятлеў:

— Дык тады нагавор трэба. Я ўмею ад вужакі і сіпучай змяі.

Я ўжо ляжаў, як нежывы, чуў, што гаварылі над маім вухам, але ніякага руху зрабіць не мог. Мікіта сціснуў мой жывот і шаптаў:

— Ехаў Міхайла-архайла, святы папіхайла, на агняной кабыле, з гострай мячой у руцэ. Мячой выразаў, агнёй выпякаў, па імхох, па балатох адсылаў: вы, гады, не зявайце, свае джгалы вымайце, у балоты напраўляйце. А не то клікну Міхайлу-архайлу, святога папіхайлу, ад вас і пылу не будзе. Агнёй запячэ, мячой засячэ, мятлой размяце. Дасць па зубах, па трэцяму языку!..

Я ляжаў у непрытомнасці. Мікіта і настаўнік Яжджыль пайшлі дамоў, на змену ім прыйшоў Мамон. Боль зноў узмацніўся. Я стагнаў:

— Дружа мілы, Мамося ясны, забі мяне, ратуй мяне ад пакуты гэтай!

Захліпваючыся словамі, плачучы, разлучаўся я з нескарыстаным жыццём і даваў Мамону свае апошнія распараджэнні, як быць з маімі прычындаламі, што сказаць матцы. Часам нібы ў тумане ўспамінаў Крэйну і праяўляў надзвычайную моц волі. Я імкнуўся пяяць, каб трохy спыніць ці сцішыць грандыёзны боль у маёй вантробе. Я спяваў прыдушаным голасам, ад якога ў Мамона валоссе ўгору ўздымалася:

Баліць жа мой жываточак —
Мусіць, я памру.
Ой, пайдзеце прывядзеце,
Каго я люблю!

І раптам дзверы адчыніліся. Крэйна! Вочы яе сумныя, спачуваючыя, не насмешлівыя. Ні слова не кажучы, бярэ шклянку з вадой, сыпе туды лыжку стоўчанага вугалю (бярозавага!!!) і тонам, не дазваляючым дыскусіі, кажа:

— Выпі, т. Самсон!

Я выпіў, і праз дзве хвіліны боль адступіў. Я плакаў з радасці і цалаваў яе калені. Запакоены, заснуў. У маіх галавах сядзела Крэйна, а я сніў, што маё чало яна ўпрыгожыла ружамі.

## V. ВАГА РАСЦЕ

Пышуць, пышуць конікі, мяне везучы. Не пышыце, конікі, па буйным шляху!

Я еду ў акруговы горад за інструкцыямі перад новым навучальным годам. Каб хутчэй дабіцца атрымання розных матэр'ялаў і асыгновак, я на грудзёх прымаца-

ваў адзнакі сяброўства ў семнаццаці грамадскіх арганізацыях. На маіх шырокіх грудзёх яны ўсе змясціліся і выглядалі вельмі пераконваюча. Крэйна, забачыўшы мяне ў гэткім экстравыдатным стане, нечакана пырснула высокаю нотай смеху:

— Нашто так абчапіўся, т. Самсон?

— Еду ў акруговы горад, дык каб больш вагі было!

Практыка паказала, што мая прадбачнасць была мэтазгоднай. У вельмі кароткі тэрмін я наваліў дзве падводы кніжкамі ды рознымі пісоўнымі прыладамі і накіраваў іх у Шапялёўку, а сам застаўся на два дзянькі ў горадзе.

Я быў на гастролях Дзяржаўнага тэатра і ў музеі. Бачыў «Цара Максімілляна». Тэатр і музей штурханулі мяне хутчэй распачаць правядзенне культурнай рэвалюцыі ў Шапялёўскім раёне. У мяне ўзнікла вельмі каштоўная думка аб арганізацыі раённага вандроўнага тэатра і паказальнага навукова-мастацкага музея. У кандыдаты дырэктара вандроўнага тэатра я ў думках вызначыў выкладчыка фізвыху і спеваў т. Бычанка.

На трэці дзень свайго прыезду ў акруговы горад я нечакана сустрэў Крэйну. Я не верыў сваім вачом, думаў, што здань вандруе па бульвары.

— Якім чынам вы тут? — запытаў я, імкнучыся ў гэтыя празаічныя словы ўкласці ўсю сваю пяшчоту.

— За вамі ўслед паехала! Без вас сумна там, месца не знаходжу! — усміхнулася Крэйна і дадала: — Цётка ў мяне тут жыве! Дні тры прабуду!

А я, шаволячы вусамі, падумаў:

«Няпраўду кажаш, дзяўчына! Аборт ад Ліна!»

Нібы ўгадваючы мае думкі, яна пачырванела і пасля хвіліны маўчанкі дала мне свой адрас.

Вечарам я з нейкім грукатам сардэчным прыйшоў да Крэйны. Быў момант найвышэйшай урачыстасці. Першы раз яна без насмешкі аднеслася да мяне. Першы раз я быў на самоце з ёю.

Яна завяла мяне ў глухі куточак саду, дзе кусты парэчкі і маліны маглі захаваць якую хочаш загадку прыроды.

Пасля доўгіх інтрадукцый, калі мой энергічны запал захапіў і яе фізіялагічную базу, Крэйна, раптам абшчапіўшы мяне за шыю, схаваўшы свой твар на маіх грудзёх, парыўна зашаптала:

— Ты мне даўно, даўно мілым быў. Толькі віду не

хацела даваць. Мучыла і цябе і сябе!.. А ведаеш, ці ведаеш, мой ідал, за што я пакахала цябе? За вар'яцтва тваё, за бязмежнае фантазёрства і непакой...

— Любі мяне за што хочаш! — адказаў я і ледзьве не зацісніў Крэйну вяроўкаю свайго кахання.

Крэйна правяла мяне праз хвортку на вуліцу, калі ўсходзіла сонца, і рукой паказала кірунак.

Я думаў яшчэ каля трох дзён прабыць у горадзе, каб гостра перажыць шчасце перамогі, але на другі дзень я пабачыў т. Сома, які прыехаў з курорта і цяпер на выканкомаўскіх канёх думаў ехаць у наша мястэчка. Ён прапанаваў і мне ехаць. Зразумела, я не адмовіўся, хоць увесь арганізм паланеў агнём Крэйны.

Дарогаю я сказаў т. Сому:

— За гэты час, як вас не было ў Шапялёўцы, вельмі цяжка было працаваць. Хто можа даць такое аўтарытэтнае накіраванне, як вы? А між тым увесь час трэба быць на варце і трымаць правільную лінію ў працы. Цяпер, прыступаючы да новага года, я хацеў бы разам з вамі вызначыць асноўныя лініі працы па цэламу шэрагу тэарэтычных і практычных пытанняў.

— Ты, Самсон, за гэты час іншым стаў, паразумнеў троху, — усміхнуўся, як кентаўра сярэдняй велічыні, Сом і моцна ляпнуў па плячы.

Я аж завойкаў. Шкода, што нялоўка начальства сваё трэснуць.

— Што ж! Давай пагутарым! — сказаў ён, запальваючы танную папяроску.

Я з кішэні выцягнуў блакнот і кожную думку т. Сома занатоўваў. Зразумела, што ў пісаніне і я сам потым нічога не разабраў, бо калёсы дрыгацелі, і мы падгопвалі вельмі моцна.

Урэшце я сказаў:

— Цяпер я ўявіў сабе, т. старшыня, якія формы працы вы лічыце неабходнымі на бліжэйшы адрэзак часу. Я напружу ўсе свае здольнасці, каб забяспечыць рэальнае выкананне вашых меркаванняў. Цяпер мне наогул лягчэй працаваць будзе, бо я падаў заяву ў партыю.

Сом зноў бэцнуў мяне:

— Бачу, што ўразумнеў троху!

Пасля прыезду ў Шапялёўку т. Сома мне пачалі даваць у РВК і бачыць у маёй рабоце шчырага працаўніка.

Кожны вечар я заходзіў да Сомíхі. Сома зазвычай не

бывала дома. На маё дзіва, Крэйна хоць і вярнулася хутка ў Шапялёўку, але зноў халоднай да мяне сталася, і я ніякім чынам не мог зламаць лёд яе сэрца. Я папрабаваў гвалтам вярнуць страчаную пазіцыю, але нечакана атрымаў ад дзяўчыны вельмі гулкую поўху і прымушан быў, каб гісторыю не раздулі ў піку мне, рэціравацца, сказаўшы ёй:

— Ведзьма з лысай гары, якога трасца табе трэба?

На другі дзень позна вечарам, калі я рабіў мацыён на Лютнянскім шляху, я пабачыў Крэйну і з ёю нейкага мужчыну. Пара так шпарка пранеслася, што я не разгледзеў, хто гэта. І калі другі раз я падсцярог яе, седзячы на могілках, дык аслупянеў: з ёю быў Сом!

«Другую рыбу спаймала! — падумаў я горка. — Цяжка гэту рыбу перамагчы мне!»

І сэрца маё заледзянела. Магчыма, гэта мела і станоўчыя вынікі ў агульным плане. Кожны вечар я хадзіў да Соміхі і адчуваў сябе не менш здавальняюча, як і Сом з Крэйнай. Праз Соміху мой уплыў у выканкоме павялічваўся. Зразумела, я працаваў і па іншай лініі. Я акуратна хадзіў на партыйныя сходы і там быў вельмі вытрыманым, задаваў, праўда, шмат пытанняў, але самых агульных, не гострых, выконваў усе нагрузкі, якія мне даручалі, нікога не зачапляў, не крытыкаваў, а калі прыходзілася галасаваць, дык рабіў гэта не доўга думаючы і глядзеў толькі, каб галасаваць за тое, за што большасць галасавала.

Вынік маіх вытрыманых паводзін: РВК вызначыў мяне для правядзення шэрагу ўдарных кампаній і ў першую чаргу камандзіраваў мяне ў Гальшоўскі сельсавет для правядзення сходу.

Едучы туды, я папрасцей апрануўся, уздзеў на плечы зацухмолены фрэнчык імперыялістычнай эпохі і гэткай самай даўнасці галіфэ. Апошнія, безумоўна, не маглі выклікаць абурэння сялянскіх мас, бо былі верхам пралетарскай моды, урбанізавалі, так сказаць, вёску.

Асноўнымі пытаннямі на сходзе былі: 1) мой даклад аб Сун Ят-сене; 2) даклад старшыні сельсавета т. Дроздзіка аб пазбаўленні некаторых груп насялення выбарчых правоў.

Далей намячаліся бягучыя справы: 1) інфармацыя жэнарганізатара; а) аб месячніку барацьбы з некультурнасцю; б) разгляд справы аб экзекуцыі над грамадзянкай Суклетай Жлобай.

У сваім дакладзе, каб быць больш зразумелым, я падрабязна высветліў нашу лінію і сказаў:

— Капіталістычныя рапухі шкварuцца, яны хочуць праглынуць нас. Імперыялістычная вантроба, ці, па-нашаму кажучы, імперыялістычны каўбух жарэ ды жарэ чалавечае мяса пад прыкрыццём папяровага бюракратызму Лігі нацый, якую правільней трэба назваць Лізкай нацый і сцервай сусветнай — такая паскуда яна!

Прызнаюся, кажучы аб Сун Ят-сене і становішчы ў Кітаі, я заблытаўся і не ведаў, якая розніца між Чан Кай Пшы, Ка Ка Фэнам і іншымі сусветнымі гадамі, але я гаварыў упэўнена, мне нельга было праявіць сваю несвядомасць, бо гэта невыгодна ў першую чаргу і мне і РВК.

У спрэчках ніхто і славечка не кінуў аб кітайскіх справах, усе не на тэму казалі:

— Чаму карова 40 руб., а боты 30 руб.?

— Калі мы навучымся працаваць без кампаній?

— Калі нашы шляхі ўрамантуюць, замест палацаў у гарадох школы пабудуюць, землеўпарадкуюць нас ды абрэжуць кулакоў?

У заключнай прамове я абышоў гэтыя пытанні, бо яны не вязаліся з маім дакладам, і сказаў:

— У нас сілы хопіць! Мы знойдзем сродкі, метады і напрамак! Мы будзем біць буржуазею толькі ў галаву. Няхай яна ведае, што пралетарыят і сяляне не такое дзіцё, каб хоць і сем нянек меўшы ды быць бязносым.

Сход ухваліў рэзалюцыю:

— Прызнаць, што кітайскі народ давяршыць пачатую справу!

Тав. Дроздзік у сваім дакладзе інфармаваў сход аб неабходнасці пазбавіць выбарчых правоў усіх канавалаў, як непрацоўных элементаў.

Узнялася цэлая завіруха, але, дзякуючы ўдалай дыпламатыі т. Дроздзіка, сход падаўляючай большасцю ў адзін голас зафіксаваў гэта пазбаўленне і прызнаў іх ворагамі савецкай улады:

Адносна месячніка барацьбы з некультурнасцю прызналі мэтазгодным правесці яго на працягу трох дзён і абралі для гэтага камсад. Тут быў невялікі інцыдэнт, які характарызуе нашу тэхнічную адсталасць. Калі прымалі рэзалюцыю аб утварэнні камсаду, пры слове «замацаваць» нейкі пракуда, якога звалі Масей Селівон-

чык, баўтаючы галавой ад непераможнага сону, узняўся і сказаў:

— Вы сабе замацоўвайце хоць да свету, але я пайшоў сабе спаць!

Я асцярожна схапіў яго за каўнер, вярнуў на лаву і пасароміў за нявытрыманасць.

Апошняе пытанне: разглядалася скарга Суклеты Жлобы, якую на сходзе ў адным засценку высеклі за тое, што адмовілася жыць з мужыком.

Я не ведаў, якую пастанову прыняць, і рашыў параіцца з Сомам. У таго нюх ёсць. Такім чынам, мы пытанне з прычыны позняга часу знялі з абгаварэння. Суклета лаяла нас на чым свет стаіць.

Вярнуўшыся ў Шапялёўку, я цэлую ноч напралёт гаварыў з Мамонам, у якіх умовах трэба праводзіць культурную рэвалюцыю ў Шапялёўцы. Пасля доўгіх меркаванняў мы прызналі неабходным правесці надворную рэарганізацыю местачковага быту. Мы склалі праект упрыгожання Шапялёўкі лозунгамі, плакатамі, змены назваў вуліц на больш гучныя, рэвалюцыйныя, новых шыльдаў на крамах і падрабязных надпісаў на хатах. Праект мы зацвердзілі ў райкоме і РВК і не марудзячы распачалі дзейнасць пад лозунгам: «Хараство ў масы».

Пры кожнай установе мы арганізоўвалі камсады, якім даручылі рэдагаваць усе лозунгі, якія будуць прыносіць грамадзяне, і прысылаць нам.

Для малявання лозунгаў мы мабілізавалі ўсё бліжэйшае і местачковае настаўніцтва і школы ў цэлым. На працягу трох дзён у школах ішла дружная праца ў гэтым напрамку. Кожная група намалявала да пяцідзесяці лозунгаў. Матэр'ял мы лёгка дасталі.

Згодна прадпісцы райкома ў кааператывах мы забралі ўсю чырвоную мануфактуру з 75 проц. скідкай.

Пасля адбору лозунгаў мы самыя лепшыя з іх увязалі і ўзгаднілі і потым прымацавалі каля самых ударных пунктаў мястэчка: школаў, больніцы, лясніцтва, крам, заезджых дамоў і каля ўсіх студняў.

Каля школы-сямігодкі на вялікіх падпорах мы змясцілі найвялікшы па выкананню лозунг:

— Далоў усмішку міжнароднага капіталу!

Каля больніцы — у зялёных фарбах зграбны лозунг:

— Не будзем хварэць! Даём слова павялічыць жорсткую працоўную дысцыпліну на 14 проц.

Каля самых варот царквы — мастацкі размаляваны лозунг:

— Разгонім змрок і зёл, які напусцілі на нас цар і буржуазея спераду і ззаду!

Каля камсамола — згодна прапанове Дусіка:

— Абвясцім бязлітасную барацьбу з мяккім целам. Няхай жыве сталёвасць ва ўсім!

У варотах саўгаса ў выглядзе маладзіка мы прымацавалі лозунг:

— Прэч карлікавую гаспадарку!

Каля ўсіх студняў — лозунгі-парады:

— Пі ваду свежую, чыстую, вараную! Не плюй у крыніцу!

На сценах нардома красаваў лозунг, маляваны рукою самога паэта Гарачага:

— Нам трэба роўнасць і каханне.

Захапленне і мілбранне!

Для малявання сямі вялікіх плакатаў мы ўпрасілі ў парадку грамадскай навалкі працаваць мастака Бялянку, таго самага, які пачаў усё лета хадзіць выключна ў трусох і думае на зіму працягваць гэты каштоўны эксперымент. Ён вельмі гарды чалавек. Пра яго таварышы па пэндзлю кажуць:

— Такі гарды, што стоячы ездзіць.

Бялянка свае лозунгі маляваў на плошчы, каля нардома. Яны былі на вялікіх фанерных шчытох і не змясціліся б ні ў якой кватэры. Мастак увесь аддаваўся працы. Каб ніхто не рассяваў яго творчай энергіі, Бялянка каля сябе прымацаваў аб'яву:

— Прэч несвядомыя забойцы мастацтва! Не перашкаджайце аддавацца святому мастацтву і ствараць вечна пекныя рэчы!

Калі аб'ява не дзейнічала на некаторых нявытрымадных індывідаў, Бялянка браў у рот сурчок, і прарэзлівыя гукі напаўнялі ўсю плошчу і палохалі людзей. Гэта быў умоўлены знак. З'яўляўся міліцыянер і накіроўваў людзей прэч ад месца творчай працы.

Праз тыдзень напружанай працы Бялянка здаў нам пяць грандыёзных плакатаў. Адзін з іх, які маляваў дружбу рабочых і сялян, мы ўмацавалі на даху шапялёўскага універмага, і яго можна было добра бачыць за тры вярсты ад мястэчка. На плакаце рабочы сваёй вялікай мазольнай рукой ціскаў не менш вялікую лапу працоўнага селяніна. Іх рукі былі дзіўным акордам,

былі самымі вялікімі рэчамі на малюнку, большымі за ногі і галовы.

Далей наша чыннасць выявілася ў тым, што ўсе без выключэння вуліцы, завулкі і перавулкі мы загадалі па-новаму называць. Больнічную вуліцу пачалі зваць вуліцай т. Сома. Я ўнёс прапанову і самую Шапялёўку перамяніць на Сомск, але старшыня азвярэў (нявытрыманы мой крок!) і пагразіў мне звальненнем. Хадораўскую вуліцу мы назвалі Вуліцай вызвалення жанчыны ад пялюшак. Іншым вуліцам мы далі такія самыя рэвалюцыйныя назвы, як і ў іншых гарадох нашай рэспублікі.

У эстэтычных мэтах мы дабіліся замены старых шыльдаў новымі і ў адміністрацыйным парадку правялі важнае мерапрыемства: на кожнай хаце надпіс прымацавалі: хто жыве, калі нарадзіўся, якое сацыяльнае паходжанне. Апошняе вельмі цяжка было ўзгадніць і правесці ў жыццё, але ўпартая воля да выканання канчаткова намечанай мэты перамагла ўсе перашкоды. Шапялёўка стала на новы шлях культурнага будаўніцтва!

## VI. ПРАПАГАНДА АГІДЫ ДА СТАРОГА

Мамон на пасяджэнні камсаду сказаў:

— Нам трэба зламаць кансерватызм і пасіўнае супраціўленне нашаму культбуду! У гэтым напрамку музей адыграе актуальную ролю.

— Нам трэба правесці музейную кампанію, папулярызаваць і стымуляваць гэту працу!

Мы склалі грандыёзны план арганізацыі музея. Некаторыя сябры музейнага т-ва, запісаныя намі ў парадку прафдысцыпліны, крытыкавалі гэты план, знаходзілі:

— Шмат грукатні і балбатні.

Я ім даводзіў, што ніводнага плана без гэтага не бывае, неабходна дэкарацыя, якая радуе вока і слых.

Пад музей мы знайшлі нейкую плюгавую капліцу, зверху прыладзілі скінуты ветрам кумпал. Выйшла нешта накшталт маўрытанскага пахавальнага помніка.

Вялікую шыльду зрабілі: «Шапялёўскі дзяржаўны музей імя т. Андросава».

На працягу трох месяцаў вялася напружаная праца па запаўненні гэтага музея. Я цалкам і поўнасцю аддаўся гэтай працы. Аб Крэйне думаў толькі тады, калі клаўся спаць і за сценкай чуў яе крокі і ціхае меладычнае

8. Зак. 241

напяванне. Месца Крэйны ў маім арганізме заняла Соміха, і пасля моцна засела Соша-Доша. Яе сапраўды звалі Сахвейка, але ўсе прызвычаіліся зваць Соша-Доша з невядомых мне прычын. Здаецца, Свердзялюк першы даў гэта імя. З Сошай-Дошай у мяне наспявала нейкая рамантыка.

Мы думалі не спяшацца з адчыненнем музея, але цэлыя дні, асабліва калі былі базары ці кірмаш, народ валам валіў і грукаў у дзверы капліцы, а хлопчыкі вісам віселі на вокнах і глядзелі. Такім чынам, пад націскам зацікаўленых мас мы ўрачыста адчынілі музей. Прагнасць мас да культуры была такая вялікая, што мы прымушаны былі прасіць начміла т. Какоцьку наладзіць парадак. Быў доўгі хвост навядальнікаў.

Было на што паглядзець!

У цэнтры музея ў мэтах прапаганды агіды да старога панскага ладу быў пастаўлен знойдзены ў маёнтку князя Мрачкоўскага мармуровы помнік каханаму сабаку. На падстаўцы стаяў паважных размераў сабака і ў пярэдніх лапах трымаў урну. Надпіс: «Каханаму Бульдогу Ваўкадавічу». На другім баку: «Спі спакойна! Не пачуць мне больш тваей ласкавай журчлівай брахні, не пацісnуць тваю шляхетную лапу. Твой сумны ўладар князь Мрачкоўскі».

Больш за 30 пудоў важыў гэты помнік.

Каля гэтага помніка стаяла вялікая каменная баба, вагою да 80 пудоў. Яе знайшлі на беразе Сожа і шмат клапот і грошай затрацілі, покуль усцягнулі яе наверх. Перавезлі ў музей знойдзеную каменную труну і майстэрню каменных прылад і нейкую дагістарычную міску вагою да 40 пудоў.

Музейная чыннасць вельмі разгарнулася. Сабралі 17 пудоў чарапкоў начыння і костак першабытнага чалавека, якога Мамон упарта называе пітэкантропусам, і два вагоны мамутавых костак. Гэтыя косткі мы не змаглі ўсё размясціць і экспанавалі толькі самыя вялікія судыгі, якія сваімі звышнормавымі размерамі выклікалі жах у людзей. Сяляне ўпарта гаварылі і нават божкаліся:

— Гэта даўней людзі такія жылі. І косткі гэта не звярыныя, чалавечыя. А цяпер людзі зусім здрабнелі.

Прыйшлося правесці ўдарную кампанію па растлумачэнні гісторыі зямлі і аддаць школу пад выстаўку

мамутавых костак. Усё мястэчка з жахам глядзела на рэшткі вымерлых звяроў.

У музеі мы сабралі найвялікшы запас старажытных рэчаў: драўляны бязмен з булдавою каля 4-х пудоў, нейкі ідальчык, знойдзены ў валатоўцы, які выабражаў сабой барана на калёсах, нейкі надмагільны камень з фашысцкім знакам, значэння якога ніхто з нас не зразумеў, і толькі Мамон выказаў дагадку:

— Пад гэтым камянём яшчэ ў X ст. уземлеўпарадкаваўся, кажучы сучаснай мовай, нейкі млынар.

Аб гэтым Мамон напісаў грунтоўны дослед і паслаў у Акадэмію навук.

Былі яшчэ экспанаваны: цікавы рукапіс XV стагоддзя «Аб гаспадарчым выхаванні жывёлы», дзённік абжэрства (XVI ст.) і зборнік вершаў XVII ст. — «Ён і яна».

Шапялёўцаў больш за ўсё цікавілі экспанаты з мясцовага жыцця. Так, згодна маёй прапанове, скульптарам Бэдам былі зроблены два манекены: першы яўляў копію жыхара вёскі Галадранкі Яўтуха Абжэры, які мае рост 2,3 метры, а вагу 7 пудоў, не мае пуза, а есць як у прадонніцу. Нядаўна яго жонка пайшла некуды і не паспела даць яму аніякіх дырэктыў. Дык што б вы думалі? Ён сам палез у печ, з'еў чыгун бульбы, нарыхтаваны для кормнага парсюка, буханку хлеба 10 хунтаў і ражку з цялячым пойлам выпіў. Я спецыяльна выязджаў з доктарам Крутагаловым, каб даследаваць гэты этнаграфічны тып. Нарыс аб ім мы змясцілі ў зборніку.

Другі манекен зрабілі з бабкі, якую ў вёсцы Дрыгавічы абавязкова клічуць разам з акушэркай. Цікавы факт супрацоўніцтва! Трэба яго зафіксаваць.

Апрача гэтага, я заказаў скульптару бюсты старшыні РВК т. Сома і сакратара райкома т. Андросава. Мастак і вучні намалявалі партрэты адказных шапялёўскіх дзеячоў, у тым ліку і мой. Я быў намаляваны ў белай кашулі з вялізным чырвоным бантам.

Ніхто не разумеў, на якога д'ябла мы экспанавалі ў музеі хамут. З гэтае прычыны мы далі тлумачэнне:

— Гэты хамут у вёсцы Галалобаўцы, як паміраe вядзьмак, надзяваюць сабе на шыю, залязаюць на печ і глядзяць адтуль у вочы таму, хто паміраe. Тады, згодна забабонаў, можна ўбачыць смерць у поўным яе агідным і жудасным выглядзе!

Змясцілі мы ў музеі і здымкі банды Сапліўца ў поўным складзе і зброю бандытаў.

Але самую вялікую ўвагу прыцягваў знойдзены ў мясцовай царкве плакат царскага часу. На ім, у самым цэнтры, у сонечных праменнях сядзеў абвешаны царскімі цацкамі Мікалай Крывавы, побач з ім Аліса Распусная. Між імі ляжаў голы царанёнак, а зверху анёлы лятралі і няслі рэкламу да бога:

— Ты ўзрадаваў нас творам тваім!

Калі я першы раз убачыў гэты плакат, я бахнуў аб зямлю і з моцай трох конскіх сіл застагнаў:

— О, вар'яцтва бязмежнае!

Гэты гістарычны скарб, які добра агітуе за новае, я забраў у музей.

Гваздом нашага музея быў антырэлігійны аддзел. У ім былі мошчы святога Лындзія. Я спецыяльна ездзіў за імі ў Баркалабаўскі кляштар і там, можна сказаць, гвалтам вырваў з кіпцюроў фанатыкаў-прэлатаў. Раней гэта быў святы, у ядвабныя дарагія тканіны і каменне ўвабраны. Нейкая таемнасць вэлюмам абвівала святога і прымушала цёмных людзей замусольваць тканіны шчырымі пацалункамі. А цяпер, калі мошчы былі прывезены ў Шапялёўку, і я разгарнуў іх да апошняга рыззя, там быў чорны-чорны чэрап. Вочныя ямкі былі залеплены шэрай глінай. Гнілыя, счарнелыя зубы глядзелі дакорам смерці, скіўіцы сумна былі сціснуты, і рот ніякай каштоўнай прапановы ўжо не мог унесці. Сулдыжкі рук бясстомацна былі скрыжаваны на грудзёх, а на назе была нейкая прыкарэлая поўсць. Магчыма, гэта нага і не чалавечая была.

Над мошчамі мы далі тлумачэнне:

— Былі мошчы святога Лынды, а цяпер — згрэбці ды на сметнік. Інакш скарыстаць нельга!

У гэтым жа аддзеле быў мастацкі партрэт мясцовага папа, засняты ў той момант, калі ён п'яны ў царкве заместа «Верныя, верныя, богу памолімся» раптам пусціўся скакаць і пяяць папулярную шапялёўскую песню «Кармалюгу».

Як пасля мы даведаліся, Кармалюга быў папулярным мясцовым паўстанцам XVII ст. Мамон нават даводзіў, што Кармалюга і Кармялюк — адна асоба.

У сувязі з заснаваннем гэтага аддзела нам давялося весці шалёную барацьбу з рэлігіяй наогул.

У нашай культпрацы вялікія перашкоды былі з боку

рэлігійнага т-ва «Божыя дзеці». Т-ва арганізавала рэлігійны дыспут, на які нейдзе выкапала размазню архірэя і ўдалымі наскокамі моцна дыскрэдытавала мой і Мамонаў аўтарытэты. На дыспуце прысутнічала ўсё насяленне Шапялёўкі і было сведкай нашага пасрамлення. Мы былі злоснымі ў найвялікшым маштабе. Мамон прапанаваў мне:

— Давай знішчым іх дашчэнту! Арганізуем другі дыспут і з'явімся ўзброенымі да пярэдніх і задніх зубоў!

«Божыя дзеці» з'явіліся на дыспут. А мы прывялі ў падмогу сабе самага смелага ў Шапялёўцы чалавека Лявона Шандараку. Узрост 40 г., былы шахцёр. Яго лічылі вельмі хітрым чалавекам і з гэтае прычыны звалі Лёвачкай. Ён часта заходзіў да мяне і бліскуча апавядаў скаромныя народныя апавяданні, а калі даведаўся, што я сохну з-за Крэйны, дык даваў мастацкі аналіз Крэйны з усіх бакоў, асабліва з боку фізіялагічнага і фартыфікацыйнага.

Гэта ў мяне і злосць выклікала, і разам з гэтым прыемнае ласкатанне перыферычных нерваў.

Лёвачка прапанаваў нам свой удзел:

— У гэтым самым дыскуце я так выступлю, што яны павек не забудуцца. Гэтага ліса архірэя і божых дзяцей у смярдзючую ямку заганю!

На дыспуце ён арыгінальна падтрымаў нас. Было так. У самы распал спрэчак выступіў я і замарыў іх сваёй двухгадзіннай прамовай. Яны думалі спыніць мяне:

— Тэрмін вашага слова скончыўся!

А я зірнуў на іх знішчаючым поглядам:

— Цяпер я скажу па сутнасці справы!

Ды яшчэ гадзіну гаварыў і паганіў іх бязмежна.

Пасля мяне слова ўзяў архірэй і давай крыць мяне. Тут Лёвачка ўзышоў на сцэну, узняў руку, што хоча гаварыць, і калі ўсё раптам сціхла, ён... Тут я не ведаю, як пісаць і як кваліфікаваць учынак Лёвачкі. Запіскі мае ўсё ж вельмі прыстойныя, і яшчэ не было ў іх ніводнага вульгарнага слова. Але абяцаўшы пісаць усё, як было, нічога не хаваючы, я прымушаны трымаць сваё слова. Кажучы асцярожна, Лёвачка вытварыў некалькі досыць гулкіх гукаў і супакойна сышоў са сцэны.

Гэты салют зрабіў моцнае ўражанне як на веруючых так і на бязбожныя масы. Першыя, забыўшы закон аб любові да ворагаў, разбэшчаныя кінуліся на сцэну і на

мяне, пагражаючы адкалатушыць усіх, хто пад рукі падзе, а бязбожнікі апладысментамі падтрымалі апошняе выступленне прамоўцы. Лёвачка не пасаромеўся выйсці на сцэну і даць кніксен. Такім чынам, мы перамаглі, хоць гэта перамога была Піравай перамогай.

У раёне я таксама вёў гэту кампанію. Усюды я вазіў з сабою шкілеты чалавека і малпы і даводзіў, што розніцы няма, што не бог стварыў чалавека, а ён сам развіўся з малпы.

Адначасна з гэтым я наладжваў і культпаход: чытаў сялянам газету, прыладзіў гучнагаварыцель. Але і тут я сустрэўся з поўным неразуменнем задач нашага часу. Сяляне, пачуўшы гучнагаварыцель, сказалі:

— Нам гэтыя цацкі непатрэбны! Лепш ты купіў бы нам малатарню, ці арфу, ці жнейку, ці яшчэ што...

Праўда, нягледзячы на гэтыя несвядомыя словы, усе цікавіліся апаратам, і праз тры дні ён ужо не працаваў.

Так несвядомы людзі, не хочуць бярэгчы каштоўную рэч, за якую заплацілі 400 рублёў!

Кампанію за новы быт у самай Шапялёўцы мы праводзілі без усялякіх ідэйных хістанняў.

Нашаму музыку мы даручылі напісаць цырыманіял чырвоных хрэсьбін, вяселля і хаўтур. Апрача гэтага, мы зрабілі цікавы эксперымент лепшай арганізацыі камсамольскага жыцця.

Адзін раз, стомлены культпрацай, сядзеў я каля грубачкі ў сваёй кватэры (была зіма) і напяваў свой узлюблёны раманс «Гостры меч праколіць маю вантробу».

Прыходзіць група камсамольцаў пад кіраваннем Дусіка.

— Т. Самасуй, адшукай памяшканне пад наш клуб! У старым цесна, брудна, антысанітарыя...

— Які будынак па суседству з вамі? — пытаю я.

Яны адразу змікіцілі, у чым справа, і кажуць:

— Там жыве кулак Рыгор Лахмандуда.

— Кулак? Вялікі падатак? 150? Дык раю вам выкурыць яго.

Праз тыдзень яны так і зрабілі. Занялі хату кулака, рэквізавалі яго сельскагаспадарчы інвентар і арганізавалі там сваю невялікую камуну пад назвай «Агародніцкае т-ва».

Але праз тыдзень пасля заняцця хаты яе зусім развярзілі. Там ужо стала дрэнна жыць, бо яна была не дастасавана да ўмоў масавай працы. А кулак знайшоў

на нас управу. З акругі мне прыйшла вымоўка, што лезу не ў свае справы і скрыўляю лінію, а РВК загадалі спыніць гэты «саматужны сацыялізм». Так назвалі ў акрузе наш цікавы расток новага жыцця. Я да гэтага часу не згодзен з гэтым. Праўда, мая вага, як рашучага, новага чалавека, павялічылася. Нават Сом, нягледзячы на мой афронт, сказаў сакратару:

— Такія людзі нам патрэбны. Часам дзірку якую заткнуць. Але яго трэба ў рукі ўзяць, тады Самасуй будзе добрай прыладай для знішчэння старога.

## VII. ПЯКЕЛЬНАЯ ПРАЦА

Я з'явіўся ініцыятарам заснавання Шапялёўскага навуковага т-ва, якому ў першую чаргу загадаў стаць на шлях сяброўскіх узносаў. Потым мы абралі ганаровых, правадзейных сяброў, супрацоўнікаў, карэспандэнтаў і дапісчыкаў т-ва, падзялілі яго на 7 секцый і 18 падсекцый.

Т-ва паставіла шэраг практычных мэт. Адна з іх: «магчыма поўнае вывучэнне кожнага працаўніка з боку яго прыстасаванасці да ўмоў нашага адказнага, бязлітаснага, захапляючага часу».

Кажучы словамі Торбы:

— Трэба кожнага працаўніка разглядзець, ці можа ён выканаць загад пралетарыяту: «будуй, а не глядзі ў неба».

Вывучыўшы кожнага працаўніка, можна будзе для кожнага грамадзяніна скласці правілы ўнутранага распарадку, знайсці кадры падрыхтаваных працаўнікоў і знішчыць шкодны паралелізм. Толькі тады мы не будзем ісці задам наперад!

Падумаўшы ўважліва над гэтым, мы рашылі правесці анкетную кампанію. На машынцы мы аддрукавалі 3000 анкет і раздалі іх усім шапялёўскім працаўнікам. Але як пачалі прыходзіць запоўненыя анкеты, мы пабачылі, што трэба з абэцэдлы пачынаць палітычнае і культурнае выхаванне працаўнікоў.

Так страхагент запоўніў анкету:

1. Пасада... мястэчка Шапялёўка Магілёўскай акругі.
2. Прозвішча... страшны агент, як кажуць сяляне.
3. Імя... Дзямід.
4. Як па бацьку... сын селяніна.

5. Сацыяльнае пахаджэнне... згодна тэорыі Дарвіна.
6. Узрост... 2 арш. 7 в.
7. Пол і сямейнае палажэнне... сямейны хлапец 50 гадоў.
8. Асвета... электрычнасці няма, выключна газай.
9. Прафесія... 64 р. 78 к.
10. Пенсія... яшчэ не даслужыўся.
11. Маёмасць... жонка, трое дзяцей.
12. Партыйнасць... безбілетны партыец.

Была склікана нарада, на якой у мэтах падвышэння культурнага ўзроўню савецкіх працаўнікоў прызналі своечасовым і мэтазгодным заснаваць насценгазету. Склалі рэдкалегію ў складзе Мамона, Дусіка і мяне і пачалі абмяркоўваць пытанне аб назве газеты. Вырашэнню гэтага важнага пункта было прысвечана $2^1/_2$ пасяджэнні. Ніяк не маглі прыйсці да згоды. Тут нават у мяне з Мамонам ледзьве не склалася разрыўная сітуацыя. Ён настойваў:

— Газету трэба назваць «Чырвоная пуга», бо яна будзе несвядомых падганяць да сацыялізму.

Дусік уносіў прапанову назваць газету «Чырвонае шапялёўскае вока».

Торба хацеў назваць «Гостры чырвоны зуб».

А я даваў самую кароткую, яскравую назву — «Пераможны кліч Шапялёўскага райвыканкома».

Кожны адстойваў сваю назву, і ў спрэчках мы па 7 разоў бралі слова.

Я пераканаўся, што дабром нічога не даб'ешся, і заняў выглядальную пазіцыю, покуль усе спрэчнікі не замарыліся і не захацелі піць. Тады я зноў прапанаваў сваю назву, а яны, замораныя папярэдняй палемікай, далі сваю згоду.

На другі дзень наша газета пачала выходзіць штодзённа.

Загадчыку 7-кай Малахольнаму я загадаў напісаць урачысты фельетон з прычыны нашай новай перамогі на культфронце, а т. Гарачаму «Нашы дасягненні» — паэтычны агляд у вершах. Іншым настаўнікам прапанаваў агульнаагітацыйныя артыкулы аб зніжэнні сабекошту, аб хлебных загатоўках, аб формах увязкі з рознымі ўстановамі.

Нам удалося ўцягнуць у газету ўсіх працаўнікоў. Пісаць мы навучыліся лёгка, бо трэба было зрабіць нязначную працу: з вялікіх артыкулаў друкаваных газет

складці маленькія ў 5 радкоў. Як прыклад прывяду ўзорны артыкул ветфельчара Бясхвосціка на тэму: «Што дала сялянам Савецкая ўлада». Ён напісаў: «Савецкая ўлада дала сялянам зямлю і волю. Няхай жыве Савецкая ўлада, зямля і воля! Ветфельчар Бясхвосцік».

Часта нам не хапала часу для пісання газетных артыкулаў і для перадрукоўкі іх на машынцы. Машыністка справіла гевалт, як сказаў наш дзелавод Арон Шык. Супрацоўнікі РВК пісалі артыкулы ў часе заняткаў, і гэта выклікала тармазаванне ўсяе працы. Апошняе прымусіла нас адмовіцца ад штодзённага тэрміну выпуску газеты, і мы пачалі выдаваць адзін раз у тыдзень.

Рэдагаванне газеты было турботнай, пякельнай справай. Дапісчыкі былі непісьменныя і задзёрыстыя. Былі такія паважаныя фрухты, якія нікога не шкадавалі і разносілі ў пыл.

Шмат пісалі пра мяне, але я гэтыя карэспандэнцыі з прычыны элементарнай непісьменнасці і недапушчальна грубага тону накіроўваў у свой архіў, а большую частку аддаваў аўтадафэ. Таксама я не прапушчаў карэспандэнцыі, накіраваныя супроць т. Сома.

Шмат было закідаў супроць суддзі Торбы, як шкоднага ў савецкіх умовах філосафа. Пісалі, што ён у часе судовых працэдураў дазваляе сабе ўжываць моцныя прыказкі, дзівацкія прыслоўі, якія потым распаўсюджваюцца ў народзе і перадаюцца з вуснаў у вусны, пераходзячы нават межы раёна. У гэтай з'яве рэдкалегія справядліва ўбачыла ідэалагічную небяспеку і апублікавала, нават супроць маёй думкі, найбольш гучныя карэспандэнцыі.

І тут нечакана для мяне райком высунуў мяне выкрыць ідэалагічныя хістанні Торбы на грамадска-паказальным таварыскім судзе, які арганізаваў райком.

Гэты працэс не быў чыста судовым і з'яўляўся першай спробай нават у рэспубліцы.

Мая пазіцыя была цяжкая. З аднаго боку, я быў прыхільнікам некаторых прыказак Торбы, з другога боку, яго нават лічыў сваім прыяцелем, як, мусіць, і ён мяне. Але нічога не зробіш. Дырэктыва вышэй за ўсё, як сказаў Торба.

Я падрыхтаваўся. Мая прамова мела эфект. Мне вялікую дапамогу зрабіла кніжачка Торбы. Я біў прама

ў лоб. Ні аднаму пракурору ў свеце не ўдавалася так выкрыць усю падваліну працэсу, як мне...

Калі я атрымаў слова для свае прамовы, я выцягнуў з кішэні Торбы блакнот і ўрачыста заявіў, загадкава ўсміхаючыся:

— Вось помнік эпохі — дзённік непрызнанага філосафа Торбы.

Твар Торбы на хвіліну змяніўся, нібы змяя ўкусіла, — яго губы сутаргава зарухаліся, і ён прашаптаў:

— Якая здрада! Не пасаромеўся скрасці, сцягнуць!

Я патрабаваў ад суду прыцягнуць Торбу да адказнасці за абразу мяне ў часе судовай працэдуры. Яго заўвага распаліла мяне, і я з'явіўся бізуном справядлівасці для Торбы. Прыводжу частку сваёй судовай прамовы, якая была квінтэсенцыяй усяго судовага працэсу:

— Т. суддзі, сумленныя грамадзяне і вольная публіка!

Хто такі Торба? Торба — атрутнік, шкодны эксплуататар працоўнай думкі рабочых і сялян. Ён настаўнік, у горшым сэнсе гэтага слова, нашай моладзі, ён ідэйны хістальнік і бязмен без галавы! Яго трухлявая філасофія прыводзіць да мяшчанскага ўхілізму, культурна-буржуазнага здзічэнства і бязмежнага развіцця самадурства. Усё гэта можна знайсці ў яго блакноце.

У практычнай працы Торба працягвае гэтую крывую лінію, не змяншаючы тэмпу. Яго прыказкі вядомы ўсяму раёну. Аб гэтым яскрава сведчыць той факт, што на працэс сабраліся ўсе быўшыя кліенты Торбы.

Каб быць аб'ектыўным, скажу, што частку філасофіі Торбы можна прызнаць. Некаторыя тэзісы яго правільны, пад імі кожны разумны чалавек двума рукамі і двума нагамі згодзен падпісацца. Другія яго тэзісы яшчэ патрабуюць даследаў на прадмет выяўлення іх шкоднасці, патрабуюць разгляду іх праз лупу часу і дырэктывы вышэйстаячых арганізацый.

Напрыклад, каштоўнымі экстрактамі жыццёвай практыкі ў нашых умовах працы з'яўляюцца такія тэзісы Торбы:

1. Чалавек думае, а райком кіруе!

Зусім слушна сказана.

2. Што пішы, а што ў галаве насі!

І гэта як у сук улеплена. Дзіўна толькі, як сам Торба не выконвае свайго тэрміновага загаду. Тут трэба

дадатак яшчэ: што пішы, што гавары, а што ў галаве насі!

3. Там дрэнна, дзе нас няма.

Гэты тэзіс можна фактамі давесці, а факты ўпартая рэч.

4. Калі-небудзь, братка, дагаворышся!

У поўным і цэлым згаджаюся, бо мы наяўна бачылі, да чаго дакаціўся, дагаварыўся сам Торба.

5. Тады круці лазу, як маладая яна!

Правільна, як і тое, што ў каня 4 нагі і 1 галава.

6. Пры нас свет настаў, што і поп засвістаў.

Згодзен.

7. Ад вады п'яным не будзеш.

8. Не дзівіся, калі авечку стрыгуць, каб і самога не абгалілі!

Безумоўна, дзівіцца на чужую бяду сорамна і небяспечна. Хто супроць? Няма! Аднагалосна!

9. Увесь век вывучай наменклатуру!

Добра сказана, лепш, чым старое «Век жыві — век вучыся». Паднаўляць свае веды трэба ва ўсіх галінах, таксама і ў наменклатуры.

А цяпер я вам прывяду прыказкі Торбы, якія яшчэ трэба ўважліва прааналізаваць з боку формы, зместу, гукавога складу і г. д., каб падрабязна высветліць іх якасную каштоўнасць.

1. Не дражні чорта. Чорт чортам смярдзіць!

Каго разумее Торба пад чортам, калі наогул, згодна дэкрэту, чарцей няма і быць не можа?

2. Дорага, ды агіла; дзёшава, ды гніла.

Незразумелая думка.

3. Свет вялік, а дзецца нейдзе.

Мусіць, трэба: буржуазны свет... Патрэбна ўдасканаліць думку...

4. Хто высока лятае, той нізка сядзе!

Не разумею, супроць каго гэта накіравана. Няўжо Торба хоча, каб птушкі на зямлю не садзіліся альбо летуны не спушчаліся на ніз.

5. Не будзь замахайлай, не хапайся за ўсё, як папоўна замуж.

6. Не давай ёлупу агонь у рукі!

Такім чынам, аб'ектыўна разгледзеўшы прыведзеныя тэзісы Торбы, мы часткова згодны з імі, часткова лічым незразумелымі і малашкоднымі з гэтае прычыны. Але ёсць у Торбы прыказкі, якія вельмі шкодны ў нашым

жыцці і вядуць чалавека на шлях самадурства і прафсаюзнай недысцыплінаванасці.

1. Каровы, якія дужа равуць, мала малака даюць!

Паспрабуйце якой хочаце малошнай карове не даць патрэбных калорыяў, дык як зараве яна!

Такім чынам, гэта і фактычна няверна. А затым прыведзеная тэза накіравана супроць нашай прапаганды наогул. Мы дужа равом і мала карысці даём? Гэта вы хочаце сказаць, падсудны Торба?

2. Сук не дрэва, балота не золата, Самасуй не працаўнік!

Не кажучы аб маёй атэстацыі, я прашу суд звярнуць увагу, што Торба выступае супроць меліярацыі. Ён не лічыць нашы балоты залатым дном, між тым у кіруючых колах трымаюцца іншых поглядаў. Затым ён уносіць фактычную блытаніну, запэўняючы нас, што сук — не дрэва. Мы ведаем, што сук — частка дрэва. Трэба так і казаць, памятаючы, што ад нас моладзь вучыцца правільна выказваць свае думкі.

3. Стары вол псуе баразёнку.

Гэта яўны выпад супроць старых партыйцаў і старых спецыялістых наогул. Недапушчальны ў нашых умовах погляд. Не ўсе старыя валы псуюць чырвоныя баразны.

4. Да ўсяго чапляйся з кароткімі гужамі!

Шкодны кірунак, які можа змардаваць чалавека.

5. Кусайся, хоць зубоў не маеш!

Надзвычайна атрутная думка! Мы ніколі не будзем кусацца, калі зубоў у роце не будзе. Бо ў іншым выпадку з нас смяяцца будуць.

6. Каму служыш, а куцаму кланяйся!

Самагубна-нікчэмная тэза. Паводле нашай думкі: каму служыш, таму кланяйся. Ніякага дуалізму.

7. Жні там, дзе не сееш!

Шкодны дэвіз, які вядзе да анархізму і вытворчай блытаніны.

8. Камсамол — вялікі хлопец, якому бацькавы споднікі кароткі!

Нікчэмнае і няверная азначэнне ролі нашай баявой арганізацыі.

Усе гэтыя тэзісы атручваюць наш здаровы апарат, уносяць дэзарганізацыю ў быт. Падсудны Торба, незалежна ад таго, хацеў ці не, з'явіўся рупарам дробнакулацкай стыхіі, несвядомым агітатарам за развал наша-

га новага жыцця. Хоць вялік пень, але дуплаваты! — скажам мы словамі Торбы. А таму я патрабую ад таварыскага суду такой вышэйшай кары для Торбы: ужыць у адносінах да яго астракізм, зрабіўшы яму ідэйную кастрацыю перад гэтым.

Абаронцай Торбы выступіла Крэйна. З чыста жаночым какецтвам і яхідствам яна гостра высмеяла структуру маёй абвінаваўчай прамовы. Яна смела запэўняла суд у тым, што прыказкі Торбы зусім не Торбіны, а належаць усяму народу ў цэлым. Дык ці не прыцягнуць на суд увесь народ? А затым Самасуй у вялікі канфуз уквэцаўся, бо ўвесь блакнот пісаны зусім не рукою Торбы, а рукою Самасуя!

Я цапнуў кішэнь, схапіў блакнот і, о жах! я захапіў з сабою не той блакнот!

Нягледзячы на гэта, суд вынес суровую вымову Торбе, прызнаў яго дзейнасць у якасці суддзі нявытрыманай і шкоднай.

Так парваліся цуглі мае дружбы з Торбай.

## VIII. ТРАГЛАДЫТ

Пасля гэтага працэсу ў мяне было пачуццё пякельнай нездаволенасці. Каб пазбыць яго, я заняўся навуковай і публіцыстычнай чыннасцю. Я паслаў у цэнтральную газету артыкул: «Як размяркоўваць свой час савецкаму працаўніку, калі ён не прысутнічае на пасяджэннях, сходах, нарадах і канферэнцыях». У Акадэмію навук я паслаў тры трактаты. Першы трактат аб вугалі ў Шапялёўскім раёне. Тут я падрабязна высвятляў:

— У раёне ёсць жоўты вугаль (сонца), белы вугаль (вада), блакітны вугаль (вецер), як аснова для заснавання грандыёзнага ветрабуду, зялёны вугаль (торф) і чырвоны вугаль (чалавек, жывёла). Пільныя доследы ў раёне праводзяцца ў мэтах адшукання чорнага вугалю, якога покуль што не ўдалося выкрыць.

Другі трактат вырашаў вельмі важнае ў нашых умовах пытанне «Аб фактарах, якія рэгулююць навучальны год у раёне». Я прызнаў, што галоўны фактар — свіння. Як толькі кінуць гэту звярыну ганяць у поле, тады пачынаецца вясковы навучальны год. Практычны вывад: нацыяналізаваць усіх свіней БССР. У гэтым трактаце я зачапіў яшчэ тры пытанні, звязаныя з першым: аб про-

стых спосабах праверкі налічча, фармальных навыкаў у вучняў, аб устанаўленні працэнту ахаплення школай дзяцей вучнёўскага ўзросту і аб стане беларусізацыі школ. Я раіў адказным працаўнікам, якія зацікавяцца гэтымі пытаннямі, уязджаючы ў вёску, пільную ўвагу звяртаць на тое, ці на ўсіх варотах крэйдаю накрамзолены вядомыя ўсім непрыстойныя словы і лаянка і ці сустракаецца ў іх «ў» заместа звычайнага. Калі вы атрымаеце станоўчыя вынікі, дык, не марудзячы ні хвіліны, вы, як даследчык, маеце права зрабіць вывад: 1) фармальныя навыкі ёсць (калі можна разабраць, што напісана), 2) усе дзеці ахоплены школай (калі на ўсіх варотах) і 3) беларусізацыя праходзіць здавальняюча (калі, хоць і рэдка, сустракаецца «ў»).

Трэці мой трактат аб першабытнай гаспадарцы ў Шапялёўскім раёне звярнуў увагу навуковай думкі ўсіх саюзных рэспублік. Вывучаць гэта пытанне на месцы прыязджалі татары, украінцы, мардвіны, чукчы і гілякі.

А справа ў тым, што я выкрыў гаспадарку аднаго селяніна, у якога непарушна захавалася земляробчая традыцыя, пачынаючы, мусіць, ад неаліту ці бронзы, як заўважыў Мамон.

Гэта гаспадарка належыць селяніну Трагладыту (гэта яго імя; прозвішча няма; як завуць па бацьку — не высветлена) і знаходзіцца ў Воўчыцкім сельсавеце, у 5 кл. ад в. Галадранкі. Гаспадарка ляжыць у глухім лесе, з чатырох бакоў абкружана непраходным балотам і дае сабой тыповае ўмацаванне — гарадзішча старога часу, з высокім драўляным астракольным загародам.

Гаспадарка ізалявана ад усяго свету і да гэтага часу, нягледзячы на 10-годдзе Кастрычнікавай рэвалюцыі, не была абкладзена ніякім падаткам і не занесена ў спіс насельных месц БССР.

У гаспадарцы Трагладыта няма ніякіх слядоў нашай культуры. Там не ўжываюць сярнічак, а вечны (святы) агонь гарыць на пяколачку. Няма дымаходаў, шкла. Нешта накшталт вакенак размерам 10 с.×15 с. ёсць, і замест шкла ў іх устаўлены бычыны пузыр. Сям'я Трагладыта не ведае мыла, газы, не ўжывае нічога жалезнага. Іголкі не сталёвыя, а драўляныя ці з рыбіных костак. Хата і пунькі сваёй архітэктурай не маюць сабе нічога адпаведнага ва ўсім дзікунскім свеце. У сенцах хаты (калі так можна назваць невялікую дзюрку, праз якую трэба паўзком улязаць) і ў пунях такія галава-

ломныя закруткі, што я ручаю: найвыдатныя тэхнікі і вынаходцы Саюза не разгадаюць іх.

Трагладыт і яго сям'я (тры сыны з жонамі, якіх яны «ўмыкалі»; у кожнага, як бобу, дзяцей) не ведаюць абутку ў нашым разуменні слова. Іх абутак з лазовай каравіны. А зімой яны носяць досыць моцны абутак. Яны абкручваюць ногі анучамі, а верхнюю анучу паліваюць вадой і некалькі хвілін стаяць на марозе. Тады зверху абмерзне ўсё, дубам стане і можа добра адыгрываць ролю ботаў.

Сам Трагладыт як звер абыходзіцца з сям'ёй, што добра ілюструе патрыярхальную эпоху чалавецтва. Сам лечыць сваю жывёлу і сям'ю словам, «кухтулём» (тэхнічнае слова, якое азначае механічны ўдар),раслінамі, сам вытварае кастрацыю, сам кроў пушчае і г. д.

Сям'я жыве замкнёным жыццём. Ніхто не ходзіць ні ў царкву, ні на сходы, ні нават на кірмаш.

Я даследаваў слоўнік мовы трагладытаў і вельмі спрачаўся з Мамонам аб колькасці слоў, якімі карыстаюцца трагладыты. Мамон даводзіць, што на Беларусі няма ніводнага сялянскага двара, у якім колькасць слоў была менш 15 000, а я запэўняў, што трагладыты ведаюць не больш 1000 слоў.

Цяпер я бачу сваю памылку. Цяпер я складаю вялікі трагладыцкі слоўнік (не менш 3000 слоў), які думаю 5 раз выдаць.

Што датычыцца рэлігійных пачуццёў у трагладытаў, дык практыка паказала, што нейкія рэлігійныя эмоцыі ёсць. Ніякіх абразоў выявіць не ўдалося, затое недалёка ад хаты, сярод двох карчавых дубоў, стаіць вялікі каменны статуй (Мамон кажа, што гэта каменная баба, я не ведаю, ці так гэта, бо родавыя адзнакі адсутнічаюць), і трагладыты, як ідуць каля яго, неяк таемна ўсміхаюцца, з іх вуснаў выходзяць нейкія дзіўныя дыфтонгі уо, ыа, а часта нават паліфтонгі.

Сюды неабходна накіраваць асобую экспедыцыю, якая дапаможа сацыялістычнаму будаўніцтву.

Праўда, гаспадарка дажывае свой век. Бурныя падзеі апошняга часу хваляй і сюды зайшлі.

Калі я першы раз выкрыў гэту гаспадарку, кіруючыся мутнымі весткамі суседняй вёскі, і ўзброены з'явіўся з Мамонам да трагладытаў, — усе схаваліся: і чалавек і жывёла, якая дзейнічала па прынцыпу супрацоўніцтва. Толькі з цягам часу мы атрымалі некаторыя весткі.

Трэба адзначыць адну рысу, якая сведчыць аб нейкім руху ўперад у гэтай гаспадарцы. Тры гады назад сам Трагладыт пачаў ужываць штучнае ўгнаенне на сваім полі. У якасці ўгнаення ён браў кавалкі трухлявага дрэва ці балотнага зёму і клаў у барозны з бульбай, адзінай культурнай раслінай, якая нейкім чынам папала сюды.

У канцы свайго трактата я прапанаваў:

— Захаваць гэту гаспадарку як музейна-паказальную і абвясціць дзяржаўным заказнікам, даўшы ахоўную грамату. Сюды наладжваць экскурсіі рабочых, сялян, вучняў і студэнтаў, каб азнаёміцца з першабытнай гаспадаркай даўняга часу.

Адказу на маю прапанову няма. Маўчаць пад прыкрыццем валакіты. А каштоўная прапанова гібее! — кажа Мамон.

Існаванне трагладыцкай гаспадаркі і гэты цікавы быт вельмі штурханулі ўперад нашу думку. Я дабіўся ад РВК выпісаць на сродкі самаабкладання наступныя прылады, неабходныя для разгортвання нашай культпрацы ў раёне і прапаганды навукі ў масах: 1) шкалу вачэй, каб навукова сістэматызаваць і падзяліць на класы насяленне раёна паводле колеру вачэй; 2) шкалу валосся — аналагічная першай мэта; 3) ручныя сіламеры для падрабязнага падлічэння, колькі конскіх сіл ёсць у раёне; 4) слінавую прыладу для вывучэння складаных рэфлексаў; 5) поўны набор мерак вагі і даўжыні для высвятлення будовы цела, твару і варыяцыйнай крывой індэксу чэрапа ў шапялёўскага насялення.

Усё гэта абяцала вялікія поспехі ў нашай працы.

## IX. ПРАТАРЧАКА ЖЫЦЦЯ

— І тут раптам маю культурную дзейнасць у Шапялёўскім раёне гвалтоўна ліквідавалі. Хацелі нават зусім адшыць мяне ад культбуду, але гэта спроба не ўдалася. Мая культпраца зноў разгарнулася ў іншым месцы і ўжо на больш пашыранай базе.

Генезіс усяе гэтае, ганебнае для некаторых асоб, гісторыі наступны.

Напрамак нашай культпрацы заўсёды быў такі, каб адна праца мела зрашчванне з другой. Папулярызуючы

навуку ў сялянскіх і рабочых масах, мы ў той жа час прасоўвалі і мастацтва ў масы. Мы арганізавалі раённы вандроўны тэатр і дырэктарам яго прызначылі т. Бычанка, вельмі здольнага арганізатара і прыгожага мужчыну, на якога толькі паглядзеўшы, дзеўкі ўжо млелі. Шляхам падачы заяў ён набраў 8 акторак і 12 актораў і распачаў тэатральны сезон. Вельмі адчуваўся рэпертуарны голад, але дзякуючы ўмеламу тэатральнаму кіраўніцтву знайшлі аднаго дзеда, і ён напісаў у 4 дзеях п'есу «Рэў Сопік». Бліскуча выканаў яе тэатральны калектыў. Другую п'есу «Каханне пад прымусам» напісала піянерка Палага Кулік. А трэцюю, з-за якой усё ліха загарэлася, напісалі калектыўна: я, Свердзялюк, Мамон, Гыля і Юрлік. У ход мы пусцілі ўсё калектыўнае выабражэнне, і ў п'есе былі малюнкі, захапляючыя і падаўляючыя сваёй індустрыяй і хараством. Назва п'есы «Пратарчака жыцця».

Пралог да п'есы напісаў я з Мамонам. Пад моцным уражаннем гаспадаркі Трагладыта мы паказалі, як жылі тыя людзі ў даўнія часы. Згодна нашаму задуму, у пралогу выконваецца вялікі эксцэнтрычны балет па прынцыпу тармасухі. Акторы да пояса голыя, апранутыя ў ваўчыныя, лісіныя, авечыя шкуры.

Шмат мы затрацілі энергіі, каб бліскуча ў нашых умовах спрацаваць п'есу. Але п'еса так падабалася ўсім, што мы да глыбокай ночы сядзелі ў пакоях сямігодкі і рыхтавалі яе.

Ролю галоўнай гераіні мы далі Сошы-Дошы, і яна цэлыя дні і ночы праводзіла ў шуканні найлепшай вопраткі, цікавых жэстаў і інтанацый. Я не адставаў ад яе. Гэта агульная культурная справа зблізіла нас. Як толькі канчаліся мае заняткі, я ішоў на кватэру Сошы-Дошы, і мы да таго часу, як трэба было збірацца на рэпетыцыю, рыхтавалі для яе і для мяне адзенне, рабілі з кужалю і афарбоўвалі экзатычнае валоссе, прыладжвалі звярыныя шкуры і г. д. Яна была такой мілай у сваёй дзіцячай непасрэднасці, што часта я не мог устаяць, вельмі рух мяне забіраў, і тады я палка цалаваў гэта 18-гадовае дзіцё. Трэба падкрэсліць, што заўсёды я даваў належныя каментарыі. Я рабіў тое самае, што адзін герой у нейкім рамане: цалуючы Сошу-Дошу і маючы на ўвазе сакратара, гаварыў ёй:

— От табе, Соша, мой палкі пацалунак, а ўсё іншае дасць табе твой жаніх!

Адказам на гэтыя словы быў яе смех. Гарэзліва гледзячы мне ў вочы, дзяўчына гаварыла:

— Я не хачу, каб усё іншае даў мне жаніх! Я не кахаю яго! Выходжу замуж, бо ў яго палажэнне...

Гэта распаляла мяне, але я стрымліваўся, канкрэтна ўяўляючы ўсю небяспеку, якую можа мець адзін неасцярожны крок, тым больш што вельмі марудзілі з залічэннем мяне нават у кандыдаты партыі.

А тут нейкі навухаданосар інфармаваў сакратара, што мае адносіны з яго нявестай зайшлі вельмі далёка, куды далей, чымся ў сакратара.

У час спектакля, калі ўзнялася заслона, першая на сцэну выйшла Соша-Доша голай да пояса. У яе была прыгожая лісіная шкурка, ніжэй пояса, а на грудзёх бліскучыя па спецыяльна зробленаму заказу бляшачкі, прыгожа выпукляючыя яе дзявочыя грудзі. Валасы на галаве былі зусім чырвоныя, пышныя, да самых пят. Яна была бязмежна чароўнай, і я ахаў за кулісамі.

І калі пачаўся балет па прынцыпу першабытнай захапляючай тармасухі, я, выконваючы ролю цэнтральнага героя, вырабляў надзвычайныя выкрунтасы ў пары з Сошай-Дошай. Гэтым «па» нас навучыў адзін ленінградскі рабочы Ермаловіч, які ў гэты час прыехаў да нас у адпачынак. Ён вельмі захапляўся факстротам і ведаў каля 17 відаў яго. Ён стылізаваў першабытныя скокі па прынцыпу факстрота. Я забыўся на ўсё і з захапленнем тармасіў Сошу-Дошу.

Калі скончыўся пралог і зачынілася заслона, толькі некалькі ціхіх апладысментаў пачулася ў зале — факт небывалы ў практыцы шапялёўскага тэатральнага жыцця. Звычайна ў Шапялёўцы пляскаюць усякаму, хто выступае. А нам не зрабілі гэтай ласкі, бо ўся публіка была вельмі шакіравана, пабачыўшы нашы голыя «лыткі, ляшкі, грудзі і дзіўныя рухі» (літаральна сказаныя словы).

Тут і адбыўся фінал маёй шапялёўскай дзейнасці. На сцэну, дзе былі мы ўсе, узляцеў абураны сакратар і запытаў у мяне:

— Хто даў дазвол ставіць гэтую брыду? Хто аўтар?

Я не стрымаўся. Мяне абурыў тон. З гонарам:

— Калі вас цікавіць гэта пытанне, зайдзеце сюды праз 1/2 гадзіны, і я адкажу вам. А цяпер трэба рыхтаваць 1 акт.

— П'есу трэба зняць, каб не было потым...

— П'есу дазволіў паставіць я. Я райліт і адказваю за свае крокі.

— У такім разе я настойваю, каб п'есу спынілі...

— Я гэтага не зраблю...

На мой бок стала Соша-Доша і з усім сваім інтрыганцка-жаночым талентам накінулася на сакратара, шпігуючы яго невуцтвам.

Гэтага ён сцярпець не мог, абурана пакінуў сцэну, а праз пяць хвілін з'явіўся ўпаўнаважаны і арыштаваў мяне.

Але гэта не зламала мае энергіі.

На другі дзень я даведаўся, што на пасяджэнні прэзідыума РВК мяне за нетактоўныя паводзіны знялі з працы. Гэта абурыла мяне. Я напісаў у РВК, што, лічачы гэту пастанову няправільнай, я абвяшчаю галадоўку. Сакратар прызнаў мой учынак «небывалым у савецкіх умовах выбрыкам».

Ініцыятары маёй ліквідацыі перапалохаліся і накіравалі мяне ў акругу.

Там добра высветлілі маю публіцыстычную і культурную дзейнасць і перавялі мяне ў акругу на больш адказную працу, як вытрыманага, непалахлівага працаўніка, а сакратару зрабілі вымоўку.

Соша-Доша доўга не ведала, да каго схіліцца. Пасля доўгіх хістанняў яе дзіцячыя вочы ўсміхнуліся сакратару, а галоўка прытулілася да яго пляча.

Так скончылася мая шапялёўская дзейнасць.

*Менск, 31/VII—29*

# У Калінінскім павеце

## Чэрыкаў і Клімавічы

Агульна кажучы, беларускі культурны нацыянальны рух яшчэ не пашырыўся па Клімавіцкім і Чэрыкаўскім паветах. Але куды ні сунешся, усюды чуеш гутаркі аб Беларусі. Нават і сяляне пры ўсялякім выпадку пытаюцца аб далучэнні да Беларусі. Спрэчкі аб Беларусі не спыняюцца, і гэта сведчыць аб тым, што гэта пытанне своечасовае і жыццёвае.

Не гледзячы на ўсё гэта, адміністрацыя нікольки не ўзварушылася, як быццам нічога і не здарылася вялікага, значнага. Яна толькі пацвярджае факт далучэння, не тлумачачы прычын яго. Яскравым прыкладам гэтай халоднасці з'яўляецца ўжо тое, што хоць паветы далучаны прынцыпова яшчэ тры месяцы таму назад — але і дагэтуль нават у сямігодках не выкладаецца беларуская мова і не рыхтуюцца да яе выкладання. Чакаюць указкі. Дзякуючы ўсяму гэтаму праца па ідэйнаму злучэнню з Меншчынай не вядзецца.

Яно і не дзіўна. Нават і дзяржаўныя ўстановы не ведаюць добра, што робіцца ў цэнтры, не выпісваюць газеты «Савецкая Беларусь» і пакуль што пэўне і не думаюць аб гэтым. Нам вядома, што з аб'яднаных Чэрыкаўскага і Клімавіцкага паветаў, здаецца, толькі два мястэчкі карыстаюцца газетай «Савецкая Беларусь». Гэта Краснаполле і Саматэвічы.

Адносна Краснаполля нам вядома і больш. Тут ёсць сур'ёзная праца па пашырэнню беларускай культуры. Існуюць два гурткі: адзін — вучнёўскі з шасцідзесяці чалавек, другі — настаўніцкі з чатырнаццаці чалавек. Дагэтуль паставілі чатыры спектаклі на беларускай мове.

Вучнёўскі гурток працуе добра — тут вучацца пісаць, чытаць, пець і прымаць удзел у спектаклях. Трэба падкрэсліць яшчэ і тое, што ў Краснапольскай воласці ў сучасны момант тры настаўнікі навукова працуюць над беларускай мовай. Прадпасылкі ў іх ёсць: яны

маюць беларускі слоўнік Насовіча, творы Карскага, падручнікі, часопісы і прыгожую літаратуру.

А адзін з іх ад самай восені працаваў над пісаннем новай п'есы на беларускай мове. Цяпер яна закончана і праз месяц будзе ў Краснаполлі пастаўлена. П'еса названа «Як згінула апраметная», у чатырох актах з трыццаццю дзеючымі асобамі. Надоечы ўсё Краснапольскае настаўніцтва на прыватным сходзе слухала гэтую п'есу. Не будучы крытыкам, усё-такі адразу зразумееш, што гэта п'еса ёсць твор рэвалюцыйнай сімволікі і сваёй мэтай мае намаляваць у сімвалічных формах гібель і адраджэнне Беларусі. Па зместу, стылю і чыста магілёўскай народнай мове п'еса вельмі цікавая.

Цяпер тут гавораць яшчэ аб раёнаванні Беларусі і шмат гутарак аб праекце раёнавання, па якім Беларусь дзеліцца на кантоны. Гэта прызнаюць правідловым, лічачы дарэмным існаванне губернскіх цэнтраў.

1924

## Асвета масаў у Краснапольскім раёне

Краснапольскі раён абымае самы глухі куток Беларусі. Вялікая адлегласць ад чыгуначных шляхоў, ад акружнога цэнтра, дрэнныя зносіны з ім — усё гэта робіць тое, што раён у большасці выпадкаў аддадзены самаму сабе. Не наязджаюць сюды культурныя сілы цэнтраў, прадстаўнікі вышэйшай народнай улады, якія часта бываюць у іншых раёнах. Яны абмінаюць Краснапольскі раён, бо гэта вельмі кружна.

Нягледзячы на ўсё пералічанае, у раёне за апошні месяц прароблена вялікая праца па асвеце працоўных масаў, вядзецца перш-наперш інтэнсіўная праца па палітычным выхаванні грамадзянства, асабліва моладзі. Тут існуе партшкола, ці палітычныя курсы, якія мелі працягнуцца два-тры месяцы, але, дзякуючы вялікай прыхільнасці, усё нарастаючай зацікаўленасці, курсы дагэтуль працуюць па тры разы ў тыдзень, і гэткім чынам сапраўды зрабілася партшкола.

Потым вельмі часта адбываюцца раённыя беспартыйныя канферэнцыі сялян і моладзі. На іх першае

месца займаюць даклады па сельскай гаспадарцы і падатках. Гэткіх канферэнцыяў за апошнія паўтара месяцы адбылося тры. Асабліва цікавай канферэнцыяй была канферэнцыя ў Дзень ураджаю, на якой быў вялікі даклад агранома. Яго сяляне затармашылі, замардавалі сваімі пытаннямі аб паляпшэнні гаспадаркі. Гэты факт паказвае, што ў раёне вельмі цікавяцца сельскагаспадарчай асветай.

Палітычная асвета вядзецца таксама і ў раённай сямігодцы: тры разы ў тыдзень вячэрнія палітычныя заняткі з дакладамі і чыткай газет.

Ёсць вынікі і па прафесійнай асвеце сяброў розных саюзаў. Кожны тыдзень адзін раз збіраюцца на лекцыі па прафесійнаму і работніцкаму руху. Апрача таго, у кожнага калектыва ёсць свой прафдзень, калі абгаворваюць пытанні свайго цэху. Урэшце, два разы ў месяц адбываюцца агульныя сходы сяброў саюзу. На гэтых сходах калі-нікалі робяць свае даклады райвыканком і кааператыў, што цесна злучае ўладу з масамі.

Вядзецца здавальняючая праца і ў антырэлігійным кірунку. Камсамол пры кожным вялікім свяце, хрысціянскім ці жыдоўскім, наладжвае антырэлігійныя вечарыны, лекцыі, а нядаўна школьны савет сямігодкі і камсамол зрабілі грандыёзны грамадзянска-палітычны суд над пяцідзесяццю дзевяццю вучнямі, якія ў свята «Ём Кіпур» не пайшлі ў школу. Нардом быў бітком набіты, прыйшлі бацькі вучняў. Былі выдзелены лепшыя сілы ў якасці пракурораў і абаронцаў. Антырэлігійная прапаганда на практыцы бачна яшчэ з таго, што ў Краснаполлі ўжо даўно не святкуюць нядзелю, а панядзелак. Нават кааператывы, не ў прыклад іншым мясцовасцям Калінінскай акругі, гандлююць па суботах і нядзелях, і гэта ўжо гады тры.

Зроблена, хоць і мала, у распаўсюджанні насценных газет.

Шмат робіцца ў арганізацыі спектакляў. Кіруе гэтай справай артыст-прафесіянал Кешаў. Спектаклі адбываюцца ў Нардоме, які тры гады таму назад зрабілі з сінагогі. Тут ставяцца часта беларускія спектаклі (было шэсць); у апошні час яны нешта заглохлі, бо ўжо ўсе падыходзячыя да мясцовых варункаў п'есы адыграны, а іншых няма. Калі падлічыць па раёне, колькі было беларускіх спектакляў, дык не будзе брахня, калі сказаць, што не менш трыццаці спектакляў. Усе гэтыя «Мі-

кітавы лапці», «Саўкі», «Прымакі» валэндаюцца там у вёсках. У саўгасе таксама нядаўна збудавалі сцэну і ўжо быў беларускі спектакль. Кіруе гэтай справай настаўніца Ліранцэвіч.

Беларусізацыя ўжо не здаецца дзікунствам, і цяпер ужо паўсюды можна бачыць беларускую газету, плакаты. Асобна ў гэтым кірунку працуе настаўніцтва, якое павяло з новага году грунтоўную перападрыхтоўку. Адзін раз у тыдзень адбываюцца вечарам заняткі па чатыры гадзіны. Апрацаваны план працы да студзеня, пасля якога намечаны даклады для кожнага настаўніка, і ён павінен рабіць яго абавязкова па-беларуску — даклады па гісторыі, літаратуры, педагогіцы, сацыялістычным руху.

1924

## Краснапольскі раён Калінінскай акругі

Сабралася на канферэнцыю да сямідзесяці настаўнікаў, прыйшло гасцей шмат.

Пытанняў было багата: аб працы настаўніка ў культурна-асветных установах партыі і ўлады, аб працы яго сярод жанчын, аб газеце ў школе, аб комплекснай сістэме выкладання, аб нацыянальнай палітыцы партыі, аб беларусізацыі і гэтак далей.

Трэба было паслухаць, як абгаварваліся гэтыя пытанні, каб усім ворагам савецкай улады і партыі перахацца, што савецкая ўлада канчаткова перацягнула на свой бок настаўніцтва, што апошняе і цяпер не мысліць сваёй працы без сувязі, цеснай сувязі з партыяй і камсамолам.

Вельмі моцнае ўражанне на настаўнікаў зрабіла прыехаўшая з акружнага жэнаддзела т. Пуставалава. Яна нарысавала жудасны малюнак жыцця беларускай жанчыны, яе безвыходнае гора, тугу, бяздолле, тумакі, якія яна атрымлівае ад свайго мужыка, яе маўклівыя, нікому не вядомыя слёзы за печкай, яе вечнае прадзева, яе радзільныя мукі сярод шаптух і гэтак далей.

Калі казала яна аб гэтым, кожны зразумеў, у чым сутнасць працы настаўніцтва сярод бяздольных беларус-

кіх жанчын. І сорамна рабілася, што часамі і не думаў аб гэтым.

Цікава абгаварвалася пытанне аб нацыянальнай палітыцы партыі і аб беларусізацыі.

І ў гэтым пытанні т. Пуставалава накіравала думку настаўнікаў на самы правідловы карацейшы шлях да правядзення беларусізацыі. Па яе прапанове была прынята рэзалюцыя, у якой настаўнікам, ведаючым беларускую мову, прапануецца ў выступах трымацца беларускай мовы. Усім астатнім прапануецца сарганізавацца ў гурткі і паміж сабой, як мага часцей, гутарыць па-беларуску і гэтак далей.

1924

## Культурны рух у Чэрыкаўскім павеце

Мястэчка Краснаполле Чэрыкаўскага (Калінінскага) павета да апошняга часу не было зачэплена ўплывам беларусізацыі. Але ўсё ж такі тут былі сябры, якія шчыра цікавіліся пытаннем аб адраджэнні Беларусі і наогул усёй беларускай культурай. Увосень 1923 года ў мясцовую школу другой ступені папала газета «Савецкая Беларусь» і зрабіла дужа моцнае ўражанне сярод настаўніцтва. Стварылася ініцыятыўная група сярод іх, і гэтая група парашыла пашырыць беларускі рух паміж сялянствам. Перш-наперш склаўся невялічкі (каля чатырнаццаці чалавек) гурток, які паставіў сваёй мэтай зацікавіць мясцовую моладзь у гэтым пытанні. Васемнаццатага лістапада мінулага года ўжо былі вынікі працы гуртка. У гэты дзень гурток паставіў у Нардоме «Паўлінку». Трэба было бачыць, як цікава, з шырока адчыненымі вачмі, глядзелі гэту п'есу грамадзяне. П'еса была дужа добра апрацавана, знайшлі нават старадаўнія вопраткі, галаўныя ўборы і гэтак далей, размалявалі новыя дэкарацыі (тут вялізарны, зусім падобны да гарадскога тэатр) — усё гэта, але галоўным чынам жывая беспасрэдная ігра дзеючых асоб, захоплівала гледача. Ува ўсіх вочы разбягаліся, калі сталі на сцэне спяваць і скакаць — гэты жывы малюнак прабудзіў

жывое пачуццё свайго роднага, прыгожага. Пасля спектакля гутаркі аб ім не спыняліся.

П'еса была пастаўлена ў другі раз на з'ездзе саветаў валасці і дужа спадабалася сялянам.

Дзякуючы гэтаму поспеху праца сярод гуртка пашырылася. Цяпер гатовы к пастаноўцы: «Модны шляхцюк», «Прымакі», «Саўка», «Па рэвізіі» і інш. Толькі з прычыны адсутнасці апалу ў тэатры немагчыма іх ставіць. Гурток чакае адлігі.

Сярод вучняў школкі таксама кіпіць праца: вечары з дэкламацыяй беларускіх вершаў, чытанне твораў і гэтак далей. Праца ўсё шырыцца. Шмат дапамагае ў працы загадчык Беларускага бюро пры Гомельскай губерні т. Шчарбінскі, які прыслаў, якую мог, літаратуру.

Цяпер пачынаюць арганізоўвацца сярод вучняў (а іх шмат — каля двухсот пяцідзесяці) беларускія гурткі — драматычны, харавы, літаратурны. Дагэтуль жа працавалі толькі расейскія гурткі.

1924

## Фізкультура ў мястэчку Краснаполлі

### Калінінскі павет Гомельскай губерні

У мястэчку Краснаполле ў сучасны момант існуе гурток фізкультуры. Ён складаецца з вучняў першай і другой ступеняў, камсамольцаў. Лічыцца ў гуртку каля сарака пяці чалавек. Кіраўніком гуртка з'яўляецца сакратар ячэйкі камсамола с.* Донін. Цяпер праца вядзецца, галоўным чынам, у напрамку сакольскай гімнастыкі. Пашырыць працу ў іншых напрамках да вясны немагчыма. Прылады да гімнастыкі тут ёсць.

23 лютага быў вечар у школе другой ступені, і на гэтым вечары адбылося першае выступленне гуртка, якое зрабіла добрае ўражанне на ўсіх. Цікава і радасна было бачыць, як дысцыплінавана дзяўчынкі і хлопчыкі выраблялі элементарныя прыёмы сакольскай гімнастыкі. Гімнастыка выканана была пад бравурныя гукі рая-

* Праўдападобна — саколец *(рэд.)*.

ля. Усё гэта атрымала буру воплескаў. На гэтым жа вечары было выканана восем нумароў беларускіх песень, што таксама ўсім спадабалася.

1924

## Ненармальныя адносіны да справы асветы

### Мястэчка Краснаполле Калінінскага павета

Ужо з 1918 года тут існуе школа другой ступені. Яна ўжо выпусціла чатыры кадры вучняў, не менш ста пяцідзесяці чалавек, а цяпер над ёй раптам стрэслася бяда. Прыкрываючыся тым, што тут павінна быць сямігодка, валасны Выканаўчы камітэт знайшоў, што школа можа абысціся без двух будынкаў і надворных пуняў. Вось і прыйшоў загад у двухдзённы тэрмін ачысціць школьныя будынкі, каб даць месца Валвыканкому, які павінен быць рэарганізаваны ў райвыканком.

Па нашаму погляду, калі для другой ступені нельга абысціся без гэтага, дык для сямігодкі тым болей, бо для першай трэба пяць класаў, для апошняй сем-восем. Апрача таго, у голых, дрэнна абсталяваных класах былога гарадскога вучылішча нямысліма весці ніякай клубнай працы, ніякіх чытак, ніякіх гуртковых заняткаў.

ПАНА* таксама пратэстуе: ёсць і пастанова, але Валвыканком, не чакаючы адказу з Менску, выганяе школу й настаўнікаў і дамагаецца паставіць уладу прад фактам гвалтоўнага высялення школ з займаемых памяшканняў і вадварэння туды Валвыканкома.

Вось якія адносіны да асветы: не абмазгаваўшы, не даследаваўшы, не абгаварыўшы пытання з усіх бакоў, без усякай камісіі — гвалтоўна разбурваць школу.

Звярнеце, ад каго належыць, увагу, бо сістэматычныя прыдзіркі да школы й школьных працаўнікоў яшчэ маюць месца.

1924

---

* Павятовы аддзел народнай асветы (*рэд.*).

## Настаўніцтва пакрыўджана

### Мястэчка Краснаполле Калінінскага павета

Усюды выконваюць дэкрэты, па якіх настаўніцтва ў другую чаргу павінна быць здолена лугам. Але ў Краснаполлі на гэта не звяртаюць увагі. Як паехаў у водпуск старшыня выканкома, дык настаўніцтва, нягледзячы на доўгія клопаты і загады з павета, дагэтуль не надзелена лугам. Такіх настаўнікаў пятнаццаць чалавек. Бліжэйшыя лугі раздалі каму трэба і каму не трэба. А настаўнікаў, каб адкараскацца ад іх, паслалі за сорак вёрст, ды яшчэ далі луг, які заарандаваны сялянамі яшчэ з мінулага года. Зразумела, што сяляне гэту сенажаць скасілі. Настаўнікі толькі страціліся, ездзіўшы туды, бо ні ў воднага з іх няма каня. Мясцком адбіў ногі, валэнданочыся да выканкома. А цяпер кажуць: самі віноўны, трэба было хутчэй касіць (сялянскі луг!). Ды яшчэ супакойваюць: «Пачакайце, мы разбярэм гэту справу. У нас яшчэ ёсць фонд там жа, за сорак вёрст, і калі ў гэтым вы не выйгралі, дык у другім пэўне выйграеце». Вось так забаўляюць.

1924

## Культурная праца школы сярод жыхарства

### Калінінскі павет

12 чэрвеня ў Краснапольскай школе другой ступені адчынілася школьная выстаўка, якая працягвалася аж да 15 чэрвеня і была святам не толькі для вучняў, але і для ўсяго мясцовага і вакольнага жыхарства. У працягу чатырох дзён дзверы выстаўкі не зачыняліся, зацікаўленыя грамадзяне тоўпіліся ў памяшканнях школы ад раня да позняй ночы. Выстаўка яскрава паказала вынікі школьнай працы як у чыста вучэбных адносінах, гэтаксама і ў адносінах школы да жыхарства.

Выстаўка была выканана па-мастацку. Вялікая зала і кабінет былі адведзены для экспанатаў, другая зала для рэфератаў, дакладаў, хору, дэкламацый. Даволі

багатыя калекцыі па батаніцы і заалогіі былі зроблены вучнямі. Прыемна было бачыць, з якою любасцю і зграбнасцю зроблены былі экспанаты.

Мастацкі аддзел таксама звяртае на сябе ўвагу: шмат вучняў далі на выстаўку скульптурныя і малюнкавыя экспанаты, напрыклад, ёсць партрэты і скульптура Леніна, Маркса і іншых правадыроў рэвалюцыі.

Ёсць і статыстычны аддзел, які ў лічбах ілюстрырує вучэбную і эканамічную старонкі школьнага жыцця: тут дыяграмы нацыянальнага складу вучняў, судзімасці, культпрацы і гэтак далей.

Шмат іншых было аддзелаў на выстаўцы, але найбольш цікавым і паказальным быў аддзел мясцовага жыцця. Асобна цікавіў экспанат, зроблены вучнямі восьмай групы. Ён прадстаўляў усю сялібу беларуса Чэрыкаўскага павета з калодзезем каля хаты, з мужыком і бабай на вуліцы. Потым, к гэтаму ж аддзелу адносіцца вучнёўскі часопіс, ахвераваны выстаўцы; у гэтым часопісе большую частку зместу складаюць матэрыялы па краязнаўству: тут ёсць запіс найбольш характэрных для воласці беларускіх песень (каля дваццаці пяці), казак, частушак, і ўсё гэта ілюстравана малюнкамі ў чыста беларускім стылі.

Вечарамі ўсе дні выстаўкі былі даклады, рэфераты, і трэба адмеціць значныя заваёвы ў гэтай галіне.

Пасля рэфератаў звычайна выступаў беларускі хор вучняў. Хор цяпер ужо мае рэпертуар у сорак песень.

Закончыўся вучэбны год і выстаўка пастаноўкай беларускага спектаклю. Ставілі «Маньку»; яна была выканана выключна вучнямі выпускной групы.

1924

## Статуя Леніна

### м. Краснаполле, Калінінскі павет

Грамадская думка мястэчка Краснаполле ў сучасны момант захоплена Леніным як вучоным і чалавекам. З настаўнікаў сваёй прыхільнасцю да ленінізму як жыццёвай дактрыны асобна выдзеліўся настаўнік Грубэ. Ён па адукацыі скульптар і займае месца выкладчыка мас-

тацтваў II ступені. Калі ў Краснаполлі здарыўся бандыцкі налёт, т. Грубэ ледзьве не забілі, ды кончылі тым, што падпалілі яго кватэру, дзе згарэла каля 200 штук вялізных і малых малюнкаў статуй.

Цяпер т. Грубэ не абмяжоўваецца школьнай працай, а вядзе шырокую грамадзянскую працу ў духу ленінізму. Так, дзякуючы яму ўсе мясцовыя клубы, хата-чытальня, тэатр, кааператыў мастацкі абстаўлены. Нардом са сваім тэатрам ёсць у поўнай меры праца яго рук. Ва ўсім павеце няма такога пекнага тэатру, з такімі размаітымі дэкарацыямі, як у Краснаполлі, — і гэта ўсё зрабіў т. Грубэ. У клубах ёсць ленінскія гурткі, вялізныя партрэты і статуі Леніна і Маркса, ды агульна сказаць, — куды ні пасунешся, у якую толькі ўстанову ні зойдзеш у Краснаполлі — усюды бачыш, якім чынам мастацтва дапамагае працоўнаму люду ў яго барацьбе з цемрай.

Т. Грубэ так моцна захапіўся ленінізмам і асобай Леніна, што на працягу апошніх месяцаў працаваў над каласальнай статуяй Леніна. Цяпер яна закончана. Мы пасылаем у рэдакцыю тры фатаграфічныя здымкі статуі ў поўным выглядзе, en face і профіль галавы.

Назоў статуі «Ленін на трыбуне».

Мы павінны напісаць аб гэтым, бо мыслім, што праца т. Грубэ павінна звярнуць на сябе ўвагу вышэйшых устаноў. Мы ўпэўнены, што ў Беларусі такія карысныя, натхнёныя людзі ў галіне мастацтва павінны мець падтрыманне.

У звязку з дэкрэтам аб ленінскіх статуях і партрэтах (аб гэтым надрукавана ў газеце «Савецкая Беларусь») усе работы Грубэ ў гэтай галіне павінны прайсці санкцыю. Мы пасылаем здымкі ў рэдакцыю з шчырай просьбай, ці не зможа паважаная рэдакцыя даць якую-небудзь параду, куды звярнуцца за санкцыяй, бо тут ніхто аб гэтым не ведае, а ехаць у Менск за гэтым нельга, тым болей што статуя мае вагі каля 12 пудоў і зроблена з белай гліны.

1924

# Па Гомельскай акрузе

## Краязнаўчыя нататкі

### І. УВАРАВІЧЫ

Менскі цягнік прыходзіць на станцыю Узу каля адзінаццатае гадзіны раніцою. Адтуль да Уваравіч 6 кіламетраў. Бяру фурмана, і мы коцім туды. Праязджаем вялікую прытульную вёску Рудзянец. За ёю скора пад'ехалі і да Уваравіч. Перад самымі Уваравічамі прыгожы шлях з дубовымі прысадамі, якія надзіва захаваліся. Канчаюцца дубовыя прысады, пачынаецца з правага боку дарогі вялікі ў некалькі гектараў пладовы сад, які раней належаў пану Ліпінскаму. А ў самым пачатку саду прыгожае гарадзішча, праўда, невялікае ў памерах, але добра захаванае. Месца гэтае завецца тут «Гарадком», і пра яго шмат існуе тут легенд і паданняў. Кажуць аб бочках золата, якія быццам тут закапаны, і як хочаш абвяргай гэтую казку — старажылы ўпарта адстойваюць яе. На гарадзішчы растуць цяпер вялікія дрэвы — дубы, бярозы і розныя хмызнякі, а ўнізе разляглася балацяная Уза і адчыняецца бязмежная прастора палёў.

Сад канчаецца паркам, зусім невялікім, распланаваным на ангельскі манер. У парку дом былога пана, а цяпер тут змясціўся РВК. Нічога асаблівага ў будынку няма.

Насупраць РВК бровар. Да бровара ўвесь час цягнуцца сялянскія падводы з бульбай. Тут вельмі шумна: у раёне ў гэтым годзе бульба ўрадзіла, і сяляне спяшаюцца скарыстаць сухое надвор'е, каб падвезці на бровар па сходнай цане бульбу.

Заходжу ў РВК, пытаю пра краязнаўчае таварыства. Інспектара асветы няма, і няма каму даць мне весткі, ці ёсць тут арганізацыя, ці няма. Параілі пайсці ў школу. Іду праз доўгую і досыць шырокую вуліцу-сямігодку, якая ў той жа час з'яўляецца і рынкавым месцам.

Стаяць сялянскія падводы са збожжам, яблыкамі. Прыслухоўваюся да гутаркі. Выразнае аканне і цвёрдае р. Цікавыя звароты мовы, новыя словы ці новае разуменне вядомых мне слоў. Так слова «крыўляцца» разумеюць тут у сэнсе крыўдзіцца, быць незадаволеным. Адна баба перадае другой:

— Вы крыўляецеся, што маей даццэ багата трэба, дык нехай дома сядзіць і нікуды ня йдзе!

Вось яшчэ цікавыя словы, якія пачуў тут: 1. златашыць крышу (пакрыць «латамі»); 2. нутры (вантробы); 3. подалека (не вельмі далёка); 4. глытачкі (рэўматычныя вузёльчыкі); 5. нажон (лік сжатага: сяголета нажон луччы); 6. удзечаства — урочышча: нам даюць зямлю ў Чапцовым імху, ды там плахоя ўдзечаства. Таксама вельмі цікавае тут вымаўленне, пявучае, мяккае, нягледзячы на шырокае аканне. Апошняе асабліва прыкметна са слоў аднае бабы, што жалілася другой:

— У міне, галубачка, гора, гора. Сына пабілі, дык дохтар гавора, што ў яго нешта параломана!

Загадчык школы-сямігодкі вядзе са мной доўгую гутарку. Ён сядзіць у настаўніцкай, лекцый у яго няма. Паведамляе, што краязнаўчае таварыства ў раёне ёсць, што гэтую працу вядзе настаўнік Купрэеў, што пры сямігодцы таксама ёсць вучнёўскі краязнаўчы гурток, але працы гуртка яшчэ няма, бо ён заснаваўся толькі ў гэтую восень. Мы гаворым аб форме і змесце працы вучнёўскіх гурткоў.

Прыходзіць сакратар таварыства т. Купрэеў. Да слоў загадчыка сямігодкі ён дадае вельмі мала: таварыства заснавалася толькі вясною, абрана праўленне з 3-х асоб, старшыня таварыства жыве ў 4—5 вёрст ад Уваравіч, і гэта перашкаджае наладзіць планавую працу. Папулярызацыя краязнаўчай працы вялася, і вынікам яе запісалася 60 сяброў. Праўленне заснавала 4 гурткі ў раёне, выпісала для іх «Наш край», але аб працы гурткоў нічога не чутна. Праўленне мае невялікія сродкі ад сяброўскіх складак. На настаўніцкай канферэнцыі ўвосень быў даклад ад таварыства, была інфармацыя аб плане працы таварыства. Цяпер таварыства пастанавіла троху змяніць план працы і правесці сталую працу ў адным напрамку. Такой працай таварыства лічыць вывучэнне рэўруху ў раёне. Гэтае вывучэнне будзе складацца з паасобных заданняў, якія будуць прапанаваны сябрам таварыства.

Доўга гаворым, як і ў якім напрамку ажывіць ці, правільней кажучы, распачаць працу таварыства. Але настаўнікам трэба закончваць лекцыі, і я прымушаны пакінуць школу. Мы ўмовіліся ў гэты дзень вечарам, калі ў школе будуць заняткі савецкіх служачых па вывучэнні беларускай мовы, сабраць краязнаўчы сход, на які запрасіць служачых і настаўнікаў местачковых школ.

Я іду «вывучаць мястэчка». Уласна кажучы, яно не падобна да мястэчка. Яўрэяў вельмі мала, няма цесната, збітасці ў адну кучу, як у іншых мястэчках. Уваравічы, ці, як тут завуць, «Варавічы» — вялікая, ва ўсе бакі расцягнутая вёска. Хаты, гумны з ёўнямі, двары, студні, увесь уклад жыцця такія самыя, як на Магілёўшчыне. Увесь местачковы характар Уваравіч выяўляецца з таго, што ёсць стары заезджы дом з дзіравай падлогай і некалькі прыватных крамак, якія невядома чым гандлююць. Усё жыццё каля кааператываў. Ад рання да вечара крамы перапоўнены народам. Усе тавары, што прывозяць, у адну хвіліну разбіраюць. Асабліва вялікі попыт на краміну, абутак, скуру, жалеза.

Праходжу вуліцу з канца ў канец, заходжу ва ўсе кааператывы, прыглядваюся, як і чым гандлююць, якія цэны, якія тавары, аб чым гамоняць спажыўцы-сяляне. Тут менш можна пачуць охання ды ахання з прычыны нашых гаспадарчых замінак, нездаволены толькі чэргамі, якія наглядаюцца пры продажы мануфактуры ды скураных тавараў. Невядома, каго і вінаваціць: прадаўцы працуюць да сёмага поту і не ў прыклад больш спрытна за менскіх прыказчыкаў у кааператыўных крамах.

Зноў іду да РВК і адтуль праз прыгожы парк і сад накіроўваюся да гарадзішча. Гэтае месца, па-мойму, лепшае і самае прыгожае месца ў мястэчку. Вымяраю яго, уважліва аглядаю паверхню ў надзеі, што, можа, што-небудзь знайду. Але ўсё зарасло векавымі дубамі і нават трава не ўзрыта. Толькі ў адным месцы, дзе, як відаць, быў уезд на гарадзішча, дзе стаяў надмагільны помнік пану, зямля разрыта, ад мармуровага помніка застаўся толькі адзін пастамент з надпісам на польскай мове, усё іншае, як відаць, з гневам было разбіта на дробныя кавалкі.

Як сцямнела, прыходзіць да мяне Купрэеў. Разам ідзем да сакратара РКПБ, яго няма дома. Заходзім да

АПА (Аддзел прапаганды і агітацыі) райкому т. Музычкінай. З ёю гаворым аб краязнаўчай працы і неабходнасці падтрымання яе з боку райкому. Прыходзім да згоды і вызначаем некаторыя спосабы ажыўлення краязнаўчай працы ў раёне. На краязнаўчым сходзе думаем паставіць пытанне аб кааптаванні ў склад праўлення некаторых асоб. Т. Музычкіна згаджаецца на сваю кандыдатуру.

Сход праходзіць здавальняюча. Даклад аб змесце і метадах краязнаўчай працы слухаюць уважліва. Прысутнічала каля 35 асоб. Пасля дакладу пачынаецца гутарка. Некаторыя даюць паведамленні аб цікавых рэчах і фактах у раёне. Кажуць, што тут былі вельмі цікавыя летапісы, якія сабралі з усіх цэркваў і ў вялікім ліку адаслалі ў Гомель, а мясцовая краязнаўчая арганізацыя праваронiла гэта і нават не пацікавілася праглядзець іх. Гаварылі яшчэ, што ў вёсцы Рудзянец жыве 120-гадовы дзед Рабіна (вельмі не любіць, калі яго так дражняць), сапраўднае прозвішча якога Варуеў, дык ён вельмі здатны апавядальнік розных жартаў, прыгод і яшчэ гэтым летам касіў і не адставаў. Назвалі некалькі жанчын уваравіцкіх, якія маюць добрыя галасы і яшчэ ведаюць старыя песні. У моладзі лепш не пытай — ніхто не ведае. Моладзь лічыць гэта адсталасцю, захапляецца мяшчанскімі рамансамі і прыпеўкамі. Падыходзіць яшчэ чорны барадач (пасля я даведаўся, што гэта быў страхагент Лукомскі) і гаворыць, што ён мае касцяны кінжал, які знайшоў каля Чачэрску ў рацэ, як сецямі лавіў рыбу. Дагадваюся, што гэта была прылада накшталт цяперашняй астрогі. Гаворыць яшчэ, што ў яго было шмат музейных рэчаў і бібліятэка, але ўсё гэта забралі, як пачалася «завіруха».

На другі дзень у мяне зранняя вольныя гадзіны. Іду на вёску. Бачу цікавыя арнаменты надваконнікаў. Вымаю блакнот, рыхтуюся змаляваць іх. Раптам адчыняецца кватэрка, высоўваецца галава ўчарашняга барадача, і тэнар крычыць:

— Таварыш, можа, зайдзецеся зірнуць на кінжал?

Іду, гляджу. Праўда, прылада вельмі цікавая і мастацкі зробленая. Разглядаюць яе ўсе супрацоўнікі страхагенцтва, разглядаюць яе і некаторыя кліенты, што прыйшлі па справах. Забыліся на справы і паперы, усе заняліся гутаркай на краязнаўчыя тэмы. Барадач зноў кажа, што ў яго было шмат каштоўнага і цяпер яшчэ

троху засталося. Але супрацоўнікі не верацць гэтаму і падзужваюць:

— Нічога ў цябе няма. Можа, было калісь!

— Ах вы ж, чэрці! У мяне няма? — крычыць барадач, спрытна нясецца ў другі пакой, дзе, як відаць, яго кватэра, і прыносіць скрыначку са старымі срэбнымі грашыма. Буйныя грошы, да 40 манет. Агент звяртае нашу ўвагу на мядзяныя кацярынскія грошы, што адбіты былі ў Кацярынбурзе. На грошах адчаканены дзве лісічкі.

Пагутарыўшы з гэтымі сімпатычнымі людзьмі, іду далей на вёску. Заходжу ў хату Ільлі Кабаева. Мне сказалі, што там ёсць жонка Ільлі і дзве дачкі, якія добра спяваюць. Але як адразу сказаць пра гэта? Трэба яшчэ намацаць глебу. Кажу, што ў мяне ёсць справа да іх. Здзіўлена паглядаюць то на мяне, то адна на адну — мужчын у хаце не было. Агледзеўшыся троху, кажу, што хацеў бы паглядзець, а можа, і купіць што-небудзь з іх хатніх вырабаў — рушнікоў, посцілак, настольнікаў. Нават не адгаварваючыся, адна дачка падыходзіць да вялізнай скрыні, адчыняе яе і просіць мяне падысці. Я падыходжу, і вочы мае разбягаюцца. О! Чаго тут толькі няма! Самае тонкае выбеленае палатно, старасвецкія жаночыя сарочкі, рушнікі і пратыканыя і вышываныя, безліч настольнікаў і на 5, і на 6, і на 8, і на 10 нітоў. Ёсць нават некалькі набіванак. Усё гэта так прыгожа і добротна выглядае, што нельга пазбавіцца ад спакусы што-небудзь купіць, хоць самае таннае. Цэны запрошаны «прыстойныя» і без павароту. Сяляне цяпер ведаюць, як ацэньваць гэтую маруднную працу. Купіў рушнічок, адклаў яго, сеў водаль, каля вакна, і перайшоў да больш важнай справы — запісаць мелодыі і словы песень. Надзіва, жанчыны не ламаліся і адразу пачалі спяваць: матка і дзве дачкі. Прыемна было слухаць іх гарманічныя песні і добрыя галасы. Жаль толькі, што я адарваў іх ад працы. Паспеў запісаць мелодыі і словы 4 песень: 1. Падымалася сы мора пагода; 2. Плавала вутка па мору хутка; 3. Пасадзіла чорныя зелля, зелійка ў гародзі...

Запрасілі мяне на вечар. Тады яны будуць вольнымі, абяцалі сабраць поўны хор жанчын і дзяўчат.

Ад Кабаевых я пайшоў да школы, дзе мы зноў абмяркоўвалі план працы, гаварылі аб фэнпункце і фэннагляданнях. Вырашылі заснаваць пункт пры школе.

Пасля абеду я зайшоў да Макара Жыліцкага, які лічыцца старэйшым на вёсцы. Мне цікава было распытаць яго аб гарадзішчы, аб паўстанні 63 года. На маё запытанне дзед кажа, што ён не самы старэйшы на вёсцы. Дзеду пры паншчыне было 18 гадоў. А ёсць другі дзед Мільлян, дык той быў ужо жанаты, а Макар яшчэ «бегаў па ляду». Неахвотна дзед успамінае мінулае. Адгаварваецца:

— Пражылае прайшло ўжо! Мабуць, і праўду кажуць, што старое плашэй було. Усё на пана рабілі. Тады і гаварылі так: пагода ваша, а нягода наша! А пра польскі бунт нічога не скажу! Ніякіх здзелак тады не было! Хадзілі на байдак (?) атрабатываць паншчыну, ды і ўсё!

— А як ты цяпер жывеш?

Дзед сумна смяецца.

— Жывем з бабай ды ажыдаем ад бога выспятка. Паміраць жа не хочам. А жыццё наша, дык во палядзі: два мяшочкі жыта намалаціў, пяць ёвянек, ды кароўку маем. Паечка ў балоце, яе выкашу, дык сенца ёсць. А зямельку ўсю сыны ўзялі, толькі 2 дзесяціны мне.

У размову ўступае і баба, якая дагэтуль моўчкі секла капусту ў карыце.

— Ламачча мы, нашто мы каму? Калані нас пад бок, дык капейкі ня нойдзіш! Ніхто нас не пажалее.

— Багата ў цябе сыноў? — пытаюся я.

— Э, мілы чалавеча! Два разы я быў жанаты, а дзяцей было ў мяне, як у Сроля. Ужо і забыўся, сколькі было!

Смешная гісторыя! Выходзіць, што гэтыя Філемон і Баўкіда па два разы шлюб бралі. Цяпер ім абодвым па 75 гадоў і абодвы з'яўляюцца вельмі чыстымі этнаграфічнымі тыпамі. Бадзёрыя людзі, нягледзячы на іх скаргі на старасць.

— Бывай здароў, дзед! — кажу на развітанне.

— Шчасліва скачы! — адказвае ён мне.

Вечарам у Кабаевых збіраецца вясёлая кампанія баб і дзяўчат. На стале пачастунак — яблыкі і скромная вячэра — параная бульба, салёныя агуркі і капуста. Моцна гучыць жаночы хор. Ад песень кружыцца галава, не ўсё магчыма занатаваць, бабы спяшаюцца спяваць, кажуць, што даўно яны гуртам спявалі. Запісаў каля 10 мелодый і словы да іх. Маральна супакоены і

эстэтычна ўсхваляваны, каля 10-й гадзіны ночы пайшоў я спаць, каб заўтра рана ехаць далей.

## II. ЦЕРАХОЎКА

Сеўшы на цягнік на станцыі Узе, еду на Гомель і адтуль на Церахоўку рабочым цягнікам. Абапал чыгуначнай лініі да самага Гомеля сады, сады і сады. У Гомелі спыняюся, заходжу ў Дзяржаўны музей, дзе змяшчаецца Акруговае таварыства краязнаўства. Завязваю сувязь, бяру ад таварыства розныя даручэнні, бегла аглядаю музей (некалькі разоў быў), заўважваю, што музей ужо мае краязнаўчы аддзел, які паступова папаўняецца. Ад Гомеля да Церахоўкі доўгі час едзем праз сасновы з бярэзнікам лес. Чамусьці здаецца, што нідзе няма такога прыгожага, стромкага непапсаванага прасекамі і ломам лесу, як па дарозе ад Гомеля да станцыі Вуць. Рабочы цягнік вязе галоўным чынам рабочых з гомельскіх фабрык і на кожнай станцыі і паўстанцыях пакідае групы рабочых, якія шпаркімі крокамі расплываюцца па блізляжачых вёсках. Месячны праезд рабочаму абыходзіцца ў 8 руб.

Ад станцыі Церахоўкі да раённага цэнтру — сяла Церахоўкі (мястэчкам яго нельга назваць) паўтара кіламетра будзе. Шлях абсаджаны прыгожымі старымі вербамі. Сярод пануючага тут бязлесся гэты шлях упрыгожвае ўсю мясцовасць, роўную, бязлесную, досыць аднастайную, асабліва цяпер, увосень.

Ужо цёмна, калі я іду да Церахоўкі. Выходзіць так, што Церахоўка — гэта доўгае, доўгае сяло, без усякіх адзнак прытулку, дзе можна было б спыніцца праезджаму чалавеку, мець ложак і шклянку гарбаты. Усе, хто па справах наведвае раённы цэнтр, спыняюцца каля чыгуначнай станцыі. Там ёсць «чайная», дзе ў асобным пакойчыку пастаўлена некалькі лавак, нічым не засланых, і праезджы такім чынам на гэтых пракруставых ложках можа так-сяк пераначаваць. Я не ведаў гэтага, і мне прыходзіцца прасіцца на начоўку ў першых хатах, якія папаліся. Але ніхто не пушчае. Адгаварваюцца цеснатой. І праўда, хаты больш-менш вольныя пазанялі савецкія служачыя, якія з вялікімі перашкодамі размясціліся тут, бо раён тут заснавалі нядаўна, і не дзіва, што зусім яшчэ няма тут умоў для размяшчэння не толькі служа-

чых, але і самых установ. Толькі дзве ўстановы ў больш-менш пераносных умовах — гэта РВК і больніца, але яны знаходзяцца побач адно з адным, што зусім не адпавядае прынцыпам санітарыі. Пры РВК ёсць дынама, і, такім чынам, больніца і РВК карыстаюцца электрычным святлом.

Доўга я бадзяюся па сяле, шукаючы прытулку. Пытаюся ў групы дзяўчат, якія гутараць, стоячы каля хат. Завязваецца з імі цікавая гутарка. Цэлую гадзіну стаю з імі і выведваю ад іх усё, што ў гэтую хвіліну адбываецца ў вёсцы: нядаўна праводзілі прызыўнікоў і цяпер без хлапцоў засталіся. Я вельмі дзіўлюся, што мова тут досыць чыстая і яшчэ зусім непрыкметна ўплыву Украіны. Мова тут тая самая, што і ў Уваравічах, але нібы троху мякчэйшая, з невялікімі адхіленнямі ад акання. Дзяўчаты кажуць: гро́шэй, жаль цібе́, ну ня так, як сібе́, пад козну, пажывіце́, пры харошых дзіціх і г. д., але ўсе гэтыя прыклады рэдкія, часцей чуеш выразнае, «пераліўнае» аканне: адкрадаць, спрабаваў, парамяніла, веям, пры́хамаці, прыцемкам і г. д.

Я так заюшыўся, гаворачы з дзяўчатамі, што забыўся нават пра тое, што мне трэба шукаць прытулку. Яны мне са смехам напомнілі гэта. Урэшце даюць мне раду завярнуць да аднаго селяніна, у якога на кватэры тры служачых. Іду да яго. І праўда: адразу пушчае мяне ў хату, даведаўшыся, што мне няма куды падзецца. Хата чыстая з кухняй. Праз пяць хвілін мы ўжо гаворым з гаспадаром, як добрыя прыяцелі.

Прозвішча селяніна Канцавы Сцяпан. Каля двох дзён прабыў я ў Церахоўцы і ўвесь час зацікаўлена прыглядаўся да яго. Калі б занатаваць усё тое, што гаварыў Сцяпан, дык, пэўна, выйшла б гісторыя, не менш цікавая за тую, што змясціў Дабравольскі ў I т. сваіх прац. Сцяпан — сын багацея, які ў старыя часы меў млын. Сям'я была шматлюдная, усе члены яе былі ў поўным паслушэнстве ў бацькі. Сыны «кала 'цца віньце́лі» — кажа Сцяпан. Матка Сцяпана мела 22 дзяцей, цяпер ужо штук 5 засталося. Сцяпану цяпер 38 гадоў. Год таму назад ён ажаніўся ў другі раз, і жонка, пражыўшы з ім 11 месяцаў і нарадзіўшы дзіцё, кінула Сцяпана. Мала таго, падала на суд, і прысудзілі яму 160 рублёў заплаціць жонцы і кожны месяц выплачваць па 5 рублёў. Гэта пранікненне «новага быту» ў жыццё Сцяпана моцна аглушыла яго, зрабілася нейкай ідэе

Ŧіхе, якая кожную хвіліну спасцерагае чалавека. Гаспадарка яго няважная, толькі жыве ад кватарантаў, якія плацяць яму па 4 рублі ў месяц, а сям'я яго — Сцяпан ды дачка 16 гадоў ад першага шлюбу. Мімаволі прыходзіцца злавацца на жонку, што кінула і «зацягнула на шыі вяроўку», як ён кажа.

Сцяпан кожнаму, хто толькі ні прыйдзе ў хату, пачынае гаварыць пра сваю жонку і тую шкоду, што яна нарабіла. Разоў сем ці восем слухаю я гэту сумную гісторыю, якая падаецца на розныя лады і з розных пунктаў гледжання.

— Яе ўжэ кодла такоя було! — кажа Сцяпан. — Ета ж за міне, за трэцяга йшла! А ўсё харошыя людзі былі і цяпер йішчэ жывуць; а на іе і глядзець ні хочуць! У ваднаго було гуменца як трэба, дварэц (двор), хата, усё, што трэба на абыходку. Ні спанаравілася жыць ды работаць! Ціпер за міне пайшла. Конь у міне, дзве каровы, лашонак, авечка, свінкі. Што ж йішчэ трэба. Зямлі, праўда, мала. Бацька, як дзяліў міне, ні даў багата. Ды і на етай дозі — гавару я з ёю — мы змаглі б жыць, каб ты была хаця хазяйка. Я ж чалавек, і ўсё ў міне як у чалавека. Ні п'яніца я, ні гультай. Ці було калі, што б я набракаўся воудкі. Ні ведаю, якога ёй канавода трэба? Ціпер жа бяз бабы як быці? — пытае ён у мяне. — Бяз бабы бясцэнна жывеш. Мармашэлі якой і той ня навaрыш! Баіцца да міне вярнуцца. Гавора мне: «Ты міне зарэжаш». Што я цібе буду рэзаць нажом? Я йішчэ і кулаком цібе нарэжу, каба толькі энэргія была! Ета ты толькі й думаяш, як мне зла ізьдзелаць, сваю сэрцу ня зьменіш аніяк, а я пражыву і так! Свет ня клінам сышоўся на табе! Людзі памагаюць, заплоціш — памагаюць! А ты як будзіш? Грошы мае ўжэ правяла — летам на станцыю, на кінықі (кіносеансы) хадзіла. Я с сілы выбіваўся, споту ні схадзіў, а ты гігікі спраўляла. Ты лярва 'дным словам! Шчасьліў пуць хоць і век ня будзь! — гнеўна канчае сваю тыраду Сцяпан.

Запісваю некаторыя цікавыя словы і звароты мовы: 1) падолець (осилить); 2) шварка — гарсэт; на маёй бацькаўшчыне ў Чэрыкаўшчыне гэта завуць «кабат»; 3) юпка — жаноцкая «тужурка», куртка; 4) скарадзьбік (цікавы суфікс ік, чаму не скарадзьбіт, як у нас кажуць); 5) дылі — потым; 6) зладзіць — прыйсці да згоды; 7) шуець — чепуха, зброд (літ. «накипь»); 8) лабачок — бугорок: як на лабачку дык бульба, як

гарох, а ў лашчынцы добрая; 9) набузяніць — загрязниться; кнот набузяніўшы, трэба яго працярэць.

На другі дзень раніцаю іду ў РВК. Вяду гутарку з усімі, хто можа дапамагчы развіццю краязнаўчай працы ў раёне: з старшынёй РВК, з сакратаром райкому КПБ, з сакратаром РВК. Старшыня РВК паведамляе, што ён ніколі не чуў пра існаванне ў Церахоўцы краязнаўчай арганізацыі, яе, проста кажучы, і няма, бо, каб была, ён бы ведаў. Сакратар райкому недаверліва пытае пра сутнасць і змест працы такіх арганізацый. Відаць, што ў раёне шмат усялякіх грамадскіх арганізацый і цяжка ўсім арганізацыям надаць жыццёвы характар. Сакратар, як відаць, не мясцовы чалавек, чыстая велікаруская гаворка ў яго, і аб вывучэнні краю ён гаворыць тонам прыстойнага спачування. Абяцае быць на сходзе заснавальцаў краязнаўчай арганізацыі ці паслаць свайго намесніка. На жаль, няма інспектара асветы, і я ніяк не магу даведацца, ці ёсць што-небудзь тут падобнае да краязнаўчага бюро.

Іду ў школу, каб даведацца аб гэтым. Там мяне настаўнікі ветла сустракаюць. Загадчык школы т. Бандарэнка інфармуе мяне, што ў мінулым годзе, магчыма, і была падобная арганізацыя, але сама сабой распалася, бо ўсе чыста настаўнікі перавяліся ў іншыя месцы, а тут цяпер усе новыя. Я гавару аб мэце свайго прыезду, і надзіва мы хутка прыходзім да поўнае згоды. Загадчык школы ад імя калектыву абяцае наладзіць тут хаця б самую мінімальную краязнаўчую працу. Дагаварваемся ў гэты дзень вечарам наладзіць сход у школе. Я зноў іду ў РВК, і там з дазволу старшыні РВК вывешваем абвесткі аб сходзе. Рассылаем іх. Яшчэ распытваю пра жалезную руду, якую ў значнай колькасці знайшлі ў Церахоўскім раёне. Невядома, хто прыслаў у Гомельскае акруговае таварыства ўзоры гэтай руды, і па доследах выявілася, што руда мае каля 90 працэнтаў чыстага жалеза. З гэтае прычыны я зацікавіўся месцазнаходжаннем руды. Мне паведамілі, што дакладных вестак аб раёне, дзе знаходзіцца руда, няма, але гэтую руду абследаваў майстар Гомельскага акрзему т. Рубінчык, і ад яго можна атрымаць усе весткі аб гэтым.

Перад вечарам заходжу да заштатнай настаўніцы М. Шымковіч, якая прапагандуе ў раёне развядзенне морвы. У гэтым годзе яна атрымала каля 15 фунтаў

шаўкоўных коканаў, якія былі пасланы ў Маскву, і за гэта Масква выслала 15 рублёў (вельмі мала, канешне!). Беларускае бюро шаўкаводства ў Менску таксама вызначыла прэмію Шымковіч у 15 рублёў. Церахоўка — раён, дзе можна вельмі пашырыць гэты занятак насельніцтва. Каля школы ёсць некалькі дрэў, каля больніцы 20 дрэў, у Гадунскім сельсавеце старшыня сельсавету Лізагуб і яго жонка цікавяцца гэтым, там у Гардунах у былым маёнтку ёсць у значным ліку тутавыя дрэвы (морва). У сялян можна сустрэць гэтыя дрэвы, іх ахвотна разводзяць, дзякуючы смашным ягадам, якіх часта бывае больш, чым лісця. Шымковіч сама засадзіла каля 40 дрэўцаў у сваім садзіку, гэта самае ахвотна зробяць і другія сяляне, неабходна толькі наладзіць бясплатнае распаўсюджванне саджанцаў.

Вечарам наш сход не адбываецца: прыходзяць толькі настаўнікі. Другія запрошаныя ідуць на сход ячэйкі, які на гэты дзень яшчэ раней прызначылі. На другі дзень, у суботу, мы зноў прабуем у абедзенны час склікаць сход, але, зразумела, мы маем фіяска. Такім чынам, у Церахоўцы не прыйшлося аформіць існаванне краязнаўчай арганізацыі. Заснавалі невялікую групу настаўнікаў, на чале якой загадчык школы тав. Бандарэнка і настаўнік Гарбачэнка. Гэтая ініцыятыўная група ў бліжэйшы час аформіць існаванне арганізацыі і распачне працу. Заснавалі яшчэ фэнпункт і намецілі зарэгістраваць помнікі старасветчыны ў раёне — за гэта з ахвотай узяўся настаўнік Гарбачэнка, які ў бытнасць студэнта пад кіраўніцтвам менскіх археолагаў практычна знаёміўся з археалагічнай працай. Некаторая краязнаўчая праца праводзілася вучнямі Церахоўскай школы і да гэтага часу. Так, напрыклад, ёсць гербарыі, у якіх адбіліся мясцовыя азначэнні раслін. У пamяці засталіся некаторыя мясцовыя назвы: цьмен (імортэлі), мацярынка (мaці-мачыха), любісцік, душок ці каньфар.

Вечарам, перад ад'ездам, да дачкі Сцяпана прыйшлі дзяўчаты. Зразумела, я ўпрасіў іх спяваць песні. Доўга ламаліся яны і, як звяркі, пазіралі на мяне, і давялося шмат дыпламатычных фокусаў ужыць, каб дабіцца сваёй мэты. Ад іх я запісаў усяго 5 мелодый. Песні тут менш гучныя, чымся ў Уваравічах, пяюць з нейкім гломачным гогатам, канцоўкі афарбоўваюць спецыфічным прыгаласкам, крычаць на ўсе грудзі. Запісаны песні:

1. «Як у нашых палях юраджаю німа». 2. «Хвалілася ды дзевачка». 3. «Ой ляцелі гулубяткі». 4. «Чагось міне нудна, йішчэ будзя дзіўна». 5. «Ой ці скора вечар той будзя».

1924

# Каапературы гандлююць!

## Малюнкі з каапературнага жыцця

### І. ЧАМУ НАМ НЕ ПЕЦЬ, ЧАМУ НЕ ГУДЗЕЦЬ?!

Краснапольскі каапературыў (ЯПО) адчувае сябе вельмі моцным. Тавараў у яго заўсёды шмат. Адбудаваў ужо ў мястэчку тры вялізных крамы, не кажучы аб тых вясковых крамах, якія растуць, як грыбы пасля дажджу. Ён вядзе моцны гандаль: сталы капітал у яго да 12 000 р., месячны зварот каля 45 000 р., пайшчыкаў каля 1000, даўгоў у Дзяржбанку няма. Ды не толькі гандаль цікавіць яго. Ён усюды паспявае, напр., на культурныя патрэбы траціць шмат грошай. Во нядаўна на Нардом патраціў 500 р. Жарты гэта? На хату-чытальню штомесяц дае 30 р., на лік. пункт 20 р., піянерам даў 50 р., а страхавых узносаў штомесяц плаціць 200 р. Нават мае сур'ёзны намер правесці ў мястэчку электрычнасць (толькі, кажа, Брагін прыедзе з Масквы), а намеснік старшыні каапературыву Каплуноў хоча нават адбудаваць на царкве радыёстанцыю.

Адным словам, каапературыў выконвае загад — «вучыцца» гандляваць! Цяпер увесь раённы рынак у яго руках. Але гэты рынак ужо яго не можа здаволіць.

— Калі ў нас ёсць патэнт на гандаль, дык чаму не запусціць свае шчупальцы ў іншыя месцы, чаму не захапіць іншыя рынкі, калі там адна толькі бруда, спекулянты, прыватны гандляр? — часта разважалі кіраўнікі каапературыву.

Сказана — зроблена. На пасяджэнні праўлення адзін дакладчык так абмаляваў цеснату краснапольскага гандлёвага рынку, намаляваў такую захапляючую перспектыву апанавання іншымі суседнімі рынкамі, што ўсе аднагалосна пастанавілі зрабіць «таварную інтэр-

венцыю» на іншыя рынкі, закупіць там сырцу і даць селяніну танныя вырабы прамысловасці.

Падхадзячым часам для гэтай інтэрвенцыі выбралі кірмашы, якія адбываюцца ў суседніх раёнах.

І вось перад самым Пакровам, калі абавязкова павінен быць кірмаш у Паповай Гары, краснапольскім каапературам «затачыла» туды ехаць. Як паказваў эканамічны барометр, ім галоўна трэба было ехаць туды. Набралі ўсялякіх тавараў (некалькі вазоў), а грошай захапілі так багата, што аж кішэні былі аддудураны. Паслалі сяброў Лучынскага і Хэйфуліна, а таксама Моту, якія лічыліся добрымі шныпарамі — умелі адразу пранюхаць усё чыста.

## II. КІРМАШ У ПАПОВАЙ ГАРЫ

Папова Гара — мястэчка на Бесядзі (Клінцоўскага пав.). Яно з даўніх часоў лічылася моцным пяньковым рынкам. Яшчэ ў мінулыя гады краснапольцы гандлявалі там, і папоўскім каапературам дый прыватным гандлярам яны даліся ў знакі. Тады ўвесь гандаль адбываўся толькі каля краснапольскай кааператыўнай будкі. Сярод сялян краснапольцы зрабілі неапісуемы фурор. Гэта й зразумела! Чаму не зрабіць фурор, калі папоўскі кааператыў за адзін пуд жыта даваў сялянам 15 фунт. солі, а краснапольцы 25 ф. Гэта ж не жарты! Таксама ўсе іншыя тавары прадаваліся ў адзін з паловай — два разы танней. Сяляне казалі тады:

«Во гэта кааператыў! Во гэта карысць сялянам! А наш задрыпаны толькі здзірства робіць! Яго б у каршэнь, дый вон!» Усе лезлі да будкі, як мухі на мёд.

Тады паповагорскія каапературы хадзілі, як аблізаныя, бо гэткім чынам краснапольцы закупілі ўсё сваё ды, гагочучы, грамanулі ў двор.

А ў гэтым годзе яны, папоўцы, узяліся за розум, рашылі правучыць «задавакаў», перашкодзіць ім гандляваць. Напярэдадні Пакрова вечарам паповагорскія каапературы пачалі абходзіць усе пастаялыя двары і пыталі, ці не прыехалі краснапольцы. Гэтыя выведкі сталі вядомы краснапольскім каапературам. На другі дзень, ведаючы, што іх шукаюць, самі пайшлі ў выканком. Тут іх як абухом трэснулі па галаве. За сталом важна сядзеў старшыня кааператыву, міліцыя і шмат іншых.

— Мы вам забараняем гандляваць у нас, забараняем закупляць сырэц. Вы нам надта дасалілі. Вас усюды поўна. Вы забіваеце наш гандаль! Мы цярпелі раньш вас, а цяпер досыць! Каціцеся ад нас каўбасою! — урачыста заявіў старшыня.

— Як так? Вы не маеце права забараняць нам. Перш-наперш у нас ёсць дакументы, на падставе якіх мы маем права гандляваць!

— Якія дакументы? Пакажэце?

— Вось патэнт на гандаль па ўсіх мясцовасцях.

— Гэты дакумент-патэнт да нас не адносіцца! Ён дадзен беларускімі ўстановамі. Вы з Беларусі? Дык там і гандлюйце! А ў нас РСФСР! Разумееце?

— Вы, пэўна, смяецеся! Для вас Беларусь — нешта чужое, далёкае!.. А можа, і вы будзеце далучаны... Апрача таго, вы павінны ведаць, што згодна рэзалюцыі XIII партз'езду ўсе мы павінны працаваць і рабіць усялякія захады, каб пашырыць, узмацніць, павялічыць агульны таварны зварот у СССР.

— Пустое вы трубіце! Прашу нас ня вучыць! Мы палітыку ведаем, ведаем, што робім... Адно скажам канчаткова — сверж, пяньку, семя вам нельга закупляць!.. Калі жадаеце — можаце закупаць лыкі — гэты тавар патрэбен для Беларусі. Проціў гэтага ў нас ня будзе ні жаднай спрэчкі. А пяньку, семя нельга, гэта нам патрэбна для клінцоўскіх фабрык.

— Але, паслухайце! Вы нас вельмі дзівіце! Мы закупляем не для сябе. У нас няма гэтых фабрык. Мы таксама закупляем для клінцоўскіх фабрык!

— Усё роўна! Вы нас не амамліце! Мы вас ведаем! Вы нам робіце заваду! Вы для нас заткала! Вы, канкурэнты, хвастом нас заціраеце! Не дадзем дазволу!

— Апошні раз выслухайце нас! Вось яшчэ вам прапанова! Ня кажучы аб тым, што мы зусім не канкурэнты, што мы такія цэны будзем плаціць, як вы, але мы згодны вось на што: закупленае мы кінем у вас! Калі Гомель ня згодзіцца — яно ў вас і застанецца!

— Не, не і не! — закрычалі раптам усе: і міліцыя, і старшыня, і кааператары. — Ня хочам, каб вы гандлявалі. У вас шмат грошай, вы нас у трубу загоніце!

Злосць абхапіла краснапольцаў.

— Мы не павінны ў тым, што вы зачаўрылі! Трэба праўду сказаць: які ў вас кааператыў? У вас хэўра, а не кааператыў! Кааператывам у вас верцяць тыя, якія ра-

ней былі буйнымі гандлярамі пянькою. Вы дабіваецеся смычкі ня з вёскаю, а з спекулянтамі! — кінулі яны.

Паповагорцы ўзвар'яваліся:

— Гэта абраза! Мы гэтага не дапусцім! Мы вас пацягнем у суд да адпаведнасці. Нешта вы дужа паўзнасіліся, — крычалі яны, грукалі кулакамі па стале і крыху не загрудкі бралі краснапольцаў.

Тыя драпанулі адтуль, ледзьве ногі ўняслі. Яны беглі па мястэчку, размахваючы рукамі, збіваючы з ног людзей. Разоў пяць апяразаліся аб слупы. Усю дарогу яны лаяліся. Якіх толькі праклёнаў яны не пасылалі: «каб яны сукам селі», «каб яны пухлі з сваім дабром»... Прылапацелі да сваёй будкі, якая ўжо была пастаўлена, на якой ужо красаваўся чырвоны каапетатыўны флаг. Заставалася толькі дастаць тавары і разлажыць іх. Каля будкі было шмат народу, чакаўшага танных тавараў... Загадалі скручываць усё і збірацца дадому.

Сяляне цэлую арду паднялі. Як пчолы загулі. Чаго толькі не вярзлі яны на паповагорскіх каапетатараў. Чуючы гэта, краснапольцаў апанавала вялікая гандлёвая скруха. Яны сталі сачыць, як тут гандлююць. І вось які малюнак яны ўбачылі. Увесь кірмаш быў завален пянькою. Але дзяржаўных акупшчыкаў было вельмі мала. Цэны на пяньку былі надта нізкія. І грошай хапіла не толькі ў папоўскіх каапетатараў, але нават і спекулянты здаволіліся па горла. Гэтыя вынікі азначыліся яшчэ да паўдня. Сяляне пёрліся дамоў, не прадаўшы пянькі.

Сумныя, валачыліся краснапольцы па кірмашы; трэба было перахапіць чаго-небудзь дый брысці дадому. Падумалі купіць селядца, але думка ў галаву ўвілася, ці прададуць яшчэ ім селядца, бо яны з Беларусі, а ў Беларусі, як вядома, селядцоў не нарыхтоўваюць!

Купілі ў прыватнага гандляра селядзец, папрасілі яго, каб не казаў, што краснапольцы закупляюць селядцы для Беларусі.

## III. КІРМАШ У ПРАПОЙСКУ

Пасля гэтае незадачы краснапольцы не павесілі насы на квінты: як і раней, яны лічылі, што яны маюць шырокія перспектывы ўзмацнення тavailable сувязі з вёскай.

Якраз на Міхайлу здарыўся кірмаш у Прапойску, які

знаходзіцца ад Краснаполля ў 30 вярстох. Ён у межах Беларусі, тут ужо не будуць калоць вочы Беларуссю.

Паехалі туды. Прапойскі кааператыў раней таксама грымеў, але ў апошні час там перамог нэп.

У самы дзень кірмашу краснапольцы паставілі сваю будку, падпялі на ёй чырвоны сцяг і пачалі гандляваць. Гандаль пайшоў вельмі жывы. Але месца для будкі абралі не зусім добрае, як кажуць, «процію ліха на ўзгорачку». Процію гэтае будкі была крама самага магутнага спекулянта Розіна. Зразумела, што ніхто не йшоў да Розіна, а толькі да будкі. Гэты Розін напярэдадні набіваўся краснапольцам, каб купілі ў яго 200 пуд. семя, але яму давалі мала, бо не хацелі звязвацца са спекулянтам. І калі ён убачыў, што яго справа кепска, што яму перашкаджаюць набіць кішэню, ён успомніў, што сын яго — вялікая шышка: у Прапойску старшыня кааператыву. Як падстрэлены, пабег ён да сына. Той — у выканком, у міліцыю, і праз якія-небудзь 10 мінут да будкі прыскочыла міліцыя, падзівілася на чырвоны сцяг, загадала зняць яго, спыніць гандаль і пацягнула Хэйфуліна ў выканком, каб асвятліць справу.

Там вельмі ўрачыста паведамілі, што краснапольскаму кааператыву забараняецца гандляваць.

— Чаго вы прыперліся ў наш раён? Мы вас ня звалі. Вы ваюеце з намі, псуеце нам цэны. У нас ёсць загад Магілёўскае вакругі, што забараняецца падвышаць ліміты. А вы гэта робіце!

— Гэта брахня. Мы таксама робім загатоўкі для Дзяржбанку, як і вы, і цэны плацім аднолькавыя! Вы ня маеце права нам забараніць. Пакажэце нам паперы, што іншыя раёны ня маюць права гандляваць на кірмашох, тады мы паслухаемся. А калі вы гвалтам нам перашкодзіце гандляваць, мы гэту справу так ня кінем — мы будзем дабівацца ў пракурора.

— Каму хочаце жальцеся. А мы вам прапануем «авэй гефор»! Апрача таго, вамі закупленае мы канфіскуем, бо вы закупілі без дазволу мясцовай улады!

— Добра, добра! Толькі ведайце, што гэта вам дарэмна ня пройдзе! Вы самі ня ведаеце, што робіце! Вас падбуражылі спекулянты, вы слухаеце паджыгайлаў-спекулянтаў. Яны крутэмус завялі!

За гэтыя словы краснапольцаў крыху не заарыштавалі, яны ледзьве выкруціліся.

А на кірмашы сяляне вымушаны былі прадаваць у

прапойскі кааператыў семя да паўдня па 1 р. за пуд, а пасля паўдня, калі грошай у кааператыве не хапіла, спекулянтам па 80 к. У той час, як краснапольцы плацілі па 1 р. 20 к.

А Розін-бацька накупіў шмат семя па 80 к., а тады перадаў сыну ў кааператыў па 1 р. 20 к. Кажуць нават, што Розін-бацька выязджае на плячох сынка і нават патэнту ня мае. Ці праўда гэта — добра не ведаем.

Дык вось як гандлююць кааператары.

1924

## Па Дзвіне ў Сураж

### Краязнаўчыя нататкі

13-VI. Роўна а 12 гадзіне параход на Вяліж выходзіць з Віцебску, і мы плывем па Дзвіне. Шмат народу едзе, а параходзік зусім маленькі, цяжка яму справіцца з яшчэ поўнай вадой і плысці ўверх па рачной плыні. Да Суражу, кажуць, будзе цягнуць не меней 9 гадзін, хоць тут усяго ад Віцебску 50 вёрст. Але не прыходзіцца шкадаваць, што так доўга будзе цягнуцца гэтае рачное вандраванне. Прыгаство Дзвіны і ўзгоркаў над ёю прымушае неадрыўна глядзець на зелянеючыя бярозавыя гайкі, цёмна-зялёныя стромкія хвоі і падобныя на кіпарысы высачэзныя елкі. А надвор'е, як у ліпні — цёплае, пахучае. Неба чыстае, сіняе, як келіх бірузовы.

Едуць госці з Ленінграду — рабочыя, служачыя з сем'ямі, едуць адпачыць у ціхіх вёсках Беларусі. Тут яны маюць сваякоў. Едуць сяляне дамоў пасля розных клопат у Віцебску, і яны трымаюцца асобнай купкай. Паціху гамоняць між сабою. Можна наперад сказаць, аб чым гавораць яны: кантрактацыя, калектывы, саўгасы, камуны. Цяжкі быў год, прымусіў сялян аб новых формах гаспадаркі думаць, і ўжо не чутна прынцыпова-негатыўных адносін да калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Крытыкуюць і часам злосна новыя формы яе, але пад агонь пападае людская неарганізаванасць, хцівасць, несвядомасць, гразь, а супраць карэннай перабудовы сялянскай гаспадаркі на кааперацыйных асновах ніхто не кажа. Гэта палажэнне заваявала агульнае прызнан-

не бядняцка-серадняцкіх мас. З сялянамі спрачаецца аграном і служачы бліжэйшага саўгасу. Сяляне прыводзяць факты:

— У нас (у саўгасе) работа восем часоў, у суботу ў абед звонюць, шабаш... А ў нядзелю выхаднэй дзень. Сена ляжыць. Панядзелкам дож пашоў, сена й паплуло! Якая гэта правіла?.. Не, з зямлёю трэба так: с пеўнямі ўставай, з курамі кладзіся! Во як трэба ў нашым жыцці! Ніхто етага ні перакруціць.

— Перакруцім! Навука ўсё пераробіць на карысць чалавека! — кажа служачы саўгасу.

— Мы на ета нічога ні скажам. Правільна. Людзіна невучоная, як сякера нетачоная! А толькі людзі пад свой бок скарэй цягнуць. У нас паставілі аднаго за начальства, а ён наеў, напіў на 6000 руб., а цяпер у Допрыі сядзіць. А на ўсіх худая гаворка...

— Паршывая авечка, як тэй казаў...

— А куды глядзелі рабочыя? — пытае аграном.

— Куды яны глядзелі? Такія рабочыя! Абы мяне ні чапалі, а казну ніхай скубець! Латрюгі сыбраліся. Калі ходзіць загадчык, тады яны нешта калупаюць, адышоў ён — сядуць, ды нічога ні робюць.

— Далей так не будзе! — запэўняе служачы саўгасу. — Цяпер узяліся за гэтых шкоднікаў. Праз год і паху не застанецца ад гэтай шумеці.

— Народ мы такей, без наглядатая ні звыклі ў работі. Калі не ўзыскуюць, дык гармідар, ні дзела выходзіць. Сабярэцца, скажам, дваццаць дзевак, гагатня, сміхатня, а дзела і на двох хапіла б... Як куры, пакалыпаюць зямлю, а трава бур'ян бур'янам. Мая жонка з дзеўкай скарэй за іх справілася б.

— А то пашлюць 10 чалавек распіліць паўсажні дроў... Гарнізатараў большы, ік рабочых. На гуце, што ля нас, 80 чалавек с пер'імі ходзіць, усё запісваюць, а што йны запісваюць, каб папытаць.

— Дзе ж лепшы ўраджай, ці ў вас, ці ў саўгасах? — пытаю я.

Селянін, якога звалі Сумон, кажа:

— Вядома, там раўней паля, зямля больш родзіць. І машыны ўсё ёсць, і гною як трэба, і яшчэ ўдабрэння даюць. Чаму не быць ураджаю?

— У камунах, калектывах таксама?

— І там, больш зямля даець. Усякую падмогу ім даюць у доўг, а калі йшэ вернуць... Ражжыца можна.

Усё табе ў рукі: машыны, адборны сімян, супір-хасхат (апошняе слова, як цяжкае, селянін вымаўляе з нейкай усмешкай). Яно й выходзіць, хоць і мала работаюць, а ўраджай пабольшы за наш. Ета трэба ны праўду скызаць.

Цягнецца доўгая размова на гэтыя жыццёвы тэмы. І адзін толькі вывад можна зрабіць: селянін хоць і крытыкуе калектывізацыю, хоць на словах і не давярае ёй, але гэта ёсць толькі традыцыя, якая пачынае зжывацца. На практыцы ён сам імкнецца да гэтых новых форм жыцця.

Праязджаем каля вёскі Хатолі, што на правым беразе Дзвіны... А на левым, пад самай вадой стаіць найпрыгажэйшы вялізны курган, заросшы сасняком. Побач з ім зусім маленькі. Курган такі вялікі, што міжвольна яго зялёны кумпал зварачвае на сябе ўвагу ўсіх, хто едзе.

— Праз Хатолю збойная дарога йдзе, — кажа адзін дзед, — тута войны вялікі былі. Косці людзей тут ляжаць.

— Німа тама касцей, — адказвае нейкі хлопец, — у нас разрылі адзін такі, дык гаршчкі з попілам...

Падаецца шмат тлумачэнняў паходжання курганаў, шмат легенд, паданняў. Непрыкметна разгараецца дыскусія аб рэлігіі. Два стараверы люта спрачаюцца з маладымі хлопцамі. Адзін хлопец патрабуе паказаць яму бога, калі ён ёсць. Стары выходзіць з раўнавагі: «Бог не слухаець, што свіння рюхаець». Хлопец плюе і адыходзіць.

Пад вечар прыязджаем у Сураж. На беразе ўсё насяленне прыйшло сустракаць параход. Кожны грамадзянін мястэчка лічыць сваім абавязкам увечары сустрэць параход, а ўранні яго праводзіць. Кожнага, хто злязае з параходу, суражане пытліва аглядаюць, асабліва калі прыезджы для іх незнаёмы.

Сураж — досыць буйнае мястэчка, якое маляўніча раскінулася па берагах рэк Дзвіны, Касплі і Суражкі. Апошняя летам перасыхае, але ў гэтым годзе яе разліў шмат клопатаў прынёс — да палавіны заліў хаты і зусім паграбы з бульбай у некаторых жыхароў. З жахам паказваюць на сляды вясновай паводкі. Цяпер гэтаму і верыць не хочацца. У Суражы мост праз Касплю. Да гэтага году быў мост і праз Дзвіну, але зімою яго разабралі з прычыны яго нягоднасці. Між іншым, усё нася-

ленне кажа, што вельмі паспяшаліся разбурыць мост: ён яшчэ прастаяў бы на малае 5 год. Не думаю, каб гэта была праўда: такая моцная павадка, як у гэтым годзе, знясла б мост і не ўдалося б ратаваць каштоўны будаўнічы матэрыял. Цяпер жа без маста як без ног. Значная тэрыторыя, эканамічна звязаная з Суражам, адрэзана. Парому яшчэ не зрабілі.

Пакінуўшы рэчы, іду бегла аглядаць горад Сураж. Між іншым, у Віцебскім акруговым таварыстве краязнаўства я прачытаў адносіну Віцебскага АВК*, які прапануе Таварыству выказацца аб праекце аднаго грамадзяніна перамяніць назву гэтага гораду на больш сучасную. Таварыства паслала гісторыю гораду з тлумачэннем самой назвы «Сураж» і падкрэсліла немэтазгоднасць перамены назвы. Былі спрэчкі аб сутнасці самой назвы. Па-мойму, Сураж (Сурож у стары час) — умацаваны горад (сурог — умацаванне). На гэтую думку наводзіць і той факт, што на Беларусі ёсць яшчэ Сураж на рацэ Іпуці (цяпер Бранская губерня) і ў Заходняй Беларусі, і гэтыя гарады ў даўні час адыгрывалі ролю ваенных заставаў.

Прыпамінаецца і песня, якую можна чуць на Гомельшчыне:

> А хто міне маладую,
> А хто будзе суражаць?

Абыходжу горад па ўсіх напрамках. Бачу шмат радыёўстановак. Пачынаю лічыць іх і толькі ў адным канцы гораду, за Касляй, налічваю каля дзесяці. Праходжу ў другі канец гораду праз рыначную плошчу, у чаўне пераязджаю праз Суражку, іду ў поле. Пападаю на цікавае месца, якое знаходзіцца недалёка ад яўрэйскіх могілак і завецца «бандыцкім кладзішчам». Тут пахаваны пакараныя бандыты, якіх шмат было ў Суражскім раёне. Страх і роспач у людзей выклікалі яны. Цяпер ад гэтага жаху засталіся невялікія купкі зямлі. Ніхто сюды не заглядае — дрэнную памяць аб сабе пакінулі бандыты. На гэтым месцы, як відаць, былі старажытныя пахаванні — ледзьве прыкметныя ўзвышэнні.

На другі дзень уранні я іду ў вёску Храпыльну. Па праўдзе кажучы, гэта ўжо не вёска. Яна ўся рассялілася хутарамі. На Віцебшчыне, асабліва ў Суражскім і Межанскім раёнах, ужо няма вялікіх вёсак. Некаторыя

---

* Абласнога выканаўчага камітэта *(рэд.)*.

яшчэ ў час вайны, іншыя ў 1924—25 гг., аднак разбіліся на хутары. І прыходзіцца шкадаваць, што на некаторы час тут будзе затрымана перабудова сельскай гаспадаркі на падставе калектывізацыі. Іду полем. Радасна глядзець на жыта, якое добра абышло. Рунь моцная, зялёная. Усё поле разагнана раўчакамі, каб жыта не адмякала. Сёлета, здаецца, у гэтым і патрэбы вялікай няма. Снег не затрымаўся, не заліў палі вадою.

Іду на хутар. Прашу вады. Гаспадыня прапануе бярозавіку, якога ўжо гадоў дзесяць не смакаваў. Прагна п'еццa. Заходжу ў хату. Гаспадара няма ў дварэ. Гарачы час — вясновая сяўба, недзе працуе на полі, недалёка ад хаты. Пытаю, як жывецца. Ці няможна падводу ўзяць.

— Еты год дапёк нам. Гарчышнае жыццё. Ішэш хата ня'бдзелана, дронам ні дакрыў. У закопах бульба прапала... А тут дробныя дзеці, калі сама не дагледзіш... Некалі, некаму вымесь хаты... А ў падводы не, ні паедзіць ён... Корм дарагой, пусцім у поля, што ён там ускубець... А вам куды трэба?

— У два канцы. У Мяжу альбо ў Віцебск.

— Ён сам скора прыдзіць. Яшчэ й не снедаў.

Я саджуся на лаву і аглядаюся. У хаце чыста, светла. У пярэднім куту два вялікія «лубачныя» абразы, і побач з ім з аднаго боку партрэт Леніна, з другога Маркса, за імі ўдоўж сцен партрэты правадыроў — Сталіна, Рыкава, Калініна і інш. У самым канцы гэтай галерэі, якая, відаць, запаўнялася храналагічна і цяпер падтрымоўваецца ў належнай чыстаце, ёсць і нашы беларускія правадыры. Вісяць прыгожыя набожнікі. Праўда, пад іх не папалі Ленін і Маркс. Як відаць, у жанчыны ў думцы ўсё ж была нейкая мяжа. А мо ў гэтым вінен яе сынок, які вучыўся ў Суражскай сямігодцы і кінуў яе, бо плату наклалі, праўда, вельмі малую. Для селяніна часта і гэта — нож у сэрца. Яшчэ адна цікавая этнаграфічная дэталь, якая смешна злучае нейкія старыя перажыткі з новымі з'явамі. Перад абразамі я заўважыў на нітачцы духа святога, які сам сабою (deux ex maxine), аўтаматычна ўвесь час кружыўся. Гэты святы душок зроблены нібы мадэль самалёту: хвост з паперы, крыллі таксама, дзюба — я сам не ведаю з чаго, а тулава сплецена з саломы. Такім чынам, была настойлівая раўнавага, і галубок увесь час на пацеху дзецям кружыўся. Пад абразамі на століку ёлачка з насоджанымі

на яе галінкі пафарбаванымі велікоднымі яйкамі. Фарбоўка вельмі разнастайная, і можна зрабіць вывад аб вельмі значным ліку прыродных фарб, якія вядомы мясцовым сялянам, і значным развіцці мастацкага густу ў узорах. Зрабіў нататкі аб гэтым.

Прыходзіць гаспадар, і, хоць адразу ж адмаўляецца ехаць са мной у падарожжа, мы доўга гаворым з ім. І тут спраўдзілася палажэнне, што цяпер асноўная думка, якая пануе ў думках селяніна, гэта пытанне аб калектывізацыі. Гаспадар хутару сам пачынае выказваць свае думкі аб новых формах сельскай гаспадаркі. У гэтых думках ёсць нейкая недагаворанасць. Селянін рэзюміруе свае словы:

— Я пайшоў бы ў калякты̆ў, каб тама работать не толькі за кавалак хлеба, а каб плацілі, як на зямлядзельнай фабрыкі. Тады б усе кінулі хутары і ў калякцівы падаліся б.

Я пакідаю хутар, прашу выбачэння за турботы. Селянін кажа:

— Не! Што вы! Свежаму чалавеку і мы рады.

Ён праводзіць мяне на шлях. Каля хаты ляжыць новая спрунжыновая барана. Пытаю, ці добра ёю скарадзіць. Селянін хваліць яе, кажа, што нічым не падгадзіць старым даваенным баронам, а цана, бадай, тая самая. Дарожка ад хутару да шляху абсаджана дрэўцамі.

— Топілім абсадзіў, ніхай прыгажэй будзець! А цяпер пайду пад бульбу поля рабіць, біз іе німа як жыць. Хоць цана кусаецца, таварыш. Па два рублі пуд!

Мы развіталіся. Адышоўшы трохі, селянін раптам запытаўся:

— А што, таварыш, ці паказваець мэтэралогія, якое лета сёліта будзець? Зіма, як пісалі ў газетах, так і была...

Я адказаў, што можна толькі на месяц прыблізна беспамылкова вызначыць надвор'е, на большы тэрмін могуць быць памылкі. Як вырас селянін за гэтыя рэвалюцыйныя гады! Яго мова змянілася, павялічыўся запас слоў, новымі паняццямі аўладаў ён, новыя ідэі ім заўладалі. У гэтым адыграла ролю не толькі школа, розныя курсы, мітынгі, але ўсё жыццё, усе палітычна-грамадскія ўмовы новага ладу.

У РВК знаёмлюся з матэрыяламі, якія маюць вы-

ключна краязнаўчы характар і неабходны для працы мясцовай краязнаўчай арганізацыі. У кабінеце сакратара на сценах шмат параўнальных дыяграм, якія даюць уяўленне аб сельскай гаспадарцы раёну. Відаць, што дыяграмы досыць верагодна адбіваюць сапраўдны стан рэчаў. Як і па ўсёй Віцебшчыне, на працягу гэтых год у Суражскім раёне змяншаецца жытні клін і павялічваецца засеў бульбы, лёну і канюшыны. З году ў год расце плошча пасеву — у 1928 годзе пад пасевамі было 26 783 га, у 1926 годзе 24 578 га.

У краязнаўчым стасунку зварачае на сябе ўвагу праца раённага статыстага. Для нашых краязнаўчых арганізацый у ёй столькі важных момантаў, якія трэба выкарыстаць. На вялікі жаль, краязнаўчыя арганізацыі не толькі не цікавяцца зместам і формай працы раённага статыстага, але ў большасці і не дамагаюцца ўцягнуць гэтага працаўніка ў кола сваёй краязнаўчай чыннасці. А між тым гэта скромная фігура ў сваіх руках мае шмат краязнаўчых аб'ектаў. Я доўга і падрабязна знаёмлюся з працай раённага статыстага. Асноўны яго абавязак — вясці вясновыя і асеннія апытанні сялян-гаспадароў. Да 10 усіх сялянскіх гаспадарак (а ў раёне іх усяго 7604) трэба апытаць. Апрача таго, што гэтыя апытанні павінны даць матэрыял для меркавання аб спосабах апрацоўкі зямлі, аб наліччы жывога і мёртвага інвентару, аб угнаенні, у самым працэсе такіх абследаванняў шмат ёсць іншых краязнаўчых момантаў, якія не занатоўваюцца і якія надзвычайна карысна было б ведаць і старанна збіраць. Райстатыст шмат дае іншых вестак, як, напрыклад, весткі аб цэнах, аб стане рынку, аб руху заразлівых хвароб і г. д. Прыкладам сказаць, суражскі райстатыст ведае раён як свае пяць пальцаў, між тым яго веды ніхто не думае скарыстаць у краязнаўчым стасунку. Не кажучы ўжо аб тым, што з яго дапамогаю можна скласці карту прамысловасці раёну, ад яго можна нават сабраць весткі аб турыстычных аб'ектах раёну, аб месцазнаходжанні некаторых карысных выкапняў (торф у Касплянскай дачы ў урочышчы Вал, дзе глыбіня яго залягання даходзіць да 2½ сажняў). Найбольш прыгожыя месцы ў Суражскім раёне па яго думцы: 1) былы маёнтак Брыгітполь у двох кіламетрах ад Суражу, 2) урочышча Склютоўскі Лес каля вёскі Дубраўкі Марчонскага сельскага савету, 3) вёска Лагі Ботаніцкага сельскага савету, якая ляжыць між гор і нека-

торымі па сваёй прыгажосці завецца «Другім Каўказам».

Мясцовая краязнаўчая арганізацыя ўжо некалькі месяцаў не працуе. Між тым раней арганізацыя была досыць моцнай, заснавала краязнаўчы гурток пры школе-сямігодцы, мела некаторыя сродкі і фатаграфічны апарат (і цяпер ёсць). Вынікам працы краязнаўчага гуртка ёсць музейчык пры сямігодцы. Канешне, у ім у першую чаргу розныя карты раёну, калекцыі ўзораў, набоек. Самае цікавае — гэта матэрыялы па гісторыі бандытызму ў Суражскім раёне: фатаграфічны здымак усяго бандыцкага батальёну (фатограф, які рабіў здымак, быў расстрэляны), фатаграфія бандыцкага атамана Ардэна, дакументы аб зверствах і г. д. З археалагічных рэчаў вельмі цікавы ёсць каменны нож (7 век), знойдзены ў размыве берагу Дзвіны пасля павадкі на «замчышчы» (цяпер тэрыторыя дрэваапрацовачнага заводу). На відным месцы вісіць у музеі дыплом, які выдаў РВК краязнаўчаму гуртку за наладжванне краязнаўчага аддзелу на сельскагаспадарчай выстаўцы. У музейчыку шмат фальклорных матэрыялаў і «Тарас на Парнасе», запісаны ад селяніна, якому 65 год. Але самае цікавае, што ёсць у музейчыку, — гэта каля 60 апісанняў розных вёсак раёну. На жаль, апісанні не рабіліся па плану, прынятаму для складання геаграфічнага слоўніка раёну. Тым не менш сучасны стан апісаных вёсак досыць яскрава выпукляецца. Часта падаюцца такія весткі, якія іншым шляхам ніхто не зможа сабраць. Часта падаецца крупулёзная статыстыка невялікіх вёсак. Пры некаторых апісаннях прыкладзены вельмі добрыя планы сяліб і нават вёсак, даецца кароткая гісторыя вёскі са слоў старых жыхароў і г. д. Апісанні падкрэсліваюць рэзкі пералом, які адбыўся ў вёсцы пасля рэвалюцыі. Аўтар апісання вёскі Царковішча піша: «Шляхам газет нашы сяляне паляпшаюць сваю гаспадарку. Гавораць у нас на роднай мове. З 31 чалавека гутарыць толькі адзін настаўнік на расійскай мове. Ён улетку жыве ў Царковішчы, а ўзімку навучае дзяцей на Велікарусі». Аўтар другога апісання вёскі Харытонаўшчыны больш увагі аддае рэгістрацыі адмоўных бакоў у жыцці вёскі. «Усюды гразь, няхольнасць». Апрача вёсак апісаны некаторыя прадпрыемствы і фабрычны пасёлак Пудаць. Гэтыя апісанні вёсак добра сведчаць, што мы часта недаацэньваем вучнёўскіх краязнаўчых прац. Пры належ-

ным планавым кіраўніцтве краязнаўчага актыву настаўнікаў ад вучняў можна мець надзвычайна цікавыя краязнаўчыя працы. Працягнуўшы гэтую працу па апісанні вёсак, пракарэктаваўшы яе згодна існуючых праграм і інструкцый, праз некаторы час можна мець матэрыялы для геаграфічнага слоўніка Суражскага раёну.

Мы наладжваем сход суражскіх краязнаўцаў, абіраем старшыню праўлення і сакратара, абгаворваем план мінімальнай краязнаўчай працы на гэты час.

На другі дзень а 6 гадзіне раніцою я выйшаў на бераг Дзвіны чакаць параходу ў Віцебск. На берагу ўжо былі людзі. Параход спазніўся, і ад нечага рабіць прыслухоўваюся да размоў. Спачатку гавораць аб нейкіх таварах. Адна жанчына кажа:

— 8 рублей за ету гніль аддала, як у агонь уперла.

Другая дае тлумачэнне:

— На вырабыт дзелыюць, ні на дыбрату нылігаюць, а каб большы... Чулкі два разы надзеніш — разлезліся, шкло ны лямпі адзін дзень гаріць, місарубку купіла — два разы крутнула — усе вінты паслаблі.

Потым абмяркоўваюць мясцовы судзебны працэс аб жанчыне, якая падрабіла талон і не менш дзесяці раз атрымала ў каапературах па гэтаму талону тавар. Жанчына абураецца:

— Пічатку падздзелыла, толькі дзве буквачкі ні сходзюцца. Набрала ўсюдых, дзе казёныя лаўкі. У адным на 15 рублей пазабірала. Я гляджу — ходзіць вясёлая, адзяецца, як панская. А ёй год толькі далі.

— Чорт яго дагледзіць, народу цяперака як людзей.

— Анёж! (А канешне.) Пасядзіць, прыдзець і знова красьці!

Міліцыянеры вязуць нейкіх арыштаваных у Віцебск. З іх адна жанчына, якая хацела лёгкай пажывы: узяла ў арэнду млын, не заплаціла ў тэрмін рабочым і цяпер яе з грудным дзіцём вязуць у папраўчы дом. Яна — звычайная сялянка па вопратцы, відаць, нехта падбіў яе ўзяць у арэнду гэты злашчасны млын. Ды яшчэ ўсю худобу апісалі. Вязуць яшчэ нейкага чалавека з тварам кваліфікаванага злачынцы. Ён пачынае некаму апавядаць аб несправядлівым прысудзе. Міліцыянер папярэджвае:

— Замаўчы! Арыштаваны павінен быць мёртвае цела.

На беразе сустракаю сакратара мясцкому працасве-

ты, якая едзе ў Віцебск на нараду. Яна мне паказвае маляўнічую групу сялянак, якія прыйшлі здалёку, з нейкага самага глухога кутка раёну, і ніяк не могуць прызвычаіцца да параходных гудкоў. Учора забаўны эпізод быў з бабамі. Ні разу не бачылі параходу, прыйшлі сустракаць яго на бераг. Самі потым казалі:

— Як заравець, заравець, а мы аб зямлю ўсе. Такога рэву ў жыцці не чулі.

Завёў потым нехта гэтых баб у кіно. Таксама дзівіліся:

— Бягуць, бягуць коні, людзі на нас, во-во набягуць на нас.

Мы аж жыхануліся ўбок.

Прыходзіць параход. Дае тры моцных прывальных гудкі. Я ўсю ўвагу аддаю бабам, якія палахліва глядзелі на машыну і пры кожным гудку, як аўтаматы, падаваліся назад, чапляючыся адна за адну і смеючыся з свае палахлівасці.

Мы селі на параход, а на беразе бабы яшчэ доўга стаялі і моўчкі глядзелі на страшыдлу-параход.

Адыходзячы на Віцебск, параход нечакана для баб загудзеў што ёсць моцы. Зноў палахлівыя ўскрыкі і смех на параходзе.

1924

11. Зак. 241

## На кірмашы

### Абразкі

Два шчырыя прыяцелі Якуб Пшык і Самусь Гарачы паехалі з мястэчка Круцялёўкі на кірмаш у вялізнае сяло Горы. Там кожны год на Дзесятуху адбываўся кірмаш на ўсю акругу. З'яжджалася шмат народу з вёсак, мястэчак, гарадоў. Нават прадстаўнікі Гомеля, Навазыбкава, Клінцоў заўсёды бывалі тут.

Для вясёласці захапілі з сабой яшчэ настаўніцу Крутарожкаву, якую за вочы звалі «лятаючай настаўніцай», бо ніводнага фэсту, кірмашу яна не прапускала і лічыла, што ў гэтым яе грамадзянская праца.

### АСТРАХАНСКІЯ СЕЛЯДЦЫ

Плошчы, вуліцы, завулкі запоўнены народам, вазамі, коньмі, каровамі. Кірмаш адчыніўся, як толькі пачало днець. Пальца нельга працiснуць: усе месцы пазаняты, размяркованы, куплены. Гаршкі, кадкі, бочкі, лыкі, а шапак столькі, што хапіла б на ўсю губерню. Сем кааперацыйных будак. Шмат будачак прыватных гандляроў.

Куліну з яе таварышамі захляснуў людскі натоўп. Ледзьве паспелі прыстроіць кабылу. Натоўп данёс іх да цэнтральнай плошчы. Там адразу кінулася ў вочы невялічкая будачка, дзе прадаваліся «астраханскія селядцы».

Прадаўшчыца тоўстая, гадоў пад сорак, вочы бегаюць па наваколлю. Пот цурком льецца з твару. Прывезла шэсць бочак, але высунула толькі адну, дый то толькі ў дне, астатнія задрапіравала рагожкамі.

Зычна выслаўляе свой тавар. Сваёю прапагандай першая адчыніла кірмаш і з таго часу крычыць без перастанку:

— Астраханская рыбка! Залатая рыбка! Купляйце! Заходзьце! Нідзе танней не купіце! Усё ўжо прадана, толькі ў дне засталося, аддаю за нівошта.

Яе голас мімаволі прыцягвае ўвагу кожнага, хто праходзіць. Кожны спыняецца, прыслухоўваецца, смяецца.

— Я не ведаю, чаго больш у гэтым крыку: мастацтва ці прыроды, — кажа Гарачы сваім таварышам, — жыў яшчэ гандляр і яго традыцыі. Давайце, спынімся тут. Гэта цікавы тып мінулага, якое адмірае.

Каля гандляркі сядзіць нібы муж, нібы кампаньён. Ён маўчыць, толькі выконвае загады. А гандлярка ўся перайшла ў крык, размахвае рукамі, хціва ўглядаецца ў кожнага, хто міма ідзе.

Усё яе тлустае тулава захоплена «працай». Валоссе ўскудлычана, дзесяты пот зганяе. Так і напісана на яе твары: «грошы, грошы, грошыкі».

Гэта пакута й радасць яе жыцця.

Падыходзіць селянін, нерашуча слухае зычны голас прапагандысткі, касагурыцца на рыбу.

— Купляй, купляй! Ой, залатая рыбка! Са смакам вады нап'ешся! Во, паглядзі, памацай.

Сама дастае з бочкі рыбу, любоўна гладзіць па бруху, — спачатку рыбу, потым сябе.

— Колькі за яе хочаш?

— Толькі для цябе няхай будзе па сямнаццаць капеек.

— Ачмурэла ты, ці што? У каапературыве па дванаццаць капеек. Кацiся ты каўбасою са сваёю рыбаю!

— Што? У каапературыве? Дык ці то рыба? Там жа труха, вантроб'е! Там гомельская паршывая рыба, а гэта з Астрахані! Сама ездзіла!

Астраханскі довад дапамагае. Селянін мяркуе. Прапануе даць цану, якая ў каапературыве.

— Не, не! Ня можна! Каб я выхварала, калі мне самой не даражэй каштуе! Што мне з табой рабіць? Ну, для добрага чалавека... скіну... Адваж яшчэ па тры капейкі на фунт — і рыба будзе твая!

Селянін муліцца і стаіць на сваім. Гандлярка пасвойму ўпаўголаса кажа свайму кампаньёну:

— Крычы, пакрычы на мяне, што я танна прадаю!

Нечакана, як гром, раздаецца абураны голас:

— Адурэла ты, ці што? Што ты робіш? Ты мяне ў трубу загоніш! Халера на цябе, каб ты здохла! Нам самім па шаснаццаць капеек каштуе!

— Ну што ж ты зробіш. Не цэльны ж дзень гараваць нам тут! А добраму чалавеку чаму не ўважыць?

Ты думаеш, яму лёгка жыць? З яго таксама жылы цягнуць! Ой, як цягнуць! Няхай хоць нас памінае добрым словам... Ну крычы, мацней лайся на мяне.

На ўсю моц крычыць гандляр, з кулакамі накідваецца на яе:

— Хвароба табе на пуп! Каб цябе чэрві стачылі, каб цябе трасца схапіла! Здохні ты. Тут не толькі твае грошы, але й мае. Я па гэтай цане не аддам!

Селянін упарта стаіць на сваім. Урэшце з выразам жалю і гатоўнасці ўсё аддаць добраму чалавеку, гандлярка згаджаецца. Якуб Пшык умешваецца і нечакана крычыць на кампаньёна:

— Крычы, пакрычы на яе!

Гандлярка абурана кажа кампаньёну:

— Што трэба гэтаму курносаму чорту? Каб яго халера задушыла!

Пшык пытае ветліва:

— Калі ласка, скажэце: у вас часам няма гэраічных селядцоў?

— У нас толькі астраханскія. Гэта самыя лепшыя!

— Надта жаль! Нам патрэбны толькі гэраічныя селядцы.

Гурбою падыходзяць бабы, мацаюць, нюхаюць, аглядаюць рыбу з усіх бакоў. Адна баба неяк сарамліва і нялоўка хавае рыбу за пазуху. Гандлярка ловіць на месцы злачынства.

— Давай сюды рыбу! Заплаці грошы, тады торкай, куды сабе хочаш! Зладзюшка! Свабоду далі! Мне самой яна мазалём дастаецца.

Падыходзіць начміліцыі Дроцікаў, нюхае рыбу.

— Гэта ж тухляціна! Я аддам загад закінуць яе!

— Ой, што вы кажаце, таварыш! Гэтую ж рыбу не ў Гомелі лавілі, а толькі ўчора з Астрахані прывезлі. Яна нічым не пахне, толькі морам. Рыбка. Залатая рыбка. Я сама сёння з'ела цэлых восем штук!

— Пойдзем далей. Гісторыя пачынае паўтарацца! — кажа Гарачы таварышам. Яны ідуць далей.

## БАГАМАЗ

Падыходзяць да балаганчыка па суседству з астраханскімі селядцамі. Тут багамаз з сваімі цацкамі. Панавешаў абразкоў. Алейным голасам пішчыць:

— Праваслаўныя хрысцьяне! Не ўгодна лі купіць Госпада Ісуса Хрыста! Прачыстую Багародзіцу! Святога Юрыя, Міколу-цудатворцу!

Натоўп маўчыць, глядзіць на багамаза, як на цікавы анахранізм.

— Цяпер сваіх прадасі, каб толькі купілі, а не то каб зноў купляць! Прайшоў гэты час!

Падыходзіць нейкі вясковы хлопец, слухае ўважліва багамаза, ветліва пытаецца:

— А ці не можна купіць у вас святога Лынду?

Багамаз прыкідваецца, што не чуе ганебнае прапановы. Дрэнныя справы ў багамаза. Толькі адна баба і купіла двох багоў за чатыры рублі. Паставілі іх каля калёс. Другая шла, ненарокам таўханула.

— Стой, стой, куды разагналася? Маіх багоў паб'еш!

— Я ж такі заплаціла чатыры рублі. Гэта ж не жарты!

Адным бокам глядзіць, ці цэлыя багі, другім угладаецца ў бабу, бача на ёй новую хустку!

— Колькі аддала?

— Тры рублі.

— А мае багі чатыры рублі!

Баба, як відаць, шкадуе, што лепш не купіла хусткі, а немаведама зачым купіла багоў.

## ПРАЦА МІЛІЦЫІ І «КАЗІНЫ БОБ»

Час клоніцца да вечара. Абрыдла хадзіць.

— Паедзем дамоў. Ужо ўсё пабачылі.

— Што ж, паедзем!

Пачалі збірацца. Убачылі начміла. Нейкі сумны, нібы нешта паганае праглынуў.

— Чаго вы такі сумны? Па жонцы занудзіліся?

— Ведаеце, чаго ён сумны? Таму, што на кірмашы не было для міліцыі працы! Ні мардабойстваў, ні скандалаў. Ніводнага п'янага. Суслікі, як праз зямлю праваліліся. Няма прычэпкі.

— Ха-ха-ха! Праўда. Толькі спаймалі двох гомельскіх жулікаў, якія выдавалі сябе за нямых.

— Ну, паедзем. Толькі перад гэтым нап'емся гарбаты. Кажуць, тут надзвычайная крыніца, куды йшоў ход. Бачылі?

Парашылі для самавара набраць вады з гэтае кры-

ніцы. Але як прынеслі ваду, дык убачылі, што вада нячыстая. Чаго толькі не было ў гэтай надзвычай крынічнай вадзе. Нават «казіны боб».

— Пэўне, ён з'явіўся ў крыніцы мэтамі антырэлігійнай прапаганды! — казалі вандроўнікі, абмяркоўваючы па дарозе таемнае паходжанне «казінага бобу».

1926

## «Цар Максіміліян» у вёсцы

### З натуры

### I

Падумаць толькі: у мястэчку Краснаполле Калінінскай вакругі нядаўна паставілі ў Нардоме на беларускай мове «Цара Максіміліяна»! Можна смяяцца з гэтага, можна з жалем ціскаць плячыма, але гэты вопыт вельмі цікавы і ў ім, як у люстэрку, адбілася жыццё далучанай часткі Беларусі, у якой яшчэ нядаўна ўсё было мёртва, непарушна!

А цяпер і там пачалася культурная рэвалюцыя, і там выяўляецца творчасць шырокіх масаў, і там можна заўважыць, якія вялікія перспектывы адчыніліся перад геніем народу, які скінуў кайданы!

Шпарка рушыцца наперад глухі куток Беларусі! Тут ужо намеціўся прыкметны асяродак беларускае савецкае культуры. У Краснаполлі ўжо ёсць 10—15 чалавек, якія праканаліся, што беларуская мова — новы моцны фактар адраджэння краіны. Яны паставілі з вялікім поспехам «Чырвоныя кветкі», яны таксама ініцыятары пастаноўкі «Максіміліяна». Яны адшукалі беларускі тэкст, і за справу вельмі смела ўзяўся адзін настаўнік.

Ён, можа, нічога і не разумеў у драматычным мастацтве, але калі няма больш свядомага беларуса, дык, як кажуць, на бязлюддзі і поп чалавек! Ён захапіўся гэтай справай.

— Абавязкова паставім! У Маскве і ў нас — якая супаства! Правалімся, затое з трэскам! — казаў ён і рагатаў.

Пробавалі яго адгаварыць: «Гэта вар'яцтва! Цябе дурны поп ксціў! Кінь! Толькі смяяцца будуць!» — Нічога не памагло.

Перапісаў для ўсіх ролі,назбіраў у якасці артыстых усялякі «збор дружыны» каля 40 чалавек. Трэба было дзівіцца, каго там толькі не было: загадчык земаддзелу, тры настаўнікі, настаўніца, тэлефаніст, тэлефаністка, загадчык хаты-чытальні, сакратар камсамолу, бухгалтар кааператыву і старшыня, 3 служачых райвыканкому, дзелавод лясніцтва (самы даўжэнны чалавек на Беларусі), касір кааператыўнай крамы, 12 вучняў сямёхгодкі і г. д.!

Пачаліся рэпетыцыі. Але пытанне аб вопратках адразу зрабілася гострым.

— Мы ўсе паабнасіліся, трасём рыззём як старцы! Няўжо ж мы выйдзем у гэтых фрэнчыках, у гэтых трантах, у гэтых абрыдлых галіфэ? — казалі артыстыя.

— Мы знойдзем выхад, — сказаў настаўнік і заклаў сваіх 30 рублёў. Ехаў чалавечык у Менск: даручылі яму закупіць шмат залатое, срэбнае, рознакалёрнае паперы, усякай мішуры, брындзюлек, агнявых эфектаў! Прывёз усё гэта.

Паглядзелі на гэту мішуру, бліскучасць, вар'яцтва зрабілася заразлівым. Ужо не казалі аб немагчымасці пастаноўкі. Кааператыў даў дзяруг на папоўскія рызы, фанеры на мячы, на картон пайшла вялізная папка малюнкаў «Священной Истории», якая ляжала на чардаку ў школе! Пачалі шыць вопраткі і дзесяць дзён у двох дамох беспрарыўна шылі, клеілі, ляпілі.

## II

Дзень спектаклю прыйшоўся на Апанаса, калі ў мястэчку быў кірмаш. Панаязджала шмат народу, нават з Гомельшчыны. Кошт квіткоў быў надта нізкі: ад 20 да 60 капеек. Квіткі расхапваліся. Калі прыйшоў час спектаклю, Нардом быў бітма набіты. Той, каго намецілі быць распарадчыкам, адмовіўся, і ніхто не хацеў стаць ім, бо як зірне на вялікі натоўп народу, што стаяў каля тэатру, ды паглядзіць на залю, ужо перапоўненую, дык толькі рукамі развядзе. Урэшце распарадчыкам стаў настаўнік Міхалка, які быў таксама і падказчыкам. Па-

радак вельмі цяжка было наладзіць: 5 дзвярэй, і каго ні паставіш, усё роўна сваіх прапусціць, а камсамольцы і піянеры, як звычай, абавязкова пралезуць зайцамі, ды яшчэ ў зале зацягнуць песню.

Квіткоў было 250, а наперлася людзей больш за 300, ды ўсё падходзілі новыя людзі, якія не верылі, што квіткоў няма, і лезлі напралом. Распарадчык быў увесь вапрэлы, насіўся як угарэлы, лаяўся, крычаў, як жылы не лопнулі. Нічога не памагала: усе чакалі чагосьці надзвычайнага і ўсімі спосабамі пралязалі.

Урэшце распарадчык прыбег за куліся, дзе ў двох невялічкіх каморках 40 артыстых мазалі твары, апраналіся, абшывалі пaпераю. Там пальца нельга было прасунуць.

Тэатральны парыкмахер беспамоцна варочаў вачмі, прыклейваў машынальна бароды, вусы і стагнаў: «Ой, што гэта дзеецца! Я захварэю!»

Распарадчык крыкнуў ініцыятару, які апранаў царскую мантыю:

— Рабі як хочаш, я больш не магу! Мяне затуркалі!

— Вісус ты! Ты як штылетам прабіваеш маё сэрца! Што нам рабіць? Ну, добра: адкладзём спектакль! — адказаў ініцыятар. Ён быў вельмі смешны ў сваёй парфіры, са скіпетрам у руцэ, якім з'яўлялася ножка ад пісоўнага стала, і з дзяржавай, якая была зроблена з клубка нітак, абверчанага залатою паперай. Паглядзеўшы на гэтага цара, распарадчык зарагатаў і моўчкі пайшоў у залю. Яго злосць прайшла.

Ініцыятара яшчэ больш тармашылі. З яго пот ліўся руччом. З кожнай дробяззю лезлі. Ён аж хрыпеў і ўрэшце пачаў лаяцца:

— Сатаннё гэта, каб вас рак убрыкнуў! Чаго вы прывязаліся ка мне? Колькі разоў трэба растлумачваць!

Дапяклі яму і кантрамаркамі: адзін хацеў, каб прапусцілі ўсіх, хто ходзіць у хату-чытальню, другая дамагалася, каб усіх чэлядак прапусцілі, трэці, каб дапрызыўнікоў.

— Таварышы, куды ж мы іх пасадзім? Мы самі, якія прымаем удзел, не маем кантрамарак! — адбіваўся ён.

Была ўжо 10-я гадзіна, але не ўсё яшчэ было на месцы. Публіка дурэла, са штурмам брала нардомаўскі буфет, каб прагнаць смагу: выпіла бочку піва. У дзесяць гадзін за кулісы прыйшла дэлегацыя ад публікі і запыталася:

— Чаму не пачынаеце? Пачатак павінен быць у 9 гадзін!

— Выбачайце, таварышы, але раней не можам! Шпаркасць патрэбна, каб блох лавіць, а 40 чалавек не так лёгка падрыхтаваць! — адказаў нехта дэлегатам.

## III

Хутка адчынілася заслона. Публіка пабачыла такія анекдатычныя вопраткі, шаломы, галаўныя ўбранні, якія і ва сне не ўбачыш.

Адольфа грала настаўніца, Мамая — таксама жанчына, ды пры гэтым даволі буйная. Грабакапацель меў лапці даўжынёю ў адзін аршын. Кароны, парфіры, мячы, алебарды, арлы, паўмесяцы, рагожныя рызы з наклеенымі крыжамі — усё гэта было вельмі арыгінальна. У спектаклі, нягледзячы на слабую ігру, была ўзрушанасць. Спектакль быў стракаты. Была і сучаснасць унесена ў п'есу. Асабліва спадабалася, як мужык пасля забойства Максіміліяна ўзабраўся на трон і магутным голасам закрычаў:

— Пралетарыят перамог! Няма больш цароў!

П'еса разбудзіла думку грамадзян: у антрактах вяліся спрэчкі аб п'есе і аб тым, якія п'есы трэба ставіць. Вынікі спрэчак: старыя, буржуазныя п'есы, прапітаныя наскрозь буржуазнай ідыялогіяй, нават у Краснаполлі ўжо не будуць мець поспеху.

Збор быў небывалы: не толькі аплацілі ўсе выдаткі, але далі значную карысць Нардому, Чырвонаму Крыжу і Паўмесяцу.

1925

# Прафесар акультных навук

### З хронікі павятовага гораду К.

## I

На станцыі К., у двох вярстох ад павятовага гораду К., шмат народу чакала цягніка.

Гэта было звычайным з'явішчам, бо каля гэтага го-

раду толькі нядаўна, дзякуючы савецкай уладзе, адчынілі чыгуначны рух. Два разы ў тыдзень цягаліся паязды, і гарадская публіка заўсёды таўпілася на станцыі. Глядзенне на станцыі было амаль што выключнай асалодай жыхароў К. Ды яно й зразумела: тут і «самыя новыя» навіны, плёткі, чуткі пачуеш, а як прыязджае якая-небудзь рэвізія, дык перш-наперш пабачыш яе, а можа, і пагаворыш.

Жыхары К. вялі адпавядачую рэгістрацыю, хто ад'язджае з К. і хто прыязджае. Першым яны выяўлялі сум па прычыне развітання з бацькаўшчынай: апошніх яны дамагаліся зачапіць чым-небудзь, загаманіць, пазюкаць, калі ў прыезджых была на тое ахвота.

Была палова 12-й гадзіны, час, калі абавязкова павінен быў прыйсці поезд. Ды, як відаць, ён затрымаўся. У чакаўшых ужо не хапала ўсцерпу.

— Калі няма ў свой час — значыцца, што-небудзь надзвычайнае прывязе цягнік, — думалі чакаўшыя.

Праз дваццаць мінут раптам паказаўся цягнік з вагонамі. Грукочучы, ён падблізіўся да платформы. З адчыненых ваконцаў вагону раздаўся нейкі вычварны непрыемны голас:

— Насільшчык!..

Усе вочы публікі накіраваліся на гэты вагон, куды кумільгам паляцеў насільшчык. Доўга там была нейкая вазня, крык, сыканне. Урэшце з дзвярэй вагону важна выйшаў чалавек у чырвоным аксамітным фрэнчы. На нагах баўталася нешта даўжэннае, падобнае да штаноў, але яны дужа малое месца займалі, усё роўна як і зусім іх не было.

На хвіліну прыезджы прыпыніўся, нездаволена паглядзеўшы навокала. Абывацелі без усякай цырымоніі абкружылі яго ды пялілі вочы. Яны ўбачылі яшчэ дужа доўгі, як у бусла, нос, рабы твар (як быццам ноччу на ім гарох малацілі) і круглую, зямнога калёру, кепку на галаве.

Падышоў насільшчык з запэцканым чамаданам, за ім плялася худая, замораная кабета. Яна пёрла свой невялічкі багаж.

— Пашукай мне вазніцу ў горад, ды хутчэй, — прыказаў дзікунскім голасам прыезджы. Ад яго галасу стаяўшыя навакол людзі мімаволі шарахнуліся ўбок. Насільшчык панёсся выканаць загад.

— У горад едзеце? — запытаўся барадаты мужчына.

— Вы ж чулі... Чаго ж пытаеце? — адрэзаў фрэнч. Больш ніхто не пасмеў завесці з ім размову. Праз момант здохлая кляча ўжо вязла чырвоны фрэнч з вакзалу ў горад. Каля яго сядзела заморaная кабета, у іх нагах ляжаў запэцканы чамадан.

## II

У горадзе чалавек знайшоў прыпынак у нумарох Лакшына. Але толькі паспеў прыладзіць чамадан, як зноў выскачыў на вуліцу. Стаў пытацца:

— Дзе тут выканком?

Яму паказалі.

Прыйшоўшы туды, смела ляснуў дзвярмі і ўвайшоў. Убачыўшы сакратара, ён, зрабіўшы нейкі дзіўны жэст і нахіліўшыся па ўсходняму звычаю, павёў гутарку. Усе глядзелі на яго знямеўшы.

— Я прыехаў з трушчоб Індыі. Я прафесар акультных навук. Маё імя Віллям Джэпкінг. Усё сваё жыццё (на пагляд яму было пад сорак) я ахвяраваў акультным навукам. Даведаўшыся, што ў Расеі свабоднае жыццё... замілаванне да навук, я.., — засыпаў чырвоны фрэнч, кожную фразу падчыркваючы незразумелымі выкрутасамі, жэстамі і рухамі ўсяго тулава.

Сакратар вытарашчыў вочы. Ён быў уткнуўшыся ў дужа важныя паперы. «На табе! Адкуль гэта? Што ён лапоча?.. Трушчобы Індыі... Прафэсар... Нічога не разумею. Можа, я сню?» — падумаў сакратар і перабіў прафесара.

— Я нічога не разумею. Хто Вы? Па якой справе?.. Толькі кажыце карацей... Мне няма часу...

Фрэнч падскокнуў, выказаў усе адзнакі добрага тону. Твар выявіў сум, што чалавека не разумеюць такія адукаваныя асобы, як сакратар.

— Бачыце, — зазюкаў ён, адразу зрабіўшы іншы тон, — маё імя Віллям Джэпкінг. Я быў прафэсарам акультных навук, у Індыі. Усё жыццё я ахвяраваў вывучэнню чорнай, чырвонай, белай, сіняй магіі... Я прыехаў у Расею... О... Расея — вялізарная старонка, у ёй так многа добрага... Яна цяпер, безумоўна, першая краіна ў сусветнай... Я папаў сюды, як у рай...

Сакратар глядзеў на «прафэсара». «Нейкі вар'ят!

Чаго ён тут?.. Усякі лезе са сваім глупствам! Паганю я яго да чортавай мацеры», — развіваў сакратар свае думкі. Але замест такога вырашэння даволі ветліва з выразам мучаніка запытаўся:

— Добра! Дык чаго вам трэба? Спадзяюся, што вы прыйшлі ж па якой-небудзь справе?

Прафэсар зноў зрабіў прысяданне на ўсходні манер.

— О... Перш-наперш, як чужаземец, я лічу сваім абавязкам засведчыць сваю пашану прадстаўнікам народнай улады, каторая вядзе напружную барацьбу з капіталам (сакратар паморшчыўся: яму непрыемна было слухаць аб гэтым з вуснаў чырвонага фрэнчу)... Потым, я жадаў бы пазнаёміць мясцовае жыхарства з маёй навукай, з тымі карыснымі вынікамі, якія прынəслі чалавецтву акультныя навукі — чорная, чырвоная, белая, сіняя магія...

Сакратар папытаў:

— А што гэта за чорная, чырвоная... магія? Гэта вядзьмарства, не гаерства? Калі так — мы не дапусцім...

— О, не! Гэта — магнэтызм, спіратызм, гіпнатызм, фрэналёгія, хірамантыя, тэлепатыя, левітацыя... — Прафесар, як відаць, яшчэ хацеў страляць незразумелымі словамі, але сакратару зрабілася млосна. Ён зрабіў выраз, як быццам усё зразумеў.

— Ага! Ну?

— Дзеля чаго мне жадалася пазнаёміць тутэйшае жыхарства з маёй навукай. З майго боку тут няма ніякой карысці. Адна мэта: выкласць веды, толькі чыстыя веды... Я звяртаюся да вас, каб вы дапамаглі мне ў гэтым...

— А мы пры чым тут!.. Мы не ведаем магіі.

— Але ж! Толькі ўсё ж такі вы знаёмы з агульнымі падставамі навукі!.. Ад вас... Вам належыць кіраўніцтва ў культурным жыцці гораду... Толькі вы можаце даць дазвол на культурную працу ў горадзе.

— Вам патрэбен дазвол? Дык звяртайцеся да укому! Ён кіруе ўсёй культурна-асветная прапагандай... А выканком — толькі чыста адміністрацыйнымі справамі.

— Але ж! Але! Я, разумеецца, буду і там. Толькі, калі ласка, і вы засведчыце сваю прыхільнасць да навукі. Без гэтага я не маю права працаваць сярод жыхарства. Толькі дазвол выканкому дае мне ўпэўненасць, што ў маёй культурнай справе ніхто не перашкодзіць...

Сакратар стаяў на сваім. Ён ведаў, што фрэнч папаў

якраз туды, куды трэба, але сакратару праціўна было вазіцца з «прафэсарам» і ён хацеў «спіхнуць». Аднак прафесар быў упарты. Ён узяў правідловую лінію — мучыць сваімі выкрутасамі быццам чужаземца.

Урэшце сакратар аж успацеў ад размовы з «прафэсарам» і аддаў загад — выдаць чырвонаму фрэнчу пасведчанне, што Выканком з свайго боку не мае перашкод у культурнай працы прафесара акультных навук.

Сакратар так затлуміўся, у яго так моцна забалела галава, што ён нават не папытаў у «прафэсара», якія ён мае дакументы, якім чынам прафесар запрапасціўся ў Расею, адкуль ён ведае (хоць дрэнна) расейскую мову і г. д.

## III

Адчыніўшы дзверы укому, «прафэсар» зірнуў па баках і носам пачуў, хто тут найважнейшы. Ён падблізіўся да яго, зрабіў шырокі рух рукой навакол сябе, нахіліў у левы бок галаву, выставіў уперад адну нагу, тады раптам выпрастаўся, задраў угару галаву і зычным голасам прапяяў:

— Гонар маю рэкамандавацца — прафэсар акультных навук Віллям Джэпкінг.

Ён зноў абвёў рукой навакол сябе, схіліў галаў і шчаўкануў нагамі.

Усе аслупянелі. Нават і смеху не было. Той, якога прафесар палічыў найважнейшым, кіўнуў моўчкі ды глядзеў на «прафэсара», як на восьмы цуд сусветнай. Прафесар зразумеў, што ён зрабіў вельмі моцнае ўражанне, дзеля чаго парашыў выкарыстаць гэты эфект.

— Я быў у Індыі прафэсарам гіпнатызму, спірытызму, белай, чорнай, чырвонай магіі, левітацыі, тэлепатыі, самнамбулізму і іншых навук. У Расею я прыехаў, каб прынесці сваімі ведамі пэўную карысць шматмільённаму народу, каторы выратаваўся ад цемры і гвалтоўя царызму... Я быў ужо ў выканкоме. Там прагледзелі мае дакументы... Вось выдалі мне пасведчанне на права культурнай працы сярод жыхарства К.

«Прафэсар» дастаў з кішэні паперу і палажыў яе на стол.

— Але, — працягнуў ён, — я хацеў бы вас таксама паведаміць аб гэтым... Я ведаю, якое вялізнае значэнне

мае уком у культурным жыцці гораду... Я лічу сваім абавязкам рэкамендаваць сабе і прасіць аўтарытэтнай дапамогі з вашага боку... Што я сказаў пра сябе — пасвядчаюць вось гэтыя паперы.

Прафесар выняў туга напханы партфельчык і выкінуў з яго цэлую грудку паперак.

Сядзеўшы за сталом зірнуў на іх, дакрануўся, перагарнуў і пабачыў, што ўсе яны былі нейкія незразумелыя, з нейкімі цікавымі, зусім не падобнымі да нашых, літарамі, закавыкамі. Ён паглядзеў на пасведчанне, выданае выканкомам, прачытаў яго.

— Калі выканком даў пасведчанне, дык чаго ж? Мы тут ні пры чым! Аб якой дапамозе з нашага боку вы гаворыце? Здаецца, вам больш нічога не патрэбна.

— О не, не! Я толькі тады буду супакойна працаваць, калі буду ведаць, што самыя аўтарытэтныя ўстановы спачуваюць мне ў маёй культурна-асветная працы. Мне трэба ўпэўніцца, што і з вашага боку няма перашкод.

— Як? Каб і мы далі вам пасведчанне? У нас гэта не ў звычаі.

— Гэта надзвычайны выпадак... Вы ж, пэўна, ведаеце, якія цяжкія перашкоды могуць быць у такой адпаведнай працы, як мая... Мне неабходна мець ад вас пасведчанне.

На працягу доўгага часу вялася цікавая бойка паміж «прафэсарам» і старшынёй укому. Апошні таксама ўспацеў. Яго й смех браў і злосць. Былі моманты, калі ён ужо працягваў рукі, каб узяць за шкірку «прафэсара» дый вытурыць, але мімаволі выпіраўся нейкі страх перад яго выкрутасамі чужаземца, а калючыя вочы «прафэсара» рабілі старшыню бязвольным.

— Во прыкарасталася халера, каб ён здох! Прафэсар! Магія! Проста ашуканства! — думаў старшыня.

І нічога не зрабілі з нахабай — выдалі яму, «прафэсару», пасведчанне.

## IV

У нумарох, як толькі прыйшоў туды прафесар, у яго каморку зайшоў гаспадар і нясмела запытаўся:

— У пана трэба атрымаць дакумэнты, каб адаслаць у міліцыю.

— Якія дакумэнты? Мяне тут ведае ўся ўлада! Глупства! Нясеце лепей самавар.

— Я пытаюся, бо гэта мой абавязак. Я ў кожнага павінен трэбаваць. Можа, вас усе ведаюць, але я нічога аб гэтым не ведаю. Пакажыце дакумэнты: без гэтага я не дазволю вам быць тут і зараз зраблю заяву ў міліцыю.

Прафесар толькі наладзіўся гаркнуць, сыкнуць на гаспадара, ужо і рот расчыніў нейкім надзвычайным чынам, але, пачуўшы пра міліцыю, зразумеў, што тут жартаваць не трэба.

— Глумак вы! На, на, во! Бачыш, якія дакумэнты я атрымаў ад выканкому, ад укому. Пакажы міліцыі і больш не разважай. Нясеце хутчэй самавар!

Гаспадар узяў пасведчанні, але, прыкмеціўшы моўчкі сядзеўшую, скруціўшыся ў клубок кабету, сказаў:

— А яны як? З іх таксама трэба ўзяць...

— Буду я валэндацца. Ідзі! — крыкнуў прафесар і так страшэнна лыпнуў вачмі, што гаспадар куляй выкаціўся з пакоя.

Наглуктаўшыся гарбаты, прафесар зноў выйшаў на вуліцу. Хутка яго даўжэнныя ногі счэзлі ў заблытаных правулках гораду. Каля трох гадзін ён не варочаўся дамоў, а калі вярнуўся — вынікам шлындання па гарадзе было тое, што ўвесь горад надзвычайна неяк ажывіўся. Нешта дзіўнае зрабілася ў гэтым глухім кутку, у гэтай, як казаў адзін з маскоўскіх камісараў, — «абывацельскай памыйніцы». На ўсіх рагох вуліц, на ўсіх больш-менш відных будынках раптам панаклеілі велізарныя афішы. Нейкія хлопчыкі пачалі насіць па горадзе папяровыя плакаты, на іх таўшчэннымі, што аж лезлі ў вочы, літарамі было надрукована тое самае, што ў афішах. І да самага позняга вечару, куды б ні пайшоў, па якой бы справе ні выйшаў на вуліцу — усюды проста пад нос совалiся хлопчыкі, каторыя крычалі: «Бачце, бачце», а ў вачох рабіла ад афіш на ўсіх сценах.

— Аж абрыдла, — казалі іншыя, каторыя ўсё гатовы ганьбіць і заўсёды нездаволены. Гэткіх людзей асобна злілі хлопчыкі, узяўшыя новую моду: бегаць высалупіўшы язык ды крычаць і паказваць нешта незразумелае.

— І чаго гэтыя вылупкі лётаюць? — бурчэлі старыя непісьменныя. — Не шкадавала б ім лазы! Ой, як сказіўся свет, — жыць не даюць!

Пісьменныя мімаволі затрымліваліся каля афіш і чыталі:

«Прыехаў славуты прафэсар акультных навук — чорнай, белай, чырвонай магіі, гіпнатызёр, факір, франалёг, хірамант! Адгадвае здольнасці, характар і лёс кожнага чалавека! Вылечвае ўсялякія хваробы гіпнозам і тэлепацыяй! Дае раду ва ўсялякіх выпадках жыцця!!!

Спяшыце выкарыстаць прыезд славутнага прафэсара, спяшыце пабачыць апошнія заваёвы навукі. Візытацыя каштуе 30 кап. Памяшканне ў нумарох Лакшына».

Часта можна было бачыць, як каля афіш збіраўся натоўп грамадзян і паміж імі вялася ажыўлёная гутарка.

— Ты не ведаеш, Аўхім, што гэта за прафэсар акультных навук? Не зразумець!

— Ды як жа? А ты няўжо не ведаеш?

— А ты ведаеш?

— Акалякультная навука — ну, гэта ж не трэба і тлумачыць. Акалякультная, ну і ўсё тут. Гэта само сабой зразумела.

— Зразумела? А ты растлумач!

— Культ — рэлігія. Значыцца, каля культу — адносна рэлігіі... Помніш, як нашага папа ў іспалкоме назвалі «наймітам культу».

— Не, гэта не тое! Ты, бачыш, тут не культ, але акульт! Мусіць, нешта іншае...

— Ды гэта тое самае... Цяпер усё скарачаюць.

Грамадзян цікавілі і іншыя незразумелыя словы, як хірамант, тэлепат і гэтак далей. Гэта зрабіла тое, што амаль не ўсе грамадзяне страшэнна зацікавіліся прыездам «славутага прафэсара», іх, як магнэсам, цягнулі незразумелыя таёмныя словы і тытул прафесара «славуты».

## V

На другі дзень яшчэ раней вызначанага часу каля нумароў ужо быў даўжэнны хвост жадаўшых зрабіць «візытацыю» прафесара. У аддзельнай каморцы іх прымала сакратарка прафесара — тая самая худая кабета, з якою ён прыехаў.

Сакратарка запісвала па чароду грамадзян, брала

грошы ды назначала час, у які на другі дзень той ці іншы грамадзянін мог візытаваць «прафэсара».

— Бачыце, — кожнаму казала кабета, — сягоння прыёму не будзе. Прафэсар рыхтуецца да прыёму, устанаўлівае, дапасоўвае ўсялякія прылады, каб лепей было...

Грамадзяне здавальняліся гэткімі адказамі, не толькі не пратэставалі, але яшчэ больш зацікаўленымі рабіліся:

— Відаць, дужа вучоны, не з бах-тарарах, а з падрыхтоўкай, з прыладамі. Цікава, што ён заўтра скажа, — казалі яны адзін аднаму.

А прафесар надвячоркам пазваў гаспадара з нумароў і запытаўся:

— Ці не ведаеце вы якога-небудзь чалавека, які добра б ведаў горад? Які ведае кожнага чалавека, кожны дом?.. Апрача таго, каб быў зух, прайдзісвет? Ці ёсць такі?

— Ага! Ёсць! Гэта — Пракоп Зуй. Яго ўсе ведаюць, і ён усіх. Толькі... толькі ён жулік... Яго б даўно трэ было ў турму ўпетаваць. Ды вось не дабяруцца.

— Гэта пустое. Як бы мне пабачыць яго? Знайдзеце яго! Скажыце, што мне ён патрэбен, што недарэмна.

— Мне няма часу. Вы толькі папхніцеся на бульвар і адразу прыкмеціце яго. А хоць у якога хлопчыка папытайце — усякі вам пакажа Пракопа.

— Не! Мне неспадручна... На, во грошы, кінь свае справы, адшукай мне яго!

Грошы зрабілі сваё. Праз хвіліну ў каморку ўваліўся Пракоп. Гэта быў даволі прыгожы мужчына на трыццаць гадоў. Ён быў мешчанчук, але ў гады рэвалюцыі, не ў прыклад іншым, пакаштаваў добрага жыцця. Ён быў авантурнік, спекулянт, прайдоха, распуснік і не ганьбаваў нічым, што давала яму грошы і беспакутнае жыццё.

Пракоп адразу зразумеў прафесара. Пасля некалькіх хвілін ён проста адрэзаў прафесару, што добра ведае, на што ён патрэбен і якой дапамогі чакае прафесар. Доўга між прафесарам і Пракопам вялася таемная гутарка. Перад прафесарам ляжаў ліст паперы, на ёй ён рабіў нейкія адзнакі. Потым яны нават выпівалі.

## VI

На другі дзень «прафэсар» кожнага чалавека па чарзе шчупаў, мацаў рукамі, абглядаў далоні, нагці, па чэрапе праводзіў нейкія рысы, падводзіў к нейкаму станку, вымяраў лоб, рост, урэшце глядзеў у ляжаўшую на стале вялізную шкляную кулю і потым раптам пачынаў гаварыць аб мінулым, сучасным і будучым гэнага чалавека.

Усе пакідалі «прафэсара» ў незвычайным здзіўленні. Іншыя крыху не страчвалі помаракі: няўжо можа чалавек так адгадваць?

Таўпіліся і новыя людзі, стаяў новы хвост, але прафесар іх не прымаў: яны запісваліся ў сакратара на другі дзень.

Усе толькі й гаварылі, што аб прафесары. Выканком і уком толькі рукамі развадзілі ды злаваліся, што далі дазвол нейкаму падазронаму няпэўнаму чалавеку.

— Разводзіць нейкую чартаўшчыну. Трэба сачыць, а то ён гэтай чартаўшчынай усе грошы з гораду выкачае.

Прафесар адчуваў сябе нядрэнна. Грошы завяліся. У першы дзень было да сотні чалавек, гэта ўжо тры чырвонцы, ды за «Асобную размову» дваццаць капеек. Амаль усе даплачвалі, бо ад размовы чакалі не менш цікаўнага.

Кожны вечар прыходзіў Пракоп, толькі з кожным днём усё больш наглеў. Прафесар ужо не ведаў, як адкараскацца ад Пракопа, бо апошні ўжо дамагаўся львінай часткі, пагражаў чорт ведае чым. Прафесар парашыў нечакана счэзнуць, толькі перад гэтым зрабіць апошні выбух па кішэнях грамадзян.

## VII

— Яшчэ адзін разок вылезу ў тэатры, а тады пых адсюль! — так канчаткова парашыў «прафэсар». Марудзіць нельга было, бо прычэпкі Пракопа зрабіліся проста немагчымымі.

Даволі вялікая зала Нардому была бітком набіта. Але прадстаўленне нешта не пачыналася. На сцэне чуцен быў тлум, лаянне. Усё гэта зліла публіку. А тут яшчэ прыляцеў Пракоп і пачаў хадзіць па ўсёй зале, то

там то сям прыпыняўся, нешта барматаў, баўтаў рукамі ды ўсё паказваў у бок сцэны.

«Прафэсар» усё не пачынаў. Публіка ўжо страціла цярплівасць і крычала:

— Прафэсар, паварачвайся альбо звяртай грошы!

— Пачынай, — крычала галдарэя, прытопваючы нагамі.

— Жулік! — крычаў Пракоп, а за ім шмат іншых, якіх ён ужо наэлектрызаваў. — Узяў грошы, ды цень наводзіш! Адчыняй заслону, а не — дык за валасы выцягнем!

Міліцыянеры хутка супакоілі публіку, але тлум і неспрыяючы «прафэсару» настрой не ўляглісе. Урэшце пры зычным свісце галдарэі заслона адчынілася. На сцэне стаяў у мантыі «прафэсар».

— Іш! Вылупіўся, як на багамолле! — гулка, на ўсю залю, крыкнуў нехта.

Публіка зарагатала.

Прафесар пачаў «лекцыю». Але гумарыстычны, а часам злы настрой не супыняўся. Публіка прычэплівалася к кожнаму слову й крыўлянню «прафэсара». Ды ён і барматаў нешта незразумелае.

— Глупства ўсё гэта, — раздалося некалькі галасоў, — нам гэта не цікава. Даеш вопыты!

«Прафэсар» збіўся з панталыку. Ён смешна размахваў рукамі, страціў ці забыў увесь свой «усходні калёрыт» і зрабіўся тыповым мешчанчуком.

— Чучала гарохавае, — крычаў Пракоп, — паглядзеце на яго! Які ён «прафэсар»!

У публіцы пачалася суматоха.

— Таварышы! Так нядобра! Чаго вы так крычыцё? Супакойцеся! — крычаў ва ўсю глотку «прафэсар».

Міліцыя бяздзейнічала. Яна была захоплена настроем таўпы й моўчкі чакала, чым закончыцца гэта здарэнне.

— Убярыце лямпу са сцэны, — кінуў «прафэсар» за кулісы, але яму ніхто не пакараўся. Ён грамчэй крыкнуў — ніхто не варухнуўся. Тады пры страшэнным улюлюканні галдарэі, Пракопа ды яго кампанейцаў «прафэсар» пакінуў сцэну.

Заслона зачынілася. «Прафэсар» адчуваў сябе дрэнна. Ён ужо хацеў «пыхнуць» адсюль, але былі толькі адны дзверы праз фае, дзе хадзіў яго вораг — Пракоп.

«Каб толькі шыю не намылілі», — сумна думаў пра-

фесар, калі заслона зноў адчынілася і пачаліся «вопыты».

На сцэне сядзела замораная кабета (яна ж сакратар і касір). Выйшаў «прафэсар» і апавясціў, што зараз паважаная публіка пабачыць гіпноз. Ён стаў рабіць нейкія кругі, калючымі вачмі глядзеў на кабету й павольна лічыў: «Р-а-а-з, два, тррры!..»

— Вашы вочы адчуваюць цяжар, пры лічбе дзесяць яны зачыняцца, — уладным тонам сказаў ён. — Спіце, — зашыпеў раптам «прафэсар».

Кабета знікла галавой. Твар яе зрабіўся бледным.

— Цяпер можна што ўгодна рабіць ці загадваць ёй! — казаў прафесар. — Напрыклад, я загадаю ёй узняць правую руку, трымаючы яе ў гэткім становішчы паўгадзіны.

Кабета падняла руку ўгару, як палку, і застыла. Усе маўчалі. Урэшце пачуўся голас: «Досыць! Кіньце! Нашто мучыць?!»

«Прафэсар» паказаў іншы вопыт: выйшаў з голымі грудзямі, апавясціўшы, што яго навука дае магчымасць чалавеку не адчуваць ні холаду, ні гарачыні, ні болю. Прафесар узяў дзве дзесяціфунтовыя гіркі, павесіў іх на пачопкі, пачопкі прадзеў праз ангельскія шпількі, каторыя ўторкнуў у грудзі і зашпіліў. Потым з гэтымі вісячымі на голым целе штукамі пайшоў па радох публікі. Пракопка хацеў пацягнуць гірку, каб пераканацца, ці моцна прычэплена, але «прафэсар» прыкмеціў яго рух.

— Не чапайце, можаце глядзець, а чапаць — не!

Вярнуўшыся зноў на сцэну, «прафэсар» прапанаваў публіцы, каб яна давала пытанні, а ён будзе адказваць.

— Якую лічбу я загадала? — пачуўся пісклівы жаночы голас.

— Сем, — адказаў «прафэсар».

— Ай-ай-ай! — прапішчэла жанчына.

— А чаму роўны квадрат сумы дзвюх лічбаў? — запытаўся ўсім вядомы пракуда-інтэлігент Базыль Гук.

Прафесар збіўся зноў. Зноў рогат, асобна гам паднялі вучні і камсамольцы.

— Ага! — галдзелі яны. — Не ведаеш, які жа ты «прафэсар»?

«Прафэсар» паспрабаваў выйсці з нялоўкага становішча.

— Вы, калі ласка, хадзеце сюды, на сцэну. Я вам

адкажу, — звярнуўся ён да Гука, — на ваша пытанне трэба даць адказ па сакрэту!

Гук паналокся на сцэну, з ім пайшоў яго таварыш.

— Будзьце знаёмы, — казаў таварыш, падводзячы да прафесара Базыля, — гэта Наркамасветы нашай рэспублікі.

— Вельмі, вельмі прыемна! — пачаў круціцца «прафэсар» і брахаць «па сабацы з роту». Але ў гэты момант на сцэну цвёрдымі крокамі выйшаў прадстаўнік ГПУ і ва ўвесь голас адрэзаў:

— Грамадзянін Віллям Джэпкінг, вы зарыштаваны. Прашу ісці за мною!

— Як так? Якое вы маеце права? Я карыстаюся правам экстэрытарыяльнасці.

— Вось ордэр. Прашу не затрымліваць.

Прафесар круціўся, круціўся, брыкаўся, звяртаўся да грамадзян, але нічога не выйшла. Яго прымусілі, як стаяў у мантыі (толькі дазволілі на галаву надзець цыліндар), пайсці пад кіраўніцтвам двох міліцыянераў у Ардом*.

— Во, дастукаўся! Прапаў цяпер я! Засудзяць! Каб ён здох — гэта ўсё Пракопка! — думаў з нудой прафесар, звесіўшы галаву й тупаючы па тратуары, не бачачы, што ўслед ідзе шмат народу. — Хоць бы ж грошы яна схавала, сама б дала драла. Добра, што грошай мала ў кішэні, усяго тры ці чатыры чырвонцы, а то б усе канфіскавалі, — цягнуліся яго думкі. — Ну, але як-небудзь выкараскаюся, абдуру іх — далібог!

«Прафэсар» з пагардай падняў галаву, паглядзеў навокал. Ён зразумеў, што ў такой тэатральнай вопратцы, з цыліндрам на галаве, выглядае калі не вельмі смешным, дык вельмі жалкім. Але ён плюнуў і пагардліва паглядзеў на таўпу, якая ішла за ім.

— Прафэсар! У-лю-лю! — крычалі з таўпы.

— Але ж я прафэсар, а вы — шваль, жывёлы, труха, — кінуў ён ім.

Кінуліся з пагрозамі, але міліцыя адхіліла.

— Лепш маўчыце! — упаўголаса казалі міліцыянеры. — А то дрэнна будзе!

У Ардоме арыштаванага сустрэлі гучнымі прывітаннямі, незмаўкаемым гулам «гурра». «Прафэсар» не паспеў прыйсці ў сябе, як яго ўжо падхапілі пад рукі.

---

* Арыштанцкі дом *(рэд.)*.

Пад равучыя гукі «гурра» пачалі «качаць». Прафесар падумаў, што яму зрабілі авацыю, й дзеля гэтага, як цар,ківаў ім галавой і пахмыляўся.

— Братцы! Паўлін прыляцеў! Гурра! — крычалі арыштаваныя, шкамардзячы яго распісную мантыю.

Калі кінулі «качаць», прафесар ледзьве быў жыў. Ён сеў на лаву ды цяжка дыхаў. Палез у кішэню, каб адшукаць там паперу, і не сваім голасам завапіў:

— Грошы ўкралі!.. Сволачы!

Радасны смех і «гурра» было яму адказам. Гэткае спатканне новага арыштаванага было ў звычаі Ардому.

## VIII

У Нарсудзе слухаецца справа «прафэсара» акультных навук. Шмат жадаўшых паслухаць, дзеля чаго публічны народны суд перанясьлі ў Нардом, проста на тую сцэну, дзе праваліўся «прафэсар».

Калі адчынілася заслона, у цэнтры за сталом, пакрытым чырвоным абрусам, сядзеў склад суда. Направа ад гэтага стала сядзеў пракурор. Яшчэ далей управа сядзела экспертыза з 4 дактароў. Улева ад суддзі стаяў невялічкі столік, і за ім скромна сядзеў малады абаронца-студэнт, а далей стаяла даўжэзная лава. На ёй сядзеў «прафэсар». Мантыі на ім не было, а запэцканы сурдук і парваныя штаны. «Прафэсар» абвінавачваўся па трох пунктах: 1) што ён прысвоіў сабе, не маючы на тое падставы, тытул «прафэсара» акультных навук. 2) Што ён не меў права выступаць з вопытамі гіпнозу, бо ні жаднага вопыту ён не зрабіў навукова. 3) Што сваёй дзейнасцю ён мае шкодны ўплыў на здароўе жыхарства агульна і сваёй таварышкі асобна. Усё гэта па тлумачэнні старшыні суда пагражае карай ад 5 да 6 гадоў прымусовай працы.

Сведкі: таварышка «прафэсара» Куліна Крэндзель, Пракопка Зуй, служачы Земаддзелу Базыль Гуд, гаспадар «гасцініцы» Лакшын, рабочы Змітро Лапундрык.

Перш-наперш пытаюць «прафэсара». Асвятляецца факт, што «прафэсар» Віллям Джэпкінг у рэчавістасці зусім не прафесар, у Індыі ніколі не быў, але ёсць грамадзянін гораду Чартапханску, шлындаў па свеце, быў ужо ў шмат гарадох і ўсюды меў шчыры прыём і пашану.

На запытанне, па якой прычыне ён назваў сябе Вільямам Джэпкінгам ды яшчэ і прафесарам, апошні адказаў:

— Згодна дэкрэту, кожны грамадзянін мае права браць другі назоў, ёсць жа, напрыклад, Райскія, Ленскія, Зорскія і г. д. Чаму ж мне не назвацца Віллямам Джэпкінгам? А «прафэсарам» я лічу сябе па сваіх ведах!..

Сведкі мала даюць матар'ялу. Пракопка аддзелываецца агульнай заявай, што «прафэсар» — жулік, а пра самую соль маўчыць, бо знаходзіць, што гэта і для яго не карысна. Базыль Гук пацвярджае, што прафесар — шарлатан, бо не змог адказаць яму на пытанне, чаму роўны квадрат сумы двох лічбаў.

Слова даецца экспертызе. Яна адзінадушна пацвярджае, што вопыты «прафэсара» зусім не гіпноз. Ён не гіпнатызёр, а тыя вопыты, якія ён рабіў, шкодны для здароўя чалавека, прыкладам чаму з'яўляецца замораная кабета.

Абаронца пытае экспертызу:

— Калі не памыляюся — медыцына карыстаецца гіпнозам для лячэння хвароб?

— Але, але! — аўтарытэтна заяўляе яна.

— Але гіпноз шкодзен? — пытае абаронца.

— Безумоўна шкодзен!

— Дык як жа? І шкодзен для здароўя, і карыстаюцца ім для лячэння?

— І шкодзен, і карыстаюцца! — кажа экспертыза.

Абаронца смяецца.

Слова даецца пракурору. Ён кажа, што суд павінен поўнасцю прызнаць пункты абвінавачвання, бо яшчэ ў рэспубліцы ёсць людзі, якія злосна спекулююць цемрай народнай, прысвайваюць сабе ганаровы тытул прафесара, а робяць тое самае, што вясковыя варажбіткі або цыганкі, — абманваюць народ рознымі жульніцкімі фокусамі дзеля сваёй нажывы.

Пасля доўгіх спрэчак суд прыгаварыў «прафэсара» на год турмы. Арышт лічыць умоўным, а на далей забараніць «прафэсару» рабіць сеансы па гарадох нашай Савецкай Рэспублікі.

1924

# Разбудзілі

## Малюнкі

### I

Базыль Перапечка быў мясцовым філосафам і карыстаўся вялікай пашанай сярод усіх грамадзян, не выключаючы і адпаведных працаўнікоў. Праўда, ён сядзеў там, у кааператыве (здаецца, зусім не філасофскае праваджэнне часу), і нават кіраваў там нечым незвычайна матэр'яльным, але ён, па агульнаму пагляду, з самых часоў рэвалюцыі быў у цэнтры ўсяго жыцця; ён направа і налева тлумачыў усе падзеі, гаварыў, што бачыў і ведае ўсіх чыста правадыроў рэвалюцыі і творы іх! На ўсіх пасяджэннях (казаў, што нават на зачыненых), сходах, нарадах, канферэнцыях ён заўсёды выступаў і казаў нешта таемнае, хітра падміргваў, усміхаўся і рабіў такое аблічча, як быццам ён нешта ведае, аб чым пакуль што маўчыць!

Яго ўсе ведалі, ды і ён усіх. Як толькі канчаліся яго заняткі, яму не сядзелася ў хаце. Ён апранаў жоўценькі кажушок з апушкай, якая была даражэй кажуха, насоўваў на лоб дзіўнага фасону «кепу» і ішоў.

Сёння ён быў у нейкім асобным уздыме. Як жа? Прыехалі таварышы з Менску, каб прасачыць тут за працай, каб наладзіць яе. У канторы а пятай гадзіне будзе пасяджэнне... Наскокам Базыль з'еў нейкай поліўкі, апрануўся і панёсся туды...

За цэнтральным сталом сядзеў старшыня менскай камісіі, даволі «важкі» чалавек, з скептычным выразам твару.

Заместа прывітання Базыль кінуў:

— Ого, народу, як людзей!

Усе так заюшыліся, што не звярнулі на яго аніякай увагі. Якраз рабіў даклад старшыня кааператыву. Ён пачаў з Адама і казаў, што ў «гады прамінулыя», у часы нэпу кааператыў «дзелаў пайшчыкаў» — гэтак цяжка прыходзілася. Потым паказаў, што паявога капіталу зараз у іх 9600 рублёў, а план збудован на год па 200 000 рублёў. Казаў яшчэ аб накладных выдатках, якія дасягаюць 22 працэнты. Яшчэ шмат чаго казаў дакладчык, але Базыль яго не слухаў. Ён запісаў сабе на

паперу два-тры пытанні (каб паказаць, што ўсім цікавіцца, усё прымае да сэрца) і кінуў слухаць: чаго яму тут слухаць — і так усё ведае. Замест гэтага ўтаропіў свае вочы ў старшыню камісіі, вывучаў яго. Для сябе ён ужо склаў яго характарыстыку, а потым падзеліцца з іншымі, і яго прыгавор будзе безапеляцыйным.

— Давайце пытанні! — скончыўшы даклад, прапанаваў старшыня.

— Як гэта вы дзелалі пайшчыкаў? — троху зласліва запытаўся Базыль.

— Якія захады зрабіла кіраўніцтва кааператыву адносна таго яноўца, які ў краме аблаяў селяніна «свінуля»?

— Якую робіць кааператыў культасветную працу?

— Ці ёсць у вас агіткаламажка? Калі не, ці думаеце завесці?

— Што зроблена кааператывам, каб уцягнуць у грамадзянскую працу жанчыну? — з націскам і гучна запыталася жанаддзелка.

Задаваў пытанні і прыехаўшы «важкі» чалавек з Менску. Базыль еў яго вачмі. Пытанні яго былі толькі па сутнасці справы. Базыль з зайздрасцю казаў сваім суседзям:

— Ого, дзяржыся! Як галяр голіць! Пачакайце, ён яшчэ намыліць ім шыю! А што ж ты думаеш? Трэба ўмець кіраваць! Я заўсёды стаю за праўду! А то іш ты! Падумаеш, які юр напаў: яны дзелалі пайшчыкаў?! Вялікая заслуга. Сам не ведаў, што кажа!

Пачаліся спрэчкі. Сакратар, які запісваў пратакол паседжання, маляваў твары нейкіх кірпаносых дзяўчат, нейкіх конікаў, нейкіх адмысловых страшыдлаў. Раптам узняўся гармідар. Старшыня райвыканкому, прысутнічаўшы на пасяджэнні, запратэставаў:

— Прашу запісаць усе спрэчкі літаральна, бо тут шмат хібаў паказваюць, шмат чаго кепскага выкрываюць, а сакратар малюе нешта недарэчнае!

Сакратар палез на сцяну:

— Як так. Я ўсё запішу... І ваш закід я разумею, як недавер да мяне!.. Калі гэтак, я адмаўляюся ад сакратарства. Абірайце каго іншага!

Ён узняўся з месца, пачаў бегаць вакол стала. Зачапіў Базыля, крыху не скінуў яго з зэдліка.

— Чаго ты кідаешся? Глядзі, а то сулдыгі пераламаю!

Цяжка было супакоіць сакратара. Ён усё бегаў, бегаў ды галдзеў. А боты былі на ім новыя, правінцыяльныя, яны страшэнна скрыпелі і пераважалі ўвесь тлум.

— Іш ты! Скроб, скроб, скроб, носіцца, як падмеценая! — сур'ёзна зюкнуў Базыль.

Сакратар сеў.

Узяў слова менскі таварыш:

— Я дзіўлюся, якая ў вас тут самалюбная публіка! Заместа таго каб абмеркаваць пытанне, супакойна, без крыку, тут гэту дробязь вы падымаеце да вышыні палітычнага зладзейства. Падумаеш, што тут проста габінет міністраў... Недавер'е габінету... Не дзіва, што вашыя пасяджэнні заўсёды зацягваюцца!

Інцыдэнт быў уладжан, але Базыль не ўсцярпеў, каб не сказаць, звяртаючыся да сакратара:

— Я табе колькі разоў казаў: затыкні дзірку, калі яна ў цябе ёсць! А цяпер во сядзіш, як умазаўшыся!

Сакратар пачаў шпарка пісаць і толькі агрызнуўся:

— Маўчы і ты! І табе трэба ўтачыць сваё джала?

Спрэчкі былі вострыя. Базыль пасля кожнага выступлення пляскаў. Прадстаўнік лясніцтва Гараш спрачаўся, што кааператыў не павінен прадаваць спекулянтам па пуду газы, няхай дае па паўфунта. Старшыня выканкому казаў, што няма падходу ў працы, што лічба пайшчыкаў дохлая (тысяча), што метад нарыхтовак не мае нічога супольнага з заданнем — прывабіць селяніна ў кааператыў. А калі выступіў менскі таварыш, дык Базыль аж бухнуў сябе па лбу. Таварыш казаў, што збудаваны план ёсць гандлёвы план, а не кааперацыйны, што гэты план вельмі рызыкоўны, што кааператыў можа ў нейкі, зусім нечаканы, час разваліцца і «тады прыйдзецца пабрынкаць грыбамі», што накладныя выдаткі дужа вялікія...

— Ой, як гэта яны жывуць пасля гэткае крытыкі? — звярнуўся Базыль да суседа. — Я ім гэта самае казаў. Я казаў: з гэтым планам беражыцеся, ой беражыцеся, войстра ездзіце, каб не абрэзаліся.

1925

# Тварам да вёскі

### З цыкла «Новыя людзі»

У невялікі пакой зайшоў малады чалавек з партфелем і, усміхнуўшыся, сказаў: «Дзень добры». Потым зрабіў да стала некалькі крокаў і проста пачаў знаёміцца, называючы сваё прозвішча. Яго ніхто не разабраў.

Сядзелі моўчкі й чакалі. Але не адчувалася нялоўкасці. Прышлы зусім вольна й натуральна адчуваў сябе, нешта рыўся ў сваім партфельчыку, неяк радасна й светла ўсміхаўся і глядзеў вакол сябе, чагосьці шукаў...

— Вы, здаецца, інспектар Вавуліч?

— Не, не! Я не інспектар! Я не Вавуліч! Не! І наогул кажучы, я не начальства! Я — «Тварам да вёскі», з Менску.

— А! «Тварам да вёскі», — у адзін голас усклікнулі ўсе і гучна засмяяліся.

Мо першы раз за ўвесь гэты час у сказаных словах не пачулася нейкай нацягнутасці, афіцыяльнасці, фальшывасці. Неяк адразу, як толькі паглядзелі на твар назваўшага сябе «тварам да вёскі», зрабілася радасна, вольна. Адчулі, як быццам яго даўно-даўно ведаюць і ніколі не разлучаліся. Усе наперабой пачалі гаварыць, смешна размахваць рукамі, нават хапалі яго за рукавы, хлопалі па плячох... Ён гаварыў выключна на беларускай мове, і на хвіліну здалося, што гэта сама вёска кажа, вёска новая, светлая, дзе няма гора й тугі.

— Але ж! Я — «Тварам да вёскі»! Я — прадстаўнік Наркамзему. Маё заданне — выявіць гострыя патрэбы вёскі... І ведаеце, я ніколі не думаў, што тут такая беднасць, гора, цемра... Я аб'ехаў усю вашу акругу, і для мяне як быццам адчыніўся цэлы свет, зусім няведамы, зусім недаследаваны... Цэлы край непачатай працы!

— Так! У нас дрэннае жыццё. Вы не першы гэта кажаце. Рэдка наязджаюць да нас, а наедуць — паглядзяць на нас, як на нешта недарэчнае, дагістарычнае, узварухнуць троху, з'явіцца жаданне лепш працаваць і жыць, а паедуць — зноў усё засне... Зноў па-старому.

— Гэта так! Я нідзе не мучыўся так маральна, як у гэтай акрузе... На адных толькі конікаў паглядзіш, дык сэрца зашчэміць. Здаецца, шчаўчком можна забіць! А хаты? А школы?.. Сумна... Да вас у мяне вось якая справа. Я езджу па вёсках, вяду гутаркі, вызнаю патрэ-

бы, настроі... У вас школа. Я хацеў бы пагутарыць з вучнямі. Мяне цікавіць сялянская моладзь, якая ёсць пэўны барометр вёскі...

— Добра. Мы гэта зараз... У нас 5 і 6 лекцыя, мы іх скасуем, загадаем агульны сход вучняў, і вы пагутарыце з імі!

— А ці ёсць у вас пры школе літаратура па сельскай гаспадарцы?

— Якая там літаратура? Нічога няма!

— Дзіўна! А Менск завален. Магазыны перапоўнены — няма надзеі распрадаць. Хацелі нават пусціць на ўпакоўку. Але ж гэта вандалізм... Цяпер вядзецца адбор кніжак, якія, можна лічыць, не будуць куплены, і яны будуць пасунуты на вёску. Каб не забыцца — прышліце да мяне ў «Заезджы дом» вучняў. Я дам вам кніжак. Трох-чатырох чалавек... а то не данясуць.

Не верылі вушам сваім, рагаталі ад радасці, крычалі «гурра».

Потым прыезджы выказаў жаданне паглядзець класы, вучняў, працу іх, каб лепей зразумець, аб чым больш за ўсё трэба гутарыць. Вучні вадзілі яго па класах, паказвалі яму свае малюнкі, калекцыі, газеты, закідвалі яго пытаннямі, хто ён, чаго прыехаў, як жывуць вучні ў Менску, апавядалі яму свае маленькія радасці, сваё гора, свае няўдачы, свае мары аб будучыне... Ён усім цікавіўся: як яны дзень праводзяць, як у іх размеркован час, чым яны асобна цікавяцца.

Вучні са скуры лезлі, а казалі па-свойму, па-мужыцку.

На сходзе, куды сабралася каля 200 вучняў, ён, калі яму прапанавалі слова, некалькі хвілін маўчаў, праводзіў рукамі па валасох, глядзеў у свой блакноцік, потым пачаў:

— Прыгожа жыццё на зямлі. Прыгожа, калі каласіцца жыта і шарасціць ад ветрыку, прыгожа, калі кветкі цвітуць на лугох, калі пахне грэчка, калі цвіце лён. Прыгожа, калі сады цвітуць, пакрываюцца бела-ружовым цветам, а пчолкі радасна гудуць у араматным паветры... Наогул, паглядзеце, колькі прыгажосці ў вашым сялянскім жыцці? А ў горадзе: рух аўтамабіляў, машын, гул фабрык, заводаў, трапятанне аэрапланаў! Усё гэта не толькі карысна, але й прыгожа. І ўсё гэта здабыў геній чалавека. Але чаму ж так многа няшчасных, якія не ведаюць радасці, якім некалі прыкмячаць

гэтае прыгажосці жыцця? Таму што не ўсе ўмеюць заваёўваць сваё шчасце, не ўсе вядуць упартую барацьбу за лепшае будучае, не ўсе адчуваюць, што ў барацьбе — шчасце, у барацьбе свядомай, сагрэтай навукай і працай!

Вы, пэўна, чулі ў школе казку пра птушку Фенікса, які з попелу ўваскрасаў... Гэта птушка Фенікс — ваша краіна Беларусь. Яна цяпер уваскрасае, яна моцна цягнецца да лепшага жыцця, да свету, яна ўбачыла бязмежныя прасторы творчай працы й натхнення...

Непрыкметна перайшоў ад паэзіі жыцця да яго прозы. Кажучы аб мерапрыемствах па землебудаўніцтву, землекарыстанню, ён падвёў ідэйны грунт пад гэта, ён нарысаваў захапляючы малюнак будучай «абноўленай зямелькі Беларусі», дзе сонца ясней стала свяціць і кветкі сталі прыгажэй цвісці, дзе грудзям вальней, шырэй стала, дзе думкам адчынілася бязмежная сонечная прастора.

Маладыя вочы як прыкованы былі да прамоўцы. Здавалася, што гэта ёсць ужо, а гэта вось-вось будзе: так бясспрэчна ўсё выходзіла. І калі скончыў ён гаварыць, з усіх грудзей вырваўся нейкі ўздых, як быццам прачнуліся ад сну, ад якога не хацелася прачынацца. Потым воплескі, воплескі, воплескі...

А ён забыўся нават прысесці, усміхнуўся й думаў: «О! Гэтыя цяжкія гады не прайшлі дарма! Як усё ўзрасло, узварушылася, напоўнілася новымі свежымі думкамі! Які агонь гарыць у іх вачох, як моцна іх жаданне ведаць, працаваць, тварыць!»

Глыбока задумаўся і ачнуўся тады, калі як град пасыпаліся запытанні. Яны не былі штучнымі, нават не выплывалі з яго слоў, яны былі пытаннямі маладых душ, маладой спробы жыцця. Ніякай саромлівасці, падхлівасці не было ў гэтых дзяцей вёскі. Кожны пытаў аб тым, што яго цікавіла ў гэтую хвіліну: як трэба падразаць яблыні, як садзіць бульбу, як яе рэзаць і на колькі частак, як рабіць грады, колькі лажыць угнаення і г. д.

У спрэчках выступалі й вучні. Прыезджы радасна глядзеў на іх, на гэтых юных кавалёў жыцця, якія смела падымаліся, смела гаварылі, з жарам абаранялі новыя формы жыцця.

Ён думаў: «Якое шчасце жыць, якое шчасце нават бачыць, як растуць, мацнеюць новыя людзі, як на ва-

чох жыццё змяняецца, асвяжаецца! Не! Не можа быць, каб загінулі гэтыя парывы, ня можа быць, каб змарнелі, заглохлі яны!»

І калі пасля доўгай гутаркі пайшоў ён са сходу, яго праводзіла ўся грамада.

## II

Мясцовы агроном Касабука, які таксама быў на сходзе, гаварыў прыезджаму:

— Мне здаецца, што вы больш паэта, чымся аграном. Ці ж не гэтак? Вы дужа пекна гаварылі.

— Не! Вы памыліліся! Я — сапраўдны аграном. Але я лічу, што каб перабудаваць усё на новы лад, трэба заахвоціць людзей, трэба закрануць у іх эстэтычную жылку, трэба так паставіць справу, каб з'явілася імкненне да прыгажосці жыцця, каб узмацнілася нянавісць да гразі, бруду, цемры. Дзеля гэтага й трэба, па-мойму, кожнаму аграному быць троху паэтам... Пакажэце селяніну, як можна карысна й прыгожа весці гаспадарку — ён безумоўна захопіцца гэтым. «Прыгожа» — я разумею ў сэнсе «чыста, здарова». Дайце яму прыклады, як жывуць сяляне ў іншых краінах, намалюйце яму новую вёску, а лепш дапамажыце збудаваць яе, з садамі, з брукаванай вуліцай, з тратуарамі... Давядзіце, што гэта не так цяжка, вылічыце ўсё матэматычна, а ў першую чаргу адшукайце прыхільнікаў вашай ідэі, штурхайце іх да новага жыцця — вось, па-мойму, адпаведная роля агранома. Але яму самому трэба верыць і захапляцца. Ён — вока й вушы вёскі!

— Мне было б вельмі цікава паслухаць вас, як вы гаварылі б гэта сялянам. Ого! Яны проста ў трубу заганяць сваімі вечна заблытанымі пытаннямі. Іншы раз яны такога перцу зададуць, што не ведаеш, куды дзецца... Вы думаеце, што я гэтага не гаварыў? Ды якая карысць, калі пасярод вашых захапляючых планаў, як абух па галаве, чуеш бурчэнне: «Не да танцу абадранцу», «Усуньце кляп у горла сакатуну — няхай ня брэша», «Ат! Лысае ўрадзілася, лысым і здохне»! Гэта агульныя выкрыкі, праўда, шэптам сказаныя, але іх чуеш. А паслухалі б вы іх палітычныя выступленні, калі яны ўпэўняцца, што вы свой чалавек, што вас не трэба баяцца. Яны вам на вашу абарону савецкіх мерапрыем-

стваў пачнуць вочы калоць і казаць, што «ўлада то й знай жрэць», што на сялян «усё ліха ўссела», што «ўсе пазаскабілі рукі», што ўлада «першым сваім абавязкам лічыць толькі збіранне падаткаў» і г. д., і г. д. да бязмежнасці.

— Што ж, гэта бывае. Але ж ці можна супакоіцца на гэтым, кінуць-рынуць усё ды адбываць па казённаму. А галоўнае: трэба кінуць ролю «правадыра». Вы думаеце, селянін не разбіраецца, што вы яго вучыце, а самі мала ведаеце. Ён інстынктыўна дамагаецца роўнасці, таварыскасці і ўсякага, хто ў чорным, ды яшчэ чытае яму мараль, ён і слухаць не хоча. Я праканаўся, што калі даць магчымасць селяніну суздром выказацца, ён будзе лічыць, што вы не вораг яму. А мы часта вядзём сялянскія сходы, занадта дысцыплінавана, зусім забываем, што селянін яшчэ не можа, яшчэ не прызвычаіўся казаць па сутнасці справы. Дзеля гэтага, калі сход бывае дужа дысцыплінаваны, калі «ёсць парадак», дык на прапанову выказацца ўсе маўчаць як вады ў рот набраўшы, бо ім здаецца, што ад іх дамагаюцца панскае, лагічнае прамовы, а калі ён пачне пра сваё, набалелае, дык зараз крыкнуць: «Досыць! Табе няма слова! Не тое кажаш!..»

— Давайце сёння, калі вы не паедзеце, пойдзем у хату-чытальню, збяром сход. Цікава, які будзе ваш погляд пасля гутаркі з нашымі сялянамі?

— Добра! Пойдзем! Толькі не трэба збіраць сходу. Хто захоча, няхай прыйдзе. Ведаеце, я ўжо езджу тыдні два і прыкмеціў, што ў вёсцы гэтых сходаў бывае шмат: толькі раздражніваюць сялян, бо трымаюць 3—4 гадзіны, а нічога большаю часткаю не даюць. Хто ні павернецца, падлеткі бегаюць і крычаць: «На агульны сход», — а па якой прычыне, якая абвестка, хто склікае — ніхто не скажа. Йдзі, й толькі, бо ты павінен слухаць, што табе начальства кажа. Прыйдзе селянін і пачуе, што добра б было памагчы Мопру, што будзе Дзень лесу і трэба да яго рыхтавацца, што трэба ўзнесці падатак (хоць ён можа даўно ўжо ўзнёс), ну й злосць яго разбярэ, чаму кожны раз наперад не скажуць, аб чым будуць казаць. А то чакае гадзіны тры, а потым прачытаюць паперу, што плаці страхоўку, й толькі... Мы во як зробім: абвясцім, што хто хоча, у каго ёсць справы, непаразуменні, той можа прыйсці ў хату-чытальню, дзе будзе гутарыць менскі таварыш.

Падышлі да заезджага дому. Каля дому доўга яшчэ гаманілі. Аграном выкладваў душу, смешна размахваў рукамі. Прыезджы пільна сачыў, як змяняўся твар агранома, як нейкае дзіўнае хваляванне перадавалася яму.

Падышоў нейкі шэранькі чалавечак і скарагаворкай кінуў:

— Ты ведаеш, Касабука, у нас сёння ўстаноўчы сход краязнаўчага таварыства. Дальш марудзіць нельга — населі. Ты, як аграном, абавязкова прыйдзі. А 5 гадзіне.

— Добра, прыйду! Абавязкова! Мяне гэта цікавіць!

Шэры чалавечак прыпыніўся, паглядзеў на новага чалавека і пытліва зірнуў на Касабуку.

Той сказаў:

— Гэта з Менску таварыш! «Тварам да вёскі»!

Засмяяліся.

Шэры чалавечак адышоў, зрабіў некалькі крокаў, потым зноў вярнуўся, стукнуўшы сябе па ілбу.

— У мяне геніяльная думка. Ці не маглі б вы прыйсці на наш сход? Ён прайшоў бы жвава, а то мы ўжо абрыдлі адзін аднаму.

— Калі ласка! Я прыйду. Краязнаўства — важная справа, і я, напрыклад, магу што-колечы сказаць аб Інбелкульце.

## III

Устаноўчы сход краязнаўчага таварыства адчыніўся. Прысутнічала не больш 15 чалавек, якія нават не ведалі добра, што гэта за таварыства, якія мэты яго, змест працы. Сядзелі насупіўшыся. Упаўнаважаны паведаміў, што хоць вельмі непрыемна брацца за новую працу, але што гэта вымагаецца жыццём, стыхійнымі патрэбамі растучай грамадскасці. Дзеля гэтага прапанаваў абмеркаваць пытанне аб адчыненні бюро, аб статуце, аб узносах, аб сяброўстве.

Менскі таварыш сядзеў і думаў:

— Адчыніцца, будзе існаваць на паперы з год, пакуль жыццё не высуне ўперад ідэйных людзей, якія зразумеюць неабходнасць гэтага. І гэта паўсюды! Паўсюды папяровая дзейнасць!

Узяў слова. Пачаў дужа проста гаварыць, што такое беларуская культура, што такое Інбелкульт, якая яго праца, заданні, мэты, што ён ужо зрабіў.

Сонныя твары ажывіліся. Мімаволі галава праяснілася. Вялізная лабараторыя народнага жыцця адчынілася, і крыўдна зрабілася, што не працуеш у гэтай лабараторыі, не наглядаеш жыцця, не ўспрымаеш яго ва ўсёй непасрэднасці. Гэткія марудныя дробязі, як статыстычныя даныя, збіранне казак, песень, састаўленне слоўніка жывое мовы, рэвалюцыйная народная творчасць — усё гэта выявілася ў іншым асвятленні.

— Трэба ведаць мінулае, трэба збіраць помнікі старасвеччыны, бо, хто ведае мінулае, той зразумее сучаснае. А толькі разумеючы сучаснае, можна падысці да народнае псіхалогіі, дасканальна ўявіць яе сабе, ператварыць, змяніць яе ў пажаданым напрамку. Недарма ж кажуць, што адной з вялікіх навук будучыні будзе псіхатэхніка, поўнае разуменне і ўладанне імпульсамі...

Разварушылася думка. Вельмі ўрачыста падняўся мясцовы эканаміст Бульбачка і дакляраваў, што краязнаўчая праца прынясе вялікую карысць не толькі народам СССР, але і ўсёй сусветнай, асобна эканоміцы, бо ведаць эканамічны стан краіны, яе статыстычныя даныя, гэта азначае ўвачавідкі ўбачыць, правільна ці не эканамічная палітыка, трэба яе змяніць ці не, ёсць прагрэс ці рэгрэс, а можа, застой. Ён казаў, што каб магчыма было даць дасканальнае апісанне з усіх бакоў хоць бы аднаго сельсавету, не кажучы ўжо аб раёне, — гэта б была вялізная праца. Гэта ўсё роўна, як той казаў, што, каб мы ведалі ўсё чыста адносна мураўя, мы б маглі шмат вырашыць сусветных праблем, над вырашэннем якіх пакутуе цяпер чалавечая скрыначка з шэрай матэрыяй.

За эканамістам выступіў рэдактар мясцовай насценнай газеты «Памяло» т. Скібачка, які асабліва напіраў на неабходнасць збірання народнае рэвалюцыйнае творчасці. У прыклад ён браў сябе, які нядаўна на вечарынцы ў вёсцы Грыбы пачуў твор малапісьменнага вясковага хлопца — паэму «Як зямлю білі на клеткі». Па погляду Скібачкі гэты твор варт таго, каб яго не толькі запісалі, але й надрукавалі. Тут вёска як у люстэрку.

Выступіў нават мясцовы Дыаген т. Палачка, які, нягледзячы на свой цынізм, займаў вельмі адпаведную пасаду. Ён таксама агітаваў за планавае збіранне вуснае народнае творчасці, прычым напіраў на збіранне непрыстойных твораў, легенд, жартаў, бо, як ён гаварыў, гэта асвятліць і дапаможа вырашыць планавую прабле-

му. Апрача таго, гэта прыгожа й з мастацкага боку, бо ён сам адзін раз цэлую ноч слухаў шэраг народных легендаў на тэму аб беларускай «вандэцьце». Гэты выбрык Дыагена выклікаў аднадушнае пацісканне плечаў: да чаго іншы раз дагаворыцца чалавек?

Ён недаслухаў іншых выступленняў. Быў час, прызначаны для гутаркі ў хаце-чытальні.

# IV

Прыйшоў з аграномам Касабукай у хату-чытальню. З сялян-гаспадароў яшчэ нікога не было, хоць паведамленне ўжо было паслана. За сталом на куце сядзеў актыў вясковай моладзі і абгаварваў нейкія справы. Менскі таварыш прысеў збоку, развярнуў блакнот, пачаў пісаць там нешта, потым уцягнуўся ў гутарку з моладдзю. Высветлілася, што сяляне-гаспадары рэдка й неахвотна прыходзяць у хату, бо яна «для моладзі, а старым няма чаго тут рабіць». Уважліва слухаў іх фанабэрыю, ківаў галавою, выказаў свой погляд.

Сяляне прыходзілі невялікімі групамі. Нясмела садзіліся на лавах збоку, пазіралі на прыезджага.

А ён думаў: аб чым гаварыць галоўным чынам, каб зацікавіць іх, каб яго гутарка не была дарэмнай, пустазвонствам. Ён ведаў, што «абы казаць» — на гэта не трэба вялікай здольнасці, а гаварыць так, каб зачапіць, узварушыць чалавека, штурхануць яго на дзейнасць — на гэта патрэбна здольнасць, дасканальнае інтуіцыйнае веданне псіхалогіі масаў. Чым жыве наогул беларуская вёска, і гэта вёска ў прыватнасці — вось пытанне, якое зараз мучыла яго.

Праз некалькі хвілін ён будзе гаварыць з імі, будзе «вучыць» іх, а ён не ведае, што патрэбна ім у дадзеную хвіліну, а выязджаць на агульных фразах аб саюзе сялянства і рабочых — гэта яму не па душы.

Падсеў да нейкага дзеда. Разгаманіліся. Хутка каля іх набралася цэлая грамадка. Кожны ўторкваў сваё слова, кожны высоўваў набалелае пытанне гэтае вёскі — перадзел зямлі. І ясна стала, што вёска хварэе ад няўмелага землебудаўніцтва. Яшчэ гады чатыры назад пабіліся на прыселкі і ўжо карыстаюцца новымі надзеламі, а дагэтуль сядзяць на старых сялібах, узаемна перашкаджаючы адзін аднаму жыць. Пераехаць на но-

вую зямлю нельга, бо план не зацверджан, а не зацверджваюць, бо з кожным годам плату за гэта павялічваюць, набаўляюць, а цяпер ужо й акруга не ведае, колькі «сарваць з іх», хоць яны ўжо пераплацілі гэтулькі, што й лічбу страцілі.

Лёгка яму зрабілася, калі пагаманіў з сялянамі. Цяпер ён ведаў, аб чым казаць, што казаць, як дапамагчы. Пачаў гаварыць. Было ціха. Гаварыў на беларускай мове. Сяляне нават не перашыкваліся, не бурчэлі. Нейкія струны сялянскае душы былі моцна закрануты. Збоку было нават троху жаласліва бачыць паўадчыненыя раты і застыглыя твары.

Ён казаў, як цяпер размяркоўваецца зямля, якія нормы, які парадак надзялення. Усё гэта перасыпаў рэальнымі прыкладамі з жыцця гэтае вёскі. Растлумачыў, чаму гэта вёска ў такім незразумелым становішчы.

І калі ён на хвіліну спыніўся, раптам не стала цішыні. Яе перарваў вядомы ўсёй вёсцы пракуда Сёмка, ці, як яго дражнілі, — Скулка. Часам ён напіваўся «да звярынага аблічча», як казалі пра яго. Як відаць, ён і цяпер быў «усусліўшыся», і ўся сусветная прыстаўлялася яму жартам нейкай злой сілы. Сярод магільнай цішыні ён загрымеў хрыпучым голасам. Менскі таварыш нават не задзівіўся, як быццам ён гэтага чакаў. Зусім сур'ёзна ён сказаў:

— Вы хочаце казаць? Калі ласка.

Скулка гаварыў выключна пра сябе. Даводзіў, што ён чалавек справядлівы, вельмі любіць рэзаць праўду і дзеля гэтага яго словы будуць не ў нос. Успамінаў аб нейкіх 15 пудох снегу, аб «рывалюцыі, сацыялізме і аб трох мерках пазычанага жыта». Сваю прамову закончыў прапановай:

— І прашу таварыша з цэнтру сказаць, чаму я ўвосень аддаваў вам хлеб па 50 кап., а цяпер мне аддаюць гэты самы хлеб па 1 р. 50 к... І прашу яшчэ сказаць таварыша з цэнтру, хто ў гэтым павінен: мы ці піонэры... І гэта прашу мне сказаць... Маё ўсё!

— Не слухайце вы яго, ён вядомы зяўло. Крычыць, халяву сваю распусціўшы! Братцы, угаманеце яго!

Гэтыя словы падлілі масла ў агонь. Усё набалелае, уся бруда жыцця падкацілася да сэрца Сёмкі. Пачаў крыўдзіцца, што людзі зусім збяднеліся, не маюць нават на што газы купіць, а калі й давялося чарвяку на вяку, дык і то вочы колюць.

Пачаўся агульны тлум. Усе спынялі Скулку, адны мякка, другія строга, а ён не супакоіўся.

Ніякага прэзідыуму не было, ніхто не сачыў за парадкам, бо гэтага не хацеў менскі таварыш. Апошні зусім проста папрасіў выказацца, толькі адзін за другім. Гэта падзейнічала.

— Ён зусім не датклівы! Нават Скулцы нічога не кажа, — гаварылі сяляне, і з'явілася ахвота пагаварыць.

Скулка зноў дамагаўся гаварыць.

— Кінь брахаць, а то ад тваёй брахні ў мяне вока забалела!

Урэшце ён супакоіўся. Пачалі выказвацца другія. Больш гадзіны гаварылі сяляне, якія быццам і забыліся, што тут ёсць таварыш з цэнтру. А ён сядзеў за сталом, уважліва прыслухоўваўся да таго, што казалі, шпарка запісваў, і ніхто на гэта не звяртаў увагі. Вочы яго гарэлі здавальненнем, што ўдалося разварушыць спячых, прыцягнуць іх да шчырай бяседы.

З іх заблытаных выступленняў ён вылоўліваў канкрэтнае жыццёвае пытанне і заносіў на паперу.

Сяляне казалі, што яны не лаюць савецкую ўладу, што яны пэўны ў тым, што ў цэнтры іх дабрадзеі, але іх вясковае жыццё не наладжваецца, бо дагэтуль да іх варочаліся не тварам.

І калі прыезджы пачаў адказваць на пытанні, маўчалі ўсе, нават Скулка. Позна ноччу выходзіў ён з хатычытальні.

Пелі пеўні, заліваліся сабакі. Ціха гаманілі сяляне. Скулка сказаў на развітанне:

— Я нічога супроць таварыша з цэнтру не маю, бо ён гаварыў з намі як з людзьмі.

І нешта новае, моцнае, свежае, як вясновы вецер, ахапіла іх думку.

— Можна лепей жыць — гэта праўда!

1925

## Абстрыкаўся

### I

Мястэчка Кароза ў незвычайным ажыўленні. Рыхтуюцца ўсе да валаснога з'езду Саветаў. Ужо тыдзень, як кожны дзень па ўсіх установах пасяджэнні, пасяджэнні, пасяджэнні. Ужо па ўсіх вуліцах налеплены «чорныя спісы». Ужо народ цэльны дзень таўчэцца ў выканкоме з усялякімі справамі па перавыбарах.

Вось і сёння грамадзяне мястэчка з зацікаўленасцю ўбачылі, як да выканкому падскочыў на вараненькім коніку нейкі прыгожы мужчына ў бліскучай, туга зацягнутай, міліцэйскай вопратцы.

— Хто ж бы гэта? — пыталіся з усіх бакоў. — Неішта мы яго не ведаем.

— Ды як жа ж! Гэта ж т. Шмыцік, з павету, — адказаў нехта. — Ён прыехаў як сябар выбарнай камісіі.

Некалькі зацікаўленых грамадзян паперліся за ім услед, як быццам па сваёй справе. Яны ўбачылі, што ў выканкоме яго сустрэлі з прывітаннем, як жаданага госця.

### II

Як увайшоў т. Шмыцік, дык пасыпаліся з усіх бакоў пытанні. Ён развязываў іх і на ўсе адпаведываў катэгарычна і проста. Гэта ўсім спадабалася.

— Бачыш ты, як рэжа, — шапталіся сяляне.

Тут жа каля стала старшыні стаяў у парванай шынельцы рэжысёр мясцовай трупы т. Пячурка. Яго перад прыездам т. Шмыціка гукнулі наконт пастаноўкі спектаклю да з'езду.

Убачыўшы яго, прыезджы цікаўна зірнуў на Пячурку, быццам пытаючыся: хто гэта? Старшыня папярэдзіў:

— Гэта наш мясцовы рэжысёр трупы, мы яго пазвалі, каб папрасіць што-небудзь зрабіць для з'езду.

— Ага! Гэта добра! — сказаў т. Шмыцік. — А што ж вы пастановіце?

— Вялікай рэчы ў нас цяпер не маецца, не падрыхтавана, але ёсць невялічкая ды вельмі цікаўная рэч,

асобна для сялян. Магу быць пэўным, што яна спадабаецца, як ніякая іншая, — казаў Пячурка.

— Што ж гэта за п'еса? — запытаўся т. Шмыцік.

— Гэта беларуская п'еса ў 2-х актах. Ды вось т. старшыня ведае: яе ў мінулую нядзелю ставілі — і ўсе былі здаволены!

— Якая-небудзь бяздзеліца, вясковы жарт? — перабіў Пячурку прыезджы. — Народу трэба ставіць сур'ёзную рэч, асобна для з'езду, дзе будуць больш свядомыя грамадзяне... А як назоў п'есы?

— «Паўлінка». Вы, пэўне, ведаеце яе. Як каму, а мне здаецца, што гэта п'еса — добры малюнак з жыцця сялян і не можа не спадабацца. Ды ў нас і няма шака ў сучасны момант іншай п'есы, падрыхтаванай так, як гэта.

— Вельмі шкода, — тонам дырэктара сказаў т. Шмыцік, — я, у прыватнасці, нічога ў гэтым беларускім руху не кемлю і нават не разумею, нашто ён... «Паўлінка»? Першы раз чую! Я бачыў вельмі шмат п'ес і ведаю ўсе славутыя п'есы, але гэтай не бачыў і не чуў пра яе... Чаму вы не паставіце якой-небудзь п'есы Талстога. Магутны талент. А то драбязгу...

— Талстога? Напрыклад, якую?

— Якую? Якую?.. Ды хоць бы... — Шмыцік замяўся і аж пачырванеў, бо, як на зло, не мог успомніць.

— «Власть тьмы», — падказаў Пячурка.

— Ага ж, ага ж! Во гэта рэч!

Пячурка нічога не адказаў і толькі крыху ўсміхнуўся. На некалькі хвілін працягнулася маўчанка. Т. Шмыцік курыў і круціў свае даўжэнныя бялявыя вусы.

— Дык у вас няма шака іншай п'есы? — перарваў маўчанку прыезджы. — Я зноў кажу: усе славутыя п'есы я ведаю, а гэтай і не бачыў, і не ведаю, падойдзе яна ці не... Як вы думаеце, — звярнуўся ён да сяброў выканкому, — вы бачылі яе?

— Бачылі, — стараючыся папасць яму ў тон, а тым часам, каб не зачапіць і Пячурку, адпавядаў адзін з іх, — п'еса так сабе. Нічога благога няма. Смешна дужа.

— Ведаеце што? — адвалокшы троху ўбок Пячурку, пачаў гаварыць т. Шмыцік. — Я спрачаюся па тэй прычыне, што гэта можа пашкодзіць, радзіць нацыяналізм, што зусім нежадана. Я чуў, што ў вас тут «рух» падняўся і што стварылася нейкая ініцыятыўная група, якая

парашыла як можна часцей знаёміць грамадзян з «рухам». Трэба асцярожна гэта рабіць.

Пячурка ніяк не разумеў, у чым тут справа, і ўпарта стаяў на сваём. Ён быў дужа прастадушны чалавек і не бачыў, як коса пераглядаліся яны між сабой.

— Ну, калі іншага нічога няма, дык, мне здаецца, можна і гэту, — сказаў урэшце старшыня і, звярнуўшыся да т. Шмыціка, кінуў: вы самі будзеце рагатаць... Пабачыце.

На тым і парашылі.

## III

Калі выйшаў за дзверы Пячурка, пачалі гутарыць між сабой аб гэтым зваліўшымся як з неба «руху». Т. Шмыцік дапытваўся. Яму цікаўна было даведацца, як гэта ў такім цёмным кутку нешта дзіўнае робіцца.

— Хто ж яшчэ тут у гэтым гуртку?

— А бадай што ўся інтэлігенцыя, — казалі яму, — жанчына-ўрач, хоць яна і яўрэйка, каморнік, ляснічыха, настаўніца і шмат вучняў.

— Гэта дужа цікаўна, — працягнуў т. Шмыцік, — толькі трэба сачыць, а то яны яшчэ пойдуць не па правідловаму шляху. Трэба сачыць.

Гутарка зноў перапынілася, бо прыйшлі прадстаўнікі прафсаюзаў, каб супольна з прыехаўшымі з павету сябрамі намеціць кандыдатаў у праўленне саюзу і потым зацвердзіць іх на агульным сходзе.

Намячаюць кандыдатаў.

— Ад працаўнікоў асветы кандыдат т. Варонка, — вымаўляў старшыня прафсаюзу.

— А хто ён такі? — пытаў т. Шмыцік.

— Ён, пэўна, таксама падтрымае рух?

— Не, ён не падтрымае, але з імі ў цеснай сувязі і дужа дружыць, — казалі яму.

— Ну, дык трэба пачакаць, а то, здаецца мне, ці няма тут і контррэвалюцыі... Трэба ўсё рабіць агледаючыся, трэба быць вельмі асцярожным.

Гэткім чынам кандыдатура Варонкі была скасавана.

## IV

Вечар. Вялізарны местачковы тэатр блішчыць ад газакалільнага асвятлення. У незвычайнай урачыстасці адбываецца з'езд. З напрудным інтарэсам сяляне слухаюць выдатнага прамоўцу сакратара укому, толькі прыехаўшага. Ён кажа аб міжнародным становішчы. Ціха, ціха, можна чуць, як муха праляціць. Бура воплескаў.

Потым справаздача выканкому. Ні жаднай спрэчкі. Поўны давер уладзе.

А ў вуборнай рыхтуюцца к спектаклю. Мажуць твары, прылепліваюць вусы, налепліваюць насы...

У перапынку сакратар укому пытае сакратара валячэйкі:

— Якую п'есу ставяць?

— Беларускую «Паўлінку».

— Вось як! Гэта дужа цікаўна! Гэта трэба ўсялякім чынам падтрымліваць! Бо вам, мусіць, вядома, што чым бліжэй к народу, тым лепей! Гэта дужа цікаўна, дужа добра.

Т. Шмыцік, чуючы гэта, паморшчыўся, але нічога не вымаўляў. Ён бегаў туды-сюды, забягаў туды, дзе былі артысты, глядзеў на іх цікавыя старадаўнія вопраткі і дзівіўся.

Ад нечага рабіць удзельнікі спектаклю гучна пелі беларускія песні. На яго ніхто не звяртаў увагі, бо ўжо дайшла чутка аб яго адносінах да спектаклю.

Урэшце т. Шмыцік не вытрываў і пачаў казаць, звярнуўшыся да запявалы:

— А мне дык зусім не падабаюцца беларускія песні, у іх мала музычнасці... Нуда, жаль, сум... Трэба вяселле, радасць...

— Няма музычнасці?.. У гэтым кірунку музычныя аўтарытэты не згодны з вамі! Папытайце расейскіх кампазітараў! Апрача гэтага, ёсць не толькі сумныя песні, але і жыццярадасныя і шмат гумарыстычных.

Спрачаліся доўга, упарта, і кожны застаўся пры сваім паглядзе.

## V

Дзінь! Дзінь! Дзінь! Усё гатова. У будку падказчыка палезла жанчына-ўрач. Заслона ціха паднялася ўгару.

14. Зак. 241.

Ціха, ціха стала ў тэатры. І калі толькі выходзілі Пранцысь і Агата, дык усе аж зубы сашчэрвалі, бо і рагатаць хацелася, і слухаць яшчэ больш.

Сакратар укому ажна з'ехаў з лаўкі на мост. Ды і т. Шмыцік, каторы сядзеў, прытуліўшыся да нейкай местачковай пышнёхі, таксама трымаўся, трымаўся, але мімаволі стаў пукацца ад смеху.

Яшчэ ніколі тэатр не бачыў такога перапоўненага сходу і гэткай буры воплескаў. Аж абурэлі, звар'яцелі ад шчырага пляскання.

## VI

Павятовыя госці паехалі. На развітанні сакратар укому гаварыў удзельнікам спектаклю:

— Я ніколі не бачыў больш цікаўнага спектаклю, як гэты! Трэба вам працу пашыраць! Цяпер я бачу, што гэта не пустазвонства!

— Але ж т. Шмыцік, здаецца, не так думае, — пачалі гутарыць.

— Шмыцік? Ха-ха-ха!.. Ён добры арганізатар, толькі не чуткі. Не звяртайце на яго ўвагі. Ха-ха-ха. Пачакайце... Я яму накладу за гэта.

## VII

Т. Шмыцік яшчэ застаўся ў мястэчку. Ён валачыўся за ўсімі пышнёхамі, круціў ім галовы, даваў ім шмат абяцанняў без усялякай задняй думкі выканаць іх. Яны аж млелі ад жадання пазнаёміцца, а можа, часам і больш інтымна зблізіцца з ім... Ды яшчэ пры ўсякім выпадку дразніўся з прыхільнікамі беларускай мовы. Драніўся да тых пор, пакуль не паехаў.

І калі ён ехаў з мястэчка, па дарозе сустрэў сакратара вал'ячэйкі. Ён вяртаўся з губз'езду і прывітаў Шмыціка зычным рогатам.

— Ці ведаеш навіну? Наш жа павет далучаецца да Беларусі! Ха-ха-ха! Цяпер табе трэба будзе вучыць беларускую мову! Ха-ха-ха!

— Брэшаш, — казаў т. Шмыцік, але, зірнуўшы ў вочы сакратара, і сам зарагатаў.

— У паветры насілася, — толькі і вымаўляў т. Шмыцік.

— А што, абстрыкаўся, — кінуў яму ўдагонку сакратар і паехаў далей.

У гуртку доўга рагаталі.

«Жыль-Блаз у ролі палітыкана».

1925

## Працоўны дзень савецкага лекара

### Малюнкі

### I

Была шостая гадзіна раніцы, але жанчына-ўрач пры М-скай вясковай бальніцы ўжо не спала. З таго часу, як яна пачала жыць не на прыватнай кватэры, а пры бальніцы, ёй, як яна часта казала, было «ліха зрання аж да змяркання». Яе кожную хвіліну тармашылі, кожную хвіліну яна была аддадзена грамадзе. Во й сёння, як і звычайна, там у брудных пакоіках бальніцы ляжалі цяжкія хворыя, за якімі трэба было пільна сачыць кожную хвіліну. Гэту справу нельга было нікому даверыць: кожны верне толькі ў свой бок. Трэба было самой!

Яна хутка апранулася, пырснула на твар сцюдзёнай вадой, у два-тры махі зрабіла простую, гладкую зачоску на галаве і, нічога не перахапіўшы, выйшла на бальнічны дзядзінец, шпарка перабегла яго і ўвайшла ў бальніцу. Гэта было невялічкае памяшканне, у якім было мужчынскае аддзяленне, жаноцкае (тут жа аддзяленне для радзіх) і невялічкая амбулаторыя з шафамі для медыкаментаў. У пярэдняй каморцы стаяў куб з вадой, які заўсёды кіпеў.

Сядзелкі і вартаўнік не вельмі былі здаволены, што «дохтарша», як звалі ўсе лекара, рана ўскруцілася. Як толькі яна пачала жыць пры бальніцы, дык і яны былі ўцягнуты ў гэта ліхаманачнае жыццё, і яны былі захоплены рупнасцю «дохтаршы».

І калі ў гэты дзень на ганку пачуліся шпаркія крокі дохтаршы, усе страпянуліся: вартаўнік пачаў прыбіраць пярэднюю, падкладваць дровы пад куб. А ў пакоях сядзелкі сталі наводзіць чыстату.

— Дзень добры, Сёмка! — кінула дохтарша вартаўніку і прайшла ў пакоі. Яна зірнула на разбітыя шыбы ў вакне, якія былі запхнуты нейкім бальнічным хабоццем. Гэтыя шыбы два дні таму назад памазгатаў хворы хлапец, якому раптам прыспічыла гэта зрабіць. Яго паспелі схапіць і доўга трымалі за рукі лекар, акушэрка і вартаўнік. Потым хворага звязалі і палажылі на ложак.

«Як ён мяне тады не забіў, а нядоўга было!» — падумала яна і клікнула вартаўніка.

— Ну, што адказаў табе шляр, ці прыйдзе ён сёння? — запыталася яна.

— Ён не хоча йсці, кажа, што прыйдзецца вельмі доўга хадзіць за грашыма. Але я яго ўламаў, і пад вечар ён зойдзе...

Яна пачала абходзіць кожны ложак і пільна ўглядвалася ў твары хворых... Во ўжо трэці год ляжыць беспрытульная баба, хворая на рэўматызм. Ніякія спосабы не дапамагаюць, паспрабавалі нават малако ўпрыскваць, але ляжыць, як пласт, рукамі пачала ўладаць, а нагамі — не. Цяпер баба нават патлусцела, пэўна, будзе каля сямі пудоў, а куды ж дзець, не выкінуць жа на вуліцу: тут вылечыць нельга, а на курорт не пасылаюць...

— Ну, як ты, Хадора? — ветліва звярнулася дохтарша да хворай. — Як ты сябе адчуваеш пасля ўколаў? Ці палепшала?

— Дзякую, дзякую, — казала хворая. — Ты, матачка мая, так клапоцішся аба мне, што мне ўжо й жадаць няма чаго! Лепш, лепш мне стала!

— Ну й добра!

На другім ложку ляжаў хлапчук, гадоў шасці, Гараська, у якога была пераломана нага. Усе папярэднія дні ён крычаў, як зарэзаны, асабліва калі знімалі павязку і рабілі новую. Цяпер ён не спаў, а нешта смяяўся і бармятаў сабе пад нос. Коўдру ён скінуў к нагам і глядзіў сабе па чэраву і руках. Ён любаваўся новаю чыстаю кашуляю, якую ўчора надзелі на яго. Кашуля была зусім не на яго рост, але яна была бялюсенькая і так спадабалася хлапчуку, што ён адчуваў сябе нейкім новым, надзвычайным стварэннем.

Дохтарша прыпынілася і моўчкі глядзела на хлапчука. Падышла сядзелка і пачала гаварыць:

— Каб вы бачылі, што ён рабіў, як прачнуўся. Зняў

з сябе кашулю, расцягнуў яе, а ўсе — гы-гы-гы! Пацеха, дый толькі!

— Як ты, Гараська? Баліць нага?

— Троску баліць, — праз зубы адказаў хлапчук, нездаволены тым, што яго адарвалі ад цікавага занятку.

— Падабаецца табе сарочка?

— Але ж! Дай мне яе ў двору!.. Дай, — пачаў прыставаць як смала хлапчук.

— Добра! Во зараз будзем рабіць табе перавязку, і калі не будзеш галасіць, дык дам!

— Не, не буду! Толькі дай!

Прыйшла акушэрка. З дапамогаю яе дохтарша перамяніла павязку. Хлапчук ані яйкнуў. Усе здзівіліся, ажно ўсё растлумачылася вельмі проста: хлапчук, як перавязвалі, запхнуў сабе рот клокам сарочкі і цярпеў. Хлапчук быў, агульна кажучы, улюбёнцам усяе бальніцы і цяпер, калі каля яго ложка была цэлая грамада, парашыў выкарыстаць момант. Ён раптам папрасіў:

— Дайце есці! Да чаго-небудзь смашнага!

— Іш ты які! — акрысілася сядзелка. — Толькі шчэлкі пралупіў, а ўжо дай яму есці!

— Матруна! Ты зноў глупства гародзіш! Ён жа дзіцёнак! Хутчэй збегай да мяне, вазьмі там на стале кавалак булкі. Малака таксама вазьмі! — загадала дохтарша.

Яна падышла з акушэркай да ложка цяжкахворай жанчыны, якую толькі ўчора надвячоркам прывезлі ў бальніцу. У яе была вельмі моцнае крывацеча, якую ледзьве затрымалі. Па ўсім было бачна, што гэта была ахвяра «вераценніц», ці мясцовых абортніц. Акушэрка паднясла дохтаршы міску са згусткамі крыві. Уважліва ўгледзеўшыся, дохтарша сказала:

— Бачыце! Белае шлюцце. Злучальная тканка! Зразумела!

Яна падышла да хворай, улажыла пад пахі тэрмометр, даведалася пульсу, выслухала сэрца і пакачала галавой.

«Прыйдзецца рабіць аборты, хоць гэта і вельмі брыдка мне, — падумала яна. — А то гэтыя «вераценніцы» на той свет адпраўляюць. Праўду казаў прадстаўнік з цэнтру, што гэта адзіны пакуль што спосаб барацьбы з кустарніцтвам».

Яе думкі былі перарваны нейкім страшэнным войканнем на вуліцы. Дохтарша выйшла на ганак. Тут да

яе кінулася, прычытаючы, уся ў слязах, ужо не маладая сялянка. Яна хапала за рукі дохтаршу.

— Матачка! Дапамажы мне! Адратуй майго мужыка! Умалюшылі зладзеі!

— Дзе ж ён? — запыталася дохтарша і зараз убачыла, як фортка адчынілася і двое мужчын уняслі страшэнна збітага чалавека. Яна загадала ўнясці яго ў бальніцу, сама пайшла ў амбулаторыю. Адчыніла шафу, пачала даставаць чыстую бялізну, бінты і іншыя рэчы. Шафа была паўна-паўнюсенька ўсялякай бялізны, якая была дакладна раскладзена. Гэты запас бялізны яна нарыхтавала яшчэ з першых часоў рэвалюцыі, калі яшчэ тут, у мястэчку, была надзвычайная камісія. Неяк здарылася, што самы галоўны камісар камісіі раптам захварэў. Яго прывязлі да дохтаршы ў становішчы непрытомнасці. Ёй неяк удалося вельмі хутка і добра адратаваць камісара. Апошні не ведаў, як дзякаваць яе, і запытаўся:

— Што вам даць за тое, што вы адратавалі мяне? Як мне дзякаваць? Кажэце! Я ўсё магу зрабіць!

Яна сказала:

— За гэта я нічога не бяру! Вы забываецеся, што я маю пасаду і павінна была гэта зрабіць!

Але камісар хацеў як-небудзь аддзякаваць і ўрэшце сказаў:

— Ну, калі не для вас, дык для бальніцы я б мог што-небудзь зрабіць! Напрыклад, ці трэба вам бялізна!

А ў яе тады ні рушнічка, ні прасціна радлаў, ні сарочак, нічога-нічагусенька не было. Яна згадзілася прыняць.

І вось камісар прыпёр тры вазы бялізны. Цяпер усе, хто з начальства наяжджае да бальніцы, дзівяцца, што тут ёсць бялізна ў той час, як у іншых, дзе нават казна дапамагала і ўсё давала, — няма нічога: усё папаразвалачылі, папагадзілі, папабралі!

Кожны раз, як дохтарша адчыняла шафу, заўсёды, як жывы, у яе ваабражэнні з'яўляўся гэты камісар, які быў простым, але чулым чалавекам. І заўсёды, калі ёй хацелася, сціснуўшы кулакі, лаяць парадкі, — ёй прыпамінаўся гэты камісар, і яна пачынала ўсміхацца.

Дастаўшы ўсе неабходныя рэчы, дохтарша шпарка панеслася ў палатку. Там акушэрка ўжо абмывала раны прывезенага чалавека. Каля ложка моўчкі стаяла кабета з безнадзейным выразам твару. Слёзы, буйныя як

боб, каціліся па шчоках. Дохтарша ўважліва абгледзела раны і знайшла іх сур'ёзнымі. Апрача таго, яна канстатавала «fractura clavienlae». Хутка, з натхненнем, умомант налажыла павязкі і толькі тады звярнулася да кабеты:

— Не бойся, баба, твой мужык будзе жыў. Мы адхаем яго. Добра, што ты не замарудзіла!

Баба кінулася да лекара, схапіла за рукі і хацела цалаваць іх, але дохтарша адсунула яе. Баба троху супакоілася і пачала апавядаць сваё гора:

— Казала я яму — кінь ты, якая табе карысць! Нашто табе гэты камітэт, нашто табе вазекацца з чужымі грашмі! Праўду людзі кажуць — не падзівіце: лепш біць свае вошы, чымся лічыць чужыя грошы!.. Во ён павёз здаваць грамадзянскія грошы, а нейкія зладзеі падсцераглі, грошы забралі, а самаго крыху зусім не забілі! Ой, гора мне, у дварэ цяпер усё пойдзе прахам!

Дохтарша вытурыла яе:

— Трэба, каб было ціха, хвораму нельга, каб галасілі. Ідзі, ідзі, бабка! Калі што-небудзь трэба будзе, мы паклічам!

Баба выйшла на ганак і крукам прысела на лаўцы.

Была дзевятая гадзіна. У дзевяць пачнецца прыём хворых, а дохтарша яшчэ не снедала, яшчэ не піла гарбаты. Яна пайшла дадому. Тут да яе падышла дзяўчына, пачала нешта шопатам казаць. Яна вельмі саромелася і чырванела. Дохтарша адразу зразумела і павяла яе ў бальніцу. Там абгледзела і сказала:

— Во што, галубачка! Чаму ж ты раней не запыталася? А то як кажуць: тады дзеўка схамянулася, як у пузе страпянулася! Цяпер я табе нічым дапамагчы не магу... Вельмі позна... Прайшоў час. Ён ужо жывы... Я ведаю, што па сацыяльным становішчы табе дазволілі б, але сама бачыш!

Дзяўчына моўчкі заплакала.

— Хто ён, заможны ці не?

— Ой, лепш не пытайце! Я чалядкай у краўца Масея! Ад яго!

— Масея? Ты не хлусіш? Дык яму ж гадоў сорак, дый жонка ёсць! Во халера! Сівізна ў бараду, а чорт у ляшкі! Як жа ты? Здурэла, ці што? На што ж ты спадзявалася?

Дзяўчына ўсё вылажыла.

— Ну, ведаеш што? Шчыра табе скажу, што позна!

Ніякі дохтар не зробіць гэта. Але што ж? Сорам адсунь убок! Сведкі ёсць? Дык падавай у суд — цяпер стрыгуць іх добра! Ты не саромся — маткай быць не сорамна!.. Дый жанаддзел табе дапаможа, нават і месца нова адшукае. Я сёння ж, як убачу Скрылькоўскую, скажу ёй!

Дзеўка пайшла. Пачалі на ганак збірацца хворыя да прыёму. Дохтарша паспяшыла на кватэру, але на хвіліну забегла, каб паглядзець на свіранчык, які толькі што прыйшоўшыя рабочыя крылі саломай. Яна пагаманіла з імі.

— Гэта вам выканком пакрывае свіран? Ён будзе плаціць ці вы? — пыталі рабочыя.

— Але ж! Выканком!

— Чаму ж ён вам не дае гонту ці дору?

— Кажа, што й так добра будзе!

— Ого! А ўсім іншым грамадзянам забараняе крыць будынкі саломай. А сам дык нават для бальніцы не разжыўся дору!

— Ну, гэта яго справа! — адказала дохтарша і пайшла піць гарбату.

## II

Роўна а 9 гадзіне пачаўся прыём. Прыйшлі два фельчары. На ганку і ў пярэдняй таўпілася шмат народу. У амбулаторыі на зэдліку сядзела жанчына-ўрач і кожнага хворага аглядала сама. Тут жа на сталох церлі, круцілі нейкую мазь, скручвалі парашкі, мазалі вочы, пускалі нейкія кроплі, перавязвалі рукі, ногі, усялякія балючкі. Перад лекарам стаяў столік, і на ім яна пісала рэцэпты ці пасведчанні аб калецтвах. Гэтых пасведчанняў ёй шмат прыходзілася рабіць.

Найчасцей прыходзілі бабы, якіх мужыкі, наглыкаўшыся самагонкі, збівалі на горкае яблыка. Часта яна тут жа пагаджала мужыка і жонку. Часта прыходзілася пасвядчаць калецтва за зямлю, якую не падзялілі ці адабралі, за маёмасць, якую браты не ўмелі згодна размеркаваць.

Перад ёю адчыняўся жудасны малюнак народнага гора й цемры. Во і сёння ў яе аж мазгі закруціліся — колькі было гэтых калецтваў, сінякоў, крывападцёкаў, звіхаў. Усё перавязкі, перавязкі — нават бінтоў не ха-

лае. Час ад часу яна адрывалася ад століка і дапамагала фельчарам: працы было шмат — нельга ўправіцца.

Прыкмеціўшы, што фельчар абгаліў у хворага рану, тады адышоў убок і пачаў курыць цыгарку, дохтарша строга сказала:

— Вы кінулі адчыненай рану, а самі курыце! Гэтак нельга! Трэба скончыць, а потым...

Фельчар кінуў цыгарку і сказаў:

— Выбачайце, у мяне галава ходарам ходзіць! Пасля смерці майго Янкі ў мяне ўсё з рук валіцца.

Ёй стала шкада фельчара.

Прыйшлі хворыя на пранцы — чатыры чалавекі. Ім трэба было зрабіць уколы. Загадала другому фельчару.

— У мяне рукі паранены, — адказаў той.

Яна паморшчылася. Зусім не ў гэтым была справа, а ў тым, што ён баяўся дакрануцца да гэтых хворых. Сама зрабіла ўколы і, як пайшлі хворыя, кінула ў бок фельчара:

— Дарэмна баяцца! Тым, што ўколы зробіш, не зачэпіш хваробы!

Падышла жанчына і пачала жаліцца на нястраўнасць.

Дохтарша абмацала яе.

— Табе трэба малошную крупеню... яйкі... курацпіну... пшанішную булку...

Жанчына сумна пакачала галавою:

— У нас і хлеба няма, і солі няма, адна бульба. Дзе ўжо там аб гэтым думаць... Хоць бы зелля якога-небудзь далі!

— Дам, дам, але табе патрэбна добрае кармленне. Лажыся ў бальніцу: ты зусім хворая!

— Куды мне лажыцца, самая гарачая пара! Як жа можна кінуць!

Жанчына, згорбіўшыся, пайшла, узяўшы шклянку зелля. Дохтарша нічога не сказала, толькі ыхнула. Ужо шмат разоў, кожны дзень яна чуе гэткія адказы. Што яна можа зрабіць? Часам ёй здаецца, як быццам пачынаецца новае жыццё, як быццам менш гора, тугі, але прыйдзе вось гэткая баба і разаб'е ўсе яе мары, усю яе веру ў жыццё.

Прыйшоў сакратар прафсаюза і кабета жанаддзела. Пачалі закідваць яе пытаннямі:

— Колькі гадзін вы працуеце? Колькі ў вас сядзелак? Ці ёсць у іх выхадны дзень?

— Мы не можам вылічыць, колькі гадзін працуем. Бачыце, колькі ў нас бывае на прыёме? Штодня не менш ста пяцідзесяці чалавек, а то й больш! І хоць мы павінны прымаць ад дзевяці да трох, але самі ведаеце, што хворых, якія прыпляліся за дзесяць — пятнаццаць вёрст, не папрэш у двор да другога разу... У нас нават і няма выхаднога дня. Хоць і вывесілі абвестку, што па панядзелках прыёму не будзе, але сяляне толькі нядаўна даведаліся аб гэтым, і нават у гэтыя дні бывае дваццаць— трыццаць чалавек. Апрача таго, у панядзелак мы вымушаны рабіць аперацыі, бо іншага дня ў нас няма...

— Так, — прабармятаў сакратар. — Але вы павінны даць выхадны дзень сядзелкам. Аб загадчыках станоў мы не клапоцімся!

— Добра! Я дам ім выхадны дзень, але хто ж будзе іх работу рабіць?

— Дайце ім змену! У вас павінна быць змена!

— Але змены няма! Аддзел нават на тое муліцца, што ў нас дзве сядзелкі, ён хацеў, каб адна была... А чаму вы мне не дасце вольнага дня? Я нават вольнага часу не маю. Але я й не дабівалася! Калі рук не хапае да працы, дык не прыходзіцца разважаць аб ахове свая працы!

Гутарка перайшла на іншую тэму. Як сакратар, так і Скрылькоўская, а часта і старшыня выканкому дый сакратар ячэйкі часта наведваліся ў бальніцу. Ім успадабалася гутарка з дохтаршай. Праўда, яна ім часта сыпала прысакам у вочы, часта лаялася, часта гэтак адпальвала, што хоць нос завярні, але ў яе была шчырасць: у гэтым кутку праца кіпела. Яна не памінала пра старое, не раўняла старое «вальготнае» жыццё з новым жабрацкім і часта паўтарала: «Хто старое памяне, таму, распёкшы палец, ды ў вока!»

— Ведаеце, — казаў сакратар, — у нас сёння агульны сход сяброў саюза. Будзе абмяркоўвацца пытанне аб прафесійнай праверцы... Ёсць пастанова, каб не было жаднага сябра непісьменнага ў прафесійным пытанні.

— Што вы кажаце? Мне прыходзіцца вельмі палохацца гэтага, бо я ні ў зуб не кемлю і нават не ведаю, які кангрэс Камінтэрна ці Прафінтэрна ўжо адбыўся. Газеты я чытаю, калі прыйдзецца!

Яна змоўкла і пачала выслухваць нейкага хворага, з жоўтым тварам селяніна, у якога было цяжкае са свістам дыханне.

— Ты значна пахудзеў з таго часу, як быў у мяне, — сказала яна. — Напэўна, ты дрэнна кормішся? Трэба перамагаць сябе, а то дрэнна будзе. Дзяцей заставіш! Трэба есці як можна больш. А лекі мала дапамогуць, бо перш-наперш трэба есці, есці, есці!

Яна загадала фельчару даць хвораму парашкоў і нейкіх пілюлек. Хворы адышоў.

У гэты момант за дзвярмі пачуўся крык стоража: «Куды цябе прэць нячыстая сіла? Трэба пільнаваць чаргу. Бачыш, во чакаюць чаргі».

— Нам трэба! Пусці...

Дзверы раптам расчыніліся. Увайшлі два хлопцы. Дохтарша пазнала іх. Гэта былі камсамольцы. Твары ў іх былі ўстрывожаныя.

— Што здарылася? — запыталася.

— Няшчасце. Наш камсамолец Беленькі, той, што служыць у кааператыве кур'ерам, разбіўся, скінуўся з драбіны. Мы прыйшлі папярэдзіць: яго зараз сюды прывязуць. Але здаецца, не будзе жыў. Ён у непрытомнасці.

Яна замітусілася. Забегала па амбулаторыі, адчыняла то адну скрыначку, то другую. Камсамольцы казалі:

— Беленькі палез на гімнастычную драбіну, ужо далез да верху, але яшчэ хацеў далей узлезці, сарваўся і шмякнуў. Напэўна, адгокаў сабе лёгкія: кроў на вуснах.

— Колькі разоў я казала вам, каб забаранілі гэтае лазанне па драбінах. Ці ж гэта першы выпадак? Кіраўніка фізкультуры няма, а яны так, кустарніцтвам! Куды вы глядзіцё? — накінулася яна на сакратара й камсамольцаў. — Гэтыя драбіны без належнага кіраўніцтва толькі псуюць здароўе. Рыбку помніце, настаўніка? Таксама хацеў паздаравець, пакуль на гэтых драбінах падарваўся і загінуў... Як жа? Наставілі лесвіц, брусоў, бар'ераў, турнікоў, а кіраўніка няма. І вось зранння да змяркання ўся блазнота там, нават хлопчыкі па восем гадоў круцяцца, верцяцца. Я абавязкова дам знаць аб гэтым. Гэтага немагчыма цярпець... Чаму не выпішыце кіраўніка? Я ведаю, што сродкі адшукалі б.

Памаўчаўшы, яна сказала:

— Няшчасная матка гэтага Арона! Гэткая галота, беднасць, што апісаць нельга! Толькі ўсяго месяц, здаецца, як яму далі кур'ера. І на табе!

— Але ж! Сёння ён першы раз надзеў новую фрэнчу і галіфэ: першы заработак! — сумна казалі камсамольцы.

Унязлі разбітага. Садралі ўсю адзежу з кроўю, хутка зрабілі перавязкі. Пераломы былі ў пяці мясцох. Дохтарша, усміхаючыся, сказала:

— Жыў будзе! Нават дзіўна, што з гэткай высачыні, але не зусім разбіўся!

Сакратар і камсамольцы пачалі выходзіць.

— Хоць нам і непрыемна вас турбаваць, але хочам прасіць, каб пасля нашага сходу вы зрабілі нам лекцыю аб пранцах ці аб сухотах!

— Калі ўсё будзе добра — зраблю. Але ўпэўніць вас не магу. Хворага трэба кожную хвіліну сцерагчы.

— Крыху не забыўся, — сказаў сакратар. — Вось вам паперы з павету. Дый шмат.

Дохтарша сунула паперы ў кішэню. Яна яшчэ пагаманіла з Скрылькоўскай аб бабскіх справах, аб абортах, аб пакрыўджанай чалядцы.

Прыём заканчваўся. Камсамолец стагнаў, і дохтарша часта бегала туды паслухаць і паглядзець. Папрасіла фельчара дзве гадзіны павартаваць каля хворага, а сама, зачыніўшы прыём, выйшла на бальнічны дзядзінец, дзе спаткала старшыню выканкому, што прыйшоў паглядзець свіранчык, які пакрывалі саломаю. Пагаманіла з ім.

— Ці не топіцца ў вас сёння лазня, ці не будзе ў вас сёння голы банкет? — троху жартліва запытаўся старшыня.

— Але ж! Сёння субота. Топіцца. Прыходзьце. Сёмка вас паведаміць... А во што я вам хацела сказаць. У нас на выхадзе медыкаменты, няма ўжо перавязачнага матэрыялу, і колькі тэлефанаграм я не біла — маўчаць там як вады ў рот набраўшы... Дапамажыце, а то мы хутка апынемся ў такім становішчы, што прывязуць параненага і нечым будзе адратаваць!

— А ведаеце, што я зраблю?.. Я акышканая птушка. Са мной яны не пажартуюць... Сёння я па тэлефону скажу, што бальніца ўжо тры дні не працуе!

— Як жа так? Гэта ж няпраўда!

— Я напалохаю іх! Пабачыце, як зараз усё будзе!

— Рабіце як ведаеце! Толькі калі ў мяне запытаюцца, скажу, што ёсць!

## III

Сербануўшы не вельмі спажыўнай стравы, якую зварыла пяцідзесяцігадовая кабета Агата, дохтарша ўзялася за пошту і пачала праглядаць яе.

Вельмі шмат было паперак службовых як з цэнтру, так і з павета. Чытаючы іх, яна то ўсміхалася, то пільна ўчытвалася, іншыя перачытвала шмат разоў, як быццам не верыла сваім вачам. Асобна яе здзівіла анкета, якую трэба было як мага хутчэй скласці. Трэба было адказаць: які клімат бальнічнага раёну, флора, фаўна, геалагічная будова, глеба, ураджайнасць, крыніцы, нараджальнасць, смяротнасць, колькасць шлюбаў у даваенны час і цяпер, культурны стан да вайны і цяпер, колькасць школаў, забабоннасць, народная медыцына, лекавыя травы і гэтак далей. Адным словам, яна павінна была абхапіць усё жыццё свайго раёну, не кажучы ўжо аб тых пытаннях, на якія яна прымушана была адказаць як медык. Анкета была на шасці аркушах. У яе аж галава закруцілася. Яна адразу зразумела ўсю паважнасць гэтае анкеты для навуковага вырашэння сацыяльных праблем, але яна не ведала, як прыступіць да яе, калі ўрваць час, дзе адшукаць матэрыялы. Трэба адразу быць географам, геолагам, статыстыкам, этнографам! Яна ўсё думала, перачытвала анкету, тады раптам стукнула сябе па ілбу: «Якая я даўбень! Гэта ж не так цяжка!.. Геаграфічныя, кліматычныя, забабонныя і іншыя даныя вазьму ў тутэйшага «беларуса». Ён вельмі з гэтым носіцца! Статыстыку вазьму ў выканкоме ці ў статыстыка, які тут, здаецца, ёсць!»

Яна пачала размяркоўваць пункты, якія трэба аддаць выканкому, статыстыку, беларусу, а на іншыя пачала пісаць адказы. Але не скончыла іх. Трэба было хоць наскокам прагледзець іншыя паперы. У іх таксама было шмат непрыемнага. Ей загадвалі з акругі, каб яна яшчэ да пачатку вучэбнага года зрабіла агляд усіх калодзежаў па раёну, усіх школаў з санітарнага боку, вымерыла ахоп школьных будынкаў, класаў у кубічных метрах. А калі пачнуцца заняткі, каб зрабіла самы дакладны агляд вучняў, запісала іх вагу, гады, ахоп грудзёў, крывазварот, кармленне, тканіны, мускулы і гэтак далей. Казалі нават, каб яна звярнула ўвагу на постаць вучняў, ці роўна яны сядзяць, ці ўважліва слухаюць, ці добра адзеты, абуты.

— Ці можна гэта выканаць? — падумала яна. — У раёне больш сямідзесяці школаў, і калі я паеду кожную аглядаць, дык у бальніцы дзянькоў з дзесяць будзе халамус. А калі яшчэ запісваць становішча кожнага вучня ды важыць яго, дык жа ў адной толькі сямігодцы каля чатырохсот дзяцей! Трэба даручыць фельчару, а самой, хоць здохні, — нельга!

Кінула паперы, пайшла паглядзець Арона. Ён ляжаў як пласт і цяжка дыхаў. Памерала пульс і на нейкіх адзнаках супакоілася.

Быў надвячорак — васенні. Агата пайшла за каровай, якую трэба было прыгнаць з саўгасу на ноч. Ды нешта замарудзілася: няма ні каровы, ні яе. Агата не была чалядкай, а так, як часта сама дохтарша з усмешкай гаварыла, — «прыхвасцень дробнай буржуазіі». Калісьці яна хворая прывалаклася з нейкіх віроў у бальніцу, паляжала там, а калі выпісалася, ёй некуды было ісці, і дохтарша ўзяла яе да сябе. Сама дохтарша была ўжо немаладая, гадоў сорак пяць, і гэткім чынам удвох жылі яны. Агата карміла, як умела, варыла нейкую страву, кожны дзень тую самую, але за працай дохтарша гэтага не прымячала.

«Пэўна, забралі карову ў шкодзе», — дохтарша толькі падумала, як хвортка адчынілася, увайшла кароўка, за ёю, галосячы, плялася Агата.

— Што з табой? Пабіў цябе хто, ці што?

— Рандар Хаім пагнаўся за нашай кароваю, хацеў загнаць яе ў кашару, а я не даваць, дык ён мяне ціск за руку, дык як мезднануў мяне, як пачаў мяне штурхаць ды круціць руку, аж нешта захрупацела, і цяпер не можна дакрануцца да рукі, не можна парушыць рукою... Але кароўку адбіла — яна ўцякла ў двору...

— Пакажы! Пакажы?!. А-яй-яй! Агатачка, гэта ж ён табе пераламаў руку! Во, халера, жарты гэта?

Павяла Агату ў амбулаторыю, зрабіла павязку.

«Даў бог ляльку, цацкайся з рукою цяпер, — падумала дохтарша. — Не шанцуе! Цяпер трэба самой варыць, карову даіць... Хоць вазьмі ды лопні».

Сядзелка, уведаўшы гора, прыбегла, падаіла карову, паставіла самавар.

Прыйшоў фельчар, і дохтарша з ім пайшла на вячэрні абход хворых па мястэчку. Потым яны пайшлі ў прафсаюз, і яна там прачытала лекцыю. А калі вярнулася дамоў, там стаяў Хаім і вельмі прасіў Агату, каб

яна не скардзілася суду. Убачыўшы дохтаршу, Хаім пачырванеў і сказаў:

— Я не ведаў, што яна жыве ў вас!

— Як так? — загрымела дохтарша. — А калі не ў мяне — дык можна? Яна абавязкова будзе судзіцца, бо за гэткае калецтва не менш трох месяцаў турмы належыць!

Хаім ужахнуўся: «Ой-ой-ой! Я ёй лепш дам тры чырвонцы, толькі няхай не судзіцца!»

Дохтарша вытурыла Хаіма.

— Табе трэба ўзяць тры чырвонцы, — казала яна Агаце. — Якая табе карысць, што яго пасадзяць у турму?

Ужо позна было. Яна яшчэ раз даведалася бальніцы, абышла ўсіх хворых і вярнулася на кватэру, каб лажыцца спаць.

— Нападалася я сёння! Туды шах, сюды шах. За кожным сачы, кожнага даглядай, не на каго паверыць! Во сядзелка ў цмыга, некуды драпанула, а бабу кінула. Вартаўнік таксама некуды пакруціўся, недзе там белян-драсы точыць!.. А тут яшчэ ў самой паненка села на баку, хадзіць цяжка, — гаманіла яна з Агатай, якая вохала і стагнала.

Толькі сабралася яна лажыцца, як раптам пастукалі ў дзверы. Прыйшлі міліцыянеры і прывялі нейкага дзюндзю-інтэлігента, які вельмі ўсусліўся. Папрасілі, каб яна канстатавала нецвярозасць прыведзенага, бо апошні нагла адмаўляў факт!

— Гэтыя п'яныя дасалілі мне. Пачакайце ж, выкіну такую фартэль, што больш гэтых суслікаў не павядзе! Як быццам самі не бачаць.

Яна ўзяла пульс, палічыла і сказала:

— Пульс звычайны!

Потым паставіла тэрмометр і сказала:

— Тэмпература нармальная!

Яна хацела напісаць аб гэтым, але міліцыянер сказаў:

— Але ж у яго з роту смярдзіць самагонкаю, нашто гэты пульс?

— Дык вы і нюхайце, а для мяне досыць ведаць пульс і тэмпературу!

Яны пайшлі. Яна крыху пасмяялася, дапісала анкету, запісала дзённік бальнічны і лягла спаць.

1925

# Навалілі

## З натуры

У вакно хаты застукалі.

— Хто там грукоча? Чаго трэба?

— Адчынеце, калі ласка, справа ёсць!

Гаспадар злез з печкі і, лаючыся, пайшоў адчыняць вароты. Праз некалькі хвілін увайшлі з ім два чалавекі: адзін быў звычайны селянін, другі, яшчэ малады, быў апрануты ў падранае, абсморганае пальто.

— Бачыце, — сказаў гаспадар, — у нас нельга пераначаваць. Каб мы адны былі, я пусціў бы. Ці мне шкода? А то ў мяне кватарант, ды яшчэ хворы!

Селянін паглядзеў на сядзеўшага моўчкі за сталом віднага, здаровага мужчыну і падумаў: «Ого-го-го!»

— Мы, можа, паладзім! Мы не патурбуем хворага, звернемся дзе-небудзь у клубочак дый пераспім! Прасіліся ў шмат каго — ніхто не пускае. Заехалі, папрасіліся ў школу да настаўніка, дык там пуня згарэла! Каня няма дзе паставіць! А нам гэта галоўнае. Дык дазвольце ўжо нам перабыць тут.

Сядзеўшы каля стала зацікаўлена паглядзеў на абсморганае паліто гаварыўшага.

— А вы самі хто? Не настаўнік?

— Але ж! Я настаўнік з Дрындзюлеўкі!

— А! Дзядзька, пусціце іх. Яны нам не перашкодзяць!

Начлежнікі пачалі распранацца. Потым моўчкі селі на лаве, пачалі курыць. Настаўнік прапанаваў запаліць сядзеўшаму каля стала. Той адмоўна пакруціў галавой. Некалькі хвілін цягнулася маўчанка.

— З Клімавіч едзеце?

— Эге! Дрэнная зіма, дрэннае надвор'е, дарога, усё дрэннае! — сказаў, каб толькі загаманіць, прыехаўшы селянін.

Чалавек, які сядзеў за сталом і піў гарбату, звярнуўся да настаўніка і запрасіў:

— Калі ласка, можа, шклянку гарбаты? Пэўна, троху ветрыкам прахапіла. Сёння моцны вецер!

Настаўнік падсеў да стала. На стале ляжала шмат чаго: здобныя булкі, вясла абаранкаў, стаяў поўны гаршчок з цукрам, карабок какао, талерка з мёдам, стаяў кухлік з маслам, на талерцы была нарэзана вянгліна,

ляжала цэлая грудка нейкіх сапстрыкаў, якія вабілі вока.

Відны мужчына павольна браў булку, адразаў тонкую скібку, ляніва намазваў яе маслам, тады паліваў зверху крыштальна празрыстым мёдам, потым наліваў з самавара вады, апускаў туды какао, клаў цукру, размешваў і пачынаў павольна сёрбаць. Усю гэту аперацыю ён рабіў, як быццам вырашаў вельмі складаную праблему. Ён прапанаваў тое самае зрабіць і настаўніку.

Разгаманіліся.

— Я вас недзе бачыў! Твар знаёмы!

— Не ведаю! Можа, і так! Я быў у М-скім раёне сакратаром. А цяпер тут палітпрацаўніком у лясніцтве.

— Ага! Я пра вас чуў. Ваша прозвішча Швыдкі?

— Не памыліліся! Як у сук! А што вы чулі пра мяне?

— Што? Чуў, напрыклад, што вы энергічны чалавек...

Настаўнік пачаў дзякаваць за гарбату. Швыдкі прасіў яшчэ частавацца.

— Не, не! Дзякую! Я здзіўляюся вам. Мне нават зайздросна, што вы можаце гэтак адшарахнуць. Прыемна бачыць чалавека, гэткага жыццярадаснага, здаровага, з гэткім апетытам (Швыдкі яшчэ еў і, як відаць, не збіраўся хутка скончыць)... Я зусім страціў апетыт. Я б не ўздолеў столькі з'есці... Ведаеце, так нагрузілі працай, што дамоў толькі перахапіць забягаеш чаго-небудзь ды пераспаць... Есці не хочацца, на ежу і глядзець брыдка...

— Ха-ха-ха! Здаровы чалавек, з гэткім апетытам? Не! Вы вельмі абмыліліся! Я знасілу ем, бо трэба. Гаспадар вам праўду казаў, што тут ёсць хворы! Гэты хворы — я!

— Ну, жартуеце! Паглядзець на вас, дык ого-го! — настаўнік проста ў вочы зарагатаў.

У гутарку ўмяшалася гаспадыня:

— Не! Такі праўда! Ён хворы! Ды і хвароба ў яго нейкая дзіўная. Такой хваробы мы яшчэ не бачылі. Цэльную ночачку не спіць — усё стогне ды вохае. Толькі пад дзень задрыхне.

— Дзіўна! Што ж гэта за хвароба?

— Што гэта за хвароба? Вы вось сказалі, што на вас шмат чаго навалілі, што вы нават апетыт страцілі. Мая хвароба таксама пачалася з гэтага... Бачыце, тут,

як кажуць, цэлая трагедыя чалавека, які хоча працаваць, які жыццё без працы не ўяўляе сабе, які гарыць жаданнем творчасці. І раптам — на табе! Дактары кажуць: «Нервы адмовіліся працаваць!»

— Гэта вельмі цікава.

— Цікава жыццё — не хвароба!

На хвіліну Швыдкі зажмурыў вочы, потым раптам падсунуўся бліжэй да настаўніка.

— Я вам усё растлумачу. З першага погляду можа здацца, што чалавек знячывілі дурэе. А тут зусім не тое... Ведаеце вы М-скі раён? Гэта такі раён, што адымае ўсю энергію. Памысліце толькі: адна трэць бюджэту па акрузе ўскладзена на гэты раён. Працы там столькі, што мазгі закруцяцца. А тут яшчэ раёнаванне, перабудова ўсяго апарату. Увесь цяжар лёг на мяне. Я вылічыў матэматычна, колькі я працаваў там. Я выконваў да дваццаці абавязкаў. Ці магчыма ж гэта?

— Няма нічога дзіўнага! Наш сакратар таксама завален. Нічога ніколі не бывае без яго!

— Ну, я ведаю, ён усё-такі не так. У вас, калі параўнаць з М., магіла! Вось я вам пералічу, якія абавязкі былі на мне. Зразумела, што я мог бы большую частку іх толькі на паперы выконваць, але гэта не ў маім звычаі. Дык слухайце!

Швыдкі пачаў адкладваць па пальцах:

— Сакратар, кіраўнік школы палітграматы, старшыня Рабпросу, сябра праўлення каапературыву, сябра канфліктнай камісіі, старшыня праўлення рабочага клубу, сябра раёнавай кантрольнай камісіі, старшыня таварыстваў ОДВФ, МОПР, ОДН, старшыня краязнаўчага таварыства (чаго яны мяне сюды прыплялі — не ведаю!), сакратар партбюро!..

Пальцаў на руках у Швыдкага не хапіла. Ён збіўся і не мог палічыць абавязкі. Настаўнік зарагатаў:

— На руках нічога не выйдзе! Трэба перайсці на ногі!

— Нават смешна сказаць — калі ў нас з'арганізавалася абортная камісія — мяне й туды ўсваталі. Камітэт працы сярод жанчын з'арганізаваўся — мяне й туды ўсупонілі!..

— Дзівак вы! Як жа так? Вы ж маглі большую частку пералічанай працы перакласці на іншых. Я на вашым месцы не глядзеў бы і прымусіў бы! Пры гэтулькіх абавязках нельга працаваць!

— Вы дарэмна кажаце! Але гэта лёгка сказаць, ды цяжка зрабіць! Паспрабуйце — калі людзей няма, а хоць і ёсць, дык яшчэ няма ў іх звыклівасці, належнага падыходу. Апрача таго, трэба прызнацца, спачатку мяне захапіла гэтая бурлівая, бязмежная дзейнасць, гэты простор. Як жа? Я — цэнтр усяго, паўсюды мяне высоўваюць, усё мне даручаюць. Пасля й хацеў бы адбрыкнуцца, ды язык не варочаўся.

— Заручылі дзеўку проціў панядзелку, — па нейкай дзіўнай асацыяцыі зюкнуў настаўнік.

Абодва зарагаталі.

— Не ў тым нават справа, што абавязкаў шмат. Дрэнна тое, што кожны дзень не сюды, дык туды! Кожны дзень камісіі, гурткі, школы, пасяджэнні, сходы, нарады, канферэнцыі. Зацягваецца ўсё гэта па шэсць, па сем гадзін. Ходзіш, як ашаламлёны, падаеш цэльны дзень. На пасяджэннях іншы раз прыкархнеш, бо вельмі мы любім гаварыць, вельмі любім жвакі разводзіць, а практычнага мала гаворым. Ды яшчэ гэта праклятая Ліга Часу бяздзейнічае (я таксама арганізатар яе). Назначаюць у пяць гадзін, прыходзяць у шэсць-сем. А часта збяромся ды замест справы толькі пагандзюлім, палаемся, дый кінем пытанне адчыненым. Мне гэта брыдка. Выскачу з кулакамі, ды як пачну пудраваць, як пачну з сябе жылы цягнуць... Потым амяга апануе. Падумаеш мімаволі: «Ат! Кіну-рыну ўсё дый пайду!»

— Ну, гэта маладушнасць!

— Зразумела — гэта часовая маладушнасць, бо, ведаеце, ужо гэтак уцягнуўся ў гэта турботнае жыццё, што без турботы сумна, без працы месца сабе не знойдзеш. Напрыклад, калі, як кажуць, воўк у лесе здохне і я якім-небудзь чынам сяджу дома — дык неяк не па сабе, цягне туды да людзей, да калектыўнага жыцця!..

— Шчырая праўда! І мне вядома гэта салодкая атрута! Я таксама не магу ўжо сядзець дома. Гурткі, пасяджэнні, перападрыхтоўка, лекцыі, усялякія курсы — цяпер запаланілі найбольш актыўных настаўнікаў, асабліва ў самым раёне ці блізка ад яго. Іншы раз нават прыходзіцца з апаскай глядзець на будучыню, бо для школы менш аддаеш часу, увагі, энергіі, ведаў, чымся для грамадзян!

— Слухайце, што далей было! Мяне так затаганілі, так збаламуцілі, што нейкая апантаная ўссела на мяне. Стаў я прыкмячаць, што чым далей, тым больш раблю-

ся я апрыкслівым, датклівым, прыдзірлівым... Мне ўжо й слова не скажы: да ўсяго прычаплюся!.. Есці нічога не магу, па начох не сплю, нейкая брыдота лезе ў галаву. Адзін раз як раззыкаўся я на пасяджэнні, як пачаў лаяць усіх ды пагражаць, дык усе дагадаліся, што са мною нешта робіцца. Схапілі мяне, адвалаклі дамоў, паклікалі дохтара. Загадаў тры дні ляжаць, нікуды не выходзіць, нічога не рабіць...

Настаўнік усміхнуўся.

— Вы думаеце, што тут нейкая буржуазная кволасць? Не! Вось вам прыклад. У Менскі раён цяпер паслалі, можа, вы ведаеце яго — Мармулю. Гэта ж асілак, проста ад сахі, жалезнае здароўе. А паглядзіце на яго цяпер? Крычыць, разараецца, кулакамі пагражае. Таксама хварэў: дахтары забаранілі на тыдзень працаваць. З ім там, кажуць, проста камедыя — у газеты папаў.

— Мармулю я ведаю! Ён жа ў нашым раёне быў. Гэткі дакладны, ветлівы, практычны!

— Ну, вось бачыце? А цяпер пра яго кажуць анекдоты. Так і са мной. Пасля хваробы я яшчэ паспрабаваў працаваць, але ўжо праца валілася з рук. Цягаўся на пасяджэнні, сходы, канферэнцыі, рабіў даклады, вучыў, але што далей, то горш. Інвалід, дый толькі! Паглядзіш на іншых, якія не нагружаны, дык яны ўсё ведаюць. А табе няма часу прасачыць за друкам, іншы раз нават не перагартаеш газету. Адчуваеш сваю адсталасць, коснасць, а паміж іншым трэба гонар трымаць! Павінен усё ведаць, на ўсё адказ даць. Іншы раз урачыста ў калёшу сядзеш... Абрыдла гэта мне. Упаследак не вытрываў, доўга не вавуліў — стаў на камісію. Паслалі ў дом адпачынку. Там мяне цэльны дзень пхалі. Усё гаварылі: ежце, нікому не ўругнецеся, а сваёй кішцэ. Цяпер я, праўда, на погляд раздзелаўся ого-го! Але я яшчэ хворы, часамі некуды дзецца ад пачуцця нейкага незразумелага непакою. Тут працую ў лясніцтве. Праца лёгкая. Толькі я троху абмыліўся. Я тут думаў астраколам адгарадзіцца і аддыхнуць. Не тут-то было! І ў гэтым куточку, у гэтай вёсцы кіпіць праца, і тут ёсць гурткі, пасяджэнні, даклады, лекцыі. Мяне і сюды прысцягнулі. Але тут я ўжо паразумнеў і размеркаваў працу... А галоўнае — хаджу са стрэльбай па лесе і ем, ем, ем...

— Выбачайце, вы не жанаты?

— А як жа? Я ўжо, як кажуць, даўно ачалавечыўся. Толькі не хачу, каб жонка сюды прыязджала. Мне ця-

пер шкодна слухаць бубненне яе. А жонка мая — яруха!

— Гісторыя вашае хваробы вельмі цікавая. Па адзнаках, якія вы намалявалі, можна думаць, што і я хутка захварэю на вашу хваробу. Трэба налегчы на кармленне: яно вам памагло?

— Памагло. Але ж! Вось калі цікавіцеся, паглядзіце, колькі прайшло праз мяне прадуктаў. Вось гэтая паперка. Тут усё зрахована за месяц!

Швыдкі адышоў ад стала, зняў з цвіка паперу і працягнуў настаўніку.

Настаўнік прачытаў: пшанічнае мукі 1 пуд, цукру 10 ф., какао 5 ф., масла 20 ф., курэй 25 шт., вянгліны 15 ф., хлеба 1 пуд, мёду 10 ф., круп рысавых 15 ф., яек 200 шт.

— Ого-го! — зарагатаў настаўнік.

— Але ж! Я ўбахаў на гэта пенсію за два месяцы. Толькі аднаго не ведаю. Можа, вы ведаеце? Майму арганізму патрэбен фосфар. Якое кармленне дае найбольш фосфару?

— Навошта вам гэты фосфар?

— Мне так казалі дактары, што ў мяне мала фосфару.

— Не ведаю добра! Здаецца, раслінная страва больш дае. Ды яго ж даюць і ў якасці лекаў. У аптэцы.

---

Пачалі лажыцца спаць. У кутку стаяў ложак Швыдкага, які быў завешан саматканай заслонай. Швыдкі пайшоў туды, за заслону, і сказаў гаспадыні:

— Калі ласка, дайце сюды смаркачык! Трэба зрабіць сцюдзёнае абціранне!

Доўга плёскаўся там Швыдкі, вохаў, прыскаўся. Настаўнік прымашчваўся на лаўцы, укладваўся спаць і думаў:

— Хвароба над хваробамі!

1925

# Пятрок

## I

Грышка Сабакалёнак лічыўся добрым гаспадаром у вёсцы. Яму не пашкодзіла і цяпер, у час рэвалюцыі. Неяк умеў ён выкручвацца і ад працовага падатку, і ад гужналогу, і ад усяго чыста.

Але душа яго не была здаволена. У апошні час нейкая мурашка засела там і кусала, і кусала. Спярша ён і сам не ведаў, чаго гэта ён пачаў злавацца на ўсё і на ўсіх, чаго пачаў паўсюды бачыць толькі «хітрыкі ды мудрыкі» і нічога путнага.

Вось цяпер толькі ён зразумеў, адкуль гэтыя мурашкі. Грышкаў сын, яго надзея, адзін толькі сын з васьмёх дзевак, Петрачок, зусім перамяніўся. Хоць яму ішоў толькі дваццаты год, але Пятрок ужо набраў сабе нейкага дмуху ў нос. Усё маўчыць, ходзіць па вечарох у гэта паганае мястэчка, прыносіць адтуль нейкія кніжкі і ўсё чытае, чытае. Аж моташна, брыдка глядзець.

Сядуць за стол, дык Пятрок не жагнаецца, устане з-за стала — таксама і вокам не зірне на багоў.

Пытаецца Грышка ў сына:

— Чаго ты, гад, як свіння, і не перахрэсцішся?

А ён яму кажа:

— Гэта ўсё папоўскія цацкі, забабоны — і яшчэ нейкі там «опіюм» народу.

Хацеў Грышка пасцягаць сынка дзягай. Дык куды там! Крычыць:

— Я пажалуюся на цябе, заплаціш штрафу.

А то дык зусім моўчкі ўцячэ. І якое толькі паскудства дзе ні павернецца — Петрачок абавязкова там.

— Во яшчэ не так даўно, — успамінаў Грышка, — калі захапілі жыдоўскую сынагогу пад нардом, дык і гэты плюгавец быў там: скакаў і нават на падмостку ўсякія крэндзелі выробляў. Ну, каб я сам убачыў яго там, дальбог, забіў бы, і паху не засталося б.

— Во і сёння, — цягнуліся яго думкі і пераварочвалі ўсё ўсярэдзіне, — ужо вечар падышоў, час вячэраць, а яго, радзімца, як няма, дык няма... Ну ладна ж, пачакай, я цябе не пушчу зусім. Запру ўсе дзверы! Стукай, грукай тады, хоць лопні, валацуга!..

І нечакана для сябе крыкнуў: «Камсамол, камсамол», — ад злосці плюнуў і загадаў жонцы вячэраць.

## II

Ноччу, калі Грышка ўжо храпеў, раздаўся стукат у ваконца. Грышка адразу не пачуў, але стукат узмацняўся. Урэшце прачнуўся.

— Хто там? Хто ўночы ходзіць? Што трэба?

— Гэта я, Пятрок! Адчыні!

— Га! Гэта ты! Дык ідзі, адкуль прыйшоў, начуй там, дзе табе спадабаецца...

— Адчыні, тата, а то я замёрз, холадна...

— На табе! Як жа! Найшоў наймітa, батрака! Нашто я табе здаўся, кожны вечар не спаць, вялікага пана чакаць... Не адчыню, і ўсё тут! Шукай сабе пасцелі дзе хочаш...

Так і не пусціў, хоць сэрца яго і балела.

Пятрок убачыў, што бацька злуецца, адышоў ад вакна і стаў думаць. Папрасіцца к суседзям — яны таксама спяць, ды і сорамна. Скажуць: во які бацька, а іншыя дык парадуюцца: так яму і трэба, няхай не валочыцца!

Доўга стаяў Пятрок. Сцюжа пранімала наскрозь яго лёгкую вопратку. Трэба было хутчэй што-небудзь зрабіць.

Ён пераскочыў праз паркан на двор, але якая карысць у гэтым: дзверы ў сенцы ўсё роўна зачынены. Абышоў каля хаты, і добрая думка прыйшла к яму: залезці на столь — пераначаваць хоць там. Пятрок падставіў усякае паленне і ўзлез. Там скруціўся ў клубочак каля коміну, стаў грэць хуканнем рукі і доўга не змог заснуць.

Думкі злыя, балючыя, як крапіва, акуталі яго галаву. Не так злаваўся ён на бацьку, як на цемру людскую, каторая заядае яго век.

— Усё роўна не паддамся, хоць бы з хаты роднай вытурылі, — рашуча і нават весела падумаў ён урэшце і заснуў.

## III

Гэтак цягнулася шмат тыдняў. Паміж бацькам і сынам ішла маўчлівая барацьба. Пятрок, як і раней, хадзіў у мястэчка і калі прыходзіў позна, дык не стукаў у вакно і не прасіўся ў бацькі нанач, хоць той ужо і не

запіраў дзверы. Дзе ён начаваў — бацька не ведаў: напэўна, там, каля коміну, а мо ў якіх-небудзь злыдняў у мястэчку. І калі пачынаў думаць аб гэтым Сабакалёнак, дык сэрца яго балела, а тым часам і сорамна было першаму ісці на згоду з сынам.

Пачуў ён, што Петраку спадабалася дачка суседа — Хрысціна, і Грышка раптам ухапіўся за гэта.

— Ажэніцца — пераменіцца, — казаў ён жонцы.

Грышка павёў гутарку з сынам:

— Ну, што ж! Калі што якое, дык чаму ж не! Жаніся! Яна дзеўка добрая, паслухмяная, рупатлівая...

— Добрая, — адпавядаў Пятрок, — толькі ж ведайце, тата, што ў царкву я не пайду, а толькі запішуся. І вяселля і самагонкі каб не было. Калі на гэта згодны — дык жанюся.

— Не, блазнюк, — злосна, з пачырванеўшым ад гневу тварам загрымеў Грышка, — ты мяне вучыць будзеш! Не, гад, ты будзеш рабіць, як усе чэсныя людзі. І ў царкву пойдзеш, і вяселле справім, і самагонка будзе! А не, дык вон з хаты і жаніся сабе пад кустом...

— Калі гоніш — дык і пайду, знайду кусок хлеба і без вас, — супакойна адпавядаў Пятрок і выйшаў з хаты.

«Прыйдзецца чакаць, — думаў сумна Пятрок, — не цяпер, дык у чацвер! А Хрысціна пачакае — яна яшчэ не перастарак».

## IV

І зноў цягнулася спрэчка. Толькі цяпер сын ужо перастаў агрызацца, лаяцца, хадзіў пануры. Праўда, рэдка хадзіў у мястэчка, але і тут не ўсё было добра.

Знюхаўся з тутэйшым настаўнікам, настаўніцай, хадзіць туды ў школу, усю моладзь валачэ за сабой, нешта крычаць там, чытаюць, пяюць, і гэтак узімку амаль што не кожны вечар.

Пайшоў раз туды і Грышка. Цікава яму, аб чым яны там гавораць, што гэта яго Петрачку глузды адбівае.

Прыйшоў. Ціха стаў у цёмным куточку і давай слухаць. Дык нічога не зразумеў. Усе сядзелі на лаўках, як яго сынок з бліскучымі вачмі штосьці гаварыў. Толькі і зразумеў Грышка, што яго сын казаў аб папоўскіх забабонах, аб багох і растлумачваў, што бога нямаша-

ка, што верыць яму навучылі людзі дзеля сваёй карысці, і гэтак далей.

Страшэнная злосць закіпела ў грудзёх Грышкі, але ён моўчкі пайшоў дамоў, бо цяпер, падумаў, усе сапля-кі верадуюць і яшчэ арыштуюць.

Прыйшоў дамоў і як пабачыў кніжкі Петрака, якія ляжалі грудкай на паліцы, дык яшчэ больш азлаваўся і, каб спагнаць сваю злосць, схапіў кніжкі і, як звер, скрыгочучы зубамі, пачаў рваць іх у мэтлахі.

— Вось табе рэвалюцыя, буржуазея, сыцылізма, кімсамол... — крычаў ён, як п'яны.

Прыйшоў Пятрок. Зірнуў на мэталахі паперак. Спачатку не зразумеў, але кінуў вокам на паліцу, і ўсё стала ясна. Бязмоўна, з бледным сумным тварам сеў ён на лаўку.

— Чаго ж маўчыш? Га! Не па душы? Дык ведай, што мне абрыдла ўсё гэта, абрыдлі ўсе твае выкрутасы! Апошні раз кажу — кінь гэта плюгаўства. Ці я цябе вучыў дзеля таго, каб ты цяпер здзекаваўся над бацькам, над маткай!

— Чым жа я здзекаваўся над вамі, — ціха вымаўляў Пятрок. — Гэта ж вы нада мной, гэта ж вы атруцілі маё жыццё. Ці я ж не працую, ці я адарваўся ад хаты? У вольную гадзіну я хаджу куды хачу. Я ніяк не вазьму ў галаву, чым я вам мяшаю. А калі мяшаю, дык зусім пайду!

— Ідзі, ідзі, гэтым мяне не пастрашыш, — пачаў гаварыць Грышка і доўга яшчэ бубнеў, але Пятрок не слухаў яго.

На другі дзень Петрака не стала. Чакаў, чакаў Грышка, але праз колькі дзён пайшоў пытацца. Першнаперш к настаўніку. Той нічога не ведаў і нічога не парадзіў. Папёрся ў воласць. Там яму паведамілі, што сын узяў у воласці пасведчанне. Сакратар нават сказаў, што сын пайшоў у горад шукаць працы.

— Працы, працы, — барматаў па дарозе Грышка. — Якую цяпер працу ён знойдзе. І нічога з двара не ўзяў, нават і хлеба не тронуў, і грошай няма. — І слёзы міма-волі сыпаліся з яго вачэй, і за слязьмі не бачыў ён дарогі і плёўся, як п'яны. А ў двары застаў настаўніка. У руцэ ў яго быў ліст.

— Ад Петрака вестка, — сказаў настаўнік. — Піша, што ён у горадзе, што сустрэў добрага чалавека і чалавек прыстроіў Петрака ў партшколе. Яшчэ піша, каб

матка не рупілася, бо яму цяпер так добра як ніколі.

— Ого! Ён цяпер далёка пойдзе. Ён хлапец кемкі, — закончыў настаўнік і пайшоў з хаты.

Сумна стала Грышку, сорамна, што выгнаў роднага сына і цяпер сын дасцігае сваёй долі і таленту без яго — бацькоўскай рукі.

1924

## Алё, Алёна!

### I

Пахучае, прывабнае бабіна лета стаіць.

Журавы пралятаюць раніцамі марознымі, калі агароды, як срэбрам, абсыпаны імжакай, і сумны іх клёкат над вёскай гучыць, як спеў развітальны.

А ўдзень лёгкае, нібы шоўк, павуцінне снуецца па полі. Ціша ў лесе стаіць. Шарахціць пад нагамі кляновы ліст, і красуецца крывавая рабіна. Мякка грэе стомленае сонца — не балюча воку глядзець на яго. І здаецца, нібы ад праменняў яго ўсё бледна-блакітнае неба напоўнена ціхім, ледзьве чутным дзынканнем крышталю.

Удзень бабы выйдуць на вуліцу, пасядуць белымі купкамі на прызбах і завядуць доўгія бяседы.

Між імі за старшыню Апанасіха, бабка сухая, як таран. Вочы ў яе маленькія, калючыя, як шпількі, а рот сухі, сцяты. Постаць зграбная, спадніца саматканая, яшчэ новая. Галава абвязана крамнінай.

Завуць яе Алёнай, але на вёсцы яна больш вядома як Апанасіха.

Апанасіха пра мужыка свайго размаўляе:

— Падумайце, пагадайце, бабачкі! Старога трэці дзень не чуваць! Дакляраваў мне яшчэ ўчора быць... У мяне, галубачкі, сэрца не на месцы! Ён жа слабы, удушлівы чалавек, каб чаго, не дай божа...

— Дык айдзе ж гэта твой Апанас? — у соты раз пытаюцца бабы. І заўчора пыталіся, і ўчора тое самае, і сёння трэба запытацца! Без гэтай формы не абыдзешся. А мо і сапраўды забыліся. Мала хто і куды пайшоў!

— Ды ў горад жа чмыхнуў! Прыйшла веста... Нейкі прыёмнік мой выйграў... Бясплатна за газету дадуць... дык пацягнуўся! — павольна, кожнае слова расцягваючы, кажа Алёна і глядзіць, якое ўражанне гэта робіць на ўсіх.

— Адвеку не чула і не бачыла, што яно такое! — паведаміла шчыра Рабчыха.

— А ты думаеш, я ведаю? Не, мая галубачка! І мае мазгі ўжо выкарчылі, аніяк у галаву не вазьму... Апанас мой таксама зроду не бачыў і не ведае, што яно і да чаго яно... А Ягорка мой кажа: гэта такая... як скажаш у Маскве ці ў Менску — тут чуваць будзе! Ну толькі, галубачкі, я не дужа веры даю гэтаму!..

— Ат! Дурасветы чаго-чаго не павыдумляюць! — як нажом адрэзала Луцэя, баба крамяная і не дужа разумная.

— Не, не! Сын твой мышляй у цябе! Што там гаварыць? Празукаваты хлопец! Камсамолец! Усюды паспее! — разам загаварылі бабы.

— Можа, што і ёсць такое! — сказала Апанасіха. — А толькі я не люблю гэтага. Як скажу сыну, дык ён ірзы спраўляе з мяне! Усё ндрае па людзях, як галавы сабе не скруціць. Ён жа і падбіў бацьку, каб ішоў за гэтым... як яго... ой... забылася, як завуць радзімца гэнага...

Бабы таксама забыліся і доўга калуваліся ў галаве... Прыпамятала сама Апанасіха і ўжо ў каторы раз пачала гаварыць, як ўсё гэта было:

— Нешта ўраілася майму Апанасу газету чытаць... Ну дык мой чалавек што? Толькі склады і ўмее... Вечарамі сядзіць, сядзіць, пэкае, мэкае, гэкае, вэкае, аж упарыцца... і ў лазню не трэба... У мяне мутарна на сэрцы... Ашалеў бацька за сынам... Што Ягор ні скажа, дык і мой за ім. Злучыўся чорт з д'яблам... Вось і вычыталі яны надоечы, што майму шчаслівае чысло выпала — дадуць гэтую самую трубу! Ды не адну трубу, а на два вухі надзець, як боты наногі! Як надзенеш на вушы, дык табе Масква ці Менск і затрубяць!

— Ой! Хоць бы хутчэй пабачыць усё гэта! — нецярплячым голасам ускліснула дачка Апанасіхі, дваццацігадовая Хрысціна.

— Пабачыш, пабачыш, дзога! — гаворыць матка і цягне далей, як нітку, сваю бяседу:

— Як прыйшла гэта веста, Ягор ад радасці галоча! А мая душа не прымае гэтага. Пытаюся, што яно, на-

што яно, куды яно. Сын і кажа: у Маскве ці ў Менску на скрыпцы будуць іграць, ці гаварыць, ці пяяць, а тут у нашай цёмнай хаце чуваць будзе!.. А скора будзе яшчэ і так, што чалавек у Маскве будзе гаварыць, а мы будзем тутака на яго глядзець ды бачыць, які ён і што ў яго там ёсць!

— Ну, гэтага не можа быць! Гэта грэх, гэта д'ябал людзей падвучае! — жагнаючыся, сказала Лісеіха, самая старая і набожная бабуля.

— І я, Тэклечка, так думаю! — адказвае Алёна. — Я ж і казала Ягору: сынок, я ўжо кнізу расту, не да мяне твае забаўкі, не хачу іх. Калі можна, прадай гэту трубу там у горадзе. А сын кажа: у цябе, маці, старая ідалёгія!.. Ох, як гарэсна майму сэрцу ад гэтух слоў стала... Кажу: не баюся, сынок, тваёй ідалёгіі. Ты сам ідал! Што ты мне казкі гаворыш?

— А твой што? І ён услед?

— Апанасу майму як хваробай вушы заклала. Кажу і яму: прадай, прадай у горадзе трубільню гэту! Дык ён як не чуе! А падумайце, галубачкі, якое наша жыццё? На грошы ў нас няма воду! Як тая сляпая казала: шчуп у кішэнь, посны яўмень. Якое ў нас дабро? З-пад печы выгнаць некага. Пазычыла траяк на пераварот, вось і каламажымся! А ён яшчэ на разгары сабраўся, культуру заводзіць!

— Гора, гора, калі ўсё гола! — завойкалі бабы ў адзін голас.

— То ж та і ёсць! — згаджаецца Алёна. — А сын мой кажа: наша жыццё яшчэ не тое! Антан нам шкоду робіць, не дае супакойна жыць! А то мы не так бы. А я кажу: тады праўда і цалізм твой прыйдзе, як нас на свеце не будзе! Не падабаецца Ягору, як так кажу, круціць носам, як хрэну панюхаўшы...

## II

— Мамка! Вунь жа тата ідзе! — радасна сказала Хрысцінка. Яна сваімі зіркімі вачыма раней за ўсіх пабачыла Апанаса. Бабы так заюшыліся сваімі гутаркамі, што і не глядзелі ў той бок.

— Добра, хоць жывы вярнуўся! — лёгкім голасам сустрэла Апанаса яго жонка.

У Апанаса па твару бегае нейкая ўхмылка. У руках

нейкі скрутак. Няўжо гэта і ёсць тая труба? Якая ж гэта труба? Мусіць, не далі! — думаюць бабы.

— Не далі? — пытае ў Апанаса яго жонка Алёна.

— Далі! Як не далі? Чаму не далі, калі ў газеце ўдрукавалі?.. Толькі не ведаю, ці добра гэта зрабіў... Мне гаварылі: калі хочаш, дык заместа апарату бяры боты, ці мануфактуру, ці плуг... як хочаш. Я падумаў ды ўзяў апарат...

— Які рапарат?

— Ды прыёмнік гэты! — Апанас павярцеў у руках скрутак.

— Ой, гора маё, гора трыногае! — застагнала Алёна. — Які ты не шабекаваты! Нашто браў ты цацку гэту? Ах каб жа ты па вадзе хадзіў ды піць прасіў. Было ліха цераз дзень, а цяпер будзе кожны дзень!

— Маўчы ты! Цярпець не магу тваёй грызы! — абараняўся Апанас. — Што ты мне агню ў масла падліваеш? — успомніў ён словы, якія чуў у горадзе. — Цьфу! Не тое хацеў сказаць!

— Яно і відаць... розум, які быў, страціў. Гэта ж трэба-ткі! Даюць боты, даюць плуг, манухвактуру даюць сівому чорту, а ён...

— Ды не ўсё разам, не ўсё! Ласая ты! І тое, і другое, і трэцяе! Даўбешка ты! Праўду кажуць: розум не кулеш, у галаву не накладзеш, калі дурань ад роду...

— Мой розум пры мне, а твой дзе дзеўся? Цяперака, не піўшы, не еўшы, слухай гэту трубільню ды скачы ашалеўшы! — сказала Апанасіха, звяртаючыся па маральную дапамогу да суседак.

— Ат! З гэтага карысці як ад казла малака возьмеш! — падтрымалі яе суседкі і разам загаварылі, асуджаючы Апанаса. — І што ты з ёю рабіць будзеш? Хлеб яна табе дасць, труба гэта?

— Салому еж, а фасону не губі! — адбіваў атаку Апанас. — Вам, бабачкі, толькі давай есці ды піці, а для галавы нічога не трэба... Во сабраліся гандзюліць... Як той казаў: прыйшлі куры на хаўтуры, верабейка памёр. Толькі і ведаеце, як лалэхаць языком. Цыгана аднаго не хапае, а то поўны кірмаш!

— Тата! Пакажы трубу, якая яна! — улучыла момант Хрысцінка, якая ўжо даўно з прагнасцю глядзела на рукі бацькі і скрутак, што быў у іх.

— Чаму ты тры дні марудзіў там? Ці табе ў хаце

працы няма? Дзе цябе там насіла? — чакае адказу Апанасава жонка.

— Табе ўсё трэба ведаць! — усміхнуўся Апанас, і вочы яго зрабіліся вясёлымі. — Да дзевак хадзіў! Ну? Досыць з цябе?.. — пажартаваў ён.

Прыйшоў з гумна сын Ягор і вельмі ўзрадаваўся бацькаваму выйгрышу.

Апанас толькі цяпер рашыўся асцярожна развязаць скрутак і дастаць з яго скрыначку, а ў ёй нейкія белыя, каляныя шнуры, нейкую бліскучую паўабручыну з крутэлачкамі на канцох.

Усе хацелі памацаць рукамі, але Апанас нікому не дазволіў дакрануцца.

— Яшчэ згадзіш што. Не чапай!

Сам ён паказваў Ягору нейкія гузікі, катушачкі, матушачкі і гаварыў:

— Тамака мне казалі: гэта дадэхтар, гэта кондышлатар, гэта тэлехвонныя трубкі, гэта анодава катушка, гэта зазямельнік, а гэта... забыўся як. Далі яшчэ і кніжачку, як усё гэта прыладзіць. Дык гэта ўжо Ягору трэба... Яны мне гаварылі, гаварылі, паказвалі, паказвалі, аж самі потам абліліся... ды галава мая, як рэшата воду прапушчае.

Усе моўчкі глядзелі на Апанасавы «цацкі» і чакалі, што з гэтага будзе. Больш за ўсіх чакала ад гэтага Хрысцінка, якая яшчэ ў школе наслухалася шмат пра гэты цуд.

Ягор узяўся за кніжку. Але цяжка зразумець адна-му, хоць і добра напісана. Бацька — дрэнны памочнік. Трэба збегаць да настаўніка.

Апанас тым часам пайшоў рыхтаваць жардзіну, якая (сказалі яму ў горадзе) ёсць першая неабходная штука ў гэтым апараце. Пайшоў шукаць яе на агародзе каля гумна.

Прынёс жардзіну доўгую-доўгую. Ледзьве дацягнуў. Нават, пералязаўшы прасла, нагавіцы разадраў. Бабы смяюцца з Апанаса. А ён, каб схаваць сваё замяшанне, жартуе з іх:

— Бабы, бабы! Ад вас, як ад смерці, не схаваешся, не адчэпішся! Чаго вы чмыхаеце. Ой глядзеце, каб каторай з вас не папала ад мяне!

— Ад цябе? Ты ўжо стары! Не пападзе ад цябе!

— Эгэ-гэ! Не пападзе?! Калі мужык п'е і есць, дык і на баб можа глядзець! Вунь я ў горадзе паглядзеў, як

хвокшрот танцуюць, дык, здаецца, і я б змог так вырабляць з катораю з вас!

— Эйш ты яго! Расходзіўся пеўнем! — ушчыкнула яго Луцэя, баба крамяная і не дужа разумная.

Прыйшоў настаўнік, адразу расшалопіў, што і як. Мужчыны ўтрох пачалі жардзіну высокую-высокую на вільчыку ладзіць.

Бабы зноў у смех. Цяпер пытаюць у Апанасавай жонкі:

— Нашто яму гэта хлыбазіна? На неба палезе гарох сеяць, ці што?

— А я ведаю, нашто здалася яму хвароба гэта? Можа, узлезе на яе ды закукуе на старасці.

Апанас хоць і заюшыўся ўсім гэтым, але чуе знявагу ад жонкі і кажа:

— Ой глядзі, крупадзёрка, каб не папала табе! Ведай, жонка, і певень сэрца мае, а я ж чалавек. Дык часам джосу дам!

## III

На другі дзень увечары Масква і Менск загаварылі ў хаце Апанаса. Колькі радасці было Ягору, Хрысціне і ўсёй вясковай моладзі! І колькі турботы Апанасавай жонцы! Удзень, на прызбе седзячы, жалілася яна суседкам:

— Як прыключылі гэтыя трубкі, дык увесь вечарочак ад тлуму хата стогне! Уся вуліца прэцца ў хату маю, як у мяне ціятры якія, ці што! Слухаюць, слухаюць ды хваляць! І перадыхнуць некалі... Як толькі сцямнее, трубкі ўжо голас падаюць!..

— А ты б не пушчала! — гавораць бабы, а самі думаюць: «Хаты шкадуеш, кашчэіха! Кожнаму ахвота паслухаць, не ўсім жа шчасце...»

— Як жа не пусціш, калі Ягор усю моладзь цягне... Дзеўкі кожную хвіліну шахаюць у хату і на вячоркі забыліся... А яму і на руку гэта... Жаніцца хлапец не хоча, а за дзеўкамі пацягацца чаму не! Мне за імі і паслухаць не прыходзіцца. Не ведаю, калі ім надабрыдне!

— Я першая паслухала б, нікому б раней сябе не дала! — сказала Луцэя, баба тоўстая.

— А ўжо сягоння вечарам паслухаю, загадзя абруч

на галаву надзену і буду слухаць, пакуль наслухаюся!— сказала рашуча Апанасіха.

## IV

Увечары, падаіўшы кароў, управіўшыся па гаспадарцы, Апанасіха падышла да цудоўнай скрыначкі, узяла «абруч», надзела яго на галаву сабе, села на лаву, зрабіла ўрачысты і застыглы выраз твару і нарыхтавалася слухаць. Ягор механіку рабіў.

Апанас запытальна глядзеў на сваю жонку і чакаў захаплення з яе боку. Ён сам, здаецца, слухаў бы гэта дзень і ноч — цэлы новы свет, цудоўны, адчыніўся перад ім. «Пабачым, ці будзеш ты клясьці мяне, як паслухаеш!» — думае ён.

Раптам здарылася нешта нечаканае, дзіўнае, недарэчнае!

Алёна, яго жонка, з жахам дзугнула трубкі, схапілася за галаву і закрычала:

— Ратуй мяне, Апанас! Заткні гэту трубку! Яна ж кліча мяне.

Алёна запалоханая, задыхаючыся ідзе да ложка і знясіленым голасам шапоча мужыку:

— Толькі ўзялася я за трубку, а там чую: Алё, Алён, Алён. Мяне кліча! Хутчэй разбэхай яе, а то памру! Жыва не буду!

Апанас галавой махае:

— Дурная, дурная, дурная! Алё, алё, алё!

1928

# Калектыў Яўмена

## I

Дарагія госці прыехалі да ўдавы Домны Лямцюговай — дачка Адарка і зяць Хвёдар! Дачку яна не бачыла дужа даўно, здавалася ёй, ці не з таго часу, як заварылася гэта каша, як народ на народ пайшоў, як паноў пачалі рэзаць ды вяскоўцам волю далі! Тады і пачалося гэта новае жыццё! Домна кінула вёску ды пачала з сынам Яўменам жыць на гэтым пасёлку, які людзі празвалі «камунай Яўмена». А як аддала замуж сваю ядыную дачку Адарку ў чужую, дальнюю вёску, вярстоў за 50, дык зусім адна стала жыць на гэтым — туды яму дарога! — калектыве. Не любіла Домна гэты калектыў і калектыўшчыкаў, ой як не любіла. Хоць і жыла з сынам, у якога была жонка Матруна і маленькі сынок, але ўсімі думкамі рвалася ў старую вёску, у якой жыццё амаль што не змянілася! А тут, на пасёлку, Домна часта шкадавала сябе, адчуваючы поўнае адзіноцтва: жыву, як колас у полі, адрэзана ад бога і людзей! «Калектыўшчыкі» — паводле яе думак — гэта не людзі, а д'яблы, якіх бог калі-небудзь ды пакарае!

Домна частавала сваіх гасцей чым было. Госці елі са смакам, бо праехаліся, а яна скардзілася на сваё жыццё.

Зяць Хвёдар сядзеў на лаўцы каля вакна, еў мала, а больш пыхкаў піпкай ды аглядаў хату.

Хата была новая, на дзве палавіны. Дзверы ў другую палавіну былі адчынены — там брыкала цялё, пад печчу скігатала парасё, па хаце спацыравалі дзве чубаткі і певень. Вокны былі вялікія, светлыя, падлога роўная, чыстая.

А Домна скардзілася:

— Што толькі ў нас дзеецца, дык вы й веры не дасцё! Яўмен перавярнуў усё дагары нагамі. Мазгі мае — як не мае! Сама не ведаю, ці я жыву, ці мяне ліхаманка калоціць. Усё па-новаму, па-новаму...

Адарка заўважыла:

— У Нямеччыне як быў, нагледзеўся, а пасля ў Чырвонай Арміі шышкай быў, дык цяпер і сам не ведае, хто ён.

— Быў сын як сын. Хоць бедна, ды ціха, супакойна жылі. Ты служыла ў пані, так-сяк патроху жылі. А цяпер на панскую зямлю селі, дык чыста адурэлі, як калясо, усё круціцца...

— Не, пра паноў кіньце! — загаварыла Адарка. — Мала яны наштурхалі нас? Мала я ад пані гора бачыла? Восем пудоў важыла: прыбяры, перавярні гэту жлукту з боку на бок ды яшчэ пасадзі ў фаятон, сама не магла ўзлезці. Адзін раз стала на падножку, дык і ўсю біньдзюгу перакуліла.

А ўсё ў бога смерці прасіла. Бывала, прыйду я да пані, як ужо цара скінулі, а яна ляжыць, ды стогне, ды бога просіць, каб хутчэй памерці ды не бачыць, як дабро яе расцягваць будуць. А ведала яна, што гэта будзе, разумная паня была.

— У самую бальшавіцкую рэвалюцыю выпруцілася, як быццам ведала, што канец панству прыйшоў!

Хвёдар сказаў:

— Што й гаварыць! Каб паноў не выгналі, дык Яўмен не адбудаваў бы такой хаты!

Было відаць, што Хвёдар зайздросціў Яўмену.

Домна заўважыла гэта і сказала незадаволена:

— Адбудаваў, адбудаваў, хоць ваўкоў ганяй! Стадола, а не хата. Нават супакойна заснуць нельга... Усё здаецца, што нехта ў вокны глядзіць.

Хвёдар зарагатаў і запытаўся:

— Нашто Яўмену вокны такія вялікія?

— Вярзе такое, што і ў галаву не палезе: кажа, што трэба, каб паветра ды сонца больш было. Я яму колькі разоў казала ды лаяла. Халера на цябе, кажу яму, сваімі вокнамі толькі косці мае старыя прастудзіш. Трэба, каб дух быў у хаце!

— А што Яўмен кажа? — зацікавіўся Хвёдар.

— А Яўмен усё трубіць: трэба па-новаму, па рэвалюцыі, жыць. Трэба, каб у хаце нейкая кубатура была!

— Кубатура? — разам перапыталіся і Адарка і Хвёдар.

— Але ж! Кубатура! Я і не ведаю, што гэта. Яўмен цяпер шмат балбатні ўсякай гародзіць, усё нейкія модныя, перакручаныя словы вярзе ды ўсё палец уверх узнімае. Вось глядзі, Адарка!

Домна паспрабавала передражніць свайго сына Яўмена, але нічога не выйшла. Троху памаўчаўшы, прыбіраючы са стала, сказала:

— Сягоння, відаць, вернецца Яўмен. Пайшоў на перавыбары, а Матруна да суседкі пайшла, ды яшчэ дагэтуль няма. У нас жа хата ад хаты на вярсту.

Хвёдар усміхаўся і глядзеў на чыстую падлогу. Яму хацелася плюнуць, але нейкае нязвычнае пачуццё чыстаты стрымлівала яго. Нялоўка адчуваў сябе ў гэтай хоць мужыцкай, але чыстай хаце. Урэшце падняўся, выйшаў у другую хату. Вярнуўшыся, сказаў, зірнуўшы на кут:

— І праўда, у вас усё па-новаму. Вунь і багоў няма. Разбазарылі. Ці не камуністым зрабіўся Яўмен?

— Блізка што так! Ужо больш году, як вынес усіх багоў! Цяпер жывём як паганцы!

Адарка ўстрапянулася:

— Як жа так? А ты нічога? Куды ж ён іх?

— Хто ж яго ведае, — супакойна адказала Домна. — Адзін абраз я схавала, забараніла, можа, і ўспомніць калі-небудзь бога, можа, і прыгадзіцца на ўсякі грэх. А толькі, Адарачка, адступіўся ён ад нас. І маліцца не моліцца нейк! Як атруціў нехта! Пабягу іншы раз да Гапкі, у яе хата абстаўлена ўся абразамі. Бягу, думаю: памалюся там ды паплачу, а прыбягу туды, як лёду паклаў хто ў сэрца. А яшчэ як прыслухаюся, што вярзе на бога Яўмен, сынок мой, дык і ахвота маліцца прападзе! Як паганцы ў граху жывём.

Хвёдар засмяяўся:

— А мы дык няшчасныя людзі! Няма ў нас ніякае кубатуры!

Хвёдару вельмі спадабалася гэтае слова, і ён некалькі разоў са смехам пераказаў яго.

— Табе смех, а мне гора, — звярнулася да яго Домна. — Хаджу як голая ў гэтай кубатуры. Куточка цёплага няма ў хаце. Пустэльня! Усё сніцца старая хатка: за печ палезем, пагрэемся, а тутака і печы такой няма... Усё па-новаму ў нас...

Адарка запыталася пра жонку Яўмена Матруну. Толькі раз і бачыла яе, як Яўмен прывёз з «віроў». Тады Матруна не вельмі спадабалася ўсім — фарсістая баба была! Домна адказала, што ўсё было б добра, але ў дудку Яўмена дзьме і на матку вокам не зірне.

— Два месяцы ўжо, як радзіла сына! — дадала яна.

Адарка на цыпках падышла да калыскі, асцярожна рассунула полаг, зірнула і шчыра сказала: вялікі расці! Вялікі расці! Вялікі расці! Адышоўшы, заўважыла:

— Нічога сабе пузанок! А ружовы які?! Як жа завуць?

Домна неяк дзіўна ўсміхнулася і шэптам загаварыла:

— Лепш не пытайцеся! Не ведаю, як і сказаць вам, любенькія! Дзіцёначка ж не ксцілі. Як ні прасіла я — нічога не памагло... Яўмен даў сваё імя!

— Ой, ну? Якое ж?

— Проста грэх. Зусім не чалавечае імя. Акіянам назваў. Спачатку брыдка было, а цяпер нічога, як быццам другое імя і не падыходзіць.

Адарка аж рукамі пляснула ды галавой заматала:

— Акіянчык! Божа ж мой! Нейкае ліха ўссела на чалавека!

— Яго дурны поп ксціў, — рэзюмаваў Хвёдар, падымаючыся з лавы.

Ён пачаў разглядваць лозунгі, плакаты і малюнкі, якія былі развешаны па сценах. Хвёдар не бачыў сэнсу ў гэтым, дый чытаць амаль што не ўмеў. Але ўважліва разглядаў пана, кулака і цара, крытыкаваў іх разбухлыя выкручаныя ногі, тоўстыя гумалястаавыя зады, хцівыя, заграбастыя рукі і разяўленыя воўчыя зяпы. Гэта ўсё яму было зразумела і без подпісаў, гэта паводле яго думкі «лоўкая была крытыка». Затое другіх плакатаў ён зусім не разумеў і доўга думаў над імі, аж галава засвярбела. Асаблівую ўвагу ён звярнуў на нейкі даўжэнны ланцужок то вялікіх, то зусім дробненькіх чалавечкаў, якія трымалі ў руках чырвоныя сцягі. Нічога не зразумеўшы, Хвёдар адышоў убок і, паказваючы на чалавечкаў, тры разы смачна плюнуў.

Домна засмяялася.

— Яўмен кажа, што нельга харкаць на падлогу. Муштруе нас, як чорт які. Не так стаў, не так сеў. Трэба ўсё рабіць па канстытуцыі, як ён кажа.

— Твой Яўмен захварэў на панства! Хоць гол пакуль што, дык затое хванабэрыі шмат.

Домна нічога не адказала Хвёдару, толькі пальцам тыцнула ў бок дзвярэй. Там стаяла зграбна зробленая скрыначка з пяском.

Хвёдар вытрашчыў вочы:

— А-а! Пля-валь-ні-ца!

Домна рэзанёрна перадражніла Яўмена:

— Не плюй на падлогу, хвароба прыліпне!

Хвёдар падняў на смех Яўмена.

Адарцы раптам захацелася ўступіцца за Яўменку. Ей непрыемна зрабілася, што яго на смех падымаюць. Іншая справа, каб ён сам тут быў, тады, можа б, яна яго яшчэ з большым запалам лаяла, а цяпер Адарка прыпамятала, што і настаўніца ім пра гэта трубіла... Набраўшыся духу, яна перабіла Хвёдара:

— А я чула, што харкавінне высыхае, а там ёсць нейкія казюлькі, яны лётаюць у паветры і пралязаюць у чалавека...

— І Яўмен слова ў слова кажа, — кіўнула Домна.

Хвёдар падскочыў. Яму дужа не даспадобы было, калі яго жонка Адарка пачынала мудрагеліць ды вырашаць супранатуральныя пытанні.

— Скуль ты чула лухту гэту? — накінуўся ён на жонку.

— Настаўніца казала!

— Схавайся ты са сваёю настаўніцай! Торба святая! Казюлькі пралазяць у чалавека? А хто іх бачыў, гэтыя казюлькі?.. Чаму мухі, камарня ды машкарня не пралазяць?

Адарка не ўнімалася.

— Многа ты ведаеш? Цёмны ты гарбуз! Тамака такія казюлькі, што вокам не ўбачыш!

— Разумная знайшлася! Нехта падпарыў цябе! Калі не ўбачыш вокам, дык і няма!

Хвёдар не хацеў больш гаварыць на гэту тэму. З практыкі ведаў, што калі ўлезе д'ябал у яго жонку, дык ніякім вожыгам не выганіш яго адтуль, а толькі наслухаешся розных не вельмі прыемных для мужчыны мянушак. Лепш справіцца з ёю дома. Тады ён дасць Адарцы дыхту!

Адарка падсела да маткі і слухала яе. А матка гаварыла:

— Цяпер уся праца наша па гадзінах вядзецца. Як праклятыя працуем. Вунь, зірні! Павесіў плюгавы гадзіннік, ды мне здаецца, што ўсярodку ў мяне сядзіць ды тыхае, тыхае!

## II

Дзверы адчыніліся. Увайшла прыгожая маладзіца. Гэта была Матруна. Дала дзяньдобры, зірнула на га-

дзіннік, падышла да калыскі. Дзіцёнак яшчэ спаў. Яна схапіла вядро і выйшла з хаты. Домна кінула ёй услед:

— Падой спачатку Анпяратрыцу, а тады ўжо Антанту!

Хвёдар заёрзаў на лаўцы ад смеху:

— Хвароба на ўсіх вас! На выстаўку трэба Яўмена!

Домна тлумачыла:

— Дзве кароўкі ў нас ды кабыла! Нядаўна прывяла дужа добрага жарабочка. Дык Дзянікіным празваў. Спаклалі ўжо Дзянікінага гэтага самага...

Хвёдар памаўчаў троху, а потым пачаў усміхацца. Як відаць, надзвычайна ўдалая думка прыйшла яму ў галаву, і ён пасляшыў выказаць гэту думку. Лавіў толькі момант.

Домна жалілася, што сын ні ў чым яе не слухае: прасіла ў Яўмена на хустку, дык не даў, сказаў, што заробіць у лясніцтве — тады купіць, а цяпер газету трэба выпісаць. На газету ёсць, а матцы няма!

Домне ўсё, што ні рабіў яе сын Яўмен, здавалася дзікунствам. Каля сцяны стаялі тры тапчаны, засланыя саматканымі коўдрамі. Домна сказала: — Вунь, зірні! Упокат ужо не спім, як у старой хаце. Нарабіў тапчанаў, набіў сенам. Адным словам, як у заезджым двары. Хоць падарожных пускай.

Хвёдар, хітра смеючыся, запытаўся:

— Мамка, я чуў, ці праўда толькі гэта, што ты свайго Яўмена не менш як 8 дзён раджала?

Домна аўтаматычна кіўнула галавой.

Вярнулася Матруна з вядром малака. Радасна сказала:

— Зірні, маці! Анпяратрыца сёння яшчэ больш дала! Шклянак 30 будзе!

Адарка не паверыла.

— Не можа гэтага быць! Я ж ведаю гэтаю Анпяратрыцу! Гэта Красулька?

— Не Красулька, а Панедзя!

— Дык Панедзя яшчэ менш давала! Што ж вы ёй даяце? Нашу ж Пяцёну, каб яе агні высмалілі, цыркаеш, цыркаеш, усё жылле павыцягнеш, а ўсяго таго малака з дзвюх каровак — крупеню забяліць ды дзіцёнку.

Матруна пачала падрабязна тлумачыць пра Яўменавы «фокусы» з каровамі, пра турнэпс, бульбу ды буракі, што прыбаўляюць малака.

Домна зірнула ў вакно і заўважыла Яўмена.

Шапарнула Матруне:

— Выгань цялё ды парася, а не — лаяцца будзе.

— Не паспееш ужо! Убачыць, дык яшчэ смяшней будзе.

Яўмен ужо ўваходзіў у хату. Гэта быў чалавек гадоў 30, абголены, з шырокім тварам, высокім лобам і шапкай белых, як кужаль, валасоў. Высокі рост, шэрыя жывыя вочы, магутныя плечы і выпуклістыя грудзі — усё гэта рабіла Яўмена безумоўна прыгожым чалавекам.

Яўмен быў не менш рады гасцям, чым матка.

— Вось добра, што вы завярнулі! Даўно не бачыліся! Як жа вы жывяце?

Хвёдар глядзеў на Яўмена і не верыў вачом сваім. Няўжо гэта Яўмен? Сталасць, самаўпэўненасць, задаволенасць! Адказаў, усміхаючыся:

— А што мы? Чапаемся патроху! А вось у вас дык усё дагары нагамі!

Яўмен раней добра ведаў Хвёдара, нават супольна быў з ім яшчэ ў старой арміі.

— Больш, — сказаў ён, — па-старому нельга жыць — затруць. Ды і самому хочацца жыць вальней, чысцей, хоць троху па-чалавецку. Вось на два дні адлучыўся, дык ужо свінушнік з хаты зрабілі — цялё ды парасё ўвалаклі!

Матка распалілася:

— Табе праціўна ўсё, што матка зробіць! У мяне няма бога ў сэрцы! На дварэ ж мароз, а цялё яшчэ дзіцёнак, няхай хоць пагрэецца!

— Ат! звыкліся ў гразі жыць! Смурод ды нечысць! Ёсць жа цёплая пуня!

Хвёдар усё ўглядаўся ў Яўмена:

— Да цябе цяпер і на кані не пад'едзеш! Усё хочаш жыць на шырокую нагу! Двор вялікі, нават тратувары паклаў...

— Не смейся, Хвёдар! На новым месцы трэба па-новаму і жыць. Я цяпер ніколі не звярнуўся б на старое месца, у вёску. Як падумаю, у якой цясноце ды крыўдзе жывяце вы, дык шкода мне вас! Не вёска, а пекла! Вулачкі, закавулачкі, праваліцца ім. Хата адна на другую лезе! Пажар, дык усё скіпіць! Ні кусточка, ні гаёчка. Гола ўсё, як калена. Дрэваў не любяць...

Дзіцё ў калысцы прачнулася і моцна заявіла аб сва-

іх правох. Матруна падышла да калыскі. Яўмен запытаўся ціха: а рукі не мыла?

Матруна адказала: «забылася!» — і пайшла да мыцельніка. Яўмен узяў на рукі Акіянчыка.

Дзіцёнак лыпаў вочкамі, плюшчыўся ад зімовага сонца! Адарка ўмяшалася:

— Адкуль ты чысцёхай такой стаў? Бажаволіш! Рукі пагнаў жонку мыць! А калі нам часта некалі не толькі памыць, а нават з'есці, як чалавеку?

— Што другое, а гэта трэба! А то свінням мяшала, з гаршкамі вазёкалася, а потым да дзіцёнка!

На дварэ з'явілася нейкая кучмастая галава і закрычала ў вакно:

— Яўмен вярнуўся ці яшчэ няма?

— Вярнуўся Яўмен, — адказаў ён сам. — Заходзь, Змітрок!

Увайшоў не дужа стары гаспадар і, даўшы дзяньдобры, адразу перайшоў да справы:

— З раёну прыйшлі па нашай заяве білеты на выйгрыш. Тады мы ўсе ўзялі ў складчыну. Па два рублі з двара. Дык ці ёсць у цябе?

— Ёсць, ёсць!

Хвёдар недаверліва паматаў галавою:

— Эйш ты! Не тое, дык другое, а ўсё вернуць на старое! Нашто гэта глупства — выйгрышы?

— Выйграеш чорта лысага.

Домна пачала бубнець Адарцы:

— Як на хусту прасіла, дык няма, а чорту ў зубы, дык ёсць.

Яўмен супакоіў:

— Будзе табе хуста, не звер, у лес не ўцячэ, а дзяржаве чаму не дапамагчы! Наша ж!

— Багата яна табе дала?

— А ці ж мала? Ці ж былі б мы тут, каб не яна?

Адарка нічога не разумела, нашто гэтыя білеты.

— А як не выйграеш, дык у вагонь кінеш?!

Хвёдар аўтарытэтна заявіў:

— Канешне, выйграе чорта лысага!

— Хоць не выйграем, страта невялікая! А грошы не прапалі, па білетах проценты даюць!

Перайшлі да сваіх сялянскіх спраў. Перабралі ўсё жыццё па костачках: колькі падатку наклалі, колькі ўжо сплацілі, колькі жыта намалацілі, які прыплод жывёла дала. А бабы пра лён, пра воўну казалі, пра суседзяў,

пра забойствы, пра новых камандзіраў, пра камсамольцаў ды піянераў, якія ўжо паўсюды распладзіліся і гнуць сваю лінію! Шмат аб чым ёсць гаварыць, калі больш як 5 гадоў не бачыліся!

Госці начавалі, а як на другі дзень яшчэ ў досвітку з'язджалі яны з двара, Яўмен прасіў радню:

— Вясною прыязджайце. Тады будзе добра ў нас!

— Прыедзем, прыедзем! На твае фокусы, Яўмен, толькі й паглядзець! Здаецца, і сам заварыў бы кашу, зірнуўшы, як у вас усё як у гаршку кіпіць!

## III

Вясною Хвёдар і Адарка зноў наведаліся на Яўменаў калектыў. Па ўсім раёне толькі і гаварылі што пра гэты пасёлак! Як уваліліся госці ў хату, Хвёдар пачаў крытыкаваць:

— Усё нутро адбілі, покуль праехалі па вуліцы. Як у горадзе, брукам выслалі. І тратувары, як у павятовым горадзе. Нават двор і той забрукаваў!

Хацелася яму завесці доўгія спрэчкі, ды цешча пасадзіла за стол і пачала частаваць.

Хвёдар захапіў з сабою гарэлку. Тлум падняўся. Зяць разышоўся і пайшоў атакай на Яўмена.

— Ты кажаш, што трэба жыць па плану, дружна, грамадой! Глупства! Грамадой не разбагацееш! Вунь двор брукам выслаў, што з гэтага?! А што далей, што далей будзе? Што будзе з твайго пасёлку? Чуў я, што ты яшчэ нешта замышляеш?

— Што далей будзе? Лепш будзе, чым цяпер!

— Камунію будзеце заводзіць?

— А што ж? Мы не такія ўжо цёмныя! Наш пасёлак будзе, як у Нямеччыне! Галоўнае ў тым, што ўсё робім дружна, грамадой па плану. Цяпер будзе ў нас школа, хата-чытальня. Ніхто нам не дапамагае. Самі!

— На якога радзімца? — не ўнімаецца Хвёдар. — На шыю сабе лішні цяжар. Багацеі знайшліся!

— Я ведаю, што з вас ніхто б гэтага неўзлюбіў. У вас заікніся — дык заплююць.

— Скажу табе па праўдзе, — хітра кажа Хвёдар, — я першы забіў бы цябе, каб ты ў нас гэта пачаў...

— Чаму?

— Не даеш спакойна жыць!

— Не даю ў гразі калупацца! Так! Дык у турму сеў бы!

— Што ж там такое? Гады два адседзеў бы! Затое радзімца зжыў бы!

Яўмен смяецца.

— Слухай, што мы яшчэ надумалі! Цяпер будзем у вольны час гліну вазіць. Абмажам хаты ўсяродку і знадворку. Як у хахлоў будзе: і цёпла і чыста!

Хвёдар робіць сур'ёзны твар, хітра смяецца і просіць Яўмена:

— Скажы мне на міласць, ці не збіраецеся вы свае фізіяноміі вымазаць як усяродку, так і знадворку?

Матруна, Адарка, Домна (і нават маленькі Акіянчык) зарагаталі.

Яўмен весела сказаў:

— Смяешся ты з зайздрасці! Бачыш, што ў нас людзі ўзяліся за розум! Доўга спалі, цяпер перасталі быць дурнымі!

Домна стала за Хвёдара:

— Спалі, а цяпер дык зусім не спім! Апантаная нейкая ўссела. Вы толькі паслухайце! Яўмен кажа, што з будучага году будуць разам, кучаю, засяваць зямлю!

Хвёдар нічога не сказаў на гэта, ён пачухаў калена, тады пад пахай, перайшоў потым на спіну і як нейкую таемнасць паведаміў Яўмену:

— А ўсё-такі, хоць і культурны ты чалавек, блох у цябе ліха ведае колькі! Ці не гадуеш ты іх на сельскагаспадарчую выстаўку? Дык беражыся, калі кожная з іх ад вальготнага жыцця будзе па 10 пудоў. Як скокне на ляшку, дык задавіць і цябе і тваю культуру.

— Ну й лухту панёс! — спыніла яго Адарка. — Кінь ужо! Насусліўся! Дагаворышся чорт ведае да чаго!

Вылезлі з-за стала. Яўмен прапанаваў Хвёдару адпачыць, а сам сабраўся ісці да суседа, каб забраць у яго газеты.

— І я з табою пайду! — заявіў Хвёдар. — Палаюся яшчэ з тваім суседам.

Мужчыны выйшлі з хаты.

Праз некалькі хвілін у хату ўвалілася цэлая куча людзей на чале з Яўменам. Ззаду ўсіх плёўся Хвёдар. Усе былі ў незразумелым хваляванні. Яўмен прыбег без шапкі.

Бабы ўспалашыліся.

— Што? Што там? Гавары!

Яўмен махаў газетай і ва ўсю глотку, жадаючы перакрычаць усіх і самога сябе, як на трыбуне, гулка адчаканіў:

— Наш пасёлак выйграў! Гурра!

— Што выйграў, каб табе праваліцца! — сказала матка.

— 5000 выйграў.

Усе аслупянелі. Ніхто не паверыў гэтаму.

А Яўмен, супакоіўшыся троху, не звяртаючы ўвагі на страшэнны тлум, які ўзняўся ў хаце, гаварыў свайму суседу Змітраку:

— Цяпер у нас усё будзе! Трактар, клуб, школа, электрычнасць...

А матка заўважыла Адарцы:

— Цяпер у мяне хуста напэўне будзе!

1928

## Рабін

### I

Мне трэба было адпачыць ад тлуму і пылу нашага гораду, і я не паехаў ні ў Крым, ні на Каўказ, а параходам заехаў у м. Гілёўку і спыніўся там у заезджым доме Гіршы Карасіка.

Я нічога раней не ведаў пра гэтае мястэчка. Яно нічым не вызначалася ў нашай гісторыі. Я проста разглядаў карту населеных мясцоў па Сожы, і калі прачытаў назву Гілёўка, яна мне здалася месцам ціхім, маўклівым, дзе няма тлуму гарадскога, дзе чалавек яшчэ мала налажыў свае рукі на непакорную прыроду.

Прыехаўшы, такім чынам, у гэтае мястэчка, я не вельмі шкадаваў на гэта, бо быў пад моцным уражаннем толькі што закончанага вандравання.

Цэлы дзень я ехаў параходам, а дзень быў ціхі, сонечны, сіні і пахучы. Перада мною праносіліся прыгожыя дубовыя гаі, бярозавыя ляскі, сасновыя гушчары і бязмежныя прасторы лугоў. Самае мястэчка яшчэ здалёку вабіла вока сваёю вежаю старой ратушы, зграбнымі мурамі двох касцёлаў і кумпаламі двох цэркваў!

Заняўшы пакой, які адвёў мне гаспадар дому, я адчыніў вакно на вуліцу, і ціхі гоман кірмашу, які заціхаў, і вясёлай гульні яўрэйскай дзятвы парушыў маўклівасць заезджага дому. З вакна разгортваўся перад вачмі вялікі кругавід, і я глядзеў на сінюю стужку Сожа і складаў у сваёй галаве план, як у мяне пройдзе час тут, у гэтым мястэчку. Першым чынам, я, канешне, не застануся ў гэтым заезджым доме, а знайду ціхую хатку ў садку над Сожам...Другія думкі не йшлі ў галаву. Хацелася самых простых фізічных перажыванняў. Добра было б асвяжыцца ў хвалях Сожа, аддаць сваё цела яго цёплым плыням, перажыць радасць злучэння з воднай стыхіяй!

Гэтае жаданне было вельмі моцным. Я расчыніў партфель, дастаў адтуль рушнік і накіраваўся на вуліцу. Але ў самых дзвярах мне прыйшлося затрымацца. З другога пакоя, якраз такога, які заняў я, выйшаў не зусім звычайнага выгляду чалавек.

Гэта быў яўрэй гадоў за 40 з вельмі шырокай і доўгай, старанна пешчанай чорнай барадой, з рэдкімі сямтам сівымі валасінкамі. На ім быў старамодны сурдут, вельмі старанна пачышчаны і зусім без плямаў. На галаве была нейкая асаблівай формы ярмолка. Вочы ў яго былі смелыя, рухавыя, з нейкай схаванай насмешкай. Яўрэй зірнуў на рушнік у маіх руках і запытаўся:

— Купацца? Я таксама іду. Можа, пойдзем разам?

— Не супярэчу! — адказаў я і першы выйшаў на вуліцу.

Праўду кажучы, мне хацелася пабыць аднаму, аднаму паляжаць на пяску пад цёплымі праменнямі сонца і ціха заснуць пад рытмічны бег ракі, але я не вельмі злаваў, што сустрэліся перашкоды майму жаданню.

Мы некалькі хвілін ішлі моўчкі. Я думаў і хацеў здагадацца, што за чалавек ідзе са мною... Гандляр якінебудзь? Не! Зусім не падобны да гандляра! Чысты сурдут, асцярожныя рухі, рукамі не махае, ідзе купацца, а гандляром усё жыццё «некалі» пачысціцца, усё ганяюцца за грашыма! Хто ж ён? Каб даведацца, я загаварыў:

— Вялікае ваша мястэчка?

— Не ведаю! Яно зусім не маё. Я тутака першы раз і такі самы прыезджы, як і вы.

— Вы прыезджы? Якія-небудзь справы?

— Я — рабін! — зусім проста і як быццам з гонарам адказаў яўрэй.

— Рабін? — троху расчаравана перапытаў я і падумаў: «Ну, канешне! І як сам я не здагадаўся пра гэта, а яшчэ вывучаю быт і сацыяльныя праслойкі!»

— Так! Я рабін. Ужо больш тыдня жыву тут, і абрыдла мне гэтае мястэчка, ой як абрыдла! Толькі адзін Сож і радуе.

— А што, пашаны мала?

— Не ў тым справа! Я — рабін, якога ведае ўся Літва, уся Польшча, Аўстрыя і Нямеччына! Пашаны яшчэ хапае з мяне!.. Можа, вы чулі пра рабіна Мардуховіча?

— Таго самага, што з пачаткам вайны...

— Але, але! — не даў дагаварыць рабін. — Я і ёсць той самы Мардуховіч!

Мы падышлі да самага Сожа і, абраўшы выгоднае месца, пачалі распранацца.

— Чаму вам абрыдла мястэчка і што вы робіце тут? — запытаў я, вельмі зацікаўлены.

— Я езджу па ўсіх мястэчках і вяду прапаганду за рэлігійнае ажыўленне, вяду сярод яўрэяў дыспуты з бязбожнікамі...

— За гэта што-небудзь плацяць?

— Вядома! Хто ж паедзе так? Ды яшчэ такі вядомы чалавек, як я? Канешне, цяпер людзі не такія шчодрыя, як раней. Яны не даюць і пятай долі ад таго, што калісьці давалі. Цяпер грошай больш усяго шкадуюць, жыццё зноў пачалі страхаваць! А моладзь зусім адышла ад рэлігіі, ні шэлега гарэлага ад яе не вырвеш, ды яшчэ бацькоў падгаварваюць... Але як там ні ёсць, а наша справа яшчэ моцная. Мне, напрыклад, ахвотна плацяць па 10 руб. за дзень.

— Праўда, па гэтым жыць можна! — сказаў я і ўсміхнуўся, параўнаўшы свой заробак з рабінскім. — Праўда! Справа ваша яшчэ моцная, мацней, чым папоўская!

— Але слабей, чым ксяндзоўская! Толькі ўсё гэта мне абрыдла: і грошы іх, і пашана. Вельмі хочацца дамоў. Два месяцы ўжо раз'язджаю і кожны дзень гавару, гавару, гавару. — Рабін пагладзіў свой напуклены жывот, пачухаў валасатыя грудзі, хвіліну памаўчаў і загаварыў:

— У мяне ёсць жонка, і яшчэ вельмі прыгожая жонка. Па праўдзе сказаць, я надта занудзіўся па ёй. Цяжка мне кінуць яе адну на такі доўгі час, і ой як страшна,

а самому хоць прападай. Гэтыя два месяцы я сам не свой. Усё думаю пра жонку, усё баюся за яе. А яшчэ трэба месяц валачыцца па гэтых мястэчках.

— Прыгожая жонка — турбота чалавеку! Але кажуць, што жонка рабіна, як і жонка цэзара, павінна быць вышэй усякіх западозранняў.

— Так было раней, а цяпер зусім не так. Вы ведаеце, што сказаў адзін разумны чалавек пра жанчыну? Ён сказаў: «Жанчына ў 20 год — дзікая, пустэльная Азія, у 30 год — гарачая Афрыка, у 35 — палкая Эўропа, у 40 год — вольная Амэрыка і ў 50 — закінутая Аўстралія».

— А ваша жонка да якой часткі свету належыць?

— Ёй 37 год. Кажуць, што ў гэты перыяд у жанчыну ўлазіць нейкі д'ябал ды абуджае звера. Цяпер ні за кога нельга паручыцца. Вы кажаце, што жонку рабіна ніхто не зачэпіць. Якраз наадварот. Празмусціць жонку духоўнай асобы — гэта так прынадна! Гэта самую рэлігію падрывае. Нават пачуццё граху не можа спыніць чалавека. Не было яшчэ выпадку, каб чалавек, якога захапіла каханне, ці, прасцей кажучы, — фізіялагічнае імкненне, спыняўся ці думаў аб грахоўнасці. Чалавеку гэта і з галавы вон! Такая гарачая кроў запылае ў жылах, так усё нутро загарыцца, што ніякае пекла, ніякі смяртэльны агонь, ніякі суд божы не запалохаюць чалавека. Што будзе далей — няважна. Пасля можна каяцца, але гэта позна ходзіць!

— Гэта праўда, і не зусім голая, як кажуць. Цяжка адзін раз перайсці мяжу, а пасля лёгка схадзіць у пекла! Альбо, як кажа народ, «усцервіўся воўк жарабятак рэзаць!». Вы гэта так кажаце, як быццам часта перажывалі гэта пачуццё ўсемагутнага любоўнага інстынкту, які не спыняецца ні перад чым. Ксяндзы, вядома, найбольш напрактыкаваныя ў гэтых грахох. Дый папы не ўпушчаюць моманту... А як рабіны? — запытаўся я.

Мардуховіч усміхнуўся:

— Рабіны — не! Скажу вам, што асабіста я чужых жанчын нават мязінцам не зачапіў!

Я палез у ваду. За мной нясмела, асцярожна ступаючы, пасунуўся і рабін, але, як вада дайшла да грудзей, ён спыніўся і пачаў, як дзіцёнак, плёскацца каля берагу. А я паплыў на другі бераг. Плывучы, думаў пра сваю жонку, якая не вельмі вернай мне была (як і я ёй). У гэтым годзе мне здаецца, што яна належыць і другому

чалавеку, таму, якога я паважаю, з якім я не магу парваць дачыненняў, якому я шмат чым абавязан. Я не хачу разблытваць гэту гісторыю, не хачу і не магу кінуць жонкі. Яна ні ў чым мне не супярэчыць, яна вельмі ласкавая, у яе няма дзікунскіх фантазій, яна проста скарб для мяне. І я нават баюся калі-небудзь захапіць іх... Я думаю, што ў гэты час там на дачы мая жонка не адна. Мне зрабілася лядашна, і, каб знішчыць дрэнны настрой, я моцнымі ўзмахамі пачаў перасякаць плынь ракі.

Мардуховіч выйшаў з вады і моцна расціраў цела шурпатым ручніком. Як нейкую надзвычайную навіну, ён паведаміў мне, што мае неўроз сэрца, праводзіць без сну ноч, усё думае, думае, думае...

Я зірнуў на ўсю постаць Мардуховіча, на яго напукленны жывот, і мне смешна зрабілася. Я прыпамятаў удалую характарыстыку, якую дае народ такім людзям: «На плечы тонкі, дык на пуза ўсядзісты!»

Я сказаў рабіну:

— Вам трэба фізічнай працай заняцца, трэба тлушчу пазбыць, ды кінуць сваю прафесію. Тады ўсё пройдзе! Па-мойму, ад сыці чалавек шалее, а кажа: неўроз!

— Бываюць дні, што я нічога не ем! А неўроз вельмі непрыемная хвароба! Я ў вас запытаю: што з вамі робіцца, калі жонка скажа: паляжы троху, а я сабе пагуляю. Што тады робіцца!

— Не ведаю! — сказаў я.

— А тое робіцца, што сэрца тыхкае, як не выскачыць! Так і са мною, калі пачынаю думаць ды вырашаць праклятыя пытанні. Сэрца стукоча. І так горасна робіцца ва ўсім целе і галаве! Ад таго і ночай не сплю.

— Вы ўжо не малады чалавек! Можа, ад гэтага? Пад старасць часта не спіцца! Нічога не зробіш! Быў конь, ды з'ездзіўся!

Рабіна, як відаць, зачапілі мае словы аб яго старасці, і ён энергічна адказаў:

— Па ўзросту яшчэ я не зусім стары. Я магу вам адказаць на гэта тое, што адказала адна тоўстая жанчына. У нас думаюць, што ў тоўстых жанчын няма запалу ў справах кахання. І калі я запытаўся ў аднае тоўстае жанчыны, ці праўда гэта, дык яна з пагардай адказала: «Пашукай больш тоўстую жанчыну і запытайся, няшчасны, у яе!» І я вам тое самае скажу: пашукайце больш старога чалавека, чымся я.

Мы апрануліся і пайшлі па сцежачцы, якая вінталём вяла нас на гару. Мы зноў ішлі моўчкі. Мне прыйшла ў галаву адна думка, і, калі мы падняліся на гару, я ўсміхнуўся і таемна загаварыў з рабінам:

— Я ведаю, чаму вы ноччу не спіцё, чаму ў вас сэрца б'ецца, чаму вы шмат думаеце і ні да чога не дадумаліся.

— Ну? — неахвотна адклікнуўся рабін, адчуваючы нейкія хітрыкі.

— А таму, што безнадзейная справа — абараняць цяпер рэлігію. Рэвалюцыя зняла прыгожы ўбор з яе, і цяпер выразна агалілася брыдота, распуста, глупства! Мне здаецца, што кожны разумны чалавек з вашага стану не можа не адчуваць страшэннае маны ўсяго гэтага, не можа не мучыцца.

Рабін нечакана схапіў мяне за руку і хутка загаварыў:

— Праўду вы кажаце! Ведаеце, як пачалася рэвалюцыя, у мяне часта з'яўляецца спакуса і моцнае жаданне расчыніць вочы людзям, якія яшчэ вераць. Ніхто з яўрэяў не можа так лоўка гэтага зрабіць, як я. Я мог бы напісаць самыя сенсацыйныя выкрыцці адносна Біблії і Талмуду. Я мог бы хоць кожны дзень даваць усё новыя і новыя факты і думкі супраць рэлігіі. Гэта так прынадна, што я, прызнаюся вам, спрабаваў пісаць такія карэспандэнцыі ў «Бязбожнік», але, напісаўшы, ірваў іх на мэтлахі. Неяк сорамна робіцца. Я не маю права гэтага рабіць!

— Не разумею! Чаму не маеце? Вы ўпэўнены ў правільнасці сваіх думак?

— Я баюся разбіваць ілюзіі. Рэлігію нельга разбурыць, бо тады будзе страшэнная распуста!

— Гэта недарэчнасць. Замест рэлігіі будзе новая мараль, больш чалавечная, свабодная і рэальная!

— Чаму ж цяпер у вас няма гэтае маралі?..

— Яшчэ мала часу прайшло, каб новая мараль афармілася, але яна афармляецца...

Рабін не слухаў мяне:

— Чаму так каламажыцца народ, якому няма прыстану, бо вы лейцы з рук выпусцілі, разбэсцілі яго? А чаму моладзь так матэрыялістычна, беспрынцыпна і прагна на грошы?

— Вашы словы хлусня! — раззлаваўся я. — Моладзь матэрыялістычна?! Так і трэба. Няхай прызнае толькі

рэальнае! Але ў яе сталыя, акрэсленыя прынцыпы. За грошы яе не купіце!.. Я не бачыў, каб яна цаніла грошы самі па сабе!

— Моладзь?! Ім усё гігікі! Усё яны гатовы вынесці на смех...

— Усё, што варта смеху...

— Дарэчы, я хачу запытаць, што азначае слова «абскурвант», якім яны абазвалі мяне ў адной іхняй газеце?

— Абскурант? Яно азначае прыхільніка цемры народнай.

— А я так і думаў, што гэта нешта непрыстойнае! Добра яшчэ, што ніхто з маіх прыхільнікаў не ведае сэнсу гэтага слова!

## II

Быў абедзенны час. Сеўшы на ганку, у цяні старых ліп, я глядзеў на вуліцу і людзей, якія сонна рушыліся па ёй. Выйшла гаспадыня дому і таксама на хвіліну прысела на ганку. Яе звалі Цыляй. Гэта была яшчэ маладая, прыгожая і чарнавокая жанчына. З белымі пульхнымі рукамі, вішнёвымі губамі, белымі як часнок зубамі і стромкай фігурай. Я думаю, што Цыля ў кожнага здаровага мужчыны безумоўна выклікала нейкую фізічную радасць, нейкае няяснае хваляванне ў крыві ад аднаго толькі ўзгляду яе вачэй... Цыля была поўнай процілегласцю свайму мужу Гіршу — слабаму, хударляваму, неахайнаму і немаладому мужчыну, які ўвесь дзень цацкаўся з дзіцёнкам, маленькім сынком Ёселькам, што ледзьве дыхаў і жыў.

Прыходзілася дзівіцца, што ад такой здаровай маткі з'явіўся зусім слабы адростак.

Цыля запытала, ласкаючы мяне сваімі вачмі і свежымі губамі:

— Ці не хочаце, таварыш, абедаць? У нас ёсць фаршыраваная рыба, ёсць крупеня, і яшчэ што-небудзь знойдзецца!

— Добра! Дайце рыбу, дайце крупеню, дайце бутэльку піва, — сказаў я, стараючыся ўкласці ў гэтыя словы ўсю сваю зацікаўленасць ёю. Я пайшоў услед за Цыляй і сеў за стол. Рабін, пабачыўшы, што я ўсаджваюся абедаць, выказаў жаданне паабедаць разам, заявіўшы мне развязна:

— Я люблю ў кампаніі.

Абедаючы, зноў гаварылі аб рэлігіі.

— Гэта праўда, што чым адукаваней чалавек, тым менш яму патрэбна рэлігія! — гаварыў Мардуховіч. — Я маю вялікую здольнасць самыя заблытаныя тэзы глумачыць проста, зразумела. Сярод яўрэяў няма такіх, якія выступілі б супроць мяне, калі я кажу пра рэлігію. Але пад сакрэтам скажу вам, што таксама я здолеў бы гаварыць і супраць рэлігіі, і тады не знайшлося б чалавека, хто гаварыў бы...

— Значыць, вы не шчыра кажаце? Не шчыра прапаганду вядзеце, а за грошы?

— Гэта не зусім так, — сказаў ён, пачырванеўшы. — Дагэтуль я шчырым быў, але гады два ўжо нейкі д'ябал супярэчнасці жыве ў маёй галаве, і я не ведаю, чым гэта скончыцца. Гэтыя два месяцы зусім змардавалі мяне і яскрава падкрэслілі, што хоць мы і маем патэнт на жыццё, але справа наша скончаная.

— Лагічны вывад?

— А вываду і няма. Калі цяпер рэлігію разбурыць, дык, зноў кажу, будзе распуста, людзі кінуць трымацца якіх-небудзь прынцыпаў, усё роўна як тая жонка, каторай муж усё дазволіў. Яна асмакавала густ у распусце і забажаліла яе, як зелля якога ці смерці.

— Рэлігія цяпер не можа быць кіруючым прынцыпам! Людзі пераралі рэлігію! — сказаў я, адчуваючы непатрэбнасць далейшай размовы.

— Я з вамі не згодзен! — не ўнімаўся рабін. — Для большасці людзей яна неабходна. Вось вам прыклад. Бачылі вы гаспадыню гэтага дому? Бачылі яе нікчэмнага чалавека? А дзіцёнка? Гэтай Цылі не такі мужчына патрэбен, і не такі дзіцёнак радзіўся б! Праўда?

— Праўда! — сказаў я.

— І вось каб не рэлігія, — урачыста сказаў рабін, — бацькі кінулі б гэтага рахітычнага дзіцёнка. Дужа ім трэба цацкацца! Толькі рэлігія і яе законы прымушаюць песціць гэтага заморка.

— Рэлігія тут ні пры чым. Інтарэсы роду, інстынкт пашырэння індывідуальнасці.

— Інстынкт сляпы! Яго трэба акрэсліць законам.

— Гэта можна акрэсліць звычайным законам, чалавецкім.

— Вось вам яшчэ прыклад, — сказаў рабін, — у ста-

рыя часы я меў шмат грошай і часта даваў людзям пазыкі на гаспадарчы ці гандлёвы пераварот.

— На працэнтах?

— Вядома! Дык вось мой вывад: тыя гандляры, што былі набожнымі, не скруцілі ні аднае капейкі, а хто быў так сабе, у каго была цверж натуры і вальнадумства, той часта кудысьці з'язджаў, і даводзілася яго шукаць законам, судом.

Рабін раптам змоўк. Ён зірнуў у вакно і пабачыў на вуліцы нейкага чорнага барадатага чалавека, які зрабіў нейкі ўмоўны знак. Мардуховіч папрасіў у мяне прабачэння і выйшаў на ганак, дзе завёў доўгую размову з барадатым чалавекам.

Я быў вельмі рады гэтаму. Рабін пачынаў выклікаць варожасць і пачуццё нейкай трухлявіны. Я пайшоў агледаць прыгожыя аколіцы мястэчка.

## III

Ноччу я доўга не мог заснуць на новым месцы. Здавалася, што па ўсім целе поўзаюць няўлоўныя агідныя стварэнні, якія выклікалі непераносную ісцу на целе. Я ніяк не мог супакоіцца, і толькі як запелі другія пеўні, на хвіліну задрамаў. Але раптам пачаўся моцны стукат у дзверы. На стукат ніхто не выйшаў адчыняць дзверы, але разам з гэтым (што мяне вельмі здзівіла) у пакоі гаспадара пачуўся нейкі таемны шэпт, нейкая мітусня, нейкае ойканне. Я падумаў, што нешта нядобрае здарылася, схапіў сярнічкі, хутка запаліў свечку і пайшоў да дзвярэй, дзе стукалі яшчэ мацней. Вачом маім давялося пабачыць дзіва: з пакоя гаспадара выходзіў рабін. Вочы яго былі апушчаны. Ён баяўся зірнуць на мяне і, цяжка дыхаючы, шмыгануў у свой пакойчык.

Я пайшоў да дзвярэй і запытаўся:

— Хто там?

— Я! — пачуўся голас Гіршы Карасіка. Уся гісторыя зрабілася мне зразумелай. Не ведаю, па якой асацыяцыі прыпамяталася калісьці абрыдлая латынь:

Facilis est
descensus averni!

А па-нашаму: лёгка дайсці да пекла!

1929

## Няпросты чалавек

Пілін завярнуў кабылу, падладзіў трохі сядзенне, падсадзіў на калёсы фінагента Сапрона Цяліцу, цмокнуў на кабылу, і калёсы ціха затарахцелі па мяккай зямлі.

Была вясна. Дарогі пачыналі прасыхаць, хоць у паветры павіснуў мяккі, па-вясноваму сыры туман.

За мястэчкам цягнулася вёска. Агент бачыў, як пастух першы раз выганяў кароў у поле. Яны млява расцягвалі сваё змарнелае з падцягнутымі бакамі цела, нюхалі паветра, ваду ў каўдобінках, нюхалі адна другую. Свіней яшчэ не гналі ў поле, і яны з меланхалічнай сур'ёзнасцю плюхалі па вуліцы, яшчэ граэнай і непавабнай для гарадскога вока.

Цяліца ўвесь час жыў у горадзе і цяпер зацікаўлена пазіраў на праявы вясковага жыцця.

Вунь стаіць зусім нерухома віхрастая свіння. Заплюшчыла вочы, спіць, а на хрыбце паважна расхаджвае сарока. Чагосьці шукае сваёй дзюбай.

— Ах, каб цябе нячыстая ўзяла! — зварочвае ўвагу агент. — Вось табе і сымбіоз! Шкада, што не ўзяў свайго Алёшкі. Вось узрадаваўся б.

— Сынок ваш?

— Так, 7 гадоў!

Цяліца прыпамятаваў сваё маленства на вёсцы, калі ён жыў у бацькі і быў так шчыльна звязан з гэтым жыццём. А цяпер ужо гадоў 15 дык і не заглянуў туды. Забыўся. Адарваўся. Накшталт перадавога чалавека стаў. Нават у душы смяецца з гэтае мізэрнасці і галоты. На словах — не! Няможна!

Пагана ехаць на гэтай Пілінавай падводзе. Усе вантробы выкалачвае. У мястэчку на базарнай плошчы было шмат падвод. Усё сытыя, здаровыя коні. А колькі было яўрэйскіх фурманоў! Кагалам абступілі агента. Кожны цягне на свой воз. А Цяліца ўзяў гэтага Піліпа з яго «лахудрай» — кабылкай. А чаму? Агент беражэ кожную капейку. У яго апрача «ляпёхі» — жонкі (як ён яе дражніць пад злосную руку) ёсць яшчэ трое шкілетаў-дзяцей. Невядома, па якой прычыне дзеткі не атрымалі ў спадчыну здароўя бацькоў, якому трэба толькі пазайздросціць. Іх трэба гадаваць смашнюткамі ды яшчэ да дактароў паказваць. На гэта патрэбны грошы,

грошы і яшчэ раз грошы. Ну, а Піліп дужа танна згаварыўся.

Яго кабыла ледзьве цягне. І не дзіва. Цяліца важыць пудоў 7 ды Піліп на малае пудоў 5. Каняка часта спыняецца, як быццам па сваёй патрэбе, і тады Піліп пачынае акампанаваць ёй, насвістваючы нейкую спецыяльную для гэтай справы мелодыю. А пастаяўшы ды перавёўшы дух, яна зусім нечакана дзёргае калёсы, і агент запракідваецца, лаячы і кабылу, і дарогу, і Піліпа, які не досыць добра адукаваў кабылу.

Праўда, настрой агента быў вясёлы. Усе гэтыя штукі толькі смяшылі гарадскога чалавека. Не менш цікавым здаваўся яму і гаспадар кабылы — Піліп. Нейкае новае стварэнне. Такіх раней не бачыў на вёсцы.

Піліп — здаровы мужчына гадоў пад 30. Увесь ружовы. Твар як булка. Кроў проста-такі пырскае. Абголены, толькі пакінуты на ангельскі манер два кусткі рудаватых вусоў. Шэра-блакітныя вочы з нейкім хітра-салодкім бляскам. Шырокая спіна, выпуклістыя грудзі, а рукі як лапы мядзведзя. На плячох матляецца нейкі лахман, увесь у лапіках. Нагавіцы ў абліпачку і таксама залаплены ў шмат мясцох. Усё цела так і выпірае з вопраткі. Быццам гаворыць: «Дзяржы мяне, а то вырвуся!»

Выехалі ў поле. Піліп, не спяшаючыся, развязаў торбачку і дастаў сотку гарэлкі, кавалак белага хлеба і тоўсты, шызы ад сала, селядзец. Наладзіўся палуднаваць.

Агенту да смерці захацелася гэтага селядца.

Але як сказаць? Жонка паклала яму ўсяго на дарогу, нават не забылася забяспечыць падарожніка падсалоджанай гарэлкай і пузаценькай бутэлечкай рому для закрасы ў гарбатку... Але гэта не тое. Селядзец так смачна пахне на свежым паветры — можна з розуму звесці.

Цяліца хціва глядзіць на Піліпавы махінацыі з селядцом. Сам пачынае выкладваць сваю пажыву і нібы раўнадушна кажа Піліпу:

— Бяры, калі хочаш, маю ежу, а мне дай селядца!

— Можа, і гарэлкі пакаштуеце?

— Што ж? Пі маю, а я тваёй свежай паспрабую.

Елі моўчкі: Піліп, гледзячы на хвост кабылы, які рытмічна махаўся каля самых калёс, а Цяліца глядзеў на магутную спіну і бычыную шыю свайго возніка.

Агент пачаў звычайную гутарку, якую заводзіў, калі здаралася гаварыць з сялянамі.

— Як жывецца? Палепшала троху? Як відаць, яшчэ не наладзіў гаспадарку?

— Не яшчэ! — павярнуўся тварам Піліп з выразным намерам выкласці ўсё. Тут, магчыма, праяўляла сябе гарэлка, а можа, і нейкі мяккі ўкрадлівы голас седака. — Ды праўду сказаць, жыву я тут нядаўна! А яшчэ сказаць, дык я не зусім просты чалавек!

— Ну? А хто ж ты? З паноў, ці як?

— Я гарадскі чалавек. А тут зрабіўся індустрыяльным чалавекам, а зямлёю мала займаюся.

— Я і падумаў так! Кабылка твая ледзьве цягне. Мусіць, не даглядаеш яе, як трэба... А чым ты займаешся?

— Выраблю самапрадкі... Дык завёз на рынак, прадаў ды еду цяпер дамоў.

— Што ж, добрая справа! — сказаў Цяліца, каб толькі што-небудзь сказаць.

Піліп пачаў выкладваць:

— Раней я ў горадзе быў, а тут жыву толькі гадоў 5, не болей. Як пайшоў я туды з 16 гадоў, дык толькі цяпер зноў сюды заявіўся, няхай яно прападзе!

— Што, зноў хочацца ў горад?

— Цягне мяне туды, як магнэсам! Ці ж такое жыццё? Чыста ўсё, анцілігентна. Разумныя людзі жывуць, і гэта самая індустрыялізацыя. Ці зіма, ці лета, а ўсё шуміць, гудзіць... А тутака як пачнецца восень ці вясна, дык адна ўтопія, па пуза ў гразі плывеш!

— Затое ў вёсцы спакайней, а летам дык нідзе няма лепш. Вось я сам да 15 гадоў жыў у бацькі на вёсцы, а цяпер зноў хочацца туды.

Піліп скептычна зірнуў на Цяліцу і, расцягваючы, махаючы пугай на кабылу, заўважыў:

— Вось як! Што вы скажаце? А я дык ніколі б не хацеў з гораду. Чаго сюды лезці, калі там табе ёсць месца... Мой бацька яшчэ жыў. А ў яго сыноў было як бобу. Трох на вайне забілі — двох на царскай ды аднаго на нашай вайне. А яшчэ двое нас братоў засталося. Ды яшчэ, праўда, тры дзеўкі цэлы, ну ды іх што ж? Іх ніхто не пазабівае, не ходкі, значыцца, тавар. Вось яшчэ перад вайной, як мне было 16 гадоў, бацька і паслаў мяне на заработкі ў горад. А там быў адзін наш чалавек, ён і ўпіхнуў мяне на работу.

— На заводзе быў?

— Не, не прыйшлося! Мясіў ды пёк абаранкі, булкі ды ўсялякія крэндзелі-мэндзелі. А быў я, прызнацца вам, дужа спрытны хлапец. Проста вулканізацыя, а не хлапец, як сказаў адзін праезджы на мяне. Ну мне хутка далі яшчэ павышэнне!

— Чын? Які?

— У цукерню перацягнулі. Ну, вядома, тут мне лепш стала. Грошы завяліся. Апрануўся па-гарадскому, хаджу, пасвістваю, як вольную гадзіну ўлучу... Пачаў папяросы пыхкаць, партабак сабе завёў.

Цяліца засмяяўся. Прыпамятаваў, як ён сам пачынаў сваю кар'еру ў горадзе і рабіў таксама, як і Піліп.

— А здароў я быў, дык нічога мне не шкодзіла! Усе дзівіліся. Цэльны дзень працую, а ўтомы няма. А к таму яшчэ быў я правільным чалавекам, чужога не браў. Для гаспадара я, вядома, знаходка, залатыя рукі, ногі і галава. Куды ні пашлюць мяне, што ні загадаюць — усё агнём гарыць, смалой смыліць. А за дзеўкамі ні-ні! Ні божа барані!..

— За дзеўкамі ні-ні?

— Ну слава пра мяне пайшла. Зэлік (мой гаспадар) не нахваліцца мною. Выслаўляе мяне, а я яшчэ больш выціскаюся. Вядома, дурань быў, не думаў, на чыё пуза працаваў.

Піліп смачна плюнуў: «Пра сябе дык і не думаў!»

— Зразумела, на Зэліка працаваў! Пэўна, цяпер не пайшоў бы да яго?

— Цяпер плюхнуў бы ў морду, каб пабачыў. Кажуць, з'ехаў у Маскву і ўжо сядзеў у турме за нейкія гешэфты... Вось цяпер адны транты нашу, ды сам сабе цар. А тады працаваў на гэту самую капітаклізму. Вы ведаеце «Савойю»?

— «Савойю»? Як жа? Некалькі разоў заязджаў! Можа, і цябе бачыў там!

— Можа, і бачылі! Ды пэўне ж бачылі, калі заязджалі.

— Ну?

— Часта я хадзіў туды па справах ад Зэліка. А гаспадар «Савойі» і заўважыў мяне. Дужа я ўмеў яму падладзіць. Іншы раз і сунець гасцінца ў руку. Ну і звоніць ён мне раз па тэлефону: «Піліп, — кажа так у тэлефоне, а я чую, ды на вус матаю, — зайдзі, — кажа, — да мяне, справа ёсць!» Зэлік жа не пушчае. Здагадваецца, у чым

тут справа і якая тут загваздка! Кажа мне: «Не йдзі да яго! Мішугенэ будзеш, калі пойдзеш! Ён цябе з'есць, і пэтрахаў не застанецца... Уй, гэта ж абдзірала, абскубала! Заставайся ў мяне, я табе накіну яшчэ пяцёрку. Дзе маё ні прападала?!»

— А ты пайшоў?

— А я ўлучыў хвіліну ды пайшоў у «Савойю». Хочацца мне ведаць, якая там справа. А там кажуць мне: «Заставайся за нумарнога, а на Зэліка плюнь ды растапчы. Вось табе трыццаць рублёў на ўсім на гатовым, ды яшчэ гасцінцаў будзеш мець ад прыезджых». Угаварылі мяне.

А Зэлік ні блізка, і нагамі і рукамі махае перад самым носам. Захапіў мае манаткі, пад замок іх ды яшчэ, падла, судом грозіць, што я па дагаворы не дабыў і ў страты яго ўвёў. Тут я як разышоўся, як грымну на яго: «Не хачу больш вазёкацца з тваімі лахардзікамі! Давай плату!» А ён: «Я табе нічога не заплачу, ні капейкі гарэлай!» А я: «Калі не заплаціш, судом выцягну ці задаўлю, на бісхаім маліцца пашлю ды яшчэ ўсім раскажу, што ты кладзеш у лахардзікі свае».

— А што ён клаў?

— Ат! Самую тухляціну возьмуць, падсмаляць, падсалодзяць, а паны ядуць ды выслаўляюць. Ну як запалохаў я Зэліка, той і збавіў крык. Перайшоў я ў «Савойю». Вось дзе жыццё пайшло, дык і ў сне не бачыў. Днём і ноччу ўсё круціцца. Тут ужо распуста пачалася ды шалёныя грошы. Тут ужо перастаў правільным быць. Прыедзе які-небудзь купчык з галоўныя Масквы, тут яму, як мартыха, дагаджай: пастаў, прыбяры, схадзі туды-сюды, а часам скажа ўзяць фурмана ды прывезці паненку...

— І гэтым займаліся?

— А то як жа? Ды яшчэ накажа, каб у капялюшы была, пад зонтай хадзіла, ды каб маладая, каб вочы гарэлі, каб было і тут і там. (Піліп рукой ілюстраваў свае словы.) Ну, нацалуецца, намілуецца купчык, дзесятку якую суне ў зубы, ды кацісь каўбасой. Адводзіш яе да прыстані, дзе жыве, а перад гэтым яшчэ да сябе зацягнеш ды, каб ведала маё дабро, сам з ёю ўцешышся.

— Эйш, брат! Лоўка ты выдумаў!

— А што ж? Навука нядоўгая. Яны ведалі, што абыякую не возьмеш, з вуліцы не прывядзеш, ну, адным словам, ад мяне залежыць.

— Весела табе жылося, — сказаў Цяліца. Яму не прыйшлося паспытаць вясёлага кабацкага жыцця. Пачаў у чынадралы ды яшчэ рана ажаніўся. Нават не ведаў, што такое іншыя жанчыны.

— Не дужа весела! Працы шмат было, асабліва калі мяне неўзабаве паставілі за старшага над нумарнымі. Тут я зусім звіхнуўся. Працую, працую, бегаю, бегаю, а як толькі вольны дзень, дык немаведама што раблю. На цэлы дзень забяруся куды-небудзь з мілашкамі, п'ём, усяго пробуем, а к ранню грошай як і не было. Дзеўкі апаланілі мяне, не вырвацца мне з гэтага пекла. Ды самі лезлі, як на ражон які.

— А можа, за грошы?

— Можа, і за грошы. А грошы вадзіліся. Бацьку дык дужа рэдка пасылаў. Так якую траячку на старэцтва спасылаеш. Распуста ўсе грошы забірала. А распусты было, дык і не ведаю, ці ёсць цяпер такая, ці не?

— Ёсць і цяпер, толькі менш. Закон карае.

— А рабочага сазнання не было! Ай дзе яму быць, падумайце самі! Пакруцішся каля паноў, пасмакуеш іх паскудства ды і сам засмярдзіш, сам пачынаеш на сваіх зверху глядзець.

— Ну, цяпер не так!

— Не ведаю, толькі вось нядаўна я быў у горадзе, бачыў сваіх старых афіцыянтаў, дык яны і цяпер не горш жывуць, а яшчэ і вальней. А на мяне і зірнуць не хочуць. Што я? Лапатнік! А падачкі, як і раней, бяруць, як уюны круцяцца. Праўду кажуць, што наша лёкайская група да сацыялізму тупа.

— Дык цябе туды не ўзялі?

— Я і не прасіўся. Неяк брыдка зноў пачынаць. А тут ужо гаспадарку, жонку завёў, дзяцей нарадзіў. А праўду сказаць — зямля ўцягнула... А тады... тады маладым быў, гарачым. Як у рыбы было малачайніку. Ну і збываў сваё здароўе, каму трэба, каму не.

— Цяпер угаманіўся?

— І цяпер яшчэ не магу на баб спакойна пазіраць. А тады быў першы змусціцель. Паверыце ці не...

Піліп засаромеўся і шэптам даказаў. Цяліца пачаў круціцца на калёсах. Любіў ён такія п'яныя размовы, хоць і здавалася яму, што хлусіць Піліп. Запытаўся ў яго:

— А сам нарваўся калі?

Піліп не зразумеў пытання.

— І мне часам пападала! За адну халеру ледзьве ў турму не запетавалі. Звязаўся я з ёю, дзеўка так сабе была, можна сказаць, — дужа прыгожая была. А вясёлая, значыць, — не прывядзі божа, ратуй. А грошы яшчэ больш кахала, чым мяне. Ну і падвярнуўся да яе купчык...

— З галоўныя Масквы?

— Не, з Клінцоў!

— Гуляшчая была?

— Не! Толькі яшчэ пачынала сваё маленства. Прывёз яе адзін раз да купца... Пачаў перамальваць ён яе, каб у Клінцы пераехала. Мяне злосць бярэ.

— А табе што? Жаніцца думаў, ці што?

— Не! Ды як жа. Можна сказаць, у людзі яе вывеў, абагаціў...

— Затое ж і з дарогі звёў.

— Ну, як было, дык было! Пасля мяне яна круцілася. Мне што: круціся сабе, як вятрак. А тут папярок горла стаў буржуаз гэты. Дыхаць не магу, як падумаю, што яна знюхалася з ім і думае яшчэ замуж за яго.

— Не ўзяў?

— А вось падумайце! Узяў! Пасля рэвалюцыі ўжо, і цяпер з ёю нэпам заварачвае. А па праўдзе сказаць, агонь была! Без яе цяжка жыць, калі звязаўся.

— Гэтым усё і скончылася?

— Не! Як падкаціла мне пад сэрца злаба, як варваўся я да яе. Захапіў іх на самым, як кажуць, сабатажы. Ён мяне выпіхваць, кулакамі пагражаць. А я не тут-то быў: схапіў за шкірку буржуя, трасу яго ды крычу як шалёны: «З кім ты бярэшся, гад? Я ж цябе расцягну, як мышу якую!» Ну і расцягнуў. Адну нагу выкруціў ды да морды пячатку прыклаў. А сам ходу. Адлежаўся ў больніцы, ды бах у суд на мяне... А тут вайна, мабілізацыя, так і замаглявалася ўсё. «Савойя» неяк замасліла. Толькі штраф заплаціў.

— На вайне не быў?

— Быў, ну нядоўга! Паранілі. Вось сюды прахапіла наскрозь. Месяцы два ляжаў бяз ніякае жывасці. У сваім жа горадзе ў шпіталі быў. «Савойя» і тут мяне абараніла. Дужа я патрэбным быў. Далі мне белую. Дахтары мяне ведалі. А з вайной што тут рабілася?! Афіцар'ё ды генэралы панаехалі. Бабы нейкія новыя намазаныя наляцелі. Шмат было працы. Як перад пагібеллю

шалелі: «Савойя» рэстаран яшчэ адчыніла. На маю долю рублёў 200 у месяц прыпадала.

— Усё прахам пайшло?

— Як ішло ўсё махам, дык і пайшло прахам. Самі задавіліся, і мяне прыдушылі.

— Цікава ты гаворыш! Давай яшчэ вып'ем троху. У мяне ёсць.

Цяліца выцягнуў бутэльку, глынуў нагбом і перадаў Піліпу. Той прагна дапіў. Гэта была ўжо не гарэлка, а нешта цягнучае, салодкае, смачнае, чаго ўжо даўно ён не каштаваў і пра смак якога забыўся.

Кабыла ішла пад гару. Напружвала ўсю моц, каб усцягнуць воз, але седакі не звярталі ўвагу на кабыліны мукі. Гаманілі.

— Як ты з гораду сюды папаў?

— А як пачалася разруха ды яшчэ другая вайна, жыць у горадзе цяжка стала. Мяне, праўда, на вайну не забралі, як у мяне белая ды яшчэ раненне. На гэта і наварочваў. А есці нечага. Паны некуды зніклі, як панялом вымелі бальшавікі. У галаве маёй нейкая разруха. Новы рэжым — на мітынгі бяжым. Слухаю ўсё, а пра бульбу ды хлеб думаю. Думаю, як бы да бацькі дабрацца. Спачатку ў сталоўку зачасаўся. А што там? Елі такое, што і сабакам лепш жылося. Ды яшчэ гэта вівальвацыя зрывала курс. Нічога нідзе сцягнуць немагчыма. Кожны над кавалкам дрыжыць. Армія і тая падыхае, не толькі я. А яшчэ хутка мяне скарацілі, як даведаліся, дзе і як я раней працаваў... Стаў я голы і босы, як апостал. Прыпала так, што збыў сваё дабро, ці, як кажуць, прадметы экіпіроўкі. А работы ніякай. Усе лічаць мяне прымазанікам буржуазіі. Ну, я і паехаў да бацькі.

— Тады толькі на вёсцы можна было сяк-так жыць.

— І я ж так мысліў. А як прыехаў — не па сэрцы мне. Гразь, утопія, жывых людзей няма. Усё думаю пра горад. Там прыйду на кватэру, на белую ложу лягу, — хоць галадна, ды чыста. А ў бацькі свінні, цяля ў хаце. Ды яшчэ гоніць мяне вон.

— За што?

— Кажа: чаго прыехаў, шалыган? Што ты прывёз мне? А я яму нічога не прывёз. Не столькі бацька злуецца, як брат. Яго бацька перад гэтым ажаніў, дык ён думае, што я яго долю адбіраю. А мне зайздросна. Пад-

ходзяць гады, што і самаму трэба племя мець. Тут і выйшла аблігацыя.

— Ну?

— Брат мой не фукульцяпісты, а жонку караваху ўзяў, мерцвяка і таго ўзніме. Жонка — як яешня, а брат — шкілет ды яшчэ палусвет — на адно толькі вока бачыць. Хоць і праўду кажуць, што мужык гладунцом не бывае, а я яшчэ не дужа згаладаўся. Кроў клёвала во як! Ну і выйшла падпольная сытуацыя!

— Не разумею!

— А тое, што падкаціўся я да братавай жонкі. З гэтага ўсё загарэлася. Прагнаў бацька мяне. Не хацеў я з ім судзіцца... Гора маё такое было, хоць мату прадайся.

— Бацька табе нічога не даў?

— Яго худобы я і не ўзяў бы. У яго нічога няма, а мяне яшчэ ўзялі ды прысудзілі аліменты аднэй дзеўцы.

— Ну, брат, і зух ты! Такіх я не бачыў.

— Быў грэх! Ці без гэтага абыдзешся? Была адна дзеўка. А звалі яе Суклета Самец...

— Так і звалі?

— Калі не верыце, я вам і двор яе пакажу. Якраз мы пад'язджаем... Ну, грэшным чынам, было ў нас з гэтым Самцом. Толькі не адзін я быў, а былі і другія. Ну, і наявіўся ў яе плод любові няшчаснай. Бацькі яе на мяне ў суд. А я не дурань. Бах заяву, што радзіцелі (так і пішу) азначанай дзявіцы Самец наводзяць на мяне паніку і даюць мне маральную аплявуху. І пішу яшчэ, што зачыншчыкам і застрэльшчыкам у гэтай справе я не быў.

— Выйшла што-небудзь?

— Не, нічога. Прысудзілі мне. А толькі дзіцё скора памерла, і я ні ў прычыне застаўся. Што мне было рабіць: бацька прагнаў, усе касавура глядзяць... Быў тут адзін самапраднік, я да яго, пачаў пасабляць і хутка навучыўся рабіць гэта бабскае прычэлле. А пасля кампаньёнам стаў. Скалаціў троху грошы ды купіў у саўхозе свіран за 120 руб. Ну, выйграў на гэтым — пакуль перавёз яго да сябе, дык 200 руб. яшчэ ўзяў за адну цэглу. Хату будую на 2 паловы. Ну, ажаніўся. Вось і ўся мая валакіта.

Здалёк з-за прыгорку высунулася царква.

— Гэта і ёсць нашыя Праскуркі, — заўважыў Пiлiп.

— А! Дык у вас і царква ёсць. А ты ходзіш у царкву, прызнаеш Бога?

— Няма калі ў царкву хадзіць, а да папа іншы раз заходжу. Ён праз вуліцу жыве, на самым канцы сяла. Ну і хітры чалавек, скажу я вам. Чыста жыве, хоць і ў хату затурылі. Умее жыць на чужым гарбе. Ды і то сказаць — заработкі лёгкія. Адшалдакаў, адбалдакаў ды гарні грошы ці хлеб.

— А ў царкву народ ходзіць?

— Царква не пустуе, а поп наш перадавы, дужа ўмее падысці. Дужа ціха жыве, нават сялянам заявы піша і нічога за гэта не бярэ, а затое на другім, па сваёй спецыяльнасці, здзярэ як трэба. Мяне цікавіць, што ён рабіў бы, каб царква запуставала. А то як пост — народ такі-сякі валіць, праўда, усё старыя. Шмат гэтых самых гавеннікаў.

— Ну, а ты гавеў?

— Ды не! Мне нялоўка. Я ж усё-ткі гарадскі чалавек!

Пад'язджалі да вёскі. Направа і налева яе, амаль што каля самага шляху, былі сады і паркі, як відаць, быўшых паноў. Піліп, паказваючы пугай, тлумачыў:

— Тут быў маёнтак Бэкендоршы. Вунь, у тым пакоі, дзе вокны вялізныя, панская лажніца была, а цяпер ячэйка. А тут быў другі маёнтак. Панок жыў, а сын быў неўдалюга, ну, а на баб дужа войстры.

— Як і ты?

— Цяпер у турме сядзіць.

— За што?

— У яго хацелі адцягаць зямлю ды дом, а ўсё выкручваўся. А вось ужо гады два як яго выселілі. Ну, яму не ў нос, помсты хочацца. Падгаварыў дурылу аднаго, той і падпаліў яго былы дом. А тут была дзеўка, з якой ён абшархаўся, а як наявіўся дзіцёнак, дык і не захацеў жаніцца. Кажа ёй: «Мне з табой не жыць. Хто ты? Я цябе не ведаю.» Ды ажаніўся з другой. А першая і абвясціла ўсё. Яго, галубка, і забэхалі ў турму. А ўсё з-за таго, што ў моду ўлезла гэта самае мнагажонства, ці палітэізм, як кажа наш поп.

Кабыла, пабачыўшы вёску, паняслася трухам і падвязла Цяліцу да новай, яшчэ не адбудаванай хаты. На сустрэчу выйшла маладая прыгожая кабета з высокімі пружыністымі грудзямі. Пачала адпрагаць кабылу, а гасця запрасіла да хаты.

Хата была чыста ўбрана, але вельмі бедна ўсё выглядала. Адзінай аздобай хаты быў добры дубовы ложак, які быў засланы распісною коўдрай і завалены гарой падушак, ды яшчэ варштат, на якім Піліп рабіў «бабскае прычэлле».

Піліп увайшоў у хату.

— Бачыце, якая аказэя. Хата гэта нам бокам вылазіць. Прашыкаліся на яе, што нечага есці. Людзі скарамяціну ядуць, а мы адну бульбу, нечым і пачаставаць вас. А тут яшчэ карова, няхай яе агні высмаляць, цялілася, цяля прадалі, а даіцца не дае. Хоць вый! Пасварыўся з жонкай — уздумала шаптуху да каровы запрасіць!

— Нічога. Глупства! — сказаў Цяліца. — Вось грошы, прыдбай дзе-небудзь яец, ды малака, ды яшчэ што ёсць. Разам і папалуднуем.

Піліп узяў грошы і выйшаў.

У хаце было трое дзяцей. Старэйшаму хлопчыку было гадоў 7, а двое былі зусім маленькімі.

«Набрахаў Піліп, а я і вушы развесіў. Казаў, што жаніўся гадоў 5, не больш, а дзіцёнак гадоў 8», — падумаў Цяліца.

Праз хвіліну яешня праглася на патэльні, а Піліп прынёс яшчэ піва. Цяліца запытаўся:

— Ты мне казаў, што жывеш тут усяго 5 гадоў, а ў цябе трое дзяцей. Нешта дужа спрытны ты!

— Большы хлопчык — не мой, гэта яе, — паказаў ён на жонку, якая зараз жа выйшла з хаты.

Піліп наблізіўся да Цяліцы і, як лепшаму прыяцелю, прызнаўся:

— З дзіцем я яе ўзяў. Казалі мне ўсе — не бяры яе, яна круцёлка. А мне спадабалася, нешта ўсё роўна як тая гарадская. Ну і што ж? Я жонку не звіняю. З нізавымі органамі нічога не паробіш. А яна была маладая, прыгожая.

— Ого, яна і цяпер маліна!

— Тут падвярнуўся адзін гад, дык і выйшла гэта прыключэнне.

Рукой Піліп паказаў на хлопчыка.

— Дзе ён цяпер?

— У свеце недзе. Быў агент з прадкому. Мадаміст быў. Кажуць, цяпер там на Каўказе жанілася гэта пералётная птушка. А жонку я люблю і не памятаю. А за што люблю, што яна майстрыца гатаваць стравы. Мой

гарнізон дужа пераборлівы, а яна ўмее здобнічкі пячы, каб толькі было з чаго!

У хату ўвайшла старая кабета з шапарлівым голасам. Зрабіла нейкія мігі і разам з гаспадыняй выйшла на панадворак.

— Гэта шаптуха Аўдоцця, пра якую я вам казаў, — дадаў Піліп.

— Карову загаварваць будзе!

— Жонка кажа, што няхай паспрабуе, а то малако перагарыць... Пра Аўдоццю слава на ўсю ваколіцу. Кажуць, яна ўмее нават лячыць ад няправільнага жывата.

Цяліца з Піліпам выйшлі зірнуць на карову.

Піліпава жонка трымала за рогі карову, якая здзіка глядзела, упіралася.

Шаптуха касавура зірнула на новага чалавека.

Піліп супакоіў яе:

— Не бойся, гэта свой чалавек. Я ў горадзе з ім жыў.

Аўдоцця пачала мацаць вымя, ногі, пахі і пуза каровы. Шаптала нейкую малітву. Прыезджы разабраў толькі частку яе, і гэта засела ў галаве, як вынік усяго дня:

Не дай ёй, госпадзі, красульцы,<br>
Ні нажнога ляганя,<br>
Ні хваставога махання,<br>
Ні раговага бадання!

1927

## Гармонія ў ружовым

Наш калектыў служачых канторы Дражджавога трэсту вельмі дружны. Мы часта збіраемся да купы на Закандырынскай вул., № 14, на кватэры нашага сакратара т. Белабрысіка. Там мы вядзём вельмі цікавыя і вострыя спрэчкі на бягучыя тэмы дня. Часта ў спрэчцы мы забываемся на ўсякія межы між дазволеным і недазволеным. Тады справа ў нас даходзіць да фізкультурнага вырашэння пытання. У гэтых выпадках жонка т. Белабрысіка т. Марта Белабрысіха супакойна бярэ гарлач з вадою і з выразам невымоўнага шчасця на твары разлівае нас. Гэта аперацыя не толькі праходзіць

бязбольна, але ўлагоджвае нас і настройвае ўсіх на вясёлы лад. Уласна кажучы, мы і збіраемся на кватэры Белабрысіка з-за яго жонкі, ветлівай і прыгожай гаспадыні, ад якой і пацярпець можна.

Пасля вадзяной аперацыі мы п'ём гарбату і потым зноў распачынаем спрэчкі, ужо менш крыважэрна, пакуль гаспадыня, пазяхаючы, заяўляе нам, што чалавек — не машына, без аддыхі гаварыць не можа. Гэта для нас — сігнал ісці дадому.

Асабліва любіць спрачацца наш бухгалтар Марка Белабус. Я часта дзіўлюся, скуль у яго ўсё бярэцца?! Дзе толькі ён не быў, чаго толькі не бачыў? На кожнае палажэнне ў яго ёсць ілюстрацыя ці контрпалажэнне, кожную думку ён падмацоўвае фактам. У мяне аж галава ходарам ходзіць!

Іншыя не дужа любяць Марку за яго ўсёзнайства, а я знаходжуся пад нейкім гіпнозам і часта слухаю Белабуса з адчыненым ротам. Магчыма, з гэтай прычыны ён часта гаворыць, звяртаючыся галоўным чынам да мяне, а на іншых глядзіць, як на неабходную дэкарацыю: адзін на адзін гаварыць не цікава, трэба, каб яшчэ было дзве-тры асобы!

Аднойчы мы ўсе разам з нашым бухгалтарам зайшлі ў таварыства «Прэч старыя транты», дзе доктарам т. Стрыкуліставым была прачытана лекцыя «Аб натуральным падборы ў шлюбы». Гэты паважаны доктар ездзіў у Амерыку, дзе вывучаў метады аздараўлення расы. «У Амерыцы, — гаварыў доктар, — у некаторых штатах шлюбы адбываюцца толькі па рэкамендацыі дактароў, якія дасканальна абследуюць усялякую фізіялагічную дастасаванасць аднае асобы да другой: рост, вагу, прыгожасць, сілу... Наша краіна, як самая перадавая па тонусу свайго развіцця, павінна дзяржаўным парадкам умяшацца ў развядзенне добрых, разумных, прыгожых, здаровых і гераічных людзей. І гэта зразумела, — казаў доктар. — Калі магчыма па нашай волі выгадоўваць завадскіх кароў, бугаёў і іншую жывёлу, дык значную долю энергіі і сродкаў неабходна затраціць на фізічнае і інтэлектуальнае аздараўленне саміх людзей. Няхай жыве новая парода людзей!» — закончыў сваю лекцыю доктар т. Стрыкулістаў.

Ніхто з нас ні славечка не выпусціў з таго, што гаварыў паважаны доктар, і, калі ён скончыў гаварыць, пачаліся самыя заядлыя спрэчкі.

18. Зак. 241.

Старшыня пры ўсім сваім дыпламатычным падыходзе і моцным галасе аніяк не змог падтрымоўваць які-небудзь парадак. Мы сцягвалі адзін другога з трыбуны, пагражалі кулакамі, калі нам не давалі гаварыць ці абмяжоўвалі наш час, і з пенай на губах выказвалі свае меркаванні аб спосабах аздараўлення народных масаў.

Асабліва вар'яцеў Марка Белабус, які проста абсароміў нас сваім праектам аздараўлення народу. Вакол нас усе крычалі:

— Адкуль гэты чалавек? Якое ён мае права свае дурацкія праекты тут выкладваць? Ганеце яго ў зашыйкі!

А мы маўчалі ды паказвалі яму кулакі.

Марка высоўваў такую драматургію: неабходна пабудаваць у гарадох і вёсках вялікія дамы свабодных, здаровых і прыгожых людзей. Дамы мужчынскія і жаноцкія! У гэтых дамох дазваляць сходзіцца толькі па дасканальным аглядзе дактароў. Усім іншым забараніць распаўсюджваць сваё племя, а самае лепшае — стэрылізаваць іх!

І калі на другі дзень мы ўсе сабраліся на кватэры нашага сакратара, дык першым чынам наваліліся на Марку за яго смеху вартае выступленне. Як толькі мы не лаялі яго! На гэты раз Белабрысіха разы тры ці чатыры разлівала нас вадой, бо Марка ўпарта даводзіў, што ўсіх нас трэба стэрылізаваць як нездаровых і непрыгожых людзей, а гэта, зразумела, выводзіла нас з раўнавагі.

Толькі пасля гарбаты мы супакоіліся. І тады Марка расказаў нам адну гісторыю, якая быццам ілюструе яго тэорыю. Мы заўсёды любім слухаць Марку Белабуса, хоць у большасці выпадкаў ён апавядае аб немагчымых падзеях.

У гэты вечар ён сваю гісторыю пачаў так:

— Трэба вам сказаць, што раней я служыў у банку. А камісарам у нас быў мой зямляк. Можа, вы яго ведаеце? Шкулепа! Ён з вахлакоў, як і я. Бацька яго і цяпер яшчэ бульбу сее ў нашай вёсцы Гніліцы.

Я аўдавеў, і кепска мне было жыць, хоць жонка і не паспела пакінуць дзяцей. Нейкая пустэльня і гразь наўкола мяне. І грошы невядома куды паўзуць! Вось адзін раз маё начальства — гэты самы Шкулепа — паклікаў мяне ў габінэт ды ўсміхаючыся кажа:

— Ведаю я, што ў цябе прытуга вялікая. Ты ўжо не

малады, каб за дзяўчонкамі конікаў пушчаць, а толькі аднаму жыць табе неспадобна.

Я ў тон яму, як партыйцу, і кажу:

— Правільна! Яшчэ Маркс заявіў: нядобра чалавеку быць аднаму, а трэба ў калектыве.

— Ну, гэта ты брэшаш! — заявіў мне Шкулепа. — Але добра! Ёсць на прымеце эканамічная база для цябе.

Я пытаю, што і як.

А камісар высвятляе: там вось і там ёсць яго знаёмая, якую кінуў муж; ёй няма з чаго жыць, дык яна хоча ўзяць на кватэру з поўным хлебам-соллю сталага чалавека. Дык ці не пайшоў бы я?

Я ўсміхнуўся, ляпнуў камісара сяброўскім чынам па жываце ды кажу:

— Напэўна, цаца, калі муж адрокся.

А ён мне:

— Не кажы так! Мала якая прычына, што кідаюць адзін аднаго. Можа, ён спалохаўся ды спасаваў перад нястрымным імпэтам?

— І гэта бывае! — кажу я.

— Схадзі паглядзі на гэту эканамічную базу, — кажа мне Шкулепа ды яшчэ дадае: — Каб я быў халасты, дык рукамі і нагамі павесіўся б на гэтай жанчыне! Не жанчына, а скарб, адным словам, эканамічная база!

Вельмі любіў камісар гэта слова і торкаў яго, куды трэба, куды не трэба.

Камісар дае мне яшчэ адрас яе і тлумачыць, як прайсці.

Вечарам таго ж дня я шагаю да яе. А чаму так скора? Мне дазарэзу трэба было пераехаць куды-небудзь: на старой кватэры нельга было жыць з-за аднае прышчуры, што навязалася да мяне.

Прыходжу я туды. Сустракае мяне бабачка так гадоў пад трыццаць, у поўным целе, твар ружовы, ямінкі на шчочынах, вочы трохі заплылі тлушчам, але гараць, як вугалькі, як рэвальверчыкі, страляюць.

Акідваю яе вопытным, напрактыкаваным вокам. Бачу: усё на месцы і ўсё неабходнае ў больш чым задавальняючым ліку.

— Што вам патрэбна? — пытае мадама ў мяне. А голас цягучы, гітарны. Узіраюся ў яе вочы-рэвальверчыкі, ды слова не магу сказаць. Не баба, а нейкая гармонія ў ружовым. Мне аж горача зрабілася. Усё цела як шпількамі хто коліць. Маўчу ды ўсміхаюся. Яна такса-

ма аглядае мяне. А я нічога сабе мужчына, самі ведаеце. Фізкультурай займаюся дый апранаюся з густам... Хоць праўду сказаць: якія мы людзі, а ёсць горш нас, нечага граху таіць! Адным словам, я досыць прыгожы і здаровы чалавек і нават думаю сабраць грошы і заказаць сваю скульптуру.

Пры гэтых словах Маркі мы ўсе закрычалі:

— Хваст ты! Гэта да гісторыі не адносіцца! Хлусня адна!

— Да душы, праўду кажу! — супакоіў нас Марка і без замешкі апавядаў далей: — Бачу я, што трэба мне гаварыць, а то за дурня ці за злодзея палічыць. Сабраўся з духам ды кажу: чуў я, што вы аддаеце 2 пакоі салiднаму чалавеку з поўным пансіёнам, на ўсім на гатовым!

Яна прыхільна ўсміхаецца і кажа:

— Калі ласка, прайдзеце далей.

Усаджваемся мы, і пачынае яна мяне дапытваць, дзе я служу, колькі атрымоўваю, халасты ці жанаты, адным словам, падсоўвае мне вусную анкету. Каб другая, дык паслаў бы куды трэба. А гэтай бабенцыі не магу адмовіць — запаўняю анкету. Прыйшлася мне даспадобы і заграбастала адразу ў свае лапы. Такім чынам, гадзіны чатыры мы з ёй прагалдамонілі. А на развітанне кажа мне:

— Не гневайцеся на мяне! Я павінна бліжэй уведаць вас. Прыходзьце яшчэ заўтра.

Я і на другі дзень прышагаў да яе ды засядзеўся да паўночы. Сяджу ўжо блізка каля кралі ды козыра ламаю. Што вы думаеце? Нічога! Справа ідзе! Песні мне спявала, ды як добра. Асабліва ўрэзалася мне, як пела яна песню «Каліна жарлівая ў лузе стаіць». Калі ж выходзіў я з дому, дык смела абшчапіў Лору (так яе звалі) ды плюсь яе ў самыя губы. Нічога!

Іду я дамоў ды ног пад сабою не чую! Думаю: ніяк не выходзіць, як узяць ды жаніцца! Прыйшоў дамоў, аблёгся на руку ды задумаўся. І снуецца ў думках маіх, як дзеці ў нас пойдуць, ды ўсе здаровыя, ружовыя! Самаго ж сябе малюю нейкім Сыленам з Вахчонкам на руках. А я такі чалавек! Чаго мне захочацца, хоць разарвіся — дай!

На трэці дзень нейкае свята было. Я проста пайшоў да яе зранку з цвёрдым намерам: або тое, або другое.

Прыходжу. Гаворым з ёю, гуляем па горадзе, нават

разам зайшлі ў музей аховы здароўя. А вы ведаеце, якія страхоцці ў гэтым музеі? Усё тое, што прырода дала, так скалечана, што жудасна глядзець. А Лора глядзіць. Відаць — першы раз бача ўсю гэту агіду! Як заварожаная разглядвае. А як выйшлі, яна пытаецца ў мяне:

— А вы хварэлі калі-небудзь?

Я кажу:

— Глупства ўсё гэта!

Кажу так, каб адчапіцца. Яна ж па вачох адгадала, што нешта такое было, што гэта зусім не глупства!

Прыйшлі мы на кватэру. Я адвярнуўся на хвіліну ды прытагосіў закусі, цукерак ды бутэльку кісляціны нейкай.

Селі мы за стол, і пачаў я справу ладзіць. Заву яе ўжо на ты ды прама рэзалюцыю чытаю:

— Досыць нам талмудзіцца! Безумоўна, мы павінны запісацца! У мяне пэнсія, у цябе кватэра. Ды нашто нам марудзіць?

— З усёй маёй радасцю, але тут ёсць перашкода!

— Якая? — пытаю я здзіўлена.

— А такая, што ты ўжо два гады жывеш без жонкі, дык мала што можа быць... Баюся я, што ў цябе якая-небудзь трасца...

«Ах, правал цябе вазьмі! — думаю я. — Ашалела баба!» Пачаў я даводзіць ёй. А ў мяне, як на зло, на губе нейкі бурдулёк прыкінуўся. Выходжу я з сябе ды злосна кажу:

— Дурняў не сеюць, самі растуць!

А яна падзуджвае мяне:

— Чым ты давядзеш? Дабудзь пасведчанне ад доктара, тады паверу табе!

Тут азарт захапіў мяне. Чаго тут саромецца? — думаю сабе. Можна тавар паказаць. Я не саромлівая мімоза! Бах з сябе кашулю, высунуў уперад грудзі: напукліў іх, напружыў мускулы ды тэатральна пытаю:

— Ці можа чалавек з такой камплекцыяй, з такой мускулатурай і торсам Апалона чым-небудзь хварэць?

Ёй нечага сказаць. Саромліва аглядае мяне, пачырванела ўся, а на сваім стаіць:

— Рупата чалавеку не пашкодзіць! Вазьмі пасведчанне. Тады супакоюся.

Тут я не сцярпеў.

— Не чалавек ты, а зялезнае дрэва, што тоне ў ва-

дзе! — крычу я. — Можа, табе паказацца ў чым матка радзіла?

— Не трэба! — махае яна рукамі. — Чаго ты ўсшэрсціўся? Калі здароў, дык чаму не згодзен? Відаць, ёсць прычына...

«Пачакай жа! — думаю я. — І я цябе ўматаю».

— Добра! — кажу ёй. — Я схаджу да доктара, але і ты павінна гэта зрабіць. Я таксама не ведаю, з якой прычыны цябе муж кінуў.

— Ты першы схадзі да доктара, тады я!

— Не, ты першая!

Спрачаліся мы, спрачаліся, а потым абрыдла мне ўсё гэта. Схапіў я яе, моцна абшчапіў ды прыціснуў да сэрца...

На другі дзень мы і запісаліся, а праз месяц распісаліся.

Гэты канец нас усіх вельмі задзівіў.

— Чаму так скора? — закрычалі мы.

— Фізіялагічна не падышлі адзін да другога! — заявіў аўтарытэтна Марка Белабус. — Адным словам, як казаў доктар Стрыкулістаў, фізіялагічная недастасаванасць суб'ектаў!

— Калі верыць вам, дык цяперашняя ваша жонка па ліку трэцяя? — запыталася Белабрысіха.

— Ня трэцяя, а чацвёртая! Гісторыю аб трэцяй жонцы я не маю намеру расказваць! — заявіў Марка Белабус, падымаючыся з месца і развітваючыся з усімі.

— Раскажаш калі-небудзь! Не ўстрымаешся! — хорам заявілі мы, добра ведаючы натуру Маркі Белабуса.

1927

## Камандзір

— Ого! Цяпер я сцішыўся, цяперака я ўхадаваўся! Што я цяпер? Самы ціхі чалавек у вакрузе. Жонка, дзеці, жыву, як расліна! Асеў на зямлю ды цягну яе, як цяля карову. А калісьці я быў герой. Чаго вы смяецеся? Што?.. Ці быў я на вайне? На якой? На нашай быў! З 18-га году, а было мне тады 22 гады, як лёду...

Падарожны памаўчаў, падкінуў у вагонь трусу, не

спяшаючыся скруціў сабачую ножку, запыхкаў моцнай махрой і пачаў нам расказваць.

— Я і цяперака калі што будзе, дык першым у пекла пападу. Мяне, бачыце, камандзірам зрабілі.

Начлежнікі зарагаталі. Брудная сялянская кашуля, абмазаная каланіцай світка, смаркаецца саматужным спосабам... Камандзір!..

— А як гэта выйшла? Пераказаць, дык не дасцё веры! Было гэта тады, як немцы захапілі наша мястэчка. Сталі яны мне папярок глоткі!

Не магу на іх глядзець, не хачу пад імі, храпаідаламі, быць. Узяў ды драла ад іх.

Еду сабе ў Бабруйск. І там нямецкія капіталісты імперыялізм разводзяць. Я яшчэ далей пасунуўся, а яны ўслед па пятах, ну, проста некуды дзецца.

Прыязджаю я ў Клінцы. Што ты скажаш? І тут яны. А са мной ехаў яшчэ адзін пісталет, звалі яго, як і мяне. Віннік. Толькі мяне Хвёдар па празванню, а яго Мартын. Цяпер няма яго на свеце. Загінуў у завірусе і костачак не пакінуў. Добры быў хлапец, хоць і браценнікам мне прыводзіўся.

Распыталі мы пра нашых. Кажуць нам, што гвардзейцы тут недалёка стаяць, а дальш немцы ўжо не пойдуць.

— Пачакай! — кажа мне Мартын. — У мяне канбенацыя!

— Якая? — пытаю.

— Хадзем, запішамся ў гвардзейцы!

— Што ты ачмурэў? Мы ж не ведаем, што ёсць стрэльба! На смех, ці што, йсці?

А мы з ім да гэтага часу грузавікі цягалі, з вінтоўкай ні бэ ні мэ не ўмелі.

— Нічога, — кажа Мартын, — за спыт не б'юць у хрыбет. Людзі ім патрэбны.

Пайшлі мы шукаць нашых. Бачым — вёска. Зайшлі ў адну хату. Праўда, гвардзейцы сядзяць, а лахматыя, мурзатыя, як мядзведзі. Сядзяць у чырвоных шараварах ды гуляюць сабе ў лісцікі. На нас і вокам не міргануць. Сваю справу робяць. А каля сцяны стрэльбы стаяць.

Мартын мой як звар'яцеў. Цап за стрэльбу ды давай яе мацаць, давай яе круціць, кулупаць, давай яе ляскаць, што і як.

Гвардзейцы ўшчупусіліся. Хто такі? Адкуль? А, ня-

мецкія прысцябаі?! За мурмалку нас — і пацягнулі пад расстрэл...

Ну, можа, не пад расстрэл, а так... пажартаваць.

Я бачу, што справа, канешне, дрэнь. Давай кавярацца, гарадзіць што папала. Аўтарытэтна заяўляю, што магу быць камандзірам дывізіі, а мяне пад расстрэл пхаюць. Насмяшыў іх. Тут і Мартын пасмялеў, і ён свае словы торкае. Рагочуць гвардзейцы, а тады раптам кажуць: «Ты будзеш камандзірам 3-й роты». Гэта на мяне так. «А ты, — кажуць на браценніка, — будзеш камандзірам пешай разведкі».

Так і прайзвялі нас у чыны. А мы, ведаеце, ні бэ ні мэ! Ні ойча наш, ні Багародзіцу. Толькі, праўда, лаянкаю добра крылі. 6 месяцаў былі мы ліпавымі камандзірамі. Спачатку дужа смяяліся з мяне. Я і сам канстаціраваў. Які я камандзір? Не ведаў нават, як і стрэльбу трымаць, а пра каманды ці маршы і не пытай! А хоць і смяяліся, ды прызвычаіліся да мяне. Ды чаго было смяяцца? Чалавек за іх рабочую справу ідзе. Пачалі некаторыя з іх троху падвучваць мяне, падраўноўваць. Так з грахом папалам трымаюся ды баюся, каб за шкірку не выштурхнулі.

А тут, на табе, чэхаславакі! Мяне фурць на тэй фронт, з усёй маёй басатэрыяй. І Мартына таксама. Еду, а сам думаю сабе, як я там буду ваяваць, як буду камандаваць. Гэта ж не жарты! Усунуць гарматы, кулямёты, што я буду рабіць? Не сплю ночы, як еду ў цялятніку. Усё думаю: правалю рэвалюцыю!

— Праваліў, ай не?

— Не праваліў! Страляем па чым папала! Якая там каманда! Айдзе ўсе, там і я! Вочы ў мяне зіркія, як у арла! Пабачу, як крадуцца белыя, ды камандую пасвойму: «Ото-то! Ото-то! Вунь, вунь! Лупцуй яго! Клей яму ў... Вунь яшчэ паўзуць! Перанось туды агонь!» — А сам авангардам лезу на ражон.

Адным словам, не быў трышкай! Вясёла было хлопцам са мной.

Аднойчы абадралі мы нейкага пана. Паадбіралі ў яго ўсё чысценька, што трэба, што й не трэба! Наша часць сабрала 12 грамафонаў. А тут белыя насядаюць. Мы паставілі грамафоны на калёсы, закруцілі іх ды ў атаку. Во смеху было! Белыя аж аслупянелі, як мы з грамафонамі тарарахалі. Далі дзёру яны. Усё я быў

завадатай. Мартын так і дражніў мяне «грамафоншчык».

А яшчэ скажу вам, я з ліпавага камандзіра выйшаў на чырвонага ахвіцэра. Можа, мяне трэба было тады ліквідаваць. Нарабіў я бясчынства, ой-ёй-ёй! Цэлы кодэкс парушыў, пад касцёл шмат каго падвёў. Толькі і пашкадавалі мяне за мае маладыя леці ды паслалі падвучыцца.

Падарожны азірнуў усіх, хто сядзеў каля агню, як быццам хацеў пераканацца, ці ўважліва яго слухаюць, і потым, гледзячы на вогнішча, загаварыў:

— Стаялі пад Кунгуром, біліся некалькі дзён, а як перайшлі яго, дык і далі нам два дні падправіцца. Адна беспартыйная баба, гадоў так пад 70 будзе, перадала нам на вуха, што тут недалёка ёсць маёнтак генерала Уварава. А стаіць ён у пушчы-драмушчы. І там можна таго-гэтага здабыць. Ну, першым чынам узяліся мы правесці там каналізацыю, бо ў нас коні ўсе былі ануліраваны, дык мы задумалі забраць генеральскіх коней.

Што ж? Смела ідзём туды. Валім проста на стайні, а без ніякага дакладу. Баявым — нейкі прыстаўны самасуй не дае нам праходу. Кажа: «Ідзеце да генерала, а я тут ні пры чым!» Мы на яго як цыкнулі: «Што ты, лупі тваю прасвятую, чужога дабра сцеражэш! Стражнік знайшоўся!» У хрыбет яго. Той перакуліўся ды драла ад нас.

Толькі пачалі брацца за коней, а генерал толькі гэтага і чакаў. Свіснуў у сурчок, а выскачылі немаведама адкуль сабакі і давай нас рэзаць, давай нас шкамардзіць. Аж пер'е ляціць з нас. Мы адбівацца. Толькі дзе там?! За самыя кволыя месцы хапаюць...

А было гэта перад вечарам. Сам генерал выйшаў на ганак, смяецца, а ўсмешка яго проста як у вакулы імперыялізму. Што нам рабіць? Хоць круць-верць, хоць верць-круць, дык больна выходзіць.

Крычу я не сваім голасам: «Душу табе распятушу, калі не ўсцішыш сваіх ваўкарэзаў». А ён злосна смяецца ды крычыць нам, як з трубы трубіць: «Вы мне свабодна можаце не ўказваць, хамуйлы! Чаго вы тут? Вон адгэтуль! Гэта маё дабро!»

Узарвала мяне гэта панская працадура. Стрэліў я ў генерала. Не папаў! Схаваўся ён у дом, прытаіўся каля вакна ды з рэвальвэртам падсцерагае. Бачым мы: справа зноў дрэнь! Зноў у нас кампотны настрой! А сабакі

на мэтлахі разносяць нас, без дзяцей пакідаюць... Давай мы іх чысціць ды патроны на злыдняў траціць. Як-ніяк разагналі, а каторых перабілі. А трох з нас моцна паскублі — у шпіталі адлежваліся.

Узяліся мы за генерала. Уварваліся ў яго логава. Пан дрыжыць, як у трасцы, чуе, злодзей, што не здабраваць яму.

Абкруцілі мы рукі яму... Як цяпер, бачу я генерала гэтага. І пагоны, і ўсё на ім было. Як відаць, не паспеў збегчы. Тлусны быў, як кабан, твар чырвоны, вочы маленькія, злючыя, калючыя, як у восвы, ды яшчэ тры падбародавічы.

Заляпіў я пану поўху, аж зашчочына пачырванела. А пасля троху аддыхаўся і сказаў яму слова моцнае:

— Слухай, ты, анцімонія чэхаславацкая, — так гаварыў я, — слухай, ты, гадава яйцо! Мы нічога не зрабілі б табе, мы абышліся б канкрэтна і далікатна, каб ты не захацеў згубіць рэвалюцыянераў. А ты ваўкарэзаў нагнаў на нас, пачаў нас сабатажнічаць. Кружануў яго яшчэ разы тры лаянкаю. Душа з мяне парастоўпам выходзіла ад злобы. У канцы крычу яму: «Досыць вам, паночкі! Наёрзаліся вы на нас, наёрзаемся і мы на вас. Сухапутныя чэрві вы! Раздавім мы вас без жальбы».

Схапіў я генерала за карак ды штомоцы ґрук яго аб зямлю.

Тут раптам уваходзіць генералава дачка. Браткі мае! Што тут зрабілася са мною! Пацямнела ўваччу. Такой красы я не бачыў. Уся ў белым, як малінка, а вочы, вочы ярыя-ярыя, бліскучыя! З пагардай пазірае на нас. У мяне і язык адсох.

Кажу ёй: «Мы не хацелі вам зла рабіць, а ваш генерал-айцец неблагародную структуру замысліў, і мы не можам гэтага так кінуць. Генерал ваш адкажа перад рэвалюцыяй і намі. Не памрэ ён сваёй скорай смерцю».

Паненка ўся задыхаецца. «Вы бандзісты, — крычыць. — Што вам тут трэба? Чаго вы ўварваліся ў наш дом?» Тупае на нас нагамі.

А я, як камандзір, галантарэйна кажу ёй: «Дом ваш цяпер ужо наш, і ўсё ваша будзе наша». Давай ёй палітграмату чытаць. Але яна не слухае, а сваё буржуйскае трубіць. За кожным словам джала торкае ды зачапляе нас за жывое. Вядома, змяіны выпаўзак, дык і джыгае.

Гляджу я на яе ды любуюся. Вочы гараць і цягнуць

да сябе, як смерць ці прадонне. Думаў я скалатушыць генерала, ды дачка прыйшлася ў панараў.

Загадваю сваім хлопцам: «Засадзеце генерала ў каморку якую ды на замок зачынеце, каб не выдраўся, а заўтра мы будзем судзіць яго судом рэвалюцыі і смерці». Пасля маё войска размясцілася па пакоях, дзе два, дзе тры чалавекі. А пакояў шмат было.

А сам я пайшоў з генеральскай дачкой аглядаць усё. Што ж? Яна, сцяўшы зубы, паказвае мне ўсё, тлумачыць, што, як і айдзе пакладзена. Мяне і сон не ўсіляе. Гляджу на яе ды дзіўлюся яе маладосці ды зграбнасці. Павяла яна мяне яшчэ ў сад. Праўда, я з рэвальвэртам іду: а можа, пастка якая на мяне нарыхтавана. Не! Ходзім мы па сцежачках. А па траве шмат было іванавых чарвячкоў. Яна ўсё пазірае на агоньчыкі ды нешта думае. На мяне не глядзіць. А я ўсё роўна як у агні. Чую, як кроў булькае, гарачым комам падхлынае да сэрца. Усё цела напружваецца. Але стрымліваюся і вяду палітычную разгавору. Пачынае і яна гаварыць. Пытае мяне, дзе я жыву, у якім месцы і ці вялікае пратэжэ ад майго дому.

А ўсе словы свае пераводзіць на тое, каб мы з бацькам яе нічога не зрабілі. Я ёй заяўляю: «Калі вы так просіце, дык можна зрабіць зніжэнне: даць 3 ці 4 гады смерці ў турме, а нічога не прысудзіць нельга».

Яна бача, што я падаўся, ды яшчэ просіць, а вочы так прыхільна, з абяцанкай пазіраюць на мяне. У мяне сэрца так і ёкае, тыхае, як матор.

— Пайка яго, што вы так кажаце. Каб не вы, прапаў бы бацька ваш. — Бяру паненку за руку ды кажу: — Толькі ведайце, што кожны па сваіх мыслях схапвае, і вы павінны гэта памятаць.

А яна перабівае разгавору, каб я не дагаварыўся, ды кажа: «Хадзем у дом — будзем гарбату піць». Што ж? Мне і не хочацца, але ідзём.

Заходзім у яе пакой. Чалядка прыносіць гарбату. Усё так чыста, прыгожа, шклянку дае на бліскучай падносе.

Выпілі мы чай. Я заводжу зноў палітычную разгавору. Скуль і словы ў мяне бяруцца. Пытаю: «Ці няма ў вас Ямелю Золю прачытаць? Я вельмі люблю праступджваць сябе літаратурай». Яна ўсміхаецца: «Не! Ямелі Золі такога не чула. А што вы чыталі яго?» А я, братцы,

яй-богу, нічога не чытаў, ніякіх літаратур. Пачырванеў троху, ну не дужа.

Гаворым мы з ёй такім чынам. Страшэнна мне хочацца любезнасці гаварыць ёй ды гладзіць яе, пісклёнка. Такая была прыгожая ды ўбраная! Пад канец нейкая шайтанская сіла ўссела на мяне. Нічога не зраблю з сабой — душа стала хацімая.

А было позна ўжо. Людзі паўспаліся. Самы сон. Цішыня вакол.

Я і падсунуўся да яе. Паненка ні божа мой, крычаць хоча, адбіваецца, як замахнецца белай ручкай — усё у месяц мне пападае. Валтузіўся я, валтузіўся з ёю. Бачу — незмага па-добраму ўзяць. Падмануў яе ды нахрапам дабіўся свайго. Зусім знямог, аж запышку нагнаў. Нічога не ведаю, дзе я і што са мной. Усё цела томнае, і жывот томны. Ляжу як нежывы.

А паненка плача, раве, як ваўчыха. Раптам трах — разарвала на сабе сарочку ды кідаецца на мне, кусаецца, статуямі швыргае ў мяне. Я супакойваю: «Што ты сшыманела, дзевачка? Нашто ты сарочку пашкуматала? Людзі смяяцца будуць! Шустра ты, паненка! Хочаш з печы зваліцца і сядзелкі не пабіць». Так па-мужыцку і кажу ёй. «На тое рэвалюцыя, кажу. Не толька мы пакутуем, а і вы, паночкі, жыццю будзеце не рады. Не будзь сярдунняй — пераходзь да нас. Будзем жыць з табой, а не, дык усё роўна будзеш праз наш кій скакаць».

Паненка здзіка зарагатала, вочы загарэліся. «Ніколі гэтага не будзе! Зняславіў ты мяне, і я адпомшчу. Не будзеш ты жыць, хамуйла!» Хоць і лае мяне, а шкада мне паненкі. Супакойваю яе: «Дос табе! Ці ты яшчэ не нарвалася? Падумаеш, вялікую шкоду зрабіў я табе! Усё пройдзе, а мы застанемся. Зробленага не вернеш. Прырода такая мая. Сам не ведаю, як праштрапіўся. Мужчына я, а ты такая прыгожая». Зноў пачаў з ёю гурды-мурды.

Яна маўчыць, толькі слёзы ціха коцяцца. Можа, усё і абышлося б. Але тут і выйшла катастрофа. Генерал выдраўся з каморкі, нехта выпусціў яго. Ляціць проста да нас. Як убачыў ён усё ды ў чым дачка яго — страшэнна з'ёрчыўся, пагнула ўсяго, што жудасна глядзець. А тады схамянуўся, выхапіў рэвальверт ды бац у мяне. У руку мне загрэў. А я і забыўся, куды дзеў свой рэвальверт, як падаў за паненкай. Баба каму галаву не

скруціць? Адчай на мяне найшоў. Кінуўся я да пана, бац яго галавой у пуза, а рукой за аружжа, ды лоўка адабраў. Пан уссеў на мяне, перакурдыкнуў мяне. Здаровы быў, як кабан. Падкорчыў мяне пад сябе ды ўсё ляп ды ляп па ўсёй абліччы, содзіць, як капусту. А сам пыша, як жарэбны воўк.

Тут і дачушка падскочыла, б'е мяне пантофляй па твары, па пузе ды па чым прыйдзецца. Збіваюць мяне на катлеты. Кампотны ў мяне настрой. Ніякай дынамікі ў мяне. Рэвальверт не аддаю, а ўзвесці сабачку няма магі. Але як-та напружыў усю моц ды стрэліў. Пана ў нагу чыркануў. Той на момант адскочыў, а я яшчэ раз — прамазаў. Тут шчасце маё, што хлопцы пачулі страляніну, ды двое з іх мяне ратаваць.

Схапілі мы генерала, звязалі яго вяроўкамі, а дачка ўцякла, схапіўшы мой рэвальверт. Дзе яна яго знайшла — не ведаю.

Як звязалі пана, добра я насмяяўся з яго. Прыплюснуў адно вока ды кажу яму: «Што? Не па носу прыйшлося, як мужык тваёй дачкой пакарыстаўся? Толькі я не хацеў гэтага. Яна сама. (Кажу так, каб больш раззлаваць яго.) Прырода, пане, нічога не зробіш. Ты сам прычынны ў гэтым». Так кажу яму. Пан аж сінее ад злабы. Даю яму яшчэ фігуру савецкую пад нос, абы толькі насаліць.

Руку мне перавязалі. Ные праклятая — косць, як відаць, зачапіў.

Абкружылі мы ўвесь дом, давай парадак наводзіць. А дачка яго залезла ў пакойчык з вакешкам на калідор ды страляе ў нас адтуль — нельга прыступіцца. Як звар'яцела. Двох з нашых, што першымі пасунуліся, паклала на месцы. А патронаў пры маім аружжы было штук 40. Ну, бачу, справа дрэнь. Узяў я гранатку 7-хунтовую ды бэнц у вакешка. Там ад яе мокра зрабілася.

Праўда, як забіў я яе, усё ўсярэдзіне ў мяне захаладзела, як быццам адарвалася што. Такая яна была прыгожая, маладая.

Прыходжу да генерала. Ляжыць скручаны па руках, па нагах ды плюецца крывёю. Кажу: «Дачка твая ануліравана! Цяпер твая чарга. Павядзём цябе ў падзямельны аддзел». Хлопцы як крымзанулі пана, з таго й дух вон. Як у песні пяецца: «Труп яго свежы зарылі ў тую злавешчую ноч». Ну толькі гэта было, як развіднела. Сонца выкатвалася.

Пачалі мы дапытвацца, хто выпусціў пана, адкуль у яго аружжа. Дабіліся, што прыслужнікі былі ў прычыне, асабліва тая вастраносая, што нам гарбату падносіла. Узялі мы яе на рэмус. Пыталі ў яе, дзе яна ў тэй час была, ну а яна адказала: «Гэта душэўная тайнасць мая». Ну, мы і яе не пашкадавалі. Ды яшчэ двох-трох пакрыўдзілі. Адным словам, нарабілі мы бясчынстваў. Канешне, хто ў гэтым вінен? Камандзір! Пераканаліся, што камандзір без усякага крэда і толькі падрываю аўтарытэт рабочай і сялянскай арміі. Скінулі мяне з камандзірства, засадзілі ў турму, судзілі мяне. Суд, пабачыўшы мае маладыя леці, дараваў мне, вярнуў у часць. А там накіравалі мяне на курсы, дзе я зразумеў, які я гад быў і што няправільна разумеў усё. Цяпер мяне ўжо не паддзенеш.

Дык вось як было са мною. А вам здаецца, што я ціхі чалавек?

Агонь патухаў. У недалёкай вёсцы пачуліся пеўні. Ніхто не адказаў Віньку на яго запытанне.

1927

# І вечная табе любоў, мой родны край

*Краязнаўчыя матэрыялы*

# Краязнаўчая праца ў раёне

На працягу апошніх год ЦБК* мела магчымасць улічыць калектыўны вопыт працы нашых раённых таварыстваў краязнаўства і на падставе вынікаў гэтай працы вызначыць формы і змест краязнаўчай працы ў тым ці іншым раёне. Зразумела, што яшчэ няма ніводнага раённага таварыства краязнаўства, якое ў сваёй працы ва ўсіх напрамках з'яўлялася б узорным. Прычыны гэтага для нас зразумелы: няпоўнае афармленне нашага краязнаўчага руху, слабая падрыхтаванасць нашага масавага краязнаўцы, адсутнасць мінімальнай зацікаўленасці з боку грамадзянства і ўстаноў да гэтай працы, перагружанасць краязнаўцаў іншай грамадскай працай і г. д. Але ў працы паасобных раённых таварыстваў краязнаўства за гэты перыяд выявілася шмат характэрных, карысных, цікавых рысаў, якія далі магчымасць ЦБК аб'яднаць гэты калектыўны вопыт і зрабіць вывады як у арганізацыйным напрамку, так і ў напрамку метадычным і даследчым. У гэтым артыкуле мы хочам паказаць тыя шляхі, якімі развіваецца краязнаўчая праца ў раёне.

## I. АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ПРАЦА РАЁННАГА ТАВАРЫСТВА КРАЯЗНАЎСТВА

Раённае таварыства краязнаўства такая арганізацыя, якая прэтэндуе і павінна прэтэндаваць на планаванне ўсяе краязнаўчае працы ў раёне. Каб гэта планаванне ішло правільным шляхам, каб не было тыповых для нашых умоў «заняпадаў» краязнаўчай працы, неабходна раённаму таварыству ў першую чаргу правесці дасканалы падлік як паасобных краязнаўцаў і культурнікаў, якія могуць прынесці карысць для вывучэння раёну, так і тых гурткоў, дзяржаўных устаноў, грамадскіх арганізацый, якія па сутнасці вядуць краязнаўчую працу

* Цэнтральнае бюро краязнаўства *(рэд.)*.

ці краязнаўчыя доследы. Напрыклад, у розных мясцох раёну існуюць сельскагаспадарчыя гурткі, аб'яднанні паляўнічых, саматужнікаў, розныя стацыянарныя ўстановы ўсіх тыпаў. Усё гэта неабходна ўцягнуць у кола краязнаўчай дзейнасці таварыства, скарыстаць вынікі іх працы, атрымоўваць ад іх матэрыялы, даручаць ім свае заданні.

З другога боку, каб правільна і з поспехам распачаць калектыўнае вывучэнне свайго раёну, неабходна бывае засноўваць самую шчыльную прыяцельскую сувязь з усімі савецкімі, партыйнымі і прафсаюзнымі арганізацыямі, якія існуюць у раёне. Практыка паказвае, што ў тых раённых таварыствах, дзе на чале арганізацыі і ў праўленні таварыства стаяць асобы, якія маюць аўтарытэт у вачах партыйных і савецкіх устаноў раёну, дзе гэтая сувязь таварыства з імі самая шчыльная і сяброўская, там таварыства дабіваецца значных вынікаў у сваёй працы. Там сувязь выяўляецца з боку таварыства ў планавай інфармацыі гэтых устаноў і арганізацый аб мэтах, змесце і выніках краязнаўчай працы ў раёне, з боку ўстаноў — у фактычным удзеле ў краязнаўчай працы кіраўнікоў гэтых устаноў і арганізацый — аграномаў, кааператараў, ляснічых, паляўнічых, загадчыкаў хат-чытальняў, дактароў і, што не меней важна для развіцця краязнаўчай працы, — у падтрыманні таварыстваў матэрыяльнымі сродкамі. Прывядзем некаторыя цікавыя і паказальныя для нас прыклады. Лепельскае раённае таварыства ў мінулым годзе было ўзорным у гэтым напрамку. Дзякуючы падтрыманню з боку ўстаноў і арганізацый, раённае таварыства на працягу двох год зрабілася даведачна-навуковым бюро ў раёне. Часта весткі па розных галінах жыцця раёну можна знайсці толькі ў раённым таварыстве. Тут, дзякуючы шчыльнай сувязі праўлення таварыства з раённымі ўстановамі, паступова канцэнтраваўся ілюстрацыйны, статыстычны, экспазіцыйны матэрыял з жыцця Лепельскага раёну. РВК даў таварыству свае справаздачы за апошнія гады, акты агляду сельсаветаў; міліцыя і суд далі статыстычныя лічбы аб правапарушэннях і злачыннасці, дзяржспірт даў матэрыялы аб алкагалізме ў раёне, аграном даў апісанне свайго аграўчастку і г. д. У выніку такой арганізацыйнай чыннасці таварыства РВК даваў і грашовую дапамогу таварыству ў размеры да 100 руб. у год. Грошы вызначаліся як на бягучую краязнаўчую

працу ў раёне, так і на абсталяванне краязнаўчага музею і наладжванне краязнаўчай выстаўкі. Аб гэтым мы яшчэ будзем гаварыць. Цяпер толькі важна падкрэсліць, што правільная арганізацыйная сувязь раённага таварыства з мясцовымі ўстановамі і арганізацыямі дае магчымасць знайсці і тыя матэрыяльныя крыніцы, якія канешне неабходны для развіцця краязнаўчай працы ў раёне. Для акруговых таварystваў краязнаўства пытанне аб матэрыяльных сродках больш-менш вырашана, на чарзе вырашэнне гэтага пытання і для раённых таварystваў краязнаўства. Але неабходна, каб самі раённыя таварystвы мелі сталую, самую цесную сувязь з раённымі ўстановамі, каб яны на пасяджэннях прэзідыуму РВК, райкомаў, на прафсаюзных сходах знаёмілі ўстановы і арганізацыі з сваімі планамі, зместам і формамі працы і дабіваліся канкрэтных спосабаў падтрымання з боку арганізацый. Без гэтай умовы немагчыма матэрыяльная дапамога краязнаўчым арганізацыям. А практыка паказвае, што савецкія, партыйныя, грамадскія арганізацыі маюць магчымасць дапамагчы таварystвам. Большасць таварystваў нават не дагадваецца зрабіць неабходныя захады перад РВК, перад культаддзелам, перад кааперацыйнымі ўстановамі аб матэрыяльнай і арганізацыйнай дапамозе таварystвам.

Гаворачы аб уцягненні ў краязнаўчую працу раённага таварystва розных устаноў і арганізацый, неабходна адно з першых месц сярод гэтых арганізацый аддаць камсамольскім і піянерскім арганізацыям, затым хатам-чытальням, нардамом і школам. Час ужо на гэта звярнуць самую пільную ўвагу. Між тым толькі некаторыя нашы раённыя таварystвы практычна праводзяць такую працу. Так, Талачынскае раённае таварystва ў 1927 г. мела на раёне 4 такія гурткі, якія пераважна складаліся з камсамольцаў. Старшыня таварystва (жанчына!) некалькі разоў наведваў гэтыя гурткі, рабіў там даклады, даваў інструкцыі — і вынікі гэтага: гурткі далі хоць і слабыя, але цікавыя апісанні эканамічнага стану некаторых сельсаветаў і вёсак. У Асіповічах існавала звяно «Краявед», якое сабрала некаторыя весткі, выкарыстаныя ў 2 частцы выдання «Асіпавіцкі раён». У Воршы піянеры прымалі актыўны ўдзел у археалагічных і гістарычных доследах Аршанскага Акруговага Таварystва. Мы маглі б прывесці безліч такіх прыкладаў.

Што датычыцца хаты-чытальні, дык, на вялікі жаль, нашым раённым таварыствам не ўдаецца звязацца з ёю і выкарыстаць яе ў краязнаўчым напрамку. Па ўсёй Беларусі мы маем толькі адзін факт існавання краязнаўчага гуртка пры хаце-чытальні. А між тым хата-чытальня — цэнтр культурнага жыцця сялян, месца, дзе можна весці летапіс бягучага жыцця, месца, якое замяняе селяніну школу, клуб, тэатр, музей, месца, дзе шмат ведаў можна ўзяць аб мясцовым краі. Хата-чытальня — мост, дзе савецкія культурнікі спатыкаюцца з сялянствам. Тут перыядычна ўсе працуюць: настаўнікі, клубныя працаўнікі, аграномы, каапэратары, партыйцы, камсамольцы, жанаарганізатар, вучні сямігодак. Усе гэтыя працаўнікі — ядро, вакол якога раённае таварыства можа наладзіць краязнаўчую працу, уцягнуць у яе сялянства, вырасціць з шэрагаў яго кадраў свядомых краязнаўцаў.

Аналагічную ўвязку раённае таварыства павінна мець і з нардомам.

Што датычыцца краязнаўчай працы школ, дык тут раённае таварыства павінна правесці вялікую арганізацыйную працу. Нельга ні адну школу-сямігодку заставіць без краязнаўчага гуртка, але неабходна, каб гэтыя гурткі існавалі не на паперы, а сістэматычна, рэгулярна працавалі і ў сваёй чыннасці давалі матэрыялы для краязнаўчай працы таварыства. Для гэтага неабходна, каб вучнёўскі краязнаўчы гурток працаваў па плану таварыства, ад яго атрымоўваў інструкцыі, цікавіўся агульнай працай таварыства, дапамагаў яму ў штодзённай працы і сам ад таварыства атрымоўваў дапамогу. Кіраўнік школьнага гуртка павінен вылучацца райтвам* і быць найбольш актыўным сябрам таварыства, які выконвае важную задачу таварыства — падрыхтоўванне кадраў маладых краязнаўцаў-культурнікаў.

На жаль, у нас вельмі мала краязнаўчых гурткоў пры сямігодках, якія вялі б планавую працу, якія апраўдвалі б свой raizon d'etre. Большасць іх абмяжоўваюцца выпадковымі заданнямі — сабраць фальклор ці словы для раённага Слоўніка. Сабрана ўсё гэта, некуды паслана, нават не прагледжана, не апрацавана, нават не прыведзена ў «чалавечы» выгляд. На гэтым краязнаўчая праца спыняецца. На другі год зноў паўтараец-

---

* Раённым таварыствам *(рэд.)*.

ца казка пра белага бычка. Вучні пачынаюць губляць зацікаўленасць да гэтага, і такім чынам краязнаўчая дзейнасць моладзі рашуча і назаўсёды спынена ці падарвана. А між тым нават у гэтыя заданні таварыства можа ўнесці планавасць, каляндарнасць, сістэматычнасць, можна наладзіць вакол сабраных матэрыялаў жывую гутарковую працу, надоўга прабудзіць у вучняў зацікаўленасць да гэтага віду краязнаўчай працы. Як прыклад прывядзем гурток пры Аршанскім рабфаку, які ў 27—28 годзе між іншым збіраў і фальклорны матэрыял. На занятках гуртка сябры яго рабілі даклады. Так адна студэнтка сабрала ў сваёй вёсцы вялікі фальклорны матэрыял і давала аб гэтым свае меркаванні і думкі. Так моладзь прывучаецца да самастойнай даследчай працы, і правільныя арганізацыйныя захады з боку краязнаўчых арганізацый забяспечваюць магчымасць гэтага.

Другі прыклад: гурток пры Лепельскай сямігодцы займаўся вывучэннем прыроды гораду. Таварыства дало правільны кірунак працы гуртку, і апошні вельмі добра працаваў. На выстаўцы была экспанавана фаўна Лепельскага возера. У збіранні экспанатаў для гэтага прыняў удзел увесь гурток.

У сваёй арганізацыйнай чыннасці раённае таварыства краязнаўства павінна звярнуць пільную ўвагу і на студэнцтва, якое перыядычна наязджае ці жыве ў раёне. Як паказвае вопыт краязнаўчай працы студэнцтва нашага БДзУ, роля студэнцтва ў краязнаўчым руху БССР вельмі адказная і вялікая. Раённае таварыства павінна не толькі падлічыць студэнцкія сілы ў раёне, але і шчыльна звязана з імі, даручыць ім у часе вучобы ў горадзе складаць бібліяграфію раёна ці мястэчка, прапанаваць ім браць тэмы для універсітэцкіх прац, звязаныя з раёнам. І гэта прынясе вялікую карысць як раённым таварыствам, так і самім студэнтам, бо замест таго, каб калупацца ў агульных пытаннях гісторыі ці мовы і другіх навук, студэнты будуць вывучаць гісторыю свайго гораду, мястэчка ці раёну, эканоміку іх, будуць вывучаць мастацтва, літаратуру іх і г. д.

Далейшае пашырэнне краязнаўчай працы ў раёне патрабуе арганізацыі краязнаўчых ячэек у розных пунктах раёна. Прымаючы пад увагу, што склад нашых краязнаўчых арганізацый на 70 % запаўняецца настаўнікамі, асветнікамі, і эканомячы культурныя сілы, трэба

гэтыя краязнаўчыя ячэйкі засноўваць там, дзе можна разлічаць на ўдзел у іх настаўнікаў, дзе настаўніцкія гурткі разам з педагагічнымі пытаннямі будуць ставіць і пытанні краязнаўства. Сувязь раённага таварыства з гэтымі гурткамі павінна быць самая шчыльная, жывая, рэгулярная, і, каб наладзіць яе, раённаму таварыству ў першую чаргу прыйдзецца заснаваць сувязь з мясцкомам працасветы, пераканаць апошні ў грамадска-карыснай працы краязнаўчых арганізацый і ў неабходнасці гэтую працу залічваць як грамадскую і вызваляць асоб, якія вядуць яе, ад іншай працы, даручаецца ў парадку грамадскасці.

Каб раённае таварыства было арганізацыйна моцным, каб яно заўсёды мела аўтарытэт і дапамогу, неабходна яму заўсёды быць звязаным з акруговым таварыствам і ЦБК. Акруговае таварыства часта мае сродкі, літаратуру, спецыялістаў і так-сяк іншы раз можа дапамагчы раённаму таварыству краязнаўства. Такую дапамогу некаторыя раённыя таварыствы атрымоўвалі ад Аршанскага акруговага таварыства, ад Менскага, ад былога Калінінскага, у апошні момант ад Гомельскага. Мы ўжо не гаворым аб тым, што кожнае акруговае таварыства мае свой выдавецкі план і рэалізаваць яго з поспехам можа і праз раённыя таварыствы. Як мінімум такой сувязі мы прапанавалі б кожнаму раённаму таварыству два разы ў год даваць акруговаму таварыству інфармацыю аб сваёй чыннасці і адзін раз у год паведамляць аб гэтым і ЦБК.

Урэшце, уся праца таварыства толькі тады будзе ісці правільным шляхам, калі ўвесь час раённае таварыства краязнаўства будзе праводзіць такую неабходную працу арганізацыйнага характару, як падлік усёй краязнаўчай працы. Мы гаворым не толькі аб усім вядомых формах падліку, як вядзенне розных пратаколаў, азначэнне ў плане выкананай працы, розныя справаздачы на сходах і канферэнцыях. Мы гаворым яшчэ і аб неабходнасці ўлічваць усё, што зроблена і кім зроблена па вывучэнні данага раёну. Як прыкладную працу ў гэтым напрамку, пакажам на Чэрвеньскае, Лепельскае і Брагінскае таварыства. У першага кожны крок таварыства, кожны матэрыял, які пападае ў таварыства, старанна занатоўваецца, вядзецца свайго роду краязнаўчы дзённік, па якім, як па люстэрку, вы можаце бачыць стан краязнаўчай працы ў раёне. У Лепельскага таварыства, у яго музеі,

заведзена кніжка «Лепельшчына» і «Кніжка прапаноў», куды заносіцца ўсё, што даведаліся пра Лепельшчыну, усе падзеі, усе цікавыя думкі, якія з'явіліся ў людзей адносна вывучэння ці паляпшэння жыцця свайго краю.

## II. ПАПУЛЯРЫЗАЦЫЙНАЯ ПРАЦА РАЁННАГА ТАВАРЫСТВА

Нельга сказаць, што нашы раённыя таварыствы краязнаўства не вядуць папулярызацыйнай працы. Зусім наадварот. За апошнія два-тры гады рэдка адбываецца якая-небудзь настаўніцкая канферэнцыя, каб на ёй, няхай сабе ў бягучых справах, не паставілі даклад аб краязнаўстве. Між тым «воз и ныне там». А часта мы дабіваемся гэтым і зусім адваротных вынікаў: не толькі не выклікаем зацікаўленасці да краязнаўчай працы, але знішчаем і рэшткі тае, якая была. У чым тут прычына? У тым, што час голых слоў даўно прайшоў, аднымі словамі нікога не праймеш, і папулярызацыю краязнаўчых прац трэба праводзіць іншымі шляхамі: менш слоў і больш сапраўднай краязнаўчай працы.

Мы пакажам некаторыя метады гэтай папулярызацыі. Таварыства канешне не можа абысціся без папулярызацыйных дакладаў, якія мелі б мэту ўцягнуць у краязнаўчую працу працоўнае насяленне, але гэтыя даклады павінны быць наскрозь прасякнуты мясцовымі інтарэсамі. Калі гэта будзе справаздача раённага таварыства, трэба паказаць канкрэтна, што зроблена таварыствам, хто зрабіў, як зрабіў; калі гэта будзе план працы таварыства, — трэба паказаць, кім гэты план будзе выкананы, у які тэрмін, як гэты матэрыял будзе рэалізаваны і г. д. Калі гэта будуць даклады на мясцовыя тэмы, трэба найбольшы лік людзей запрасіць на гэтыя даклады. Трэба сказаць, што даклады на мясцовыя тэмы ў недалёкім будучым павінны заняць першае месца ў культурпрацы на раёне. Трэба, каб краязнаўчыя арганізацыі хоць мінімум зрабілі ў гэтым напрамку, бо асноўная задача таварыстваў — не толькі вывучаць, даследаваць свой край, але прапагандаваць веды аб гэтым, пашыраць іх сярод насялення. Хто і якія даклады на мясцовыя тэмы можа прачытаць па даручэнні раённага таварыства? Бярэм такія тэмы, якія ў першую чаргу будуць характарызаваць жыццё раёну. Напрыклад, доктар па просьбе таварыства можа зачытаць дак-

лад аб санітарным стане мястэчка ці якой-небудзь вёскі раёну, аграном аб выніках сельскагаспадарчай выстаўкі ці аб стане калектывізацыі ў раёне, кааператары — аб стане сельскагаспадарчай і спажывецкай каапераціі, аб цэнах на прадукты, нарсуддзя — аб злачынстве ў раёне і г. д. Важна ўсяму гэтаму даць мясцовую, краязнаўчую афарбоўку, каб лічбы загаварылі, каб чыста мясцовыя патрэбы і праекты былі высунуты на першы план.

Вось яшчэ другія цікавыя мясцовыя тэмы папулярызацыйных дакладаў: 1. Саматужніцтва ў раёне. 2. Гісторыя мястэчка ці вёскі. 3. Фальклор, народная музыка і скокі ў раёне. 4. Народнае мастацтва ў раёне і г. д.

Другім спосабам папулярызаваць краязнаўчую працу ёсць рэалізацыя здабытых краязнаўцамі матэрыялаў альбо ў мясцовым рукапісным, шклапісным часопісе, альбо ў акруговым і цэнтральным друку. Сярод нашых краязнаўчых арганізацый на Беларусі можна налічыць троху больш дзесятка такіх, якія выдавалі ці выдаюць свае краязнаўчыя рукапісныя ці шклапісныя зборнічкі. У Барысаўскім таварыстве выдаецца зборнік «Наш раён» у 50 экз. і распаўсюджваецца сярод настаўнікаў. На выданне яго РВК нават вызначаў сродкі. Барысаўскі часопіс галоўным чынам аддае ўвагу вывучэнню эканомікі раёну. Іншыя часопісы (смілавіцкі) змяшчаюць апрацаваныя матэрыялы па фальклоры раёну, краязнаўчыя зарысоўкі з жыцця раёну, апісанні вёсак, сельсаветаў. Усё гэта мае вялікае значэнне для папулярызацыі ідэй краязнаўства. Зразумела, што яшчэ большае значэнне мае змяшчэнне такіх мясцовых прац у акруговым ці цэнтральным друку. ЦБК на працягу апошніх двох год мае некаторыя дасягненні ў гэтым напрамку. Так нядаўна слуцкая арганізацыя спраўляла 5-гадовы юбілей свайго існавання, і цэнтральныя газеты «Савецкая Беларусь» і «Звязда» значнае месца на сваіх старонках аддалі краязнаўчай працы слуцкіх даследчыкаў. Ці трэба падкрэсліваць, якое моцнае ўражанне зрабіла гэта на слуцкіх працаўнікоў, як узняло іх зацікаўленасць краязнаўчай працай, як падняло аўтарытэт слуцкіх краязнаўцаў сярод савецкіх і прафсаюзных арганізацый. Пабачыўшы вынікі іх працы і спачуванне гэтаму з боку цэнтральнага друку, мясцовыя партыйныя і савецкія працаўнікі, зразумела, яшчэ большую дапамогу будуць рабіць такому актыўнаму таварыству, якім ёсць

слуцкае таварыства. Прыклад слуцкага таварыства іншыя раённыя таварыствы павінны выкарыстаць.

Зразумела, што распаўсюджванне сярод насялення краязнаўчай літаратуры і асабліва часопіса «Наш Край» таксама будзе папулярызаваць краязнаўчую працу. Раённыя таварыствы вельмі мала робяць у гэтым напрамку, забываючы, што ад пашырэння падпіскі на «Наш Край» яны будуць мець нават матэрыяльную выгаду, і, апрача таго, кожная цікавая праца мясцовага краязнаўцы заўсёды знойдзе прытулак у «Нашым Краі». Канешне, не трэба забываць і таго, што кожнае раённае таварыства як бліжэйшую задачу павінна ставіць выданне сваіх прац уласнымі сіламі. Арганізацыйна здзейсніць гэта часта не так цяжка, бо каб былі матэрыялы, дык пры энергіі таварыства заўсёды можа знайсці такія крыніцы, усё роўна — ці будуць яны асігнаваннямі савецкіх установ, ці будуць ахвяраваннямі, сяброўскімі складкамі, платай за спектакль і г. д.

Не трэба забываць і чыста мастацкія спосабы папулярызацыі краязнаўчай працы. Можна сказаць нават, што гэтыя спосабы часта маюць большы эмацыянальны эфект. Сюды адносіцца наладжванне краязнаўчых вечарын, выставак краязнаўчых матэрыялаў, краязнаўчая газета.

Краязнаўчая вечарына яшчэ мала папулярна на Беларусі. Мы яшчэ не навучыліся наладжваць яе. Магілёўскае акруговае таварыства наладжвала этнаграфічны вечар, Краязнаўчае таварыства пры БДзУ ў мінулым годзе наладзіла такую вечарыну, Слуцкае таварыства ў часе 5-гадовага юбілею наладзіла цікавую і вялікую краязнаўчую вечарыну, Краснапольскае раённае таварыства ў 1926 г. зрабіла гэта і яшчэ некаторыя іншыя зрабілі аналагічную працу. У РСФСР рознымі цэнтральнымі экспедыцыямі, як, напрыклад, фальклорнымі экспедыцыямі братоў Сакаловых, шырока культывуюцца такія вечары і маюць вялікі поспех.

Не прыходзіцца даводзіць значэнне такіх вечарын у нашых умовах. Яны, па-першае, згуртоўваюць, яднаюць краязнаўчы актыў у моцны калектыў, па-другое, мастацкімі сродкамі прыцягваюць увагу да краязнаўства з боку шырокіх колаў насялення. І праўда, краязнаўства ў хаце-чытальні ці нардоме папулярызуецца не толькі шляхам гутарак і дакладаў аб сельскай гаспадарцы ці санітарным стане раёну, але і шляхам паказальных кан-

цэртаў, вечароў народных апавяданняў, інсцэніровак народных казак і шляхам наладжвання народных хораў. На гэтых краязнаўчых вечарынах удзел у ролі выканаўцаў прымаюць не толькі культурныя працаўнікі — інтэлігенцыя, але вельмі важна ў мэтах папулярызацыі краязнаўства, каб удзельнічалі ў гэтым народныя спевакі, спявачкі, апавядальнікі, баечнікі, скакуны, музыкі. У РСФСР гэта шырока ўжываецца, у нас яшчэ не ўмеюць падтрымаць народныя таленты, заахвоціць іх, выклікаць у іх смеласць, штурхануць іх на гэты свайго роду мастацкі спорт. А між іншым, гэта можа ўцягнуць сялян у збіранне, вывучэнне і папулярызацыю нашай народнай творчасці, можа выхаваць кадры свядомых знатакоў і культывізатараў народнай творчасці. У гэтым напрамку неабходна самую сур'ёзную ўвагу звярнуць на існуючыя ў раёне ячэйкі моладзі, іх драматычныя гурткі, іх газетныя, селькораўскія аб'яднанні.

Канешне, краязнаўчыя вечарыны лепш за ўсё злучаць з навукова-асветнымі гутаркамі ці дакладамі аб быце, эканоміцы, мясцовай літаратуры, мастацтве і г. д.

Краязнаўчая вусная газета таксама добры спосаб папулярызаваць працу мясцовых краязнаўцаў. У нас гэта першы раз увяло ў практыку Слуцкае краязнаўчае таварыства ў гэтым годзе. Безумоўна, гэтую практыку трэба шырока скарыстаць. У гэтай газеце былі зачытаны невялікія нарысы з жыцця Слуцка, складзеныя мясцовымі даследчыкамі, вершы мясцовых паэтаў, прысвечаныя Слуцку і Случчыне, паэмы з рэвалюцыйнага жыцця Случчыны і г. д.

Урэшце, выстаўка краязнаўчых матэрыялаў, наладжаная ў самым скромным маштабе ў часе якой-небудзь канферэнцыі ці сходу, лепш за ўсё можа папулярызаваць краязнаўчую працу. Выстаўка фатаграфій, зарысовак, малюнкаў, гербарыяў, слоўнікаў, сшыткаў з фальклорам, каменняў, заалагічных калекцый і г. д. — усё гэта прыцягвае ўвагу, выклікае жаданне самому што-небудзь зрабіць. На Беларусі мала звяртаюць увагу на гэта і часта, маючы прыкметныя дасягненні ў гэтым напрамку, гаворачы аб гэтым, не дадумаюцца наладзіць хоць самую маленькую выстаўку, якая характарызавала б гэтыя дасягненні. А між тым, часта і слоў давялося б траціць менш, бо выстаўка красамоўней сказала б аб гэтым.

## III. ДАСЛЕДЧАЯ ПРАЦА ТАВАРЫСТВА

Гаворачы пра даследчую працу таварыства, трэба заўсёды мець на ўвазе, што на практыцы ніколі не прыйдзецца строга разлучаць арганізацыйную і даследчую працу таварыства, бо і ў даследчай працы таварыства заўсёды ёсць моманты арганізацыйныя, і ў арганізацыйнай могуць быць даследчыя моманты. Трэба сказаць, што першыя ж крокі дзейнасці таварыства нямыслімы без даследчых момантаў, і жывым, актыўным таварыствам будзе тое, якое адразу, побач з арганізацыйнымі крокамі, будзе рабіць і краязнаўчыя доследы, — распачне з першага ж дня свайго існавання вывучэнне краю. Калі мы паасобна гаворым аб даследчай працы таварыства, дык у мэтах падкрэсліць некаторыя моманты ў даследчай працы таварыства, на якіх у большасці выпадкаў нашы арганізацыі не канцэнтруюць увагі. Перш за ўсё, мы хочам падкрэсліць важнасць збіральніцкай працы раённага таварыства краязнаўства як першага этапу даследчай, краязнаўчай працы ў раёне. У гэтым напрамку кожнае раённае таварыства, распачынаючы сваю планавую дзейнасць, павінна высветліць, вывучыць, сабраць весткі, хто, калі, як вывучаў даны раён, якія вынікі гэтага вывучэння, другімі словамі — у першую чаргу скласці бібліяграфію раёну, каб не рабіць працу, якая ўжо зроблена папярэднімі даследчыкамі. Па-другое, раённаму таварыству краязнаўства неабходна збіраць увесь бягучы матэрыял з жыцця раёну і апрацоўваць яго. Правільна рабіла Лепельскае таварыства, якое збірала ўсе справаздачныя даклады раённых устаноў — саветаў, бальніц, хат-чытальняў, актаў абследаванняў, метэаралагічных бюлетэняў. Такім чынам, яно з'яўляецца навукова-даследчым бюро ў раёне, якое больш за ўсіх можа быць кампетэнтным у чыста мясцовых пытаннях. Побач з такой бягучай працай неабходна і такая праца: збіранне кніг, брашур, часопісаў, газет ці выразак, розных нататак, рукапісных зборнікаў, насценных газет, прыватных ці іншых архіваў, лістоў, дзённікаў, мемуараў, фатаграфій, афіш, дыяграм, абвестак — адным словам, усяго таго, што ілюструе жыццё раёну з якога-небудзь боку. Калі за мінулыя гады мала засталося гэтых слядоў матэрыяльнай і духоўнай культуры раёну, дык трэба ў далейшым увесь друк, усю літаратуру аб раёне старанна збіраць ці ў форме кніжак,

ці ў форме альбомаў газетных выразак. Ляднянскае раённае таварыства з мінулага году распачало такую працу і цяпер сабрала да 40 нумароў такой бягучай хронікі з жыцця раёну.

Усе гэтыя сабраныя матэрыялы павінны даць пачатак для раённага краёвага музею. Арганізацыя такога музею можа паспяхова злучыць у факце свайго існавання і арганізацыйную, і даследчую, і папулярызацыйную працу таварыства. Музей — гэта фокус, у якім канцэнтруецца самая разнастайная праца таварыства.

Неабходна звярнуць увагу на такую акалічнасць. У апошні момант шмат якія раённыя таварыствы краязнаўства, паведамляючы ЦБК аб асноўных момантах сваёй працы, нібы згаварыўшыся, абмяжоўваюць свае планы вывучэннем некаторых пэўных з'яў у жыцці раёну і свядома пакуль што не зачапляюць іншых больш шырокіх галін мясцовай навукі. Само па сабе такое абмежаванне ёсць свайго роду роздум, імкненне ўзяць працу і па сіле і па магчымасці. Так, Ляднянскае таварыства піша: асноўныя моманты нашай працы: 1) збіранне мясцовага слоўніка, 2) геаграфічнага слоўніка, 3) вывучэнне мясцовай гаворкі.

Талачынскае раённае таварыства: 1) вывучэнне асобных сельсаветаў і вёсак; 2) складанне карты помнікаў раёну; 3) вывучэнне кірмашоў. Раснянскае раённае таварыства: 1) слоўнік жывой мовы раёну; 2) геаграфічны слоўнік раёну; 3) атрутныя і лекавыя расліны раёну; 4) кароткі нарыс аб эканоміцы раёну. Гарадоцкае: 1) феннагляданні, 2) выпраўленне геаграфічнай карты раёну, 3) пашырэнне музею і г. д.

Беручы толькі гэтыя заданні, таварыствы забываюць, што побач з такімі момантамі, якія імі пастаўлены ў асяродак краязнаўчай працы, магчыма і нават неабходна вышэйпералічаная збіральніцкая праца, неабходны яшчэ экскурсійныя і стацыянарныя доследы прыроды, эканомікі і быту раёну, неабходна бягучая чарговая праца па метэаралогіі, па феналогіі, неабходны некаторыя эксперыменты для праверкі вывадаў і абагульненняў, напрыклад біясадзікі, вопытныя ўчасткі і г. д. Неабходна ілюстраванне сваёй працы зарысоўкамі, фатаграфіямі, апісаннямі, картамі, планамі, дыяграмамі. Набыццё ў першую чаргу фотаапарата для таварыства таксама павінна быць важным момантам у працы таварыства.

Асноўным момантам у працы таварыства павінна быць і метадычная падрыхтоўка нашых масавых краязнаўцаў. Нашы раённыя краязнаўчыя таварыствы цяпер маюць зусім выстрачальную краязнаўчую літаратуру, але, нягледзячы на гэта, яна ляжыць мёртвым капіталам, сябры таварыства і нават праўленняў не вывучаюць яе. Неабходна прасунуць гэтую літаратуру ў гурткі, у школы, у грамадскія арганізацыі.

1928

## Праца таварыства краязнаўства пры Беларускім Дзяржаўным універсітэце ў 1927—1928 годзе

Краязнаўчая праца з году ў год пашыраецца.

Краязнаўства захапіла шырокія колы насельніцтва. Краязнаўчыя ячэйкі, гурткі ўзнікаюць амаль што пры кожнай установе, якія праводзяць сваю працу ў кірунку рэальных доследаў тэй ці іншай мясцовасці. Збіраюцца, апісваюцца, даследуюцца і вывучаюцца новыя і новыя матэр'ялы аб сучасным і мінулым Беларусі. Удзельнікі краязнаўчага руху і шырокія колы працоўных узяліся не толькі за савецкае будаўніцтва, будаўніцтва новага жыцця, стварэння новай грамады, але поруч з гэтым за вывучэнне і даследаванне краіны. Ды гэта зусім зразумела, бо будаваць дзяржаву, арганізоўваць эканоміку, будаваць культуру нельга, не вывучыўшы мінулых і сучасных працэсаў гаспадаркі краіны; яе прыродных і грамадскіх асаблівасцяў.

У сённяшні дзень краязнаўства набывае вялікае значэнне яшчэ і таму, што шпаркая пабудова гаспадарчага працэсу на аснове індустрыялізацыі краіны патрабуе безадкладнага вывучэння самых малых куткоў краю, яго вытворчых аб'ектаў.

«Расійская рэвалюцыя высунула пытанне краязнаўства на першае месца; тыя вялізарныя задачы, якія стаяць перад Саюзам Савецкіх Рэспублік у справе гаспадарчага будаўніцтва, не могуць быць выкананы выключна дзяржаўнымі ўстановамі без непасрэднага

ўдзелу ў гэтай справе мясцовых краязнаўчых арганізацый».

«Усебаковае вывучэнне мясцовага краю ў нашыя дні вялікага будаўніцтва мае не толькі тэарэтычнае значэнне, але і практычную неабходнасць. Не можа быць ніякае планавае працы, калі не вывучаны да апошняй дробязі тыя ўмовы, у якіх павінна праводзіцца гэтая праца. Мы ўжо не гаворым аб тым, што краязнаўчая праца пашырае разумовы кругазор чалавека, развівае прадпрыемлівасць і з'яўляецца аднэй з спрунжын, якія прыводзяць у дзейнасць грамадскае жыццё. Краязнаўства ў асобе мясцовых дзеячоў даследуе вёскі, зближае горад з вёскаю, — адукоўвае селяніна, ажыццяўляе гэтым тую змычку горада з вёскай, аб якой гаварыў Ленін і ажыццяўленне якое дамагаецца Савецкая ўлада».

Так піша аб краязнаўстве і яго мэтах вялікі пісьменнік Максім Горкі.

У той час, як працоўныя праводзяць вялікую працу па вывучэнні свайго краю, дык і Беларускі Дзяржаўны універсітэт, будучы дзіцём Кастрычніка, як культурны цэнтр Беларускай Рэспублікі, у мурох якога сабраны дзеці рабочых і сялян, немінуча павінен быў узяцца за тую ж краязнаўчую працу. Яшчэ ў 1925 годзе былы сакратар ЦК КП(б)Б тав. Крыніцкі так ставіў пытанне перад студэнтамі Беларусі: «Неабходна студэнцкім арганізацыям у сваіх шэрагах злучыць тых людзей, якія любяць Беларусь, звязаны з ёю, хочуць і лічаць сваім абавязкам звярнуцца да тых рабочых і да таго сялянства, якія іх выдзелілі на вучобу.

Неабходна ў гэтых арганізацыях высока падняць краязнаўчую працу, якая падрыхтуе людзей, знаёмых з прыродазнаўчымі, гістарычнымі і іншымі ўмовамі Беларусі».

Словы тав. Крыніцкага, якія былі ім сказаны ў 1925 годзе, паслужылі своечасовым напрамкам для належнае ўвагі студэнцкіх арганізацый БДзУ да краязнаўчае працы.

Краязнаўчая праца на Беларусі распачалася з першага году заснавання універсітэту ў 1921 годзе, але яна не мела пэўных арганізацыйных форм для шырокага ўдзелу студэнцтва, а вялася паасобнымі аматарамі краязнаўцамі.

Паступова Беларускі Дзяржаўны універсітэт разгортвае працу па краязнаўству — і пачаткам працы ў гэ-

тым напрамку трэба лічыць момант заснавання універсітэту. Вось як аб гэтым гаворыць заслужаны прафесар, рэктар БДзУ У. І. Пічэта:* «З першых дзён, з першага моманту свайго заснавання Беларусі Дзяржаўны універсітэт павінен быў звярнуць асаблівую ўвагу на вывучэнне беларускай краіны ў яе мінулым і сучасным, і ён у гэтым кірунку праводзіў сваю працу». Гэта зусім праўдзіва, бо там, дзе сканцэнтравана частка людзей, якая ставіць сваёй мэтай падрыхтоўку спецыялістаў для нашых умоў, умоў Беларусі, там, дзе ў наяўнасці ўсе мажлівасці шырока і грунтоўна паставіць пытанні краязнаўства (наяўнасць прылад, лабараторый, навуковых працаўнікоў і жывой сілы студэнцтва), там паступова ўзнікаюць і фармуюцца адпаведныя арганізацыі.

Масавасць краязнаўчай працы, перспектывы падрыхтаваць сябе практычна да самастойнай даследчай працы ў будучыне захапляе студэнтаў Бел. Дзярж. універсітэту. Студэнцтва ў 1922—1923 годзе яшчэ не арганізавана, ёсць толькі некалькі аматараў-краязнаўцаў, якія імкнуцца ўжо нешта рабіць. У 1923—24 годзе ўжо назіраецца момант групавання гэтых аматараў у ячэйкі і гурткі, у іх працы прымаюць удзел і навуковыя працаўнікі універсітэту. Студэнты-краязнаўцы пасіўна слухаюць даклады гэтых навуковых працаўнікоў на краязнаўчыя тэмы. У 1925—26 годзе гурткі афармляюцца і робяцца больш масавымі, у тым жа годзе студэнцкімі арганізацыямі высоўваецца пытанне аб утварэнні сталага таварыства краязнаўства. І толькі ў 1926—27 годзе таварыства арганізацыйна ўжо канчаткова афармляецца, знаходзіць змест працы і выпрацоўвае статут.

Краязнаўчая арганізацыя універсітэту ставіць перад сабою мэты: 1) Вывучэнне Беларусі ў прыродазнаўча-геаграфічным, сацыяльна-эканамічным і культурна-гістарычным кірунках, шляхам збірання краязнаўчага матэр'ялу, як індывідуальна, гэтак і спосабам экспедыцый і экскурсій.

2) Навукова-даследчую распрацоўку ўжо сабраных матэр'ялаў.

3) Метадычна-арганізацыйная падрыхтоўка свядомых кіраўнікоў і арганізатараў краязнаўства з студэнцтва.

---

* Часопіс «Наш край», № 10 за 1928 г.

4) Папулярызацыя краязнаўчага руху сярод студэнцтва, гэтак і сярод насельніцтва Беларусі.

### ПЕРШЫ ГОД АРГАНІЗАВАНАЙ ПРАЦЫ ТАВАРЫСТВА

Выходзячы з паказаных мэт і статуту, таварыства ўпершыню ў 1926—27 годзе намячае план працы: засноўваюцца секцыі, вызначаюцца галіны працы. Але ўсё ж такі змест працы па секцыях быў вельмі разнастайны, не было пэўнага размежавання ў паасобных галінах працы. Таварыства ахоплівае ўжо досыць значную частку студэнтаў. Сяброў секцый налічваецца 170, сюды ўваходзяць і навуковыя працаўнікі. Удзел навуковых працаўнікоў яшчэ вельмі малы. Магчыма, гэта тлумачылася арганізацыйным перыядам і шуканнем формаў і зместу працы. Былі заснаваны наступныя секцыі: 1. Культурна-гістарычная. 2. Прыродазнаўча-геаграфічная. 3. Метадычная. 4. Сацыяльна-эканамічная і 5. Яўрэйская.

Секцыі Сацыяльна-эканамічная і Яўрэйская вельмі слаба разгарнулі сваю працу. У пераважнай большасці секцыі займаліся арганізацыйна-метадычнымі пытаннямі. Побач з гэтым у працы гэтых секцый назіраецца паступовае ўзмацненне і павелічэнне лёку ўдзельнікаў, выяўленне актыву, ёсць ужо даследчыя работы студэнтаў-краязнаўцаў, якія друкуюцца ў розных часопісах. Такіх даследчых прац за мінулы 26—27 год налічваецца каля 13, (падрабязна глядзі артыкул праф. Пічэты «Наш край» № 10 (25) за 1927 год).

1928

## Полацкая акруга

### І. ВУЛЬСКАЕ РАЁННАЕ ТАВАРЫСТВА КРАЯЗНАЎСТВА

Таварыства налічвае 180 сяброў, але ў апошні момант большасць з іх фіктыўныя сябры. Па раёне таварыства заснавана 10 гурткоў, з іх працавала 3—4. Праўленне складаецца з 9 асоб — прадстаўнікоў ад сельсаветаў. Гэта перашкаджае наладзіць рэгулярную працу. Існуе рабочы прэзідыум (старшыня, намеснік і сакра-

тар), але ўсю бягучую працу вядзе старшыня таварыства тав. Палашчанка. Праца таварыства галоўным чынам культурна-гістарычная. Шмат экспанатаў такога характару таварыства пераслала ў Полацкі музей. Таварыства сабрала больш 1000 слоў жывой мовы, апісала некалькі гарадзішчаў, збірае весткі аб «Залатым Шляху» (Лепель, Полацк, Вулла, Віцебск), калекцыі карысных выкапняў. Усё сабранае няма дзе захаваць, і сабранае часта гіне. Перспектыў для адчынення раённага музею няма. Умовы для краязнаўчай працы ў раёне да апошняга часу былі вельмі неспрыяючыя, бо актыўныя працаўнікі (4—5) былі раскіданы па раёне. Цяпер перспектывы больш спрыяючыя: Райком КПБ, да якога звярнуўся прадстаўнік ЦБК, абяцаў звярнуць увагу на пашырэнне краязнаўчае працы ў раёне, на маральную і матэрыяльную дапамогу раённаму таварыству з боку савецкіх, партыйных і прафсаюзных арганізацый.

## II. УШАЦКАЕ РАЁННАЕ ТАВАРЫСТВА

У Таварыстве 80 сяброў. Праца яго гуртуецца вакол Музею. Пад Музей РВК аддаў старую вуніяцкую царкву з яе архівам. Экспанаты Музею пераважна культурна-гістарычныя: цікавыя каменныя прылады, скамянеласці, старыя кнігі, рукапісныя дакументы, старыя абразы, разьба з дрэва і г. д. Праўленне таварыства складаецца з 5 сяброў. Уся праца праводзіцца фактычна старшынёй тав. Вурбанам (сакратар РВК). РВК дапамагае таварыству і цікавіцца яго працай. Так, напрыклад, старшыня РВК у сваім дакладзе Саўнаркому адзначыў карыснасць працы раённага таварыства і падкрэсліў неабходнасць пасылкі ў гэтым летнім часе археалагічна-гістарычнай экспедыцыі. У сучасны момант таварыства запоўніла каля 10 анкет (манаграфіі паселішч), сабрала каля 2000 слоў, заканчвае рэгістрацыю «валатовак» па раёне, забрала летапісы мясцовай царквы і вывучае іх. У апошніх ёсць цікавыя весткі аб паўстанні 1863 г., статыстыка школ раёну, пачынаючы з 1857 году, і г. д. Таварыства мае і невялікія сродкі, што складаюцца з акуратна паступаючых сяброўскіх складак. Дапамагае сродкамі і РВК. Таварыства мае ў сваім карыстанні і $1^1/_2$ гектараў саду каля Музею.

22/V Таварыства склікала пры ўдзеле прадстаўніка ЦВК агульны сход для сяброў таварыства і наогул для сяброў саюзаў. Быў заслуханы даклад прадстаўніка ЦБК і намечаны чарговыя заданні ў працы на летні перыяд.

## III. ЛЕПЕЛЬСКАЕ РАЁННАЕ ТАВАРЫСТВА

У склад таварыства ўваходзіць каля 60 сяброў, але актыўна дапамагаюць працы таварыства не больш 10. Нягледзячы на гэта, дзякуючы актыўнай працы Праўлення і асабліва няўтомнай энергіі старшыні яго тав. Гарасімовіча, праца таварыства ў цэлым прымае планавы характар. Таварыства можа быць прыкладам для ўсіх раённых таварystваў Беларусі. Яно прымае паступова характар даведачна-навуковага бюро. У ім паступова згуртоўваецца, канцэнтруецца ўвесь неабходны ілюстрацыйны, статыстычны, экспазіцыйны матэрыял аб жыцці раёну. Да гэтага часу таварыства сабрала наступныя матэрыялы, якія без каментарыяў характарызуюць напрамак і змест працы таварыства: 1) матэрыялы аб дзейнасці ўстаноў раёну: справаздачы РВК за апошнія гады, акты абгляду сельсаветаў інспектарам Полацкага АВК аб дзейнасці Лепельскага сельскагаспадарчага таварыства; 2) статыстычныя даныя аб Бярэзінскім водным шляху; 3) матэрыялы аб дзейнасці раённай міліцыі і суду; 4) матэрыялы аб алкагалізме ў раёне (весткі дзяржспірту; 5) апісанне Лепельскага Аграўчастка; 6) спіс насялённых пунктаў; 7) гаспадарчы стан раёну перад 10 гадавінай Кастрычнікавай рэвалюцыі; 8) апісанне Зацяклянскага сельскага савету і г. д. Таварыства карыстаецца фотаапаратам і ўжо мае значны лік фатаграфій.

Праца таварыства мае рэальныя вынікі ў адчыненым у 10-ю гадавіну Кастрычніка музеі. Апошні цяпер налічвае каля 200 экспанатаў і мае добрую экспазіцыю. Яго пачынаюць наведваць — ужо зарэгістравана да 300 асоб-адзіночак. Музей змяшчае цікавыя культурна-гістарычныя экспанаты, дыяграмы, батанічныя і заалагічныя калекцыі. Заведзена цікавая сваёй ідэяй кніга «Лепельшчына», у якую мясцовыя краязнаўцы заносяць самае цікавае, што даведаліся пра Лепель і яго раён: творчасць мясцовых сялян, цікавыя весткі аб знаходках

на раёне, розныя інфармацыі і г. д. Заведзена музеем яшчэ «Кніга прапаноў», у якую заносіцца ўсё, што мае мэту палепшыць жыццё раёну, узняць яго культурны ўзровень. У канцы траўня таварыства пры дапамозе ўсіх школ раёну наладжвае шырокую педагагічную і школьна-краязнаўчую выстаўку, прыстасаваўшы яе да трохдзённай настаўніцкай канферэнцыі. На арганізацыю выстаўкі РВК асігнаваў 50 рублёў. Выстаўка безумоўна значна папоўніць раённы музей.

24—25 траўня пры ўдзеле прадстаўніка ЦБК былі наладжаны ў Лепелі тры краязнаўчыя сходы: сход асветнікаў, сяброў іншых саюзаў і вучняў сямігодкі. Былі разгледжаны пытанні аб спосабах ажыўлення краязнаўчай працы ў Лепельскім раёне.

## IV. ПОЛАЦКАЕ АКРУГОВАЕ ТАВАРЫСТВА КРАЯЗНАЎСТВА

Пасля 3-й Акруговай Канферэнцыі па краязнаўству адбылося 3 пасяджэнні Праўлення. Праца вядзецца не ўсімі секцыямі. Больш працуе культурна-гістарычная, менш грамадска-эканамічная. Іншыя не працуюць. У горадзе краязнаўчая праца гуртуецца вакол сямігодак, у якіх заснаваны вучнёўскія гурткі. Уся праца таварыства пачынае гуртавацца вакол музею. Апошні пачынае адыгрываць значную ролю ў культурным жыцці. Яго з кожным днём наведвае ўсё большы лік экскурсантаў. Пры музеі ёсць краязнаўчая бібліятэка.

Пасля канферэнцыі таварыства пачало займацца такой працай: складае падрабязную археалагічную карту акругі; з гэтай мэтай таварыства звязалася з раёнамі, разаслаўшы каля 450 абежнікаў па краязнаўчых арганізацыях і культурных установах з просьбай даць вычэрпваючыя весткі аб помніках старажытнасці і прыроды ў раёне, — частку адказаў таварыства ўжо атрымала.

Другая задача, якую цяпер таварыства вырашае, — складанне брашуры аб культурна-гістарычным значэнні і помніках Полацка. Старшыня АВК тав. Кондраль абяцаў вызначыць мінімальныя сродкі на выданне гэтага свайго роду «экскурсійнага дарадніка» па Полацку.

Таварыства добра звязана з Акруговай Планавай Камісіяй, якая мае каля 2000 руб. на краязнаўчыя доследы. Гэтым летам Камісія мае намер дапамагчы як

акруговаму таварыству, так і таварыству краязнаўства пры БДзУ ў іх доследах азёр, раслiннасцi, карысных выкапняў i наогул вытворчых сiл акругi.

На пасяджэннi Праўлення 19/V пры ўдзеле прадстаўнiка ЦБК былi намечаны чарговыя заданнi на летнi перыяд: 1) правесцi перавучот сяброў таварыства i лiквiдаваць сяброўскую запазычанасць, 2) наладзiць у мэтах папулярызацыi краязнаўства этнаграфiчны вечар, 3) у пачатку чэрвеня склiкаць агульнагарадскую краязнаўчую канферэнцыю вучняў, 4) адчынiць пры музеi педагагiчны куток, 5) паслаць ад таварыства свайго прадстаўнiка ў Бабруйск для азнаямлення з працай краязнаўчага музею, 6) наладзiць у складзе сяброў Праўлення i таварыства невялiкую экспедыцыю ў адзiн з раёнаў Полаччыны.

1928

## Першая Усебеларуская выстаўка краязнаўчых фатаграфiй i зарысовак

Не прыходзiцца даводзiць, якое вялiкае значэнне мае картаграфаванне, фатаграфаванне i зарысоўкi ў такой справе, як усебаковае вывучэнне вытворчых сiл i быту вядомай краiны. Можна ўпэўнена сказаць, што стан гэтай справы, яе тэхнiчная якасць раўналежна агульнаму стану навукi i культуры ў тэй цi iншай краiне. Чым вышэй краiна ў культурных адносiнах, чым вышэй яе тэхнiчныя дасягненнi, тым большую ролю ў агульнаграмадскiм i навуковым жыццi краiны адыгрывае картаграфаванне, фатаграфаванне i зарысоўкi.

Што датычыцца Беларусi, дык вельмi мала зроблена ў гэтай галiне. У мiнулым хоць i вывучалася наша краiна ва ўсiх галiнах яе прыроды i побыту, але гэтае вывучэнне ў вельмi мiзэрных размерах iлюстравалася картамi, дыяграмамi, фатаграфiямi цi замалёўкамi мастакоў альбо аматараў.

З гэтыя прычын трэба шчыра вiтаць iнiцыятыву ЦБ Краязнаўства i Беларускага Дзяржаўнага Музею па арганiзацыi Усебеларускай выстаўкi краязнаўчых фата-

графій і зарысовак. Выстаўка мае зразумелыя мэты: з аднаго боку выявіць, што намі зроблена ў гэтай галіне да цяперашняга часу, а з другога — даць моцны стымул для развіцця гэтае справы на Беларусі, зацікавіць вывучэннем свайго краю шырокія колы савецкага грамадства: прафсаюзнікаў, камсамольскую, вучнёўскую моладзь, студэнцтва, рабочых і сялян.

Мы думаем, што наладжаная выстаўка з'яўляецца вельмі паказальнай у паказальных адносінах і павінна прыцягнуць увагу ў першую чаргу нашых культурных сіл.

Выстаўка ахапляе ўсе галіны жыцця Беларусі і мае такія раздзелы: 1) Краявіды Беларусі; 2) Тыпы насялення Беларусі; 3) Вопратка; 4) Будынкі; 5) Архітэктура; 6) Быт насялення; 7) Начынне, прылады; 8) Жыццё нацменшасцей Беларусі; 9) Рэўрух на Беларусі; 10) Беларускія гарады; 11) Праца насялення Беларусі; 12) Тканіна; 13) Разьба па дрэву; 14) Археалогія Беларусі; 15) Фатаграфіі слуцкіх паясоў; 16) Экспанаты паасобных фатографаў-аматараў.

Як відаць з гэтага пераліку, выстаўка ставіла сабе вельмі шырокія задачы. Наколькі гэтыя задачы выканаы, мы пабачым, разгледзеўшы падрабязна змест выстаўкі.

Першы раздзел «Краявіды Беларусі» досыць багата і разнастайна падзелены. Шмат ёсць мастацкіх фатаграфій і зарысовак, якія адбіваюць прыроднае хараство Беларусі. З такіх экспанатаў неабходна падкрэсліць: 1) мастацкія зарысоўкі алоўкам ракі Дзвіны, зробленыя Саблікавым; 2) прыгожыя мініяцюркі-фатаграфіі краявідаў вёскі Смалярні (Меншчына, фота Каспяровіча); 3) шлях з Новага на стары Быхаў (фота Сербава); 4) жалезна-сярністыя крыніцы ў Вушацкім раёне (фота Фурмана). З шэрагу мастацкіх зарысовак краявідаў Беларусі неабходна адзначыць акварэльныя і пастэльныя эцюды Пархоменкі, Панамарэнкі, Кругера, Тычыны і Астаповіча. Гэтыя працы вабяць вока, прыцягваюць эстэтычную ўвагу гледача, але яны, зразумела, не адэкватны прыродным краявідам Беларусі, у іх, як выказаліся некаторыя экскурсанты — «больш мастацтва, чым ся прыроды». Тым не менш яны, мусіць, больш за фатаграфіі даюць нам уяўленне аб характэрных рысах беларускага ландшафту.

Другі раздзел «Тыпы насялення» — самы вялікі на

выстаўцы. Прычыны гэтага зразумелыя. Цэнтральнае месца займаюць дасканалыя фатаграфіі тав. Сербава. Некаторыя з іх, як нам здаецца, з'яўляюцца нават унікамі, рарытэтамі і выклікаюць здзіўленне сваімі аб'ектамі. Такімі, напрыклад, з'яўляюцца фатаграфіі жанчын розных месц Беларусі ў спецыяльных вопратках і галаўных уборах, якіх цяпер ужо «днём з агнём не адшукаеш», фатаграфіі беларусоў Калініншчыны ў стракатых вопратках і асабліва фатаграфія знахаркі Праксэды. Гэты тып выклікае цэлую гаму перажыванняў і пачуццяў і прымушае задумацца.

Цікавымі з'яўляюцца фатаграфіі беларускіх дзяцей, але, на жаль, іх вельмі нязначны лік. Прыцягвае ўвагу жудасная фатаграфія хворага на каўтун (Мазыршчына, фота Сербава). З ліку зарысовак тыпаў насялення падкрэсліць можна дзве зарысоўкі Пархоменкі («Пастушок» і «Бабка з Палыкавіч»), Кругера («Жанчына з Чэрвеншчыны» і «Ляснік з Меншчыны») і Філіповіча («Сялянка з-пад Слуцку»).

Раздзел «Вопратка» хоць невялікі (усяго 31 экспанатаў), але стракаты і б'е ў вочы. Цэнтр увагі — зарысоўкі Філіповіча і фатаграфіі Сербава. З апошніх асабліва цікавымі для даследчыкаў з'яўляюцца фатаграфіі і вопраткі Жураціцкага і Прапойскага раёнаў Магілёўшчыны.

Вельмі разнастайным і адбіваючым характэрныя рысы Беларусі з'яўляецца раздзел «Будынкі». З ліку экспанатаў звараччаюць увагу зарысоўкі экспедыцыі па даследаванні беларускага мастацтва на Меншчыне і Случчыне, фатаграфіі сялянскіх будынкаў на Смаленшчыне (фота Сербава), фатаграфіі Л. Дашкевіча, Юхніна і др. Цікавыя зарысоўкі Жлобіна экспанаваў М.К., а Мазыршчыны — Філіповіч.

Раздзел «Архітэктура» прадстаўлены толькі алоўкавымі зарысоўкамі цэркваў, касцёлаў, сінагог і невялікага ліку іншых будынкаў грамадскага характару.

На жаль, раздзел «Быт насялення», які абяцаў быць шматфарбным, вельмі слаба экспанаваны. Тут зноў прыкметны фатаграфіі Сербава, акварэльныя замалёўкі з жыцця Магілёўшчыны (аўтар невядомы) і фота Юхніна (Слуцак).

«Начынне і прылады»: экспанавана больш як 100 №№ зарысовак Я. Драздовіча. У гэтым раздзеле чамусь-

ці змешчаны і надзвычайна прыгожыя мініяцюры Каганца.

Жыццё нацменшасцей няпоўна адбіта. Зусім няма экспанатаў з жыцця польскае насельнасці. Досыць добра экспанавана яўрэйская архітэктура, арнамент, этнаграфічны тып насялення і быт.

Раздзел «Рэўрух на Беларусі» адбівае толькі маленькі кавалачак Беларусі — Случчыну. Гэты раздзел вельмі паказальны, бо дае, намячае мінімальную праграму таго, што неабходна фатаграфаваць, замалёўваць, картаграфаваць пры вывучэнні рэўруху. І прыходзіцца шкадаваць, што мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі не адклікнуліся ў гэтым напрамку, апрача Слуцкага Таварыства, якое прыслала свае матэрыялы: на выстаўцы мы бачым фатаграфіі 10 сялян-рэвалюцыянераў Случчыны, фатаграфіі капыльскіх рэвалюцыянераў, здымкі хат, дзе вялася падпольная рэвалюцыйная праца (напрыклад, фатаграфія хаты бацькоў Ц. Гартнага).

З беларускіх гарадоў на выстаўцы досыць поўна ілюстраваны Менск, часткова Барысаў, Ворша, Магілёў. Іншыя гарады і нават Віцебск не экспанаваны. Гэта тлумачыцца тым, што выставачны Камітэт адбіраў толькі навейшыя фатаграфіі і зарысоўкі, свядома адкідаючы старыя, адбітыя ў друку. Сучасны Менск адлюстраваны фатаграфіямі Сербава, якія даюць уяўленне аб Менску, як вялікім і шматлюдным горадзе, што не зусім справядліва.

«Праца насялення Беларусі» паказана 35 нумарамі, з якіх цікавымі з'яўляюцца здымкі меліярацыйных прац на Беларусі.

Беларуская тканіна і вышыўкі прадстаўлены мастацкімі зарысоўкамі ўзораў на рушніках тав. Астрэйкі, зарысоўкамі Тычыны, фатаграфіямі Дашкевіча, зарысоўкамі Фурмана (латыска-беларускі арнамент). Асабліва прыгожы зарысоўкі Астрэйкі, якая дала 40 штук.

Разьба па дрэве дадзена зарысоўкамі Пашкевіча — да 25 зарысовак надваконнікаў і брам.

З іншых раздзелаў, якія не ўвайшлі ў пэўны план выстаўкі, адзначым дасканалыя фатаграфіі слуцкіх паясоў, шкла ўрэчаўскай фабрыкі (XVIII ст.), масонскіх старажытнасцей і прац розных мастакоў XVIII—XIX стст. — ураджэнцаў Беларусі (арыгіналы прац вывезены ў Польшчу) — працы Шэмета, Сухадольскага, Чаховіча і інш., усяго 44 адзінкі.

Асобным раздзелам экспанавана «Археалогія Беларусі» — 36 штук, у якіх засняты помнікі старажытнасці Беларусі — курганы, гарадзішчы (Заслаўе, Бердыж, Рослаў)*.

Мы далі самы кароткі агляд выстаўкі, і наш вывад: выстаўка, якая экспанавала каля 2000 адзінак найбольш цікавых фатаграфій і зарысовак, мае значэнне ў выхаванні нашага масавага краязнаўцы і безумоўна заслугоўвае таго, каб яе шырока папулярызавалі, каб наладжвалі для агляду яе масавыя экскурсіі ў Беларускі Дзяржаўны музей, дзе размясцілася выстаўка.

1928

## Бібліяграфія

А. Шаўковіч і М. Курыловіч. Кароткі нарыс манаграфічнага апісання паўднёва-заходняй часткі Лельчыцкага раёну, Мазырскай акругі; цэнтр — Мілашэвіцкі сельсавет. 30.V.29 вёска Мілашэвічы Лельчыцкага раёну. 176×222 мм., 76 балонак з малюнкамі, табліцамі з укладнымі картамі; пісаны рукой на абодвых бакох балоны.

Мілашэвічы знаходзяцца ў 65 кіламетраў ад чыгуначнай станцыі і 55 кіламетраў ад параходнай, а таму вельмі прыемна пераканацца, што краязнаўчая праца пачынае ахапляць самыя глухія куткі БССР. Рукапісны зборнік аб Мілашэвіцкім сельсавеце цікавы тым, што адлюстроўвае шчырае імкненне аўтара — сапраўднага краязнаўцы — зразумець асноўныя працэсы прыроднага і эканамічнага жыцця невялікай тэрыторыі, даступнай яго нагляданням. Для складання зборніка затрачана безумоўна вялікая энергія і шмат часу, але думаем, што праца недарэмнай была для аўтара, яна пашырала яго

* Неабходна падкрэсліць і той факт, што самыя выдатныя аматары-фатографы Беларусі прынялі ўдзел у выстаўцы і некаторыя з іх размясцілі свае працы асобнымі вітрынкамі. Адзначым з іх надзвычайна мастацкія працы фатографа Салавейчыка («Крыжы ў Самахвалавіцкім раёне», «Група бярозак», «Дмухаўцы»), Фальковіча («Дудар з Мсціжа», «Стары магільнік», «Бусел», «Старыя елкі» і інш.), Валькоўскі і Сляпян.

светагляд, яна штурхнула яго зрабіць некаторыя практычныя вывады і прапановы, яна звязала яго з сучаснасцю.

Што мы знаходзім у зборніку аб Мілашэвіцкім сельсавеце? Больш за ўсё мы маем вестак аб прыродных умовах і з'явах гэтай тэрыторыі. Праўда, гэтыя прыродныя з'явы не паданы ў пэўнай сістэме і плане, але для мясцовых працаўнікоў яны не пазбаўлены цікавасці. У першую чаргу даюцца весткі і назіранні над снегавым насцілам 1928—29 г. Усе назіранні ілюструюцца належнымі дыяграмамі, лічбамі, але аўтар робіць памылку, калі, характарызуючы зіму 1928—29 г. і раўнаючы яе з зімой 1920—21 г., дае вывад, што такія снегавыя лютыя зімы, якая была ў 1928—29 г. паўтараюцца рэгулярна, прыблізна праз 8 гадоў.

Іншыя прыродныя з'явы, якія зарэгістраваў і абагуліў аўтар, наступныя, назіранні над тэмпературай паветра (сярэдняя зімы), над ветрам, колькасцю ападкаў, над рэжымам вод і інш. Асабліва шмат назіранняў падана з галіны феналогіі (кастрычнік — лістапад 1928, люты — май 1929 года, параўнальныя табліцы асноўных фензьяў 1928—29 года), хоць аўтар прызнаецца, што за летні час немагчыма даць феналагічныя весткі, бо ён быў у ад'ездзе. Назіраючы за рэжымам вод, аўтар падкрэслівае заўважаны ім факт, які наносіць значную шкоду мясцовай гаспадарцы. Гэта — забалачванне мясцовых сенажацей у выніку няправільнай пабудовы млына на рацэ Вубарці.

Дае аўтар апісанні глебы сельсавету, праўда, вельмі павярхоўна, і некаторыя археалагічныя весткі. Так, напрыклад, тав. Шаўковіч, відаць, не здагадваецца, што ім адкрыта неалітычная стаянка на паўночным беразе возера Замошша, магчыма досыць багатая. Пра другое возера Прыбалавіцкае ён кажа, што з яго выцягвалі сецямі сярпы, вілы, глякі, але, на жаль, не кажа аб гэтым больш дакладна.

Досыць поўнае даецца аўтарам апісанне лясоў сельсавета, і тут відаць, што лясная праблема вельмі блізка аўтару, бо ён у гэтым раздзеле больш за ўсё дае перспектывы, якія наогул патрэбны ў кожным краязнаўчым даследзе.

Таксама хоць і няпоўныя, але маюць цікавасць падрабязныя весткі аб росце сельскай гаспадаркі і насялення сельсавету, пачынаючы ад 1923 года. Разам з гэ-

тым аўтар робіць і некаторыя заўвагі аб бытавых умовах вядомых яму вёсак. Тут хоць і павярхоўнае этнаграфічнае апісанне, але некаторыя досыць цікавыя вывады і весткі ёсць у аўтара. Такімі, напрыклад, з'яўляюцца весткі аб сялянскай архітэктуры, у якіх аўтар кажа: «Калі прыйдзеш у хату, дык заўсёды з правага або з левага боку стаіць печ, гледзячы на тое, з якога боку вуліцы хата. Калі з левага, дык і печ ад уваходу з левага боку, і наадварот». Гэта, мусіць, не зусім так. Трэба было б заўважыць, які кірунак вуліцы ў адносінах да частак свету, бо пабудова хат і асабліва печы безумоўна знаходзіцца ў сувязі з надзвычайна старымі міталагічнымі светапоглядамі. Другая цікавая дэталь, якую падае аўтар — гэта вялікае ўжыванне кіслай ежы насяленнем сельсавету. Ці не знаходзіцца гэта ў сувязі з балотнай мясцовасцю?

Урэшце, аўтар піша аб вялікай прыхільнасці насялення да гарэлкі. Падае некаторыя весткі, але безумоўна перавялічвае, калі кажа: «Каханне (?) да піцця гарэлкі даходзіць да таго, што некаторыя сяляне бяруць з кааперацыі гарэлку не літрамі, а цэлымі «чацвярцямі». За студзень месяц 1929 года распрадана сялянам сельскіх саветаў Бараўскага, Мілашэвіцкага і Глушкавіцкага 4000 літраў».

Наогул, праца Шаўковіча вельмі цікавая з краязнаўчага боку. Асноўным недахопам яе, што не дае магчымасці змясціць яе ў друку, — з'яўляецца адсутнасць пэўнага плану і значны памер зборніка, які ахапляе ўсё «патроху». Лепш было б даваць тэматычнае апісанне сельсавету, што і паглыбіла б краязнаўчыя доследы і накіравала б думку аўтара ў пэўны, строга акрэслены бок. У даным зборніку, трэба сказаць, і намячаўся такі ўхіл: метэаралогія, фenалогія і лясная гаспадарка сельсавету.

1929

*11.XI.1987 г.*

Дарагі Сяргей Іванавіч!*

Прабачце, што затрымалася з адказам. Якраз у той дзень, калі атрымала Ваша пісьмо, памерла наша мама, Соф'я Андрэеўна Зыкава, чалавек, які больш падрабязна мог бы расказаць пра нашага бацьку. Тыя, хто яго цяпер памятае, былі тады дзецьмі.

Дарэчы, недзе ў канцы 60-х гадоў ці, можа, нават у 70-м да С. А. прыходзіў адзін немец (гэта было ў Гомелі) і прасіў дазволу перакласці бацькаў раман на нямецкую мову. Яна адмовіла, сказаўшы, што калі трэба будзе, то і ў нас надрукуюць.

Вы просіце расказаць пра сям'ю Шашалевічаў, пра бацьку.

На жаль, я ведаю не так многа, а фактаў біяграфіі і зусім мала. Мне было два гады, калі бацьку арыштавалі. Нашы сваякі адклікнуліся на просьбу мамы (нас тады было трое) і забралі мяне і брата. Такім чынам усе мы апынуліся ў розных месцах і бацькі амаль не бачылі.

Лепш за ўсіх яго ведаў старэйшы брат — Юра, але з той прычыны, што на яго вачах два разы арыштоўвалі яго любага бацьку, ён цяжка захварэў, і яго ўжо даўно няма.

Цяпер пра сям'ю.

Паводле слоў бацькавай сястры Ксені Антонаўны (яна ўзяла мяне ў Петразаводск, і яе я ўсё жыццё называла мамай), сям'я Шашалевічаў была вельмі дружнай. Іхні бацька, Антон Дзяменцьевіч, служыў валасным пісарам. Зусім нядаўна я пачула, што ён быў з сялян, грамаце навучыўся самавукам. Мяне гэта здзівіла таму, што такая ж якасць праявілася ў яго дзяцей, унукаў і праўнукаў. Ды і я сама задоўга да школы вывучылася, і спецыяльна ніхто мяне не вучыў, толькі бачыла, як дзеці гулялі ў школу.

Відаць, пакуль быў жывы галава сям'і, быў які-ніякі

* Грахоўскі Сяргей Іванавіч *(рэд.)*.

дастатак. Мама жартавала, што старэйшых дачок умывалі малаком, таму яны былі такія беласкурыя, а яе, малодшую, — толькі сыvaраткай, таму яна заўсёды была румянашчокай.

У 1902 годзе Антон Дзяменцьевіч памёр. Засталася ўдава з пяццю дзецьмі: Антаніна, Андрэй, Анастасія, Васіль і Ксеня. Малодшай два гады, старэйшай — ?, бацьку дзевяць гадоў, дзядзьку Васю, відаць, пяць гадоў.

Калі Антон Дзяменцьевіч паміраў, ён быццам бы казаў жонцы, каб яна дзяцей не вучыла: няхай гаспадараць на зямлі, сялянствуюць.

Аднак жонка яго, Ефрасіння Фамінічна, зрабіла наадварот.

Сама яна, здаецца, дачка псаломшчыка, была непісьменная, пісаць не ўмела, але мама казала, што ўмела чытаць і чытала нават раманы. Яна вырашыла вучыць дзяцей і для гэтага, прадаўшы дом, выправілася ў Магілёў. Яна хацела «даваць» абеды і гэтым зарабляць на вучобу дзяцей. Аднак нічога з гэтага не атрымалася. Недзе праз год давялося вярнуцца ў Палуж. Не было, відаць, у яе дзелавой хваткі. Нездарма муж пакінуў дзіўнае завяшчанне. Ведаючы шырокую натуру сваёй жонкі, ён паставіў умову: распараджацца пэўнай зямлёй, якая належала яму, яна зможа толькі тады, калі малодшай дачцэ споўніцца семнаццаць гадоў. Вось і давялося сям'і жыць амаль у галечы.

А дзеці ўсе былі здольныя, добра вучыліся.

Дзяўчат не заведзена было тады вучыць. Але старэйшая паступіла вучыцца насуперак волі маці. Яна выдатна здала экзамены ў гімназію. Нейкі «хросны» дапамагаў.

Другая дачка, Анастасія, вучылася недзе пры манастыры. Мама ўспамінала, што аскетычнае выхаванне падарвала яе здароўе. А была яна мастачкай-самавукам. Цудоўныя яе работы згарэлі ў час налёту банды «зялёных». Цёця Настулька рана памерла.

Хлопчыкаў маці аддала вучыцца спачатку ў духоўнае вучылішча, потым у семінарыю. Кажуць, што бацька нізашто не хацеў туды ісці, але маці настаяла. Вучыўся ён бліскуча, заўсёды быў першым вучнем. Мама ўспамінала, што ён адрозніваўся выключнай акуратнасцю.

Усе дзеці любілі музыку. Бацька неяк навучыўся

іграць на віяланчэлі, а дзядзька Вася — на скрыпцы. На думку мамы, скрыпач ён быў выдатны. Пад вокнамі яго хаткі, калі ён іграў, збіраліся людзі, каб паслухаць. Ну, гэта не дзіва для таго часу, калі не было радыё.

Я чула яшчэ ад мамы і ад сваёй дваюраднай сястры, што ў дзядзькі Васі аказалася нават скрыпка Страдывары. Не ведаю, ці магло гэта быць? Бо гэта ж такая рэдкасць. Скрыпку нібы падарыла яму адна памешчыца. Мама называла прозвішча гэтай жанчыны, казала, што яна аддала ў школу, дзе працавалі Шашалевічы, не то піяніна, не то раяль. Гэта было ў час рэвалюцыі. А скрыпку яна аддала таму, што сын яе, які дружыў з дзядзькам Васем і гуляў з ім разам, памёр.

Але, магчыма, усё гэта і не так.

Ва ўсякім выпадку, Вы таксама пісалі пра тое, што дзядзька Вася іграў на скрыпцы. А мне яшчэ казалі, што ён мог і сам музыку сачыняць.

Цяжка жылося сям'і. Што толькі не рабіла маці, каб дзеці вучыліся.

З расказаў мамы я зразумела, што яны, дзеці, многае даведваліся адно ад аднаго. Так, мама чытала нейкія грэчаскія і лацінскія вершы, казала, што запомніла іх ад майго бацькі. Вельмі лёгка даваліся яму мовы. Стаўшы дарослым, ён вывучаў сам англійскую.

Вучыцца хацелі ўсе, але не заўсёды маглі хадзіць у школу. Мама пайшла адразу ў другі клас, потым год сядзела дома на печы і пайшла адразу ў чацвёрты. У гарадскім вучылішчы, куды паступіла, яна аказалася адзінай дзяўчынкай.

Як і многія дзеці з бедных сем'яў, браты і сёстры давалі ўрокі, гэтым зарабляючы на сваю адукацыю. Так, мама ўспамінала, што сястра Настулька зрабіла ёй «пратэкцыю» — уладкавала настаўніцай у сям'ю прыстава Бабіча ў Гомелі. (Мама мне паказвала дамы, якія належалі раней яму.) Гэты час яна ўспамінала як самы цяжкі ў яе жыцці.

Не ведаю, як мой бацька пасля семінарыі стаў прапаршчыкам у першую сусветную вайну. Мама казала нешта пра акадэмію: ці то яго туды рэкамендавалі, ці то ён паступіў і там вучыўся. На фотаздымку 1914 года ён у нейкім мундзірчыку, але што гэта за мундзір, не ведаю. Ва ўсякім выпадку, я добра ведаю, што ў час рэвалюцыі ў яго, відаць, не было праблемы, «куды ісці, у якім змагацца стане». У 1918 годзе ён уступіў у Чырво-

ную Армію і быў там кулямётчыкам. Вельмі цяжка хварэў на тыф. А потым стаў настаўнікам у Краснаполлі.

Гады жыцця пасля рэвалюцыі былі, відаць, самымі лепшымі ў біяграфіі бацькі, яго брата і сёстраў.

Матэрыяльна было цяжка, галодна, але затое ў адносінах духоўных вельмі здарова.

Мама ўспамінала, што было весела. Колькі яны смяяліся! Мой бацька ўмеў сам добра смяяцца, умеў і жартаваць. Нездарма, відаць, потым пісаў гумарыстычныя рэчы і лічыў сябе гумарыстам. Ды і не адзін ён там быў такі гумарыст. Мама казала, што любіў і ўмеў жартаваць Леанід Стратановіч, муж яе сястры Антаніны, і іншыя маладыя людзі. У гэты час там, у Краснаполлі, было шмат таленавітай моладзі.

Я думаю, што рэвалюцыя акрыліла гэтых юнакоў і дзяўчат. Людзі пацягнуліся да мастацтва, самі пачалі тварыць. Быў створаны народны тэатр. Уся сям'я (амаль усе яны сталі настаўнікамі) прымала ў ім самы актыўны ўдзел.

У сваім пісьме да Сталіна бацька пісаў, што з 1921 па 1926 год ён быў настаўнікам у школе другой ступені ў Краснаполлі. Потым захапіўся фальклорам, краязнаўчай работай. Трэба сказаць, што ў мяне наогул склалася ўражанне пра яго як пра чалавека захопленага, чалавека, які любіў усё новае, хоць, можа, яно і не заўсёды было такое ўжо і добрае. Так, мама ўспамінала, што ён вітаў нават гэты сумна вядомы комплексны метад выкладання, калі на ўсіх уроках вывучалі нейкае адно пытанне. Ён сказаў: «Як цікава!» — ці нешта падобнае. Зрэшты, гэта, мусіць, уласціва і іншым Шашалевічам. Яны былі рамантычныя, нездарма бацька выбраў такі псеўданім — Мрый (летуценнік ці рамантык, здаецца). Захапляліся людзьмі, навукамі.

(Мама паступіла ў Ленінградскі універсітэт і стала хімікам, бо ў гімназіі хімія не выкладалася. Пазней яна казала, што больш была здольная ў матэматыцы.)

Вяртаюся да бацькі. З 1926 да 1930 года ён працаваў інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства. Відаць, жыў у гэты час у Мінску. Потым пачаў працаваць у газеце «Звязда». Ён захапляўся беларускай мовай, як і яго брат, хоць добра ведаў рускую і, відаць, мог бы пісаць і на ёй, але пісаў па-беларуску. Я не ведаю, хто з братоў пачаў пісаць раней. Мусіць, малодшы. Ніякіх бацькавых твораў я не чытала, акрамя ўрыўкаў з рама-

на «Запіскі Самсона Самасуя», якія мне пераклала сястра Наташа (1939). (Яна брала часопіс з раманам у публічнай бібліятэцы ў Маскве. Наташа ведае беларускую мову, таму што вучылася да восьмага класа ў беларускай школе.) Наташа ўспамінае, што бацька пісаў, трымаючы яе, зусім маленькую, на руках. І сам ён піша, што, дзе б ні быў, ён сачыняў, аднак усё, што пісаў, відаць, было знішчана. Наогул бацьку я помню вельмі невыразна. Бачыла я яго толькі адзін раз у сваім «свядомым» жыцці. Гэта было ў 1937 годзе. Ён прыязджаў у Петразаводск са старэйшым сынам Юрам і быў, можа, дзень, можа, два. Мне тады было пяць гадоў, а наогул асобныя эпізоды жыцця я помню з двух гадоў, калі прыехала ў Петразаводск.

Помніцца, што калі мы жылі на Сянной Губе (бацьку арыштавалі ў 1937 годзе), то атрымалі ад бацькі пасылку — валёнкі, унутры якіх быў шакалад. Мне сказалі, што ў мяне нарадзілася сястрычка, якую я ўбачыла ўжо ў Петразаводску, куды мы вярнуліся ў 1940 годзе. У гэты час бацьку зноў арыштавалі, і наша маці зноў шукала для сябе прытулак з грудным дзіцем на руках.

Усё гэта тады да мяне не даходзіла, але пра штонішто я здагадвалася. Добра помню, што мама, К. А., ездзіла на спатканне з бацькам у Мядзведжую Гару (сёння чатыры гадзіны язды ад Петразаводска). Яна казала (не мне, канечне, а камусьці з блізкіх), што бацька выглядае бадзёра, хоць у яго і выбіты пярэднія зубы (нібыта бервяном), верыць у перагляд справы. Ён даў ёй пісьмо да Сталіна, якое і да сённяшняга дня ў мяне захоўваецца...

Чаму мы яго не адаслалі?

Мама вырашыла ехаць у Маскву сама, каб было больш пэўна. Мы з ёю і паехалі, але ў 1941 годзе ў Ленінградзе нас застала вайна. Мы вярнуліся дахаты і эвакуіраваліся ў Іванаўскую вобласць. Дзе б мы ні былі, мама заўсёды падтрымлівала сувязь са сваімі братамі. Перапісвалася, пасылала ім пасылкі. Я помню, што ад дзядзькі Васі прыходзілі паштоўкі са станцыі з страшнай назвай — Сухабязводнае, здаецца, у Горкаўскай вобласці.

Бацька апынуўся дзесьці ў Комі АССР. Пісьмы станавіліся ўсё больш горкія. Відаць, ужо не спадзеючыся выжыць і не маючы звестак пра лёс жонкі (а яны апы-

нуліся на акупіраванай тэрыторыі ў Бранскай вобласці), ён прыслаў нам нейкую паперу, на якой было аформлена маё ўсынаўленне (дакладней, удачарэнне). Я яе прачытала, будучы ў трэцім ці чацвёртым класе. Заадно прачытала і яго пісьмо да Сталіна, але маме нічога пра гэта не сказала.

Мы, жывучы на Волзе, у вёсцы Рэнема, чакалі бацьку вясной і летам 1943 года. Ён пісаў, што такі нядужы, што яго абяцаюць выпусціць. Мама спадзявалася, мы ўсе хадзілі на прыстань сустракаць параходы. Мама казала, што бацька ўсё ўмее рабіць. (Трэба было займацца агародам.) Наогул, браты і сёстры, па-мойму, не грэбавалі ніякай работай і смела браліся за любы занятак: вышываць, шыць абутак, рабіць мэблю і г. д.

Потым, калі перасталі прыходзіць пісьмы, мама пісала ў лагер, і адтуль, здаецца, адказалі, што ён выбыў у Кінешамскі раён Іванаўскай вобласці.

Аднак у пасведчанні аб смерці сказана, што ён памёр у кастрычніку 1943 года ад паралічу сэрца. Месца смерці не ўказана, але я думаю, што дзе-небудзь у лагеры. Было яму ўсяго пяцьдзесят гадоў, па сённяшніх уяўленнях — нямнога, а па тым часе — нямала.

Дзядзьку Васю я таксама бачыла. Мы прыязджалі ў Мінск і жылі ў яго на дачы ў нейкіх Тарабутах. Калі гэта было, не ведаю дакладна. Відаць, у 1936 годзе. Помню, што мяне там жахліва скусалі камары. Помню маленькага дваюраднага брата. Мама потым расказвала: у яе было страшнае прадчуванне, што брата Васю яна бачыць апошні раз. Да яго ў яе былі асаблівыя адносіны. Яны былі блізкія па ўзросту і вельмі дружныя.

Ну вось і ўсё, што я магу расказаць. Бо ў свой час нашы блізкія многае замоўчвалі, стараліся не раніць дзіцячыя душы, а потым ім самім было балюча варушыць былое.

Я лічу, што ў лёсе сям'і братоў Шашалевічаў няма нічога выключнага. Колькі людзей, ды і якіх, трагічна загінула!

Дзякуй Вам за артыкул пра Васіля Антонавіча, за добрыя адносіны да нашага бацькі і яго творчасці.

Пасылаю Вам фотаздымкі, дзе ёсць Васіль і Андрэй Антонавічы. Здымкі не вельмі захаваліся, што зусім не дзіўна. З некаторых мама зняла копію. Некаторыя ў нас у адным экземпляры.

Яшчэ ўспамінаю такую рэч. Некалькі гадоў таму назад па тэлевізары ішоў фільм «Дом на Трубнай» — нямы. Я пачала глядзець не спачатку. Спадабаўся вельмі. Прыходжу на работу, а мне кажуць, што перад фільмам гаварылі пра аўтараў сцэнарыя і сярод іх назвалі прозвішча Шашалевіч.

Акрамя таго, дваюрадная сястра казала, што дзядзька Вася меў нейкія дачыненні да «Масфільма».

Цяпер, здаецца, усё.

*З павагай А. Рухіна*

## АД СКЛАДАЛЬНІКА

Задума выйсці да чытача з творамі нашага слыннага празаіка А. Мрыя жыла ў мяне даўно, яшчэ са студэнцкіх і аспіранцкіх часоў, калі хрушчоўская адліга дала магчымасць з імі пазнаёміцца. Але здолела ажыццявіцца яна толькі з пачаткам другога этапу дэмакратызацыі нашага грамадства, вядомага напачатку пад назвай перабудовы. Вось тады творы А. Мрыя, своеасабліва лучачы паміж сабой дзве эпохі, паяднаныя агульнасцю ідэалаў і імкнення народа да незалежнасці і Адраджэння, пачалі з «балонак» беларускай перыёдыкі 20-х гадоў спакваля перасяляцца на старонкі такіх сучасных часопісаў, як «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», Неман».

Лёгка было з тым, што напачатку друкавалася таксама ў часопісах і магло быць без цяжкасцяў адшукана, калі толькі выданні не былі ў трагічных перакрутах часу знішчаны. Значна цяжэй было з газетамі, дзе А. Мрый (Андрэй Шашалевіч) асабліва на пачатку свайго творчага часу ахвотна друкаваўся. І тут ужо давялося абкладвацца такой багатай тагачаснай беларускамоўнай газетнай перыёдыкай і, узрадаваўшыся знаходцы, перапісваць ад рукі знойдзены матэрыял. Зразумела, дазволіць выносіць з сабой з архіўных і бібліятэчных сховішчаў рэдкія выданні ніхто не мог дазволіць. Хацелася б тут, карыстаючыся нагодай, сказаць слова ўдзячнасці супрацоўнікам і кіраўніцтву Дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва Беларусі, Дзяржаўнай нацыянальнай і ўрадавай бібліятэцы, дзе гэты пошук найперш вёўся.

Але гэта быў толькі адзін шлях магчымых знаходак, і абрываўся ён, на жаль, разам з драматычнай датай жыцця празаіка — ягоным арыштам і высылкай у далёкія сібірскія краі. Пасля гэтага, зразумела, творы выгнанца ў друку ўжо з'яўляцца не маглі. Але ж жыло спадзяванне, што, і будучы ў выгнанні, ён мог і ў тых, зусім не прыстасаваных да творчай працы, умовах выяўляць тое, у чым толькі і магла па-сапраўднаму выявіцца ягоная сутнасць, сэнс ягонага існавання. Пра тое, што ён яе выяўляў, сведчыў і вядомы ліст да «бацькі ўсіх працоўных І. В. Сталіна», дзе згадваецца напісаны ў выгнанні раман «Жывы дом». Апрача гэтага лагічна ўзнікала думка, што частка напісаных твораў была забрана ў А. Мрыя пад час яго арышту органамі НКУС.

Менавіта кіруючыся гэтым, і звярнуўся я тады праз Саюз пісьменнікаў, сябрам якога з'яўляюся, у органы КДБ з просьбай паглядзець тут, у Беларусі, і звярнуцца ў Магадан, дзе пісьменнік адбываў выгнанне, загубленыя творы нашага выдатнага сатырыка. Прасіў і пра А. Мрыя і пра другога, не менш цікавага і значнага, але цалкам па манеры пісьма адрознага празаіка Лукаша Калюгу, якога на ўзлёце творчых магчымасцяў напаткаў той жа трагічны лёс.

Кажучы па праўдзе, слаба тады верылася на станоўчыя вынікі маёй просьбы і рабілася гэта хутчэй з патрэб маральных.

Можаце ўявіць маю радасць і здзіўленне, калі дзесьці праз год

органамі КДБ быў перададзены на маё імя ў Саюз пісьменнікаў ладны пакунак рукапісаў Лукаша Калюгі, сярод якіх, у дадатак, апынуўся і арыгінал славутага «Тастамэнту» Уладзіміра Жылкі. Пісаў свае творы ў выгнанні Лукаш Калюга не на той паперы, якой звычайна карыстаюцца пісьменнікі, а на ўсім, што шэнціла там здабыць для пісання, пераважна на бухгалтарскіх і канцылярскіх бланках. І пераважна не асадкай, а алоўкам, што, зразумела, абцяжарвала расчытванне. Але ўрэшце ўсё было перадрукавана, апублікавана ў часопісах і высока ацэнена крытыкай. Гаворка пра незакончаныя творы (раман і аповесць). Цікава, што, даючы запыт, я пра іх нават і не ведаў, а прасіў вярнуць тое, што было па звестках сябра Лукаша Калюгі па Белпедтэхнікуму Франца Гінтаўта забрана незадоўга пасля арышту Лукаша Калюгі.

Твораў А. Мрыя, на жаль, я з тых патаемных сховішчаў так і не дачакаўся. Пішу ж гэтыя радкі не проста як успамін пра мінулае, але і з не да канца згаслай надзеяй, што выхад твораў А. Мрыя паспрыяе даследчыцкаму пошуку, а з улікам таго, што тыя патаемныя сховішчы ўсё больш прыадчыняюць перад грамадскасцю свае дзверы, хочацца спадзявацца, што спадчына ці не самага таленавітага беларускага сатырыка, якая нібы пісалася і пра нашы дні, будзе нарэшце адшукана і ў поўным аб'ёме вернута нашай літаратуры, нашаму народу.

*Яўген Лецка*

## ЗМЕСТ

**Мрый А.**

М 88 Творы: Раман, апавяданні, нататкі /Уклад. і прадм. Я. Лецкі.—Мн.: Маст. літ., 1993.— 317 с.— (спадчына).

ISBN 5-340-00527-5.

А. Мрый (Шашалевіч Андрэй Антонавіч, 1893—1943), адзін з самых папулярных на Беларусі пісьменнікаў другой паловы 20-х гадоў, вяртаецца да беларускага чытача. Яго творчасць вызначалася яркай сатырычнай накіраванасцю, арыгінальнасцю сюжэтаў, вобразнасцю мовы, сацыяльнай выразнасцю персанажаў.

М $\frac{4702120201-062}{М 302 (03)-93}$ 111—93 ББК 84Бел7

*Літаратурна-мастацкае выданне*

*Андрэй Мрый*

(Шашалевіч Андрэй Антонавіч)

**ТВОРЫ**

*Раман, апавяданні, нататкі*

Рэдактар *Л. Р. Законнікава.* Мастак *В. А. Губарай.* Мастацкі рэдактар *В. А. Губарай.* Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская.* Карэктар *Л. М. Маслоўская.*

ІБ № 3319

Здадзена ў набор 18.02.92. Падп. да друку 05.04.93. Фармат $84 \times 108^{1}/_{32}$. Папера друк № 1. Гарнітура літаратурная. Ум. друк. арк. 16,80. Ум. фарб.-адб. 16,80. Ул.-выд. арк. 17,29. Тыраж 7500 экз. Зак. 241. Цана 100 р.

**Выдавецтва** «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

**Друкарня** «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.